МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Установа адукацыі
«МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
імя А.А. КУЛЯШОВА»

# СЛОЎНІК МІКРАТАПОНІМАЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ







Магілёў 2004

УДК 808.26–087(03)
ББК 81.411.3-4
С48

Складальнікі:
С.В. Клімуць, В.І. Рагаўцоў,
С.У. Шакура, А.М. Шубадзёрава

Рэцэнзент
кандыдат філалагічных навук
дацэнт кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства
Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта
імя Янкі Купалы *М.А. Даніловіч*

*Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага
і экспертнага савета МДУ імя А.А. Куляшова*

**Слоўнік** мікратапонімаў Магілёўшчыны / Склад.: С.В.Клімуць, В.І.Ра-
С48 гаўцоў, С.У.Шакура і інш. – Магілёў: МДУ імя А.А. Куляшова, 2004. – 208 с.

ISBN 985-480-045-8.

У слоўніку падаюцца мікратапонімы, сабраныя ў апошнія два дзесяцігоддзі ў розных раёнах Магілёўскай вобласці.

Можа быць выкарыстаны пры сістэмным даследаванні беларускай мікратапанімії, а таксама пры супастаўляльным вывучэнні мікратапанімічнага матэрыялу славянскіх моў.

Разлічаны на навукоўцаў, студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ.

**УДК 808.26–087(03)**
**ББК 81.411.3-4**

**ISBN 985-480-045-8**

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

Асіп. — Асіповіцкі раён
Бабр. — Бабруйскі раён
Быx. — Быхаўскі раён
Бял. — Бялыніцкі раён
в. — вёска
гл. — глядзі
Глуск. — Глускі раён
Гор. — Горацкі раён
г.п. — гарадскі пасёлак
ж. — жаночы род
Касц. — Касцюковіцкі раён
Кір.— Кіраўскі раён
Клім. — Клімавіцкі раён
Красн. — Краснапольскі раён
Кругл. — Круглянскі раён
Крыч. — Крычаўскі раён
м. — мужчынскі род
Маг. — Магілёўскі раён
мн. — множны лік
Мсц. — Мсціслаўскі раён
мясц. — мясцовае
н. — ніякі род
пас. — пасёлак
р. — рака
Слаўг. — Слаўгарадскі раён
Хоц. — Хоцімскі раён
Чав. — Чавускі раён
Чэрык. — Чэрыкаўскі раён
Шкл. — Шклоўскі раён

# А

АБАЛОНКІ мн. Лес каля балота. Вільча Глуск.

АБАЛОННЕ н. Забалочаная мясціна каля в. Шасцёраўка Клім.

АБАЛОНЬ ж. Узбярэжжа ракі. У разводдзе яно заліваецца вадой. Малуноўка Хоц.

АБЛОГА ж. Неўзаранае, неапрацаванае поле. Забялышын Хоц., Хоцімск, Недзведзь, Післяціна Клім., Каменка Гор.

АБЛОННЯ ж. Частка вёскі каля царквы. Раней тут часта збіраліся людзі. Прылессе Чав.

АБОРАК м. Нізкае месца на полі. Сялец, Бель, Добрая Мсц., Асінаўка Чав.; Невялікае возера каля бору. Зуі Крыч.; Доўгі луг. Савелінкі Шкл.

АБОРКІ мн. Нізкая мясціна, затопленая вадой. Сямёнаўка Клім.; Аборанае з усіх бакоў поле. Сямёнаўка Клім.

АБОРЫНКА ж. Поле каля бору. Бацэвічы Клім.

АБРАМАВА КРЫНІЦА. Канал. Раней тут была невялічкая крынічка, якую знайшоў калісьці Абрам. Фядотава Буда Клім.

АБРАМАВА ЛІПА. Мясціна ў лесе. Вяскоўцы сюды ходзяць у ягады. Паводле падання, гэтае месца раней лічылася ліхім: хто тут пройдзе, будзе доўга і цяжка хварэць. Гонча Кліч.

АБРАМОВІЧАВА ДВОРЫШЧА. Луг. Даўней на гэтым месцы была сядзіба Абрамовічаў. Кадзіна Маг.

АБРОМАВА н. Поле. Некалі тут жыў арэндатар Абрамаў. Бярозкі Хоц.

АБРУБЕЦ м. Месца паміж лесам і полем. Язёры Чэрык.

АБРУБЫ мн. Поле. Пруды, Каменка Шкл., Вяленнік Кліч.

АБРЫВІСТЫ БЕРАГ. Пясчаны бераг з крутым абрывам. Пральня Бял.

АБРЫТАЯ ГАРА. Пясчаны ўзгорак. Калісьці тут бралі пясок. Сапронькі, Гарадок Шкл.

АБРЫЎ м. Круты высокі бераг ракі. Пудаўня Дрыб., Прыгані Кругл., Свенск Слаўг.; Узвышанае, гарыстае месца каля возера. Стараселле Шкл.; Месца каля возера. Тут расце шмат дрэў. Бракава Маг.

АБУХОЎКА ж. Урочышча. Даманы Шкл.

АБЫТОЧАК м. Балота. Мачулкі Бабр.

АВЕРКАВА ДВОРЫШЧА. Лес. Раней на гэтым месцы была сядзіба. Бутрамееўка Бых.

АВЕРКАВА ЛУКА. Месца на лузе. Некалі тут жыў Аверка. Затоны Гор.

АВЕЧАНКА ж. Вялікая паша. Раней тут пасвілі авечак. Дужаўка Чав.

АВЕЧЫ БРОД. Крыніца. Калісьці праз яе ганялі пасвіць авечак. Аўчыненкі Шкл.

АВЕЧЫ КАПЫТОК. Невялікае возера. Раней сюды вадзілі на вадапой коз і авечак. Зуі Крыч.

АГАПІН ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыла хутаранка Агапа. Стаялава Кліч.

АГАПКІНА БАЛОТЦА. Балота. Сюды заўсёды хадзіла мыцца старая Агапка. Макеевічы Клім.

АГАЦКІ ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыла Агата. Праточнае Бых.

АГЕЕВА ДАРОЖКА. Палявая сцежка. Некалі тут ад маланкі загінуў Агей. Бутрамееўка Бых.

АГЕЕВА ДЗЯЛЯНКА. Поле, сенажаць і пасаджаны лес. Жаролы Слаўг.

АГЕЕВА МЕСЦА. Балоцістая мясціна. У гады вайны тут на машыне загінуў камандзір атрада. Доўгае Кліч.

АГЕЕВА н. Лясістая мясціна. Раней тут быў хутар Агея. Доўгавічы Мсц.

АГЕЕЎ РОЎ. Роў. Калісьці на гэтым месцы перакуліўся Агееў воз сена. Вець Бых.

АГЕНКАВЫ КУСТЫ. Кустоўе на месцы былога хутара. Каменка Мсц.

АГЕНЬКАВЫ КУСТЫ. Зараснікі. Раней тут быў хутар. Брылі Маг.

АГНЁВА ВОЗЕРА. Возера. Каля яго жывуць Агнёвы. Свенск Слаўг.

АГНЯВОЕ БАЛОТА. Балота. Рудкаўшчына Гор.

АГРАФЕНІНА КЛАДБІШЧА. Могілкі. Тут пахавана Аграфена. Шклоў.

АГУЛА ж. Мясціна ў лесе. Кожны год тут шмат грыбоў. Клімавічы Шкл.

АДАМАВА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жыў стары Адам. Кадзіна Маг.

АДАМАВА ГАРА. Узвышанае месца. Раней тут стаяў млын Адама. Сліжы Шкл.

АДАМАВА КЛАДКА. Кладка. Калісьці яе зрабіў Адам. Бярозаўка Кліч.

АДАМАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Даўней каля яе жыў хутаранец Адам. Гіжэнка Слаўг.

АДАМАВА ЛАЗНЯ. Лазня. Некалі яе пабудаваў Адам. Сяліба Бых.

АДАМАВА ПОЛЕ. Поле. Некалі яно належала Адаму. Дрычын Асіп.

АДАМАВА САЖАЛКА. Сажалка. Некалі непадалёк ад яе жыў дзед Адам. Макранскія Хутары Бых.

АДАМАВА СЯДЗІБА. Надзел зямлі. Раней ён належаў Адаму. Салтанаўка Маг.

АДАМАВЫ ГОРЫ. Невялікі лясок на ўзгорку каля сядзібы дзеда Адама. Лубяны Бял.

АДАМАЎ БЕРАГ. Бераг ракі. Калісьці тут утапіўся хлопец Адам. Следзюкі Быx.

АДАМАЎ ЛІПНІК. Ліпняк. Паблізу яго жыве Адам. Галубаўка Бял.

АДАМАЎ ЛУГ. Сенажаць. Некалі тут жыў хутаранец Адам. Стайкі, Займішча Шкл.

АДАМАЎ ЛЯСОК. Лес. Калісьці на гэтым месцы была сядзіба Адама. Жданавічы Шкл.

АДАМАЎ ПЛЯЦ. Луг. Раней ён належаў пану Адаму. Клічаў.

АДАМАЎ РОЎ. Роў. Некалі тут Мікіта забіў сякерай свайго суседа Адама. Сапрынавічы Мсц.

АДАМАЎ САД. Урочышча. Раней тут быў сад Адама. Крынка Асіп..

АДАМАЎ ХУТАР. Месца. Калісьці тут жыў хутаранец Адам. Трасціно Хоц., Пудаўня Дрыб.

АДАМАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Адамаўка Гор.

АДАМАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Адамаўка Гор.

АДАМАЎШЧЫНА ж. Месца. Раней тут быў хутар Адамовічаў. Рудкаўшчына Гор.

АДАМКАВА ВЫГАР. Канал. Некалі тут было невялічкае балотца Адамкі (ласк.-памян. ад Адам). Фядотава Буда Клім.

АДАМ-ПОЛЕ н. Поле. Некалі тут сеяў жыта селянін Адам. Мушына Мсц.

АДАМЧЫКАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут загінуў Адамчык. Папоўка Слаўг.

АДБОЙНАЕ ПОЛЕ. Поле. Некалі яно належала аднаму саўгасу, а потым перайшло да другога. Акунёўка Шкл.

АДВОД м. Лес. Кульшычы Слаўг.

АДВОДЫ мн. Невялікі лясок. Раней тут былі надзелы для касьбы. Хацілавічы Крыч.

АДДЗЯЛЕННЕ н. Мясціна (поле, лес і пасёлак), аддзеленая рэчкай ад в. Малуноўка Хоц.

АДЗІНА ж. Невялікі хутар (выселкі). Недзведзь Клім.

АДНААСОБНІЦКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Некалі тут жылі аднаасобнікі. Капусціна Кір.

АДНАБОКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Хаты ў ім стаялі па адзін бок дарогі. Ліпец Маг.

АДСЕКА ж. Высечаны лес. Халмы Красн.

АДСЦЕНКІ ж. Прыдарожнае поле. Халмы Красн.

АДЭЛІНЫ КУСТЫ. Кустоўнік на дворышчы. Некалі тут жыла Адэля. Башкіраўка Шкл.

АЖАРЫШЧА н. Поле. Калісьці тут было возера. Клічаў.

АЖАРЭЙСЦІ н. Поле. Некалі тут было возера, якое высахла. Малуноўка Хоц.

АЗАРАВІЧАВА КЛЕЦЬ. Урочышча. Раней тут была клець Азаравіча, дзе вяскоўцы малацілі зерне. Самулкі Чав.

АЗАРАНАК м. Лес. Мачулкі Бабр.

АЗАРАНКАЎ ПАРК. Парк. Даўней яго пасадзіў Азаранка. Сычкава Бабр.

АЗАРАЎШЧЫНА н. Месца. Раней тут стаяў хутар Азара. Заеліца Глуск.

АЗАРКОВА н. Лес. Калісьці на гэтым месцы жылі Азарковы. Рыжкаўка Бых.

АЗЁРНАЕ н. Поле на месцы былога возера. Прудок Крыч., Забялышын Хоц.

АЗЁРСКІ МОХ. Урочышча. Раней тут было невялікае возера Азёры, якое высахла. Слаўкавічы Глуск.

АЗЁРШЧЫНА ж. Частка лесу. Тут знаходзіцца невялікае возера. Ржаўка Слаўг.

АЗЁРЫ мн. Палігон. Некалі тут было поле з двума азёрамі. Панкратавічы Бабр.; Частка вёскі каля возера. Вялікія Лазіцы Шкл.; Поле. Раней тут было шмат азёр. Балешын Клім.; Сенажаць каля дзвюх рачулак. Займішча Шкл.

АЗІМЫЯ мн. Поле. Тут часта сеюць азімыя. Следзюкі Бых.

АЗЯРАНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Азёры Кругл.

АЗЯРНОЕ н. Луг каля в. Давыдавічы Бых.

АЗЯРЦО н. Невялікі вадаём. Раней тут было балота, дзе рэзалі торф. Добрае Мсц.

АЗЯРЦЫ мн. Сенажаць. Тут шмат невялічкіх азярынак. Сялец Бых., Прудок Слаўг.

АЗЯРЫНА ж. Невялічкае возера. Халмы Красн.; Поле. Раней тут было невялікае возера. Трылесіна Гор.

АЗЯРЫНКА ж. Азярцо. Валынеж Касц.

АЗЯРЫШЧА н. Поле. Калісьці на гэтым месцы было возера. Азер'е, Лотва Шкл., Ліпніца, Новыя Максімавічы, Крынка Асіп.; Месца вакол возера. Леніна Красн.; Луг. Раней тут было возера. Гіжэнка Слаўг.

АЗЯРЭЧКА н. Урочышча. Некалі тут было возера, у якім загінула жанчына. Камяніца, Забалоцце Бял.

АКІНЧЫЦЫ мн. Сенажаць непадалёк ад в. Акінчыцы. Дуброўка Слаўг.

АКОЛІЦА ж. Поле каля рэчкі паблізу в. Петухоўка Чав.

АКОП ДВУХ БРАТОЎ м. Акоп у лесе. У вайну тут загінулі два браты. Аляксандраўка Слаўг.

АКОП м. Мясціна ў лесе. У часы вайны тут шведы капалі акопы. Сцяг, Слаўкавічы Глуск.

АКОПАЎШЧЫНА ж. Равы. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут партызаны капалі акопы. Вялікая Машчаніца, Забавы Бял.

АКОПНІЎШЧЫНА ж. Месца ў лесе. Тут шмат акопаў. Літоўск Кругл.

АКОПЫ мн. Мясціна ў лесе. З часоў Вялікай Айчыннай вайны тут захавалася шмат акопаў. Косцінка Маг., Вялікі Лог Слаўг.; Поле. У Вялікую Айчынную вайну тут было выкапана шмат акопаў. Леніна Гор.

АКСЁНАВА ГАРА. Узвышанае месца. Некалі тут жыў Аксён. Забялышын Хоц., Галічы Клім.

АКСІНАЎ ХУТАР. Дачы. Раней тут былі кусты. Благавічы Чав.

АКСІННІН РОЎ. Роў. Калісьці тут загінула Аксіння. Славені Шкл.

АКСІННІНА БАЛОТА. Балота. Некалі на гэтым месцы жыла Аксіння. Бракава Маг.

АКСЮТКІНА БАЛОТА. Балота. Даўней тут загінула Аксюта. Супанічы Маг.

АКУЛІН ЛУГ. Луг. Некалі тут загінула Акуліна. Камароўка Крыч.

АКУЛІНІНА КРЫНІЦА. Месца каля рэчкі. Раней тут была крыніца, паблізу якой жыла Акуліна. Селішчы Кір.

АКУЛІНСКАЕ БАЛОТА. Балоцістая мясціна каля в. Акулінцы Маг.

АКУЛЮЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут быў хутар бабы Акуліхі. Заеліца Глуск.

АКУНЁВА ВОЗЕРА. Невялікая сажалка. Тут водзіцца шмат акунёў. Вялікая Машчаніца, Сіпайлы, Забалоцце Бял.

АКУНЁЎКА ж. Рака. Тут водзіцца шмат акунёў. Дзягавічы Крыч.

АКУШОВЫ КУСТЫ. Урочышча. Раней тут жыла сям'я Акушовых. Слабада Клім.

АЛАДЗІНКА ж. Поле. Даўней тут была в. Аладзінка. Аўчыненкі Шкл.

АЛЕЙКІ мн. Вузкая дарога, абсаджаная дрэвамі. Некалі па ёй ездзіў пан. Вепрын Чэрык.

АЛЕКСАНДРОВА ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала Аляксандру. Халмы Красн.

АЛЕКСАНДРОЎКА ж. Урочышча. Раней тут жыў пан Аляксандр. Радамля Чав.

АЛЕКСАНДРЫЙСКІ БЕРАГ. Бераг Дняпра. Паблізу яго знаходзіцца в. Александрыя Шкл.

АЛЕКСАНДРЭЙКІН САД. Сад. Калісьці яго садзіла (Аляксандрэйка). Васілевічы Маг.

АЛЁНАЎКА ж. Поле. Калісьці на гэтым месцы жыла Алена. Леніна Красн.

АЛЕНІН БЕРАГ. Мясціна каля дарогі. Калісьці тут утапілася дзяўчына. Дубравіца Клім.

АЛЕНІН БРОД. Дарога па Аленіным балоце. Коўбча Кліч.

АЛЁНІН БЯРЭЗНІК. Бярэзнік каля хутара Алёны. Наркі Чэрык.

АЛЁНІН ПУП. Узвышанае месца. Раней тут жыла Алёна. Высокае Шкл.

АЛЕНІНА БАЛОТА. Балота. Некалі тут утапілася дзяўчына Алена. Коўбча Кліч.

АЛЕНІНА ВІШНЯ. Вішня. Некалі яе пасадзіла Алена. Брылі Маг.

АЛЕНІНА ВОЗЕРА. Невялікае возера каля в. Дзедкавічы. Калісьці тут утапілася дзяўчына Алена. Дзедкавічы Мсц.

АЛЁНІНА ГАРА. Узгорак. Некалі тут забілі дзяўчыну. Вербеж Чэрык.

АЛЁНІНА КАНАВА. Канава ў лесе. У час вайны тут баба Алена з дзецьмі хавалася ад немцаў. Салтанаўка Маг.

АЛЁНІНЫ ВОЧКІ. Поле. Некалі тут жыла жанчына Алёна. Тур'я Красн.

АЛЕНКІНА БАЛОТА. Балота. Раней каля яго жыла жанчына Алена. Жданавічы Шкл.

АЛЁНКІНА ДВОРЫШЧА. Мясціна, зарослая травой, кустамі. Калісьці тут жыла Алёна. Гарбавічы Чав.

АЛЁНЧЫН БЯРЭЗНІК. Невялікі бярэзнік. Раней тут жыла Алёна. Дубраўка Маг.

АЛЕСКАЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Раней на гэтым месцы была в. Алескаўшчына. Дубасна Мсц.

АЛЕСЬКАЎ КАМЕНЬ. Камень на полі. У час Вялікай Айчыннай вайны каля яго расстралялі хлапчукасувязнога. Гарадзішча Шкл.

АЛЕХАВІЦКІ ЛУГ. Луг. Ім карысталіся сяляне з в. Алешаўка. Бялынкавічы Касц.

АЛЕХІНІЦКАЕ ПОЛЕ. Поле каля в. Алехінічы. Мядзвёдаўка Маг.

АЛЕХІНІЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Алехінічы. Мядзвёдаўка Маг.

АЛЕШАНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Лешаны. Бродак Крыч.

АЛЁШКА ж. Рачулка. Некалі тут утапіўся хлопчык Алёшка. Займішча Шкл.

АЛЕШНІК м. Альховы лес. Бірча Бабр., Арцёхаў Красн., Эсьмоны Бял., Каняніца Бял.; Месца ў лесе. Тут расце шмат алешын. Маляцічы Крыч., Мерч Шкл.; Балота, парослае алешнікам. Лобжа Клім.

АЛЕШНІКАВАЯ ДАЛІНА. Балоцістая мясціна. Тут растуць толькі алешыны. Дрычын Асіп.

АЛЕШНІЧАК м. Альховы лес. Грушава Крыч.

АЛЁШЧАНСКІЯ ШТАНЫ. Луг. Па форме ён падобны на дзве калашыны штаноў. Гута Клім.

АЛЁШША н. Мясціна ў лесе. Тут расце адзін алешнік. Клічаў.

АЛЕШЫНКА ж. Частка ракі. На яе берагах расце алешнік. Раманавічы Маг., Ордаць Шкл.

АЛЬХІМАЎКА ж. Рэчка. Некалі тут ледзь не ўтапіўся дзед Альхім. Леніна Красн.

АЛЬХІМКІНА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут утапілася зняслаўленая панам дзяўчына Альхімка. Новы Быхаў, Палянінавічы Бых., Карасі Шкл., Уздзеевічы, Селішча Клім., Лыкава Маг., Паклады Крыч., Вілейка Чав., Лубяны Бял.

АЛЬХОВАЕ н. Луг. Вакол яго расце алешнік. Князеўка Маг.

АЛЬХОВАЯ КУДРА. Невялікія альховыя зараснікі на нізкім месцы сярод поля. Нярaж Быx.

АЛЬХОВЕЦ м. Шырокая і глыбокая канава. Каля яе растуць вольхі. Каменка Мсц.; Роў. Раней тут раслі вольхі. Балбечына Гор.; Альховы лес. Зуі Крыч.; Урочышча. Супанічы Маг.

АЛЬХОВЫ КРУГ. Паляна ў лесе. Тут вакол бяроз растуць вольхі Барысавічы Клім.

АЛЬХОВЫ ЛУГ. Луг. На ім расце шмат алешніку. Стужыца Маг.

АЛЬХОВЫ м. Мясціна ў лесе. Тут расце адзін алешнік. Адамаўка Гор.

АЛЬХОВЫ РОЎ. Мясціна. Тут растуць вольхі. Лебядзёва Гор.

АЛЬХОЎКА ж. Альховы лес. Чэрыкаў; Зарэчча Чав.; Асінаўка Мсц.; Зуі Крыч.; Альховая алея. Валаськоўня Касц., Зарэчча Чав.; Мясціна ў лесе. Там расце шмат алешніку. Ордаць Шкл., Слабада Быx., Кароўчына Дрыб., Раманавічы Маг.; Нізіна. На гэтым месцы расце алешнік. Васілеўка Шкл., Каменка Мсц., Лазаравічы Быx.

АЛЬХОЎКІ мн. Балота. Вакол яго растуць вольхі. Камяніца, Забавы, Сякерка Бял.; Балоцістая мясціна. Тут расце адна альха. Дразды Кругл.; Невялікі лес. Некалі на гэтым месцы было поле. Дабужа Быx.

АЛЬХОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Альхоўка Чав.

АЛЬХОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Альхоўка Чав.

АЛЬХОЎСКІ МОСТ. Мост праз канаву. Вакол яе расце вольха. Вышова Мсц.

АЛЬШАНІК м. Балота. Раней тут расло многа алешын. Дзмітраўка Кліч.

АЛЬШАНІКАВА ГАРА. Узвышанае месца. Некалі тут стаяла хата Альшана. Аляксандраўка Слаўг.; Пралесак. Даўней на гэтым месцы жылі Альшанікавы. Ліпень Асіп.

АЛЬШАНКА ж. Рачулка. На яе берагах шмат алешын. Лудчыцы Бых.

АЛЬШОЎКА ж. Рэчка каля в. Альшоў. На яе берагах растуць вольхі. Ліпаўка Хоц.; Выган для жывёлы каля р. Альшоўка. Елавец Хоц.

АЛЬШЫНЫ мн. Поле. Тут расце вольха. Рудня Шкл.

АЛЬШЭЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Раней на гэтым месцы быў хутар Альшэўскага. Стаялы Кліч.

АЛЯКСАНДРАЎ ЛОГ. Лог. Некалі ён належаў селяніну Аляксандру. Мядзвёдаўка Маг.

АЛЯКСАНДРАЎ САД. Поле. Раней тут быў сад, які пасадзілі нібыта паводле загада пана Аляксандра. Літоўск Кругл.

АЛЯКСАНДРАЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера каля в. Аляксандраўка Шкл.

АЛЯКСАНДРАЎСКІ БОР. Лес непадалёк ад в. Аляксандраўка Шкл.

АЛЯКСАНДРАЎСКІ ЛУГ. Луг. Калісьці тут памёр Аляксандр. Трасціно Хоц.

АЛЯКСАНДРАЎСКІЯ КУСТЫ. Ягадныя кусты каля в. Аляксандраўка Шкл.

АЛЯКСЕЕНКАВА БАЛОТА. Урочышча. Некалі тут жыў кулак Аляксеенка. Горкі Чэрык.

АЛЯКСЕЕЎ УЗГОРАК. Узвышанае месца каля хаты дзеда Аляксея. Семукачы Маг.

АЛЯКСЕЕЎКА ж. Частка вёскі. Раней тут стаяла хата кулака Аляксеева. Малыя Лазіцы Шкл.

АМБРАЦЭВІЧАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Амбрацэвічаў. Кляшчоўка Глуск.

АМЕРЫКАНСКІ ХУТАР. Поле. Некалі тут жыў селянін, які ў 1917 г. выехаў у Амерыку. Ліпень Асіп.

АМУРАЎСКАЯ ГРЭБЛЯ. Лясок каля в. Амур. Заеліца Глуск.

АМУРСКІ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыла Амурская Агата. Усходняя Бых.

АМУТ ГУБСКІХ. Калодзеж. Некалі ён належаў Губскім, якія жылі на хутары. Камяніца Бял.

АМШАНСКАЕ БАЛОТА. Забалочаная мясціна каля в. Амхавая Маг.

АМШАР м. Вялікае непраходнае балота. Вепрын Чэрык.

АМШАРА ж. Забалочаная частка лесу. Літоўск Кругл.; Балота, парослае мохам. Грушава, Зуі Крыч.; Схіл узгорка. Тут заўсёды расце мох. Сялец Мсц.; Маленькае неглыбокае возера. Раней тут расла лаза. Заглінная Слаўг.

АМШАРНІК м. Невялікая паляна ў лесе. Сасноўка Шкл.

АМШАРСКАЕ БАЛОТА. Балота. Тут расло шмат моху. Дубасна Мсц.

АМШАРЫ мн. Поле. Раней тут было балота, дзе расло шмат журавінаў. Машчаніца Бял.

АМШАРЫНА ж. Балота ў лесе. Палёнка Гор.; Дубраўка Маг.; Вялікае поле. Кіраўск; Лес, зарослы кустамі. Янаўка Клім.

АМЯЛЕНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Амяленская Слабада Бабр.

АНАНАЎ ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыў дзед Анан. Гарадзец Бых.

АНАНЬКАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар дзеда Анана. Балбечына Гор.

АНАТОЛЕВА БАЛОТА. Балота. Раёк Касц.

АНАТОЛЕВА ПОЛЕ. Поле. Калісьці тут жыў Анатоль. Рыжкаўка Бых.

АНАТОЛЕЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Анатолеўка Кліч.

АНДРАНАЎСКІ БЯРЭЗНІК. Бярозавы лес непадалёк ад в. Андраны Мсц.

АНДРУКОЎ ХВОЙНІК. Хвойнік. Некалі паблізу жыў селянін Андрук (Андрэй). Заполле Глуск.

АНДРУХА м. Поле. Раней тут жыў Андруха (Андрэй). Доўгае Кліч.

АНДРЭЕВА ЗАВАДЗЬ. Рачулка. Тут хлапчук Андрэй лавіў шмат рыбы. Крычаў.

АНДРЭЕВА КРЫНІЧКА. Крыніца. Аднойчы яе знайшоў дзед Андрэй. Баханы Хоц.

АНДРЭЕВА ЛУЖА. Азярцо. Яно знаходзіцца на сенажаці Андрэя. Вець Бых.

АНДРЭЕВА СЯДЗІБА. Урочышча. Даўней тут была гаспадарка Андрэя. Раманавічы Маг.

АНДРЭЕВЫ ШТАНЫ мн. Балота. Некалі, паводле падання, тут гушкаліся русалкі. Прыпечына Чэрык.

АНДРЭЕЎ АЛЕШНІК. Алешнік. Тут заўсёды сек дровы дзед Андрэй. Канічы Касц.

АНДРЭЕЎ БЯРЭЗНІК. Лес. Раней тут былі могілкі. Язёры Чэрык.

АНДРЭЕЎ ЕЛЬНІК. Мясціна ў лесе. Дрэвы тут садзіў Андрэй. Гавяды Шкл.

АНДРЭЕЎ ЛЕС. Лес. Калісьці ён належаў Андрэю. Вялікая Гута Бабр.

АНДРЭЕЎ ЛУЖОК. Мясціна. Раней тут жыла сям'я Андрэя. Вець Бых.

АНДРЭЕЎ МОСТ. Невялікі мост праз ручай. Некалі яго пабудаваў Андрэй. Папоўка Кругл.

АНДРЭЕЎ ПОПЛАЎ. Луг. Раней на гэтым месцы была сядзіба Андрэя. Сычкава Бабр.

АНДРЭЕЎ САД. Частка калгаснага сада. Некалі яго пасадзіў Андрэй. Вялікія Лазіцы Шкл.; Сад. Калісьці ён быў пасаджаны дзедам Андрэем. Малы Асавец Маг.

АНДРЭЕЎ СЛУП. Слуп. Даўней у яго ўрэзаўся п'яны Андрэй. Горкі Чэрык.

АНДРЭЕЎ ХУТАР. Хутар. Некалі тут жыў гаспадар Андрэй. Бахань Слаўг.

АНДРЭЕЎКА ж. Невялікая вуліца ў в. Старая Мілееўка Маг.

АНДРЭЕЎСКАЯ ПАСЕКА. Лес. Раней тут стаялі вуллі, якія належалі Андрэеву. Буглаі Красн.

АНДРЭЕЎСКІ ВІР. Глыбокае месца на рэчцы. Некалі тут утапіўся хлопец Андрэй. Буглаі Красн.

АНДРЭЕЎСКІ ЛЕС. Кустоўе. Раней гэта быў лес, які належаў Андрэю. Сігееўка Касц.

АНДРЭЕЎСКІ ШЛЯХ. Дарога. У даўнія часы па ёй вазілі тавар на продаж. Рудня Бял.

АНДРЭЙКАВА ПОЛЕ. Поле. Калісьці тут жыў Андрэй. Брылі Маг.

АНДРЭЙКАЎ ВІР. Мясціна каля рэчкі. Даўней тут жыў хутаранец Андрэйка. Брылі Маг.

АНДРЭЙКАЎ ХУТАР. Хутар. Некалі тут жыў хутаранец Андрэй. Рэпішча Маг.; Карзеева Дрыб.

АНДРЭЙЧЫКАВА БАЛОТА. Балота. Тут утапіўся хлопец Андрэй. Нікіцічы Шкл.

АНДРЭЙЧЫКАВА ВЫЖАР. Балота. Даўней яго выкупіў у пана Андрэй. Прыбярэжжа Бых.

АНДРЭЙЧЫКАЎ БЯРЭЗНІК. Лес. Раней тут жыў хутаранец Андрэй. Заеліца Глуск.

АНІКАВІЦКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Анікавічы. Лешча Шкл.

АНІКАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней на гэтым месцы быў хутар Анікавых. Забавы Бял.

АНІКЕЕЎШЧЫНА ж. Частка вёскі. Першым тут пасяліўся дзед Анікей. Камяніца Бял.

АНІСАЎ БОР. Бор. Калісьці яго пасадзіў дзед Аніс. Дубраўка Красн.

АНІСАЎКА ж. Мясціна. Раней тут жыў хутаранец Аніс. Іскань Бых.

АНІСІМАЎ ГРУД. Сенажаць сярод лесу. Даўней тут касіў Анісім. Гарадзец, Русакі Шкл.

АНІСІМАЎ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Калісьці яго выкапаў Анісім. Сухары Маг.

АНІСІМАЎ ЛУГ. Луг. Раней ён належаў заможнаму селяніну Анісіму. Семукачы Маг., Гладкова Чав.

АНІСІМАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў хутаранец Анісім. Барысаўка Мсц.

АНІСІМАЎКА ж. Урочышча. Некалі тут быў Анісімаў хутар. Скрыпліца Кір.

АНІСІМАЎШЧЫНА ж. Поле. Даўней на гэтым месцы быў Анісімаў хутар. Камяніца Бял.

АНІССІН ХУТАР. Луг. Некалі тут быў двор Аніссі. Пусты Асавец Маг.

АНІСЬКАВА БАЛОТЦА. Балота. Раней непадалёку жыў Анісей. Акунёўка Шкл.

АНІСЬКАВА ГРАДА. Узвышанае месца сярод лугу, парослае дубняком, арэшнікам. Уюн, Сялец Бых.; Луг. Раней ён належаў Аніську. Любонічы Кір.

АНІСЬКАВА ДВОРЫШЧА. Лес. Раней тут была ўласная гаспадарка. Бутрамееўка Бых.

АНІСЬКАВА ЛАШЧЫНА. Кустоўе. Некалі тут стаяла хата Аніські. Антонаўка Чав.

АНІСЬКАВА СЦЕЖКА. Сцежка да берага ракі. Яна ідзе ля хаты Аніські. Ордаць Шкл., Раманавічы Маг.

АНІСЬКАВА УСАДЗЬБА. Невялікі бярэзнік. Даўней там жыў Аніська. Праточнае Бых.

АНІСЬКАЎ ЛУГ. Луг. Калісьці тут жыў дзед Аніська. Вайнілы Чав.

АНІСЬКАЎ МОСТ. Мост. Названы ён у гонар загінуўшага ў Вялікую Айчынную вайну камандзіра партызанскага атрада Анісіма. Асман-Касаева Бял.

АНІСЬКАЎ ПОЦЕРАБ. Луг. Некалі яго касіў Аніська. Ямнае Бых., Коўбча Кліч.

АНОПРЫЯ ж. Мясціна ў вёсцы. Некалі тут служыў поп Анопрый. Сялец Мсц.

АНТАНЁНКАЎ БРОД. Брод ракі. Калісьці тут утапіўся Антанёнак. Буда Бял.

АНТАПОЛЛЕ н. Мясціна. Тут расце многа таполяў. Лудчыцы Быx.

АНТОНАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці каля яго жыў Антон. Бацвінаўка Крыч.; Балота. Некалі тут утапіўся Антон. Гарбавічы Чав.

АНТОНАВА КРЫНІЧКА. Крыніца на лузе. Раней тут жыў Антон. Казелле Красн.

АНТОНАВА ПОЛЕ. Поле. Калісьці яго засяваў Антон. Гуслішчы Маг.

АНТОНАВА САЖАЛКА. Сажалка ў в. Беразетня. Даўней яе выкапаў селянін Антон. Беразетня Мсц.

АНТОНАВЫ ГРАДЫ. Урочышча. Некалі Антон тут меў дзялянку ворнай зямлі. Ржавец Чэрык.

АНТОНАЎ ВІР. Глыбокае месца на рэчцы. Калісьці тут утапіўся дзед Антон. Сухары Маг.

АНТОНАЎ КЛІН. Частка лесу. Некалі яна належала Антону. Займішча Шкл.

АНТОНАЎ ЛУГ. Луг. Раней тут стаяла хата Антона. Гута Бабр.

АНТОНАЎ ПРУД. Сажалка. Калісьці яе выкапаў дзед Антон. Савінічы Клім.

АНТОНАЎ САД. Сад. Некалі ён належаў Антону. Папараткі Красн., Бортнікі Бабр., Вепрын Чэрык.

АНТОНАЎ САСОННІК. Лес. Раней каля яго жыў Антон. Залесавічы Крыч.

АНТОНАЎ УЗГОРАК. Узгорак. Даўней тут жыў Антон. Цімохіна Касц.

АНТОНАЎ ХУТАР. Мясціна. Калісьці тут жыў дзед Антон. Гарадзец Быx.; Поле. Раней тут была сядзіба Антона. Загаранкі Кругл.

АНТОНАЎКА ж. Сад. Раней у ім было шмат антонавак. Вялікая Валаськоўня Касц., Падбелле Маг.

АНТОНАЎСКАЯ САСНА. Лес вакол в. Антонаўка Красн.

АНТОНАЎСКІ САД. Сад. У ім многа антонавак. Ціманава Клім.

АНТОНІХІН БАЛЬШАК. Мясціна. Даўней тут была сядзіба Антоніхі. Тураўя Красн.

АНТОНІХІН ХУТАР. Лес і поле. Некалі тут жыла жанчына Антоля. Бабірова Глуск.

АНТОНЧЫКАВА БАЛОТА. Мясціна (кустоўнікі). Раней тут жыў пан. Любонічы Кір.

АНТОНЧЫКАВА КАШАРА. Невялікі ляс, дзе пасвяць жывёлу. Калісьці на гэтым месцы жыў хутаранец Антончык. Заеліца Глуск., Заходы Шкл.

АНТОСЕВА ГАРА. Поле. Раней тут, на ўзгорку, быў хутар Антося. Загараны Кругл.

АНТОСЕЎ ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыў хутаранец Антось. Муравец Клім.

АНУФРЫЕЎСКІ МАНАСТЫР. Разваліны. Калісьці на гэтым месцы быў закладзены манастыр у гонар старца Ануфрыя. Сялец Мсц.

АНУХРЭЕЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў хутаранец Анухрэй. Вялікая Машчаніца Бял.

АНЦІПАВА ВОЗЕРА. Возера. Калісьці тут утапіўся селянін Анціп. Паўлава Кругл.

АНЦІПАЎШЧЫНА ж. Участак лесу (абход лесніка Анціпа). Каменка Мсц., Нярак, Лудчыцы Бых.

АНЮТАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут утапілася Анюта. Дубасна Мсц.

АНЮЦІН ЛУГ. Луг. Раней тут жыла Анюта. Залесавічы Крыч.

АНЮЦІНА БАЛОТА. Невялічкае балота. Даўней на гэтым месцы жыла хутаранка Анюта. Брылі Маг.

АНЮЦІНА ГРЭБЛЯ. Дарога праз балота. Камароўка Крыч.

АНЮЦІНА ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Анюты. Наркі Чэрык.

АНЮЦІНА ХАТА. Месца ў в. Шамаўшчына. Некалі тут стаяла хата. Шамаўшчына Мсц.

АНЮЦІНСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Анюціна Чэрык.

АНЯНКОВА БАЛОТА. Балота. Стараселле Шкл.

АПАНАСАВА ПАСЕКА. Мясціна. Тут Апанас разводзіў пчол. Літоўск Кругл.

АПАНАСАЎ ЛОГ. Лог. Раней тут была сядзіба Апанаса. Азерцы Клім.

АПАНАСАЎКА ж. Урочышча. Некалі тут жыў хутаранец Апанас. Азерцы Клім.

АПАНАСІКАЎ ЗАКАВУЛАК. Вуліца. Даўней тут жыў Апанас. Макранскія Хутары Бых.

АПАНСКАГА н. Луг. Прудок Слаўг.

АПЕЛЬНЯ-ГАРА ж. Мясціна. Да Вялікай Айчыннай вайны тут здабывалі вапну. Ліпень Асіп.

АПЕНЬЧЫНА ж. Мясціна ў лесе. Тут расце шмат апенек. Следзюкі Бых., Лебядзёўка Слаўг.

АПРЭЛЕВА БАЛОТА. Балота. Бутрамееўка Бых.

АПТЭКА ж. Невялікая прыватная крама. Даўней у гэтым памяшканні была аптэка. Клічаў.

АПУХРЭЕЎ ХУТАР. Мясціна ў лесе. Раней тут жыў дзед Апухрэй. Забавы, Вольніца Бял.

АРАДЫ мн. Поле за гумнамі. Чэрнеўка Шкл.

АРГАТАВА ПОЛЕ. Поле каля вёскі. Тут звычайна нічога не расце. Мурын Бор Касц.

АРДЗЕЕВА БАЛОТА. Балота каля дома дзеда Ардзея. Стайкі Маг.

АРДЗЕЕВА КЛАДЗІШЧА. Мясціна каля дома дзеда Ардзея. Стайкі Маг.

АРЖАВЕЦ м. Балота. Тут заўсёды ржавая вада. Вільчыцы Маг.

АРЖАНОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жыло тры сям'і Аржаноўцаў. Асінаўка Мсц.

АРКАДЗЕВА БАЛОТА. Азярына. Калісьці яна належала Аркадзю. Ржавец Чэрык.

АРКАДЗЕВА БУЛЬБА. Мясціна (кустоўе). Раней тут было поле, дзе Аркадзь сеяў бульбу. Дубраўка Маг.

АРЛОЎКА ж. Луг. Раней тут збіралася шмат арлоў. Стайкі Красн.

АРЛІНАЕ МЕСЦА. Мясціна ў лесе. Тут, як сведчыць паданне, збіралася шмат арлоў. Леніна Красн.

АРЛОВА БАЛОТА. Балота. Тут вадзілася шмат арлоў. Юркаўка Крыч.

АРЛОВА ЛАШЧЫНА. Кустоўе. Гута Клім.

АРЛОВА ПОЛЕ. Поле каля дарогі. Раней яно належала пану Арлову. Глыбокае Кругл.

АРЛОЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Даўней каля яго жыў Арлоў. Радамля Чав.

АРЛОЎ МОСТ. Мост. Каля яго жыве баба Арліха (мянушка). Нядашава Маг.

АРЛОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля сядзібы сям'і Арлоўскіх. Раманавічы Маг.

АРЛОЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапаў Арлоўскі. Раманавічы Маг.

АРЛОЎСКІ ПАДГОРАК. Дарога. Даўней тут праязджаў князь Арлоўскі. Утра Маг.

АРЛОЎСКІЯ ПАЛІ. Два суседнія палі каля Арлоўшчыны. Карасі Шкл.

АРЛОЎШЧЫНА ж. Урочышча вакол в. Арлоўка Хоц.

АРЛЫ мн. Асушанае балота. Тарасавічы Асіп.

АРМЯНСКІ ЗАВОД. Асфальтавы завод. Раней тут працавалі армяне. Катка Глуск.

АРСАНЁНКАВА БАЛОТА. Балота. Даўней насупраць яго жыў Арсанёнак. Хацілавічы Крыч.

АРСАНЁНКАЎ САД. Сад. Некалі тут жыў Арсанёнак. Хацілавічы Крыч.

АРСЕНАВА н. Лес. Бутрамееўка Бых.

АРСЕНЕВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут ледзь не загінуў Арсень. Арцёхаў Красн.

АРУШКІНА ГАРА. Узгорак. Даўней паблізу жыла Арушка (імя). Гарбавічы Маг.

АРХІПАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці побач жыў Архіп. Раманавічы Маг.

АРХІПАВА ГАРА. Узвышанае месца. Шмат гадоў таму тут жыў Архіп. Белая Шкл.

АРХІПАВА ДВОРЫШЧА. Лес. Раней тут жыў Архіп. Бутрамееўка Бых.

АРХІПАВА КРЫНІЦА. Крынічка каля лесу. Даўней тут стаяла хата лесніка Архіпа. Раманавічы Маг.

АРХІПАВА ЛАШЧЫНА. Лог каля ўзгорка. Некалі тут жыў дзед Архіп. Мядзвёдаўка Маг.

АРХІПАВА ПАЛЯНКА. Паляна ў лесе. Раней тут жыў ляснік Архіп. Дабужа Бых.

АРХІПАВА СЯДЗІБА. Мясціна. Калісьці тут жыў хутаранец Архіп. Семукачы Маг.

АРХІПАЎ РОГ. Ускраек лесу. Непадалёк стаяла хата Архіпа. Праточнае Бых.

АРХІПАЎ РОЎ. Роў. Некалі тут жыў Архіп. Загоранка Чав.

АРХІПАЎ САД. Сад. Даўней тут, паводле вяскоўцаў, Архіп знайшоў скарб. Брылі Маг.

АРХІПАЎ ХУТАР. Мясціна. Калісьці тут жыў хутаранец Архіп. Вязаўніца Асіп., Трылесіна Гор.

АРХІПЧЫКАЎ ХУТАР. Поле. Некалі тут жыў селянін Архіп. Антонаўка Чав.

АРЦЁМАВА ГУМНО. Пустэча. Раней тут жыў Арцём. Гіжэнка Слаўг.

АРЦЁМАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Раней яна знаходзілася на хутары Арцёма. Сабалёўка Клім.

АРЦЁМАВА ПЕЛЬ. Сажалка. Некалі яе абкошваў дзед Арцём. Макавічы Глуск.

АРЦЁМАЎ ВОМУТ. Вір. Калісьці тут утапіўся Арцём. Пpаточнае Быx.

АРЦЁМАЎ ЛУГ. Луг. Раней тут быў пацяроб Арцёмава. Боркі Кір.

АРЦЁМАЎ МОСТ. Мост. Некалі яго будаваў стары Арцём. Бірча Бабр.

АРЦЁМАЎ ХУТАР. Лес. Раней тут жыў пан Арцём. Сабалёўка Клім.

АРЦЁМАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жыў хутаранец Арцём. Заеліца Глуск., Чорны Бор Быx.

АРЦЁМЕНКАВА ВУЛІЦА. Дарога на поле. Мурын Бор Касц.

АРЦЁМІХА ж. Поле. Даўней тут быў хутар Арцёма. Вербеж Чэрык.

АРЦЁМКАВА ДАРОГА. Дарога. Некалі побач жыў селянін Арцёмка. Мядзвёдаўка Маг.

АРЦІМЕНКАВА САЖАЛКА. Азярцо. Некалі вакол яго раслі дрэвы. Шчокатава Дрыб.

АРЦІШЭЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў ляснік Арцішэўскі. Слабада Кір.

АРЦЮХОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Арцёхаў Красн.

АРЫВОНАВА БАЛОТА. Балота каля хаты Арывонавых. Нікіцінічы Шкл.

АРЫКОЎ ХУТАР. Сенажаць. Раней тут жыў хутаранец па мянушцы Арык. Сялец Гор.

АРЫНА ж. Ягаднае мясціна ў лесе. Даўней тут жыла Арына разам са сваёй сям'ёй. Бярозкі Хоц.

АРЫНІНА ГРЭБЕЛЬКА. Дарога паўз канаву. Калісьці па гэтай дарозе ехала Арына і ўтапіла ў канаве сваё дзіця. Слаўкавічы, Сцяг Глуск.

АРЫНІНА САЖАЛКА. Сажалка каля хаты бабы Арыны. Дудаковічы Кругл.

АРЫНІНА ХАТА. Месца на полі. Некалі тут стаяла хата Арыны. Чорны Бор Быx.

АРЫНКІН ЛУГ. Луг. Калісьці тут жыла баба Арына. Болін Красн.

АРЫШТАНТКА ж. Рэчка. Калісьці яе выкапалі, паводле падання, катаржнікі. Трылесіна Дрыб.

АРЭНДА ж. Вялікая частка лугу, зарослая хмызняком. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі сяляне арэндавалі яго ў пана. Сялец Мсц.

АРЭХАВАЯ БАЛКА. Мясціна ў лесе. Тут расце арэшнік. Леніна Красн.

АРЭХАВАЯ ДАРОГА. Луг. Даўней тут была дарога, паабапал якой рос арэшнік. Сялец Гор.

АРЭХАВЫ КЛІН. Мясціна каля р. Сож. Тут расце вялікі арэшнік. Каменка Слаўг.

АРЭХАВЫ ПАЛЯДАК. Мясціна ў Будлянскім лесе. Тут расце шмат арэхаў. Малы Асавец Маг.

АРЭХАЎ КУСТ. Лес. Тут расце шмат арэшніку. Краснае Глуск.

АРЭХАЎКА ж. Арэшнік. Заеліца Глуск.; Мясціна ў лесе. Тут расце арэшнік. Літоўск, Цяцерына Кругл., Недзведзь Клім.; Рэчка. Вакол яе растуць вадзяныя арэхі. Лазаравічы Быx.

АРЭХАЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера каля в. Арэхаўка Кліч.

АРЭХАЎСКІ ЛЕС. Лес. Тут расце шмат арэшніку. Займішча Шкл.

АРЭШНІК м. Мясціна ў лесе. Тут растуць зараснікі арэшніку. Ермалоўка, Рэкатка Гор., Восаў Красн., Тугалін Бял., Вець Быx., Чырвоная Слабада Касц., Сідаравічы Маг., Стайкі Клім., Свенск, Заглiннае Слаўг.; Мясціна на полі. Тут расце арэшнік. Вялешак Кліч., Заходы, Новае Браш-

чына, Гаваракі Шкл.; Канава. Паабапал яе расце ляшчыннік. Антонаўка Чав.

АРЭШНІКІ. Балота. Вакол яго расце арэшнік. Аляксандраўка Слаўг.; Зараснік арэшніку. Следзюкі Бых.

АРЭШНЯ ж. Мясціна. Тут расце арэшнік. Лудчыцы Бых.

АРЭШЫШЧА н. Мясціна ў лесе. Тут растуць зараснікі арэшніку. Клічаў.

АСАВЕЦ м. Асінавы хмызняк. Чарняўка Хоц.

АСАВЕЦКІ ДУБНЯК. Дуброва каля в. Малы Асавец Маг.

АСАВЕЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Малы Асавец Маг.

АСАКА ж. Сенажаць. Тут расце многа асакі. Смолка Чав.

АСЕЛІЦА ж. Сенажаць каля агародаў. Прыгані Кругл., Петухоўка Чав., Праточнае Бых.

АСЕЦКАЕ н. Лес. Дубасна Кір.

АСЁЛАК м. Нераспрацаваная зямля каля в. Следзюкі Бых.

АСЁЛАЧАК м. Частка сенажаці за агародамі. Ігліца Бял.

АСІНА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут загінула дзяўчына Ася. Падбелле Маг.

АСІНА ж. Невялікі асінавы лясок пасярод поля. Іванаўка Касц.; Поле. Даўней на гэтым месцы быў асіннік. Дрыбін Гор.

АСІНАВА ГРЫВА. Асіннік паміж двух лугоў. Вільчыцы Маг.

АСІНАВАЯ ГРЫВА. Мясціна ў лесе. Тут растуць адны асіны. Лыкава, Князеўка Маг.

АСІНАВІЦА ж. Балота. Некалі каля яго расло шмат асін. Калюга Глуск.

АСІНАВЫ БРАДОК. Ручай у асінніку. Вышова Мсц., Сялец Бых.

АСІНАВЫ ВОСТРАЎ. Клін асінавага лесу сярод балота. Малінне Кліч.

АСІНАВЫ ГАЙ. Лес. Раней у ім расліі толькі асіны. Недзведзь Клім.

АСІНАВЫ ДУБ. Мясціна каля дуба. Некалі тут расла старая асіна, у дупло якой трапіў жолуд. Потым на гэтым месцы вырас дуб. Гарадзея Бых.

АСІНАВЫ ЗАД. Луг за асіннікам. Слабада Хоц.

АСІНАВЫ МОСТ. Дарога, абсаджаная асінамі. Яна звязвае дзве вёскі. Асінаўка Чав.

АСІНАВЫ МОХ. Асінавы лес, месцамі забалочаны. Раней тут бралі мох. Дужаўка Чав.

АСІНАВЫ РОГ. Нешырокая паласа асінніку (у форме рога). Глуша Бабр.

АСІНАВЫ РУЧЭЙ. Ручэй. Паабапал яго расце шмат асін. Ціманава Клім.

АСІНАЕ БАЛОТА. Балота. Вакол яго расло шмат асін. Уздзеевічы Клім.

АСІНАЎКА ж. Дарога. Паабапал яе расце асіннік. Свяцілавічы Бял.; Асінавы лес. Самулкі Чав.; Поле. Раней тут раслі асіны. Жавань Гор.; Частка вёскі. Тут расце шмат асін. Чарнякоўка Слаўг., Вець Бых.; Бярозавы гай уперамешку з асінамі. Сетнае Крыч.

АСІНАЎКІ мн. Мясціна ў лесе. Тут растуць адны асіны. Ліпніца Кліч., Камяніца Бял.

АСІНАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Вакол яго расце шмат асін. Адамаўка Гор.

АСІНАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Асінаўка Чав.

АСІНАЎСКАЯ ДЗЯЛЯНКА. Частка лесу. Тут растуць адны асіны. Балбечына Гор.

АСІНАЎСКАЯ ЛІНІЯ. Прамая дарога ад в. Асінаўка да в. Цёмны Лес Мсц.

АСІНАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Асінаўка Чав.

АСІНАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут быў асінавы лес. Літоўск Кругл.

АСІНКІ мн. Луг. На ім растуць асінкі. Горкі Чэрык.; Частка поля. Вакол яе растуць зараснікі асінніку. Хамічы Бых.; Мясціна ў лесе. Тут растуць адны асіны. Ніканавічы Бых.

АСІННІК м. Асінавы лясок пасярод поля. Пятровічы, Петухоўка Чав.; Асінавы лес. Новае Брашчына Шкл.; Частка лесу. Тут растуць адны асіны. Сялец Гор.

АСІННІКІ мн. Балота. Яно зарасло асіннікам. Следзюкі Бых.; Мясціна. Раней тут быў асінавы лес. Казелле Красн.

АСІННІЦА ж. Асінавы лес. Добры Дуб Слаўг.

АСІНШЧЫНА ж. Лес. Тут расце шмат асін. Малы Асавец Маг.

АСІНЫ ДУБ. Дуплісты дуб. У ім вадзіліся восы. Рудкаўшчына Гор., Лудчыцы Бых.

АСІПАВА БАЛОТА. Балота. Раней каля яго жыў дзед Асіп. Падбелле Маг.

АСІПАЎКА ж. Ускраек лесу. Раней тут стаяла хата дзеда Асіпа (Восіпа). Іванаўка Крыч.

АСІПЁНКАВА ДВОРЫШЧА. Сенажаць. Некалі тут жыла сям'я Асіпёнкаў. Антонаўка Чав.

АСМАЛОЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Раней тут быў хутар. Брылі Маг.

АСМОЛАВІЧЫ мн. Лес. Раней тут жыў хутаранец Асмолаў. Гусарка Клім.

АСМОЛАЎКА ж. Ускраек вёскі. Ён упіраецца ў сасновы смалісты бор. Іскань Бых.; Мясціна ў вёсцы. Калісьці тут гналі смалу. Забавы Бял.

АСМОЛАЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Асмолавічы Клім.

АСОВЫ ЛУГ. Кусты алешніку на месцы былога лесу. Дразды Кругл.

АСОВЫЯ мн. Сенажаць. Там водзяцца восы. Чэрнеўка Шкл.

АСОКІ мн. Луг каля балота. Тут расце асака. Бацэвічы Кліч.

АСТАПАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут утапіўся Астап. Стайкі Клім.

АСТАПАВА ГАРА. Месца каля царквы ў в. Княжыцы. Калісьці тут жыў заможны селянін Астапаў. Княжыцы Маг.

АСТАПАВА ГРЫЎКА. Мясціна. Даўней тут жыў Астап. Высокае Клім.

АСТАПАВА ЛУЖА. Балота. Недзведзь Клім.

АСТАПАВА САЖАЛКА. Балота. Даўней каля яго стаяла хата Астапа. Бацвінаўка Крыч.

АСТАПАЎ БЕРАГ. Рачны бераг. Калісьці тут утапіўся Астап. Падсёлы Кір.

АСТАПАЎШЧЫНА ж. Поле. Некалі тут была сядзіба Астапа. Займішча Шкл.

АСТАПЕНКАВА ГУМНО. Мясціна. Раней тут стаяла гумно заможнага селяніна Астапенкі. Гладкава Чав.

АСТАПКАЎ ЛОГ. Лес. Некалі на гэтым месцы быў луг, які належаў Астапу. Буглаі Красн.

АСТРАВІНА ж. Асушанае балота. Раней яно было багністым з астраўком-выспай. Ямнае Бых.

АСТРАВОК м. Неглыбокае месца на р. Сож. Крычаў; Поле, зарослае кустамі. Белая Шкл.; Месца на лузе. У час паводкі яно не затапляецца вадой. Глінь Чэрык.; Луг за рэчкай. Мхінічы Красн.; Невялікі лес пасярод поля. Фальварак Глуск.; Узвышанае месца ў лесе. Клімавічы.

АСТРАВОЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Астравок Касц.

АСТРАВЫ мн. Узгорак вакол балота. Скрыпліца Кір.; Лес і поле на ўзвышаным месцы. Краснае Глуск.; Луг з невялікімі крынічкамі. Чырвоны Бор Бял.

АСТРАЎКІ мн. Луг. На ім невялікімі купкамі растуць кусты. Шалаёўка Кір.

АСТРАЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Астравы Чав.

АСТРОВАК м. Урочышча. Закупленне Кліч.

АСЯРОДАК м. Частка лесу паміж дзвюма вёскамі — Дубровай і Мыслоціна. Глуск.; Поле пасярод лесу. Краснае Глуск.

АТРАХІМАЎ БОК. Сенажаць і лес паўз рэчку. Даўней усё гэта належала Атрахіму. Семукачы Маг.

АЎДАКІМАВА АКНО. Балотца. Паводле вясковых паданняў, некалі тут утапіўся Аўдакім. Рудкаўшчына Гор.

АЎДЗЕЕВЫ КЛАДКІ. Урочышча. Раней тут былі кладкі, што зрабіў Аўдзееў. Свадкавічы Крыч.

АЎДЗЕЕНКАЎ ХУТАР. Мясціна. Калісьці тут жыў Аўдзеенка. Сухары Маг.

АЎДЗЕЕЎ КАМЕНЬ. Мясціна. Тут знаходзіцца вялікі камень белага колеру. Бялынкавічы Касц.

АЎДЗЕЕЎ ЛЯСОК. Невялічкі лес. Некалі яго пасадзіў Аўдзей. Сухары Маг.

АЎДЗЕЕЎ МЛЫН. Млын. Раней тут працаваў стары Аўдзей. Туркі Бабр.

АЎДЗЕЕЎ ХУТАР. Сенажаць. Даўней тут жыў селянін Аўдзей. Антонаўка Чав.

АЎДЗЕІХА ж. Мясціна ў лесе. Раней тут быў хутар, на якім жыла Аўдзеіха з дзецьмі. Ніканавічы Бял.

АЎДОЦЦІНА ДАРОГА. Дарога ад хаты Аўдоцці да лесу. Родня Клім.

АЎДУЛЬКІН ХУТАР. Сенажаць. Раней тут жыла хутаранка Аўдулька. Галічы, Буда Клім., Ціхань Хоц.

АЎЛАСАЎКА ж. Луг. Даўней ён належаў Власаву. Князеўка Маг.

АЎРАМАВА ПЕЛЬ. Сажалка. Некалі яе выкапаў і даглядаў Аўрам. Макавічы Глуск.

АЎРАМАВА САСНА. Мясціна. Тут расце адна сасна, на якой бандыты, паводле padання, павесілі нарыхтоўшчыка Аўрама. Хоцімск.

АЎРАМАВЫ АМБАРЫ. Урочышча. Раней тут знаходзіліся клеці, якія належалі Аўраму. Ціманава Клім.

АЎРАМАЎ ХУТАР. Маліннік. Некалі тут жыў селянін Аўрам. Антонаўка Чав.; Поле. Раней тут была сядзіба Аўрама. Дзягавічы Крыч.

АЎРАМЧЫКАЎ ХУТАР. Сенажаць. Некалі тут жыў дзед Аўрам. Сялец Гор.

АЎСЕЕВА ПОЛЕ. Поле. Калісьці яно належала пану Аўсею. Займішча Шкл.

АЎСЕЕВА САЖАЛКА. Забалочаная мясціна. Раней тут была сажалка, якую выкапаў Аўсей. Сялецкае Касц.; Невялікі вадаём. Бутрамееўка Бых.

АЎСЕЕЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Некалі яна належала памешчыку Аўсееву. Акунёўка Шкл.

АЎСЕЙКАВА ПАСЕКА. Мясціна ў лесе. Калісьці тут стаялі вуллі Аўсея. Лешчанка Кір.

АЎСЕЙКАЎ КУТОК. Урочышча. Раней яно належала дзеду Аўсею. Стайкі Маг.

АЎСЯНАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі на гэтым месцы добра рос авёс. Прыгаўка Крыч.

АЎСЯННЕ н. Лес. Некалі на гэтым месцы сеялі авёс. Дубраўка Касц.

АЎСЯНСКІ ЛЕС. Бярэзнік каля в. Аўсянка Гор.

АЎТАЛАС м. Поле каля лесу. Таценка Кліч.

АЎТУХОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут была сядзіба чалавека па прозвішчы Аўтухоў. Мяжэнін Клім.

АЎХАЧОЎ КУРГАН. Узвышанае месца. Калісьці тут быў пахаваны Аўхач. Аўчыненкі Шкл.

АЎХІМАВА БАЛОТА. Балота. Даўней побач з ім жыў дзед Аўхім. Старалы Кліч., Суслаўка Дрыб.

АЎХІМАВА ДЗЯЛЯНКА. Мясціна ў лесе. Некалі тут карчаваў лес дзед Аўхім. Сісенева Шкл.

АЎХІМАВЫ ЛЯДЫ. Бярозавы гай (у лесе каля в. Касцюковічы). Даўней тут жыў Аўхім-ляснік. Касцюковічы Кругл.

АЎХІМАЎ МОСТ. Мост праз рэчку. Непадалёку ад яго знаходзіцца хата Аўхіма. Антонаўка Чав.

АЎХІМАЎ РОЎ. Месца на рэчцы. Даўней тут утапіўся Аўхім. Круча Кругл.

АЎХІМАЎ САД. Сад. Некалі яго пасадзіў Аўхім. Ігнатаўка Хоц.

АЎХІМАЎКА ж. Мясціна ў лесе. Раней тут стаяла хата лесніка Аўхіма. Кузькавічы Бых.

АЎЧАРНЯ ж. Старая разваленая пуня. Дары, Дрычын Асіп.

АЎЧЫНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Аўчынец Красн.

АФОНЬКАВА ЛУКА. Частка сенажаці. Калісьці яе прадаў Афонькін калгасу. Новы Быхаў Бых.

АХРАНА ж. Лес. У час Вялікай Айчыннай вайны тут людзі хаваліся ад немцаў. Прылессе Чав.

АХРЫМАВА ДАРОГА. Дарога. Даўней тут забілі Ахрыма. Рудкаўшчына Гор.

АХРЭМАВА ДВОРЫШЧА. Сенажаць. Некалі тут жыў селянін Ахрэм. Антонаўка Чав.

АХРЭМАВА КАЦВІНА. Сенажаць. Раней тут была сажалка, якую выкапаў Ахрэм. Антонаўка Чав.

АХРЭМАВА ЛАЗНЯ. Лазня. У даваенны час яе пабудаваў Ахрэм. Русенка Маг.

АХРЭМАЎ ЛЕС. Лес. Даўней тут працаваў ляснік Ахрэм. Петухоўка Чав.

АХРЭМАЎ ПЕРАКАТ. Узвышанае месца. Тут жыве Ахрэм. Маляцічы Крыч.

АХРЭМАЎ РОГ. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Ахрэм. Глуск.

АХРЭМАЎШЧЫНА ж. Поле (паміж в. Камяншчына і лесам). Даўней тут жыў Кісялёў Ахрэм. Загаранкі Кругл.; Сажалка. Калісьці побач з ёй жыў Ахрэм. Пясчанка Маг.

АХРЭМЕНКАВА БАЛОТА. Балота (каля сядзібы Ахрэменкі). Супанічы Маг.

АХРЭМІХІН ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Ахрэміхі. Загаранкі Кругл.

АШМАНА ж. Вуліца ў вёсцы. Даўней тут жылі Ашманавы. Дрычын Асіп.

АЭРАДРОМНАЯ ДАРОЖКА. Дарожка. Калісьці тут прызямляліся самалёты. Бялынкавічы Касц.

АЭРАДРОМ м. Поле. Раней на гэтым месцы быў аэрадром. Сычыкі Крыч., Чэрыкаў, Шчокатава Дрыб., Чырвоная Слабада Касц., Цяцерына Кругл., Шамава, Мушына Мсц., Раманькі Красн.; Частка в. Малы Асавец Маг.

# Б

БАБАКОВА ВОЗЕРА. Возера. Яго выкапалі, калі старшынёй калгаса быў Бабакоў. Дашкаўка Маг.

БАБІН МОХ. Забалочаная мясціна. Раней тут было возера, у якім утапілася жанчына. Вепрын Чэрык.

БАБІНА БАЛОТА. Балота. Некалі ў гэтым балоце муж забіў сваю жонку і ўтапіў. Калодліва Касц.

БАБІНА ГАРА. Узвышаная мясціна ў лесе. Некалі тут жыў ляснік з жонкай і дзецьмі. Там пасля лесніка

дажывала свой век яго жонка. Мыслоціна Глуск.

БАБІНА ГАРА. Узгорак. Даўней тут сустракаліся маладыя хлопцы і дзяўчаты. Карпачы Клім.

БАБІНА МОРА. Возера, заросшае травой. Раней тут жанчыны мылі бялізну. Харошкі Маг.

БАБІНА ПАЛАСА. Мясціна ў лесе. У час Вялікай Айчыннай вайны тут немцы забілі жанчыну. Рэкатка Гор.

БАБОВІШЧА н. Участак поля. Раней тут сеялі боб. Глінь Чэрык.

БАБОЎКА н. Травяністая мясціна. Раней тут было поле, на якім сеялі боб. Дубраўка Маг.

БАБРАВІННЕ н. Мясціна на р. Вабіч. Некалі тут вадзілася шмат баброў. Загаранкі Кругл.

БАБРАВІЦА ж. Месца на лузе каля р. Днепр. Калісьці тут вадзіліся бабры. Дашкаўка Маг.

БАБРОВА ЛОГАВА. Балота. Тут водзяцца бабры. Зуі Крыч.

БАБРОВІК м. Мясціна на рацэ. Тут водзяцца бабры. Александрыя Шкл.

БАБРОВІЦКАЯ СЦЕЖКА. Сцежка да грыбнога лесу. Бялынкавічы Касц.

БАБРОВЫ ХАТЫ. Балота. Тут водзяцца бабры. Буглаі Красн.

БАБРЭЦ м. Сенажаць (у балоцістым месцы). Гарбавічы Чав.

БАБСКАЯ ГОРКА. Узвышанае месца. У час Вялікай Айчыннай вайны тут збіраліся жанчыны і спявалі жалобныя песні. Клімавічы.

БАБЧЫНА БАЛОТА. Нізіна. Калісьці тут стаяла некалькі хат, у адной з іх жыла старэнькая бабуля, а астатнія пуставалі. Дуброва Бял.

БАБЫЛІН ЛОГ. Луг у лесе. Раней тут жыла старая бабылька. Бракава Маг.

БАБЫНАВА н. Частка вёскі. Тут часта сядзяць бабы. Доўгавічы Мсц.

БАГАЁЎШЧЫНА ж. Балота, парослае кустамі. Перагон Слаўг.

БАГАМАЗ м. Пасёлак. Раней тут жылі іканапісцы. Мяжысеткі Маг.

БАГАТЫР м. Поле. Тут збіраюць багатыя ўраджаі. Халмы Чэрык.

БАГДАНАВА ВОЗЕРА. Невялікае возера. Некалі яго выкапаў Багдан. Прылессе Чав.

БАГДАНАЎ МОСТ. Мост праз канаву. Рыжкаўка Бых.

БАГДАНАЎ ХУТАР. Сенажаць. Даўней тут жыў Багдан. Паўлавічы Клім.

БАГДАНЫ мн. Поле. Раней тут быў Багданаў хутар. Данькавічы Шкл.

БАГІНЯ ж. Месца ў лесе. Тут растуць арэхі, маліна. Зарэсце Маг.

БАГНО н. Багністае мясціна на балоце. Клімавічы.

БАГОНСК м. Лес з балотам. Тут расце шмат багульніку. Гута, Хацень Клім.

БАГУНОЎКА ж. Забалочаная мясціна. Раней тут расло шмат багуну. Лазіцы Бял.

БАДЗЮЛЬКІН ВІР. Месца на рэчцы. Марцінавічы Кругл.

БАДЗЯКАЎШЧЫНА ж. Поле. Тут расце многа бадзяку. Праточнае Бых.

БАЕЎ МОСТ. Мост. Калісьці непадалёк ад яго жыў Бай (мянушка). Ржаўка Слаўг.

БАЗСКАЯ ГАРА. Узвышаная мясціна. У час Вялікай Айчыннай вайны тут знаходзілася конебаза. Глінь Чэрык.

БАЗЫЛЕЎ ЛУЖОК. Нізкае месца сярод поля. Тут касіў траву Базыль. Пятровічы Чав.

БАЙДАН м. Месца на дарозе. Даўней тут ваўкі загрызлі каня па клічцы Байдан. Сыманаўка Кліч.

БАЙКАНУР м. Мясціна ў горадзе. Знаходзіцца каля плошчы, дзе раней стаялі ракеты. Бабруйск.

БАЙКАЎ м. Месца ў лесе. Раней тут быў маёнтак і раслі вялікія дубы. Дужаўка Чав.

БАЙКІ мн. Межы на людскіх сядзібах. Следзюкі Бых.

БАЙКОЎКА ж. Рэчка. Калісьці яна належала пану Байкову. Гусарка Клім.

БАКАВОЕ н. Месца на павароце ракі. Паўлавічы Клім.

БАЛАГАН м. Месца ў садзе. Раней тут захоўваліся яблыкі. Дашкаўка Маг.

БАЛАТЫ мн. Месца на рацэ. Тут дзве рачулакі зліваюцца ў адну раку. Камяніца Бял.

БАЛАХОННАЕ ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапаў Балахонаў (прозвішча). Раманавічы Маг.

БАЛАЦЯНКІ мн. Поле. Яно часта заліваецца вадой. Шчацінка Шкл.

БАЛГАНІШЧА н. Кустоўнік. Раней тут быў цыганскі табар. Перагон Слаўг.

БАЛГАНЫ мн. Урочышча. Некалі тут быў хутар Балганавых. Боркі Кір.

БАЛКА ж. Праход праз балоцістую мясціну. Забалацце Чав.

БАЛОННЕ н. Поле. Раней на гэтым месцы было балота. Гарадзец Шкл.

БАЛОТНАЯ ж. Вуліца Касманаўтаў у в. Кадзіна. Раней тут было балота. Кадзіна Маг.

БАЛОТНІКІ мн. Могілкі ў нізіне каля в. Шчацінка Кругл.

БАЛОТНЯ ж. Частка вёскі каля балота. Ніканавічы Бых.

БАЛОТЦЫ мн. Забалочаная мясціна. Сідаравічы Маг.

БАЛОЦІНА ж. Луг. Раней тут было балота. Трылесіна Гор.; Невялікае балота. Недзведзь Клім.

БАЛОЦЦЯ ж. Вялікі луг каля Дняпра. Тут шмат забалочаных мясцін. Пруды Шкл.

БАЛЬШАК м. Шырокая дарога праз вёску. Уюн Бых., Коўбча Кліч.; Выступ у лесе. Славені Шкл.

БАЛЬШАЯ ВІЗІРКА. Сцежка ў лесе. Слабодка Кліч.

БАЛЬШАЯ ЗАТОКА. Возера. Праточнае Бых.

БАЛЬШАЯ РЖОЎКА. Вялікае поле. Тут добра родзіць жыта. Скляпава Кругл.

БАЛЬШАЯ ШЧЫРЫЦА. Вялікі хваёвы лес (уперамешку з арэшнікам і маліннікам). Чырвоны Бор Бял.

БАЛЬШОЕ БАЛОТА. Забалочаная мясціна ў лесе. Ядраная Слабада Кліч.

БАНГЕРШЧЫНА ж. Лес. Раней тут быў маёнтак пана Бангерскага. Зуі Крыч.

БАНДЗІЦКАЯ ГРАДА. Мясціна ў лесе. Да рэвалюцыі тут хаваліся бандыты, якія абкрадалі жыхароў навакольных вёсак. Мыслоціна Глуск.

БАНЕВІЧАВА н. Поле. Некалі тут была сядзіба Баневіча. Лука Асіп.

БАНІШЧА н. Сметнік. Даўней тут была лазня. Глінь Чэрык.

БАННАЯ ВУЛІЦА. Вуліца. Тут знаходзіцца калгасная лазня. Абідавічы Бых.

БАНЬКАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут быў хутар Банькоўскіх. Дубраўка Маг.

БАНЬКОЎСКІ ЛЕС. Лес. Калісьці ён належаў пану Банькоўскаму. Банькаўшчына Маг.

БАРАБАНШЧЫКАВА ГАРА. Узвышанае месца каля вёскі. Раней тут быў хутар Барабанава. Чарнаўцы Чав.

БАРАБАШЫХА ж. Паляна ў лесе. Даўней тут касіў траву Барабанаў. Праточнае Бых.

БАРАВАЯ ДАРОГА. Дарога да бору. Круча Кругл.

БАРАВАЯ ж. Калгасныя палі. Некалі на гэтым месцы быў бор, паблізу якога стаяла царква. Градзянка Асіп.

БАРАВАЯ КРЫНІЦА. Крыніца (у бары). Шчарбачы, Маляцічы Крыч.

БАРАВІКОЎ РОЎ. Роў. Даўней тут жыла сям'я Баравіковых. Мікалаеўка І Маг.

БАРАВІНА м. Лес. Бутрамееўка Бых.

БАРАВІЦА ж. Поле (акружанае борам). Лебядзёўка Слаўг.

БАРАВІШЧА н. Балота. Некалі тут было шмат баравікоў. Прыгаўка Шкл.

БАРАВУШКА ж. Дарога да бору. Ордаць Шкл.

БАРАВЫЯ мн. Лес. Калісьці тут расло шмат баравікоў. Пагост Глуск.

БАРАДЗЕНСКАЯ СЦЕЖКА. Дарога з в. Барадзенкі да лесу. Трылесіна Гор.

БАРАК м. Поле. Раней тут людзі будавалі сабе баракі. Хімы Бабр.

БАРАНАВА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жыў Баранаў. Ваевічы Кліч.

БАРАНАВА ГАРА. Узвышаная мясціна. Паводле вясковага падання, тут пахаваны пан Баранаў (прозвішча). Камяніца Бял.

БАРАНАВА н. Лес. Некалі тут быў луг, які касіў Баранаў. Баравая Касц.

БАРАНАВА ПЕЧ. Мясціна ў лесе. Калісьці тут жыў ляснік Баранаў. Прыпёчына Чэрык.

БАРАНАЎ ЛЕС. Месца ў лесе. Некалі тут жыў селянін Баранаў. Халмы Чав.

БАРАНАЎ РОГ. Бераг ракі. Ён мае форму баранова рога. Цяцерына Кругл.

БАРАНАЎКА ж. Мясціна ў лесе (падобная на бараноў рог). Гавяды Шкл.

БАРАННІ ЛОГ. Могільнік для жывёл. Тут былі закапаны жывёлы, загінуўшыя ад хвароб. Малінаўка Бял.

БАРАНЧЫК м. Дарога на полі (па форме падобная на абаранак). Кулешава Шкл.

БАРАНЧЫКІ мн. Луг. Тут пасвяцца бараны. Стайкі Клім.

БАРАНЬ ж. Сасновы лес. Усохі Бых.

БАРАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Баравая. Дубраўка Касц.

БАРАХЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Барахоўскі. Гароднея Чав.

БАРАШКОЎ РОГ. Зямельны надзел. Некалі яго апрацоўваў Барашкоў. Вялікая Машчаніца Бял.

БАРВІКОВА БАЛОТА. Балота. Раней вакол яго было поле, якое належала Барвікову. Вепрын Чэрык.

БАРДАВАЯ ж. Возера. Каб трапіць на луг, калісьці людзі пераходзілі возера ўброд. Сідаравічы Маг.

БАРДЗІЛОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота ў лесе каля в. Бардзілы Чав.

БАРДЗІЛОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў пан Бардзілоў. Алюты Шкл.

БАРДЗІНІЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Вялікія Бардзінічы Чав.

БАРДЗІЧЫ мн. Сасновы лес. Тут водзіцца шмат дзікоў. Тур'я Красн.; Бор. Еськаўка Дрыб.

БАРДУКОЎКА ж. Сенажаць і балота. Іваноўка Касц.

БАРДУНОК м. Мясціна ў лесе. Раней тут жыў ляснік Бардунок. Іванаўка Крыч.

БАРКАСАЎ РОЎ. Роў. Раней каля яго была сядзіба гаспадара Баркасава. Зуі Крыч.

БАРКАЎЦЫ мн. Частка в. Мокрае Бых.

БАРКІ мн. Лес. Праточнае Бых.

БАРОК м. Узлесак. Тут растуць маладыя сосны. Дрычын Асіп., Прудок Слаўг.

БАРСІКІ мн. Кустоўе. Тут водзяцца барсукі. Хацілавічы Крыч.

БАРСУКІ мн. Сенажаць. Раней тут вадзіліся барсукі. Сялец Гор.; Лес. Некалі тут было шмат барсукоў. Глінь Чэрык.

БАРСУКОВА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут вадзіліся барсукі. Сычкава Бабр.

БАРСУКОЎШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут было шмат барсукоў. Рэкта Слаўг.

БАРЧЫЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Барчыцы Кір.

БАРШЧОЎ м. Лес і поле. У даваенныя гады тут быў пасёлак. Асман-Касаева Бял.

БАРЫНА МАЛАЯ. Невялікі бор. Альхоўка Чав.

БАРЫНАЎ КУТОК. Луг. Раней тут заўсёды касіў Барын (прозвішча). Рэкатка. Гор.

БАРЫСАВА БАЛОТА. Балота, зарослае кустамі. Даўней сюды Барыс хадзіў у дровы. Дубна Слаўг.

БАРЫСАЎ БЯРЭЗНІК. Бярозавы гай. Некалі яго пасадзіў Барыс. Паўловічы Клім.

БАРЫСАЎ ЛОГ. Сенажаць. Зарэсце Маг.

БАРЫСАЎСКІ ЛЕС. Лес. Некалі ён належаў пану Барысаву. Трасціно Хоц.

БАРЫСАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жыў Барысаў. Слабодка Кліч.

БАРЫСКАЎСКІ ШЛЯХ. Дарога да в. Барыскавічы Шкл.

БАРЫСЬКАЎ ЛЕС. Лясок. Раней ён належаў Барыську (ласк.-пам. ад Барыс). Займішча Шкл.

БАСАЎСКІ ЛЕС. Лес. Калісьці яго пасадзіў багаты селянін Басаў. Клін Мсц.

БАСЕВА ПАДСОЧКА. Сасновы лес. Тут рабочы Бай збіраў смалужывіцу. Холстава Бых.

БАСКОЎСКІ ЛОГ. Луг. Даўней ён належаў Баскоўскім. Боркі Кір.

БАТАРЭЯ ж. Узвышанае месца. У час вайны 1812 года тут стаяла батарэя гармат. Сенькава Гор.

БАТРАК м. Луг. Забялышын Хоц.

БАТРАЦКІЯ ПАЛІ. Поле. Раней яны належалі батракам. Данькавічы Шкл.

БАТРОК м. Луг. Фядотава Буда Клім.

БАТУРАВЫ ЗЕМЛІ. Лес. Раней ён належаў пану Батуру. Сісенева Шкл.

БАТУРЫНА БАЛОТА. Балота (непадалёк ад хаты Батуры). Заходы Шкл.

БАТУРЫНА н. Лес. Некалі тут лесніком быў Батурын. Залесавічы Крыч.

БАТУРЫНСКІ м. Кустоўе. Даўней на гэтым месцы жыў паляўнічы Батура. Рагі Слаўг.

БАЎТУНОВА ЛУЖА. Сажалка. У ёй водзіцца многа рыбы. Зарубец Крыч.

БАХАНЬ ж. Балоцістая непраходная мясціна. Гладкова Чав.

БАХАНЬСКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут утапілася бабка Баханька. Хачынка Бых.

БАХАЦКАЯ СЦЯЖЫНКА. Сцежка да аўтобуснага прыпынку. Смолка Чав.

БАЧОЎ м. Луг. Калісьці тут раслі дубы, з якіх выраблялі бочкі. Казакоўка Слаўг.

БАЧЭЙКА ж. Плёс на рэчцы. Падгор'е Бых.

БАШАРЫ мн. Поле. Доўгавічы Мсц.

БАШАРЫМАВА ДВОРЫШЧА. Поле. Раней тут жылі гаспадары Башарымавы. Бутрамееўка Бых.

БАЮРОЎ ЛОГ. Луг. Калісьці ён належаў Баюру. Ціманава Клім.

БАЯВАЯ ж. Вірлівая хуткаплынная рака. Чарнагразь Бых.

БАЯВАЯ КАНАВА. Поле. Даўней тут працякала рэчка. Чорны Бор Бых.

БАЯВЫ ПАСЁЛАК м. Пасёлак у в. Звянчатка. Тут часта б'юцца пеўні. Звянчатка Клім.

БАЯРСКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут загінуў багаты чалавек. Ракушава Кругл.

БАЯРСКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Раней тут жыў баярын. Ліпец Маг.

БЕЖАВЫ ГАЙ. Гай. Бялынкавічы Касц.

БЕЗНА ж. Гразкае балота. Каменка Гор.

БЕЗНАЗВАНКА ж. Рэчка (не мае афіцыйнай назвы). Падлешчанка Кір.

БЕЗЫМЕННАЕ ВОЗЕРА. Возера ў в. Беразетня Мсц.

БЕКАСАЎ БРОД. Брод на р. Басі. Калісьці паблізу ад яго жыў хутаранец Бекас. Кіркоры Чав.

БЕЛАБАРОДКА ж. Поле. Паводле падання, тут з'яўляўся прывід з белай барадой. Замышкі Кругл.

БЕЛАБОКАВА н. Поле. Тут гняздзяцца сарокі. Раней на гэтым месцы быў хутар. Забалоцце Бял.

БЕЛАЕ БАЛОТА. Балота. У ім вельмі чыстая вада. Ліпень Асіп.

БЕЛАКАМЕНСКІ МОСТ. Мост. Ён злучае в. Белы Камень з іншымі вёскамі. Бялынкавічы Касц.

БЕЛАНОВІЧАВЫ ЗЕМЛІ. Палі. Раней тут быў маёнтак пана Белановіча. Каменка Шкл.

БЕЛАЯ ДУБРОВА. Лес. Тут шмат дубоў і бяроз. Прудок Слаўг.

БЕЛАЯ ЛУЖА. Урочышча. Тут шмат лужын, у якіх празрыстая вада. Лука Асіп.

БЕЛАЯ НАТАПА. Рэчка каля в. Беразетня Мсц.

БЕЛАЯ ХАТА. Вучэбны корпус школы-інтэрната, пафарбаваны ў белы колер. Раней — графскі будынак. Ямнае Бых.

БЕЛІВІЦА н. Луг. Тут дояць кароў удзень. Аляксандраўка Слаўг.

БЕЛІЦА н. Невялікае імшыстае балота. Падгор'е Бых.

БЕЛКІ мн. Частка лесу. Тут водзіцца шмат вавёрак. Баханы Хоц.

БЕЛЫ БРОД. Нізкая мясціна. Тут заўсёды летам стаіць вялікая лужына, у якой вада белага колеру. Гарадок Глуск.

БЕЛЫ БЯРЭЗНІК. Поле. Раней тут рос бярэзнік. Таценка Кліч.

БЕЛЫ ВІР. Рэчка. Некалі тут было неглыбокае, з чыстай вадой возера. Язёры Чэрык.

БЕЛЫ ДОМ. Двухпавярховы дом. Першы ў в. Нясята, пафарбаваны ў белы колер. Нясята Кліч.; Дом белага колеру. Даўней тут жыў пан Жукоўскі. Дашкаўка Маг.

БЕЛЫ КАМЕНЬ. Лес (з перавагай бяроз). Крычаў.

БЕЛЫ КАПЕЦ. Паляна. Тут укапаны белы слуп. Трасціно Хоц.

БЕЛЫ КАР'ЕР. Кар'ер (з вадой белага колеру). Лабковічы Крыч.

БЕЛЫ ЛЕС. Бярозавы гай (каля балота). Клімавічы.

БЕЛЫ ЛУГ. Луг. Тут расце многа рамонкаў. Звянчатка Клім.

БЕЛЫ МОСТ. Мост, пафарбаваны ў белы колер. Нясята Кліч.

БЕЛЫ РОЎ. Рэчка. На яе берагах белы пясок. Трасціно Хоц.

БЕЛЫ РУЧЭЙ. Ручэй (на месцы высахлай ракі). Таценка Кліч.

БЕЛЫЯ КАР'ЕРЫ. Азёры. Раней на гэтым месцы капалі белую гліну. Вялікая Бароўка Маг.

БЕЛЫЯ ЛУЖЫ. Невялікія балотцы сярод лесу (з чыстай вадой). Гарадзянка Асіп.

БЕЛЫЯ ПЯСКІ. Частка берагу рэчкі (з белым пяском). Вялікія Бардзінічы Чав.

БЕЛЫЯ РЭЧКІ. Урочышча. Некалі тут было шмат крыніц. Збышын Кір.

БЕЛЬСКІ БОР. Бярозавы лес. Кароўчына Дрыб.

БЕЛЬСКІ ЛЕС. Лес каля в. Белая Красн.; Лес. Даўней ён належаў Бельскаму (прозвішча). Займішча Шкл.

БЕЛЬШЧЫНА н. Лес вакол в. Бель Крыч.

БЕЛЯБЕЕЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Белябей (мянушка), які вельмі добра спяваў. Заеліца Глуск.

БЕРАЖНІЦА ж. Вясковая вуліца (каля ракі). Дрычын Асіп.

БЕРАЗОЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Калісьці на гэтым месцы стаяў маёнтак пана Беразоўскага. Катка Глуск.

БЕРАЗЫЛІНЫ мн. Лес (з перавагай бяроз). Выдранка Красн.

БЕРЛУЖ м. Мясціна ў лесе. Раней тут вадзіліся мядзведзі. Казелле Красн.

БІБЛІЯТЭЧНЫ ПАСЁЛАК. Пасёлак у в. Нядашава. Тут знаходзіцца стары будынак бібліятэкі. Нядашава Маг.

БІГАЁВА ХАТА. Невялікі лес. Калісьці тут жыў Бігай. Сетнае Крыч.

БІЛАГУРАВА ЛАВАЧКА. Лаўка. Тут нярэдка збіраюцца старыя кабеты. Мурын Бор Касц.

БІЛАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў гаспадар Біла. Заеліца Глуск.

БІНДЭЛЕВА ГАРА. Узгорак. Некалі на гэтым месцы жыў Біндэль. Асман-Касаева Бял.

БІРУКОВА БАЛОТА. Поле. Раней тут было балота, якое знаходзілася за хатай Бірука. Ніканавічы Бых.

БІРУКОЎ ХУТАР. Поле. Некалі на гэтым месцы быў хутар Бірука (прозвішча). Плешчыцы Шкл.

БЛАКІТНЫЯ ТРАВЫ. Частка лугу. Тут расце шмат званочкаў. Стайкі Маг.

БЛІЖНІЯ ХУТАРЫ. Мясціна недалёка ад вёскі. Раней тут былі хутары. Нясята Кліч.

БЛОНЬ ж. Поле. Чарняўка Хоц.

БОБРЫК м. Невялікая рачулка. Раней тут вадзілася шмат баброў. Хамінічы Гор.

БОБРЫКАВА ЛЯДА. Невялікая палянка ў лесе. Некалі тут Бобрык (мянушка) сеяў жыта. Мокрае Бых.

БОБРЫНКА ж. Месца на рэчцы. Тут вадзілася шмат баброў. Дабужа Бых.

БОГАВА ГАРА. Узгорак пасярод лесу. Вольніца Бял.

БОЖЫ ДАР. Нізіна ў лесе. Дубрая Гор.

БОКАТАЎСКІ БЯРЭЗНІК. Лясістая мясціна непадалёк ад в. Бокатаўка Маг.

БОЛБАТАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Яна знаходзілася на хутары Болбата (мянушка). Заеліца Глуск., Заходы Шкл.

БОЛМАТАВА ВУЛІЦА. Вуліца. На ёй жывуць чатыры сям'і Болматавых. Мурын Бор Касц.

БОМБА ж. Частка ракі. Тут з ваенных часоў на дне захаваліся варонкі ад бомбаў. Сетнае Крыч.; Возера. У гады Вялікай Айчыннай вайны на гэтым месцы была вялікая яма ад бомбы. Ліпец Маг.

БОМБІШЧА н. Мясціна з глыбокімі ямінамі. У час Вялікай Айчыннай вайны тут ішоў цяжкі бой, пасля якога засталося шмат варонак ад снарадаў. Рудкаўшчына Гор.

БОНАХАЎ РАВОК. Роў. Раней недалёка ад яго жыў дзядзька Бонах. Доўгавічы Мсц.

БОРАХАВА н. Лес. Бутрамееўка Бых.

БОРКАВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі тут утапіўся хлопец Барыс. Касцюковічы.

БОРКАЎ ЛЕС. Лес. Некалі яго пасадзіў ляснік Борка (ласк.-пам. ад Барыс). Рудкаўшчына Гор.

БОРКІ мн. Невялікі лес. Косцінка Маг.

БОРЦЫ мн. Луг. Раней тут праходзілі спаборніцтвы. Казелле, Горы Красн.

БОРЫШЧА н. Поле. Раней на гэтым месцы быў бярозавы гай. Дубраўка Касц.

БОЧКАВАЯ ВУЛІЦА. Кальцавая вуліца г. Крычава.

БРАДОК м. Мост цераз неглыбокі ручай. Зацішша Маг.; Вуліца

каля сажалкі. Абапал яе растуць кусты. Следзюкі Бых.; Брод праз лясную рачулку. Пчэльня Слаўг.; Неглыбокае месца на рэчцы. Банькі Кругл.; Урочышча. Раней тут працякаў ручай. Зоры Чэрык.

БРАДОЎСКАЯ СЦЕЖКА. Сцежка да в. Брады Чав.

БРАДЫ мн. Неглыбокая купальня. Лудчыцы Бых.; Брод праз балота. Косцінка Маг., Стайкі Клім.; Сенажаць за бродам. Поўстка Глуск.; Мясціна ў лесе (вялікія лужыны, якія ніколі не высыхаюць, і таму іх заўсёды абыходзяць). Ядраная Слабада Кліч.

БРАЗГУН м. Крынічка. Вада ў ёй бруілася з шумам. Язёры Чэрык.

БРАЙЦАВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапалі браты Брайцавы. Забялышын Хоц.

БРАК м. Поле (няўдобіца). Перагон Слаўг.

БРАКАЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Бракава Маг.

БРАМА ж. Школьны стадыён каля вёскі. Раней тут было балота. Загаранкі Кругл.; Месца ў пачатку в. Літоўск. Некалі тут стаяла брама. Літоўск Кругл.

БРАНСКІ ЛЕС. Лес. Знаходзіцца на мяжы Краснапольскага і Красногорскага (Бранская вобл.) раёнаў. Леніна Красн.

БРАТАЧКІНА МЕСЦА. Месца на рэчцы. Некалі тут утапіўся ляснік Братачкін (прозвішча). Буглаі Красн.

БРАТКІ мн. Сенажаць. Раней на гэтым месцы жылі два браты. Пільнікі Кліч., Бель Мсц., Дразды Кругл.

БРАЎКІ мн. Ускраек лесу (невялікія агрэхі сярод поля, зарослыя яры). Ніканавічы Бых.

БРАЎНІЧЫ м. Лужок паміж палямі. Па сваёй форме ён нагадвае браўнінг (пісталет). Чырвоны Бор Бял.

БРАЦКАЕ н. Вялікі хваёвы лес. На яго ўскрайку знаходзяцца брацкія могілкі. Шчокатава Дрыб.

БРАЦЬКАВІЧЫ мн. Частка вёскі. Раней тут жылі багатыя браты. Елькаўшчына Кругл.

БРАЦЯНКІН ДВОР. Урочышча. Тут знаходзілася хата дзеда Брацянкі. Бялынкавічы Касц.

БРОВАРШЧЫНА ж. Поле. Калісьці на гэтым месцы быў бровар. Браточнае Бых.

БРОД м. Неглыбокае месца на рацэ. Тут пераганяюць кароў, коней. Каменка, Бель Мсц., Славені Шкл., Няраж, Баркалабава Бых.; Лес. Некалі тут было балота. Кострычы Кір.; Шырокая дарога. Калісьці тут гуляла моладзь. Крычаў; Балота. Тут заўсёды косяць траву. Леніна Красн.; Дарога паміж лугам і лесам. Следзюкі Бых.

БРОДАК м. Неглыбокая мясціна на рацэ. Вепрын Чэрык.; Невялікая палоска зямлі. Крычаў.

БРОДАЎСКАЯ СЦЕЖКА. Сцежка да в. Брады Глуск.

БРОДДЗЕ н. Лес. Некалі тут было балота, пасярод якога быў брод. Краснае Глуск.

БРОДНАЕ н. Поле. Побач з ім знаходзіцца брод праз раку. Гіжэнка Слаўг.

БРОЛЬКІН КУРГАНОК. Узвышанае месца. Бялынкавічы Касц.

БРОЎКА ж. Вузенькая сцяжынка (паміж двума палямі). Васілевічы Маг.

БРУЁЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Бруёўка Хоц.

БРУС м. Мясціна ў лесе. Тут растуць дрэвы, якія выкарыстоўваюць для будоўлі. Самулкі Чав.

БРУСАВА БАЛОТА. Забалочаная мясціна. Раней тут раслі брусніцы. Затоны Гор.

БРУСІНКА ж. Балоцістая мясціна. Некалі тут раслі брусніцы. Доўгае Кліч.

БРУСНІЧНІК м. Месца ў лесе. Тут расце багата брусніц. Глінь Чэрык., Забалоцце Бял.

БРЫГАДА ж. Невялікае ўзвышанае месца каля вёскі. Тут знаходзілася першая калгасная брыгада. Данькавічы Шкл.

БРЫЛЕВА БАЛОТЦА. Невялікі ўчастак поля каля балота. Раней ён належаў Брылю. Вяленнік Кліч.

БРЫЛЕВА ГАРА. Узгорак. На гэтым месцы пахаваны селянін Брыль, якога забілі бандыты ў гады станаўлення Савецкай улады. Батаева Хоц.

БРЫЛЕЎ ДУБ. Поле. Тут знаходзіцца абгарэлы дуб. Зарубец Крыч.

БРЫЛЕЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Брылі Маг.

БРЫЛЕЎСКІ ПАРК. Месца адпачынку каля в. Брылі Маг.

БРЫЛЕЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Раней тут жылі Брылеўскія. Дубасна Мсц.

БРЫНКАЎ ЛЕС. Лес. Калісьці тут працаваў ляснік па мянушцы Брынка. Стараселле Шкл.

БУБЕН м. Сенажаць (паміж двума рэчышчамі). Пятровічы Чав.

БУБНАЎ РАВОК. Равок. Калісьці тут жыў селянін Бубнаў. Арцёмаўка Клім.

БУГАЁЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Некалі тут жыў вельмі дужы чалавек па мянушцы Бугай. Ніканавічы Бых.

БУГАЁЎШЧЫНА ж. Кустоўе. Перагон Слаўг.

БУГАНЬКОВА н. Возера. Некалі побач жыў пан Буганькоў. Радамля Чав.

БУГЛАЕВА н. Месца. Раней тут жыў пан Буглай. Зарэчча Чав.

БУГЛАЁЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Буглаёўка Красн.

БУГЛАКОЎ ВІР. Месца на рэчцы. Раней непадалёк быў хутар Буглака (мянушка). Брылі Маг.

БУГОР м. Луг (з двума высокімі грудамі). Дубна Слаўг., Дружкі Крыч.

БУГРАННІК м. Узгорыстая камяністая мясціна. Лазовіца Клім.

БУГРЫ мн. Узгорыстае поле. Слаўня Слаўг., Чорны Бор Бых.; Няроўны, з узгоркамі лес. Адаменка Бых., Недзведзь Клім.

БУГРЫСТАЕ н. Асфальтаваная дарога. Раней тут былі вялікія калдобіны. Іванаўка Крыч.

БУДА ж. Дарога праз лес. Нясята Кліч., Каменка Шкл.; Мясціна ў лесе. Раней тут будавалі дамы. Дзмітраўка Кліч.; Хутарок за рэчкай. Фёдараўка Касц.; Месца ў лесе. Некалі тут стаяў вялікі будан, у якім можна было схавацца ад непагадзі. Глуск; Частка вёскі. Даўней тут стаяла толькі невялікая лесніцоўка. Сухары Маг.

БУДАН м. Вялікая лясная паляна з лесніцоўкай. Тут косяць сена. Малінава Глуск.

БУДАНЫ мн. Дуброва сярод балот. У час вайны людзі рабілі тут зямлянкі і хаваліся ад немцаў. Чачэвічы Бых.

БУДЗІНАВА ДЗЯЛЯНКА. Участак лесу. Раней ён быў высечаны і раскарчаваны Будзінавым. Дзмітраўка II Кліч.

БУДЗІЦА ж. Лес каля в. Літоўск Кругл.

БУДЗІШЧА н. Лес. Сякерка, Свяцілавічы, Забавы Бял., Літоўск Кругл.; Урочышча. Післяціна Клім., Елавец Хоц.

БУДЗІШЧЫ мн. Поле. Раней тут быў пасёлак. Раздзел Мсц.

БУДЗЯНКА ж. Поле. Праз яго працякае рака. Прылессе Чав.

БУДЗЯНСКАЕ ПОЛЕ. Поле каля в. Буда Кліч.

БУДЗЯНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Яшная Буда Красн.

БУДЗЯНСКІ ЛУГ. Луг непадалёк ад в. Будзіна Чав.

БУДКІ мн. Урочышча. Тут расце маліннік і алешнік. Камяніца Бял.

БУДКОВА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жылі тры сям'і Будковых. Вільчыцы Маг.

БУДЛЯНКА ж. Невялікая рачулка каля в. Буда Маг.

БУДЛЯНСКАЕ БАЛОТА. Балота ў лесе недалёка ад в. Буда. Малы Асавец Маг.

БУДЛЯНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Буда Маг.

БУДЛЯНСКІЯ КУСТЫ. Кустоўе каля в. Буда Маг.

БУДНЁЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера каля в. Буднеў Кліч.

БУДНЕЎСКІ ПЕРАЕЗД. Пераезд каля в. Буднеў Кліч.

БУДЫ мн. Сенажаць. Супанічы Маг.

БУДЫНКІ мн. Поле на месцы былога хутара. Усцярхі Глуск.

БУЗІННІК м. Месца на балоце. Тут расце бузіна. Глінь Чэрык.

БУЙНОЎСКІ м. Вялікі густы лес. Малая Машчаніца Бял.

БУК м. Шырокае і глыбокае месца на рацэ. Еўдакімавічы Шкл.

БУКАЎКА ж. Паша. Скоклева Чав.

БУКАЦІКАВА ДАРОГА. Дарога ў лесе. Раней каля яе жыла сям'я Букацікавых. Ордаць Шкл.

БУКАЦІКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут быў хутар Букацікавых. Ордаць Шкл.

БУКАЧОВА ВОЗЕРА. Возера (каля хаты селяніна Букачова). Шчэгліца Маг.

БУКОЎШЧЫНА н. Поле. Праточнае Бых.

БУКУШЭЎШЧЫНА н. Лес. Раней тут жыў памешчык Букініч. Крычаў.

БУЛАЧКІНА БАЛОТА. Балота. Раней тут жыў хутаранец Булачкін. Алешкавічы Бял.

БУЛАШЫХІН ВІР. Месца на р. Бароўка. Даўней тут жанчына па мянушцы Булашыха параніла нагу аб барану, што была ў рацэ. Гута Клім.

БУЛГАК м. Луг. Раней тут знаходзіўся маёнтак памешчыка Булгака. Сямёнаўка Клім.

БУЛІМІХА ж. Лес. Некалі жыла Буліміха. Карасі Шкл.

БУЛІНСКАЕ БАЛОТА. Сенажаць на месцы былой в. Буліна. Дубасна Мсц.

БУЛЫГІН ПАГОРАК. Камяністае месца. Маляцічы Крыч.

БУЛЫЖАНСК м. Лес каля в. Булыжыцы Маг.

БУЛЫЖАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Булыжыцы Маг.

БУРАКОЎКА ж. Частка вёскі. Раней тут было поле, на якім сеялі буракі. Ніканавічы Бых.

БУРАЛАН м. Участак лесу. Некалі ён быў павалены бурай. Градзянка Асіп.

БУРАЛОМАВА н. Луг. Калісьці тут жылі Бураломавы. Рыжкаўка Бых.

БУРДЫНАЎ РАВОК. Раўчук. Некалі каля яго жыў Бурдынаў. Свенск Слаўг.

БУРКАСАЎ РОЎ. Роў. Раней каля яго жыў хутаранец Буркас. Зуі Крыч.

БУРКАЎКА ж. Забалочаны луг. Барысаўка Клім.

БУРЛІВАЕ БАЛОТА. Балота. Вада ў ім у ветранае надвор'е віруе каля берагоў. Праточнае Бых.

БУРЛЫШКА ж. Месца на рэчцы. Тут віруе вада. Петухоўка Чав.

БУРУБОН м. Роў (з бурлівай вадой). Леніна Красн.

БУРШЧЫНА ж. Месца. Даўней тут жыў пан Бурскі. Кулешава Шкл.

БУРЫМШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жыла сям'я Бурымскіх. Слабада Кір.

БУРЫНСКАЯ ж. Сенажаць. Калісьці тут жыла сям'я Бурынскіх. Чачэвічы Бых.

БУСЛАКОВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыў Буслак. Савелінкі Шкл.

БУСЛІКІ мн. Лес. Перагон Слаўг.; Мясціна каля старых ліп. Тут гняздзяцца буслы. Нежкаўка Чав.

БУСЛІНАЕ ВОЗЕРА. Возера. Раней сюды часта прыляталі буслы. Сетнае Крыч.

БУСЛІНАЕ МЕСЦА. Месца на полі. Сюды прылятаюць буслы. Вялікія Лазіцы Шкл.

БУСЛІНАЕ ПОЛЕ. Поле. Сюды часта прылятаюць буслы. Васількі Бял.

БУСЛІНЫ ЛЕС. Лес. Тут шмат бусліных гнёздаў. Дрычын Асіп.

БУСЛІШЧЫНА ж. Балота. Высокае Клім.

БУСЛОВА БАЛОТА. Вялікае балота. Тут часта можна ўбачыць буслоў. Боркі Чав.

БУСЛОВА ПАЛЯНА. Паляна. Непадалёку ад яе стаіць сухое дрэва з буслянкай. Хачынка Бых.

БУСЛОВЫ ЛІПЫ. Ліпы. Тут гняздзяцца буслы. Глінь Чэрык.

БУСЛЫ мн. Балоцістая мясціна. Тут гняздзяцца буслы. Высокае Клім.

БУТАРЫ мн. Месца ў лесе. Асман-Касаева Бял.

БУТОКА ж. Балота. Некалі тут расло многа кветак. Дубасна Мсц.

БУТОМКІН ЛУГ. Луг. Раней тут пасвіў панскі статак падпасак Бутомка. Аўчыненкі Шкл.

БУТРАМЕЕЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Яно прылягае да в. Бутрамееўка Бых.

БУТЧЫНЬ ж. Балота. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут расстрэльвалі партызанскія сем'і. Прыпёчына Чэрык.

БУТЭЛЬКАЎ ПАЛЯДАК. Участак зямлі. Раней ён належаў Бутэльку. Зара Чэрык.

БУХАЦІКАЎ ХУТАР. Месца ў лесе. Раней тут быў хутар Бухацікава. Раманавічы Маг.

БУХМАР м. Луг. Раней тут быў непраходны лес. Чыкаўка Слаўг.

БУХОДЗЬКАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Раней тут была сядзіба пана Буходзькі. Леніна Красн.

БУХЦІНА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жыла сям'я Бухты. Тур'я Красн.

БУШОЎСКАЯ ЗАВАДЗЬ. Завадзь на Дняпры каля в. Бушоўка Кругл.

БУШЭЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Даўней тут жыў пан Бушэўскі. Трасціно Хоц.

БЫДЛІШЧА н. Пасёлак каля могільніка жывёлы. Цяхцін Бял.

БЫКАВА БАЛОТА. Балота. Раней на гэтым месцы быў хутар пана Быкава. Язёры Чэрык.

БЫКАВА ГРАДА. Луг. Некалі тут пасвілі жывёлу. Паклады Крыч.

БЫКАЎ ВІР. Вір. Даўней непадалёку жыў Быкаў. Бракава Маг.

БЫКАЎ ХУТАР. Мясціна. Раней тут жыў Фёдар Быкаў. Карпілаўка Клім.

БЫКІ мн. Месца на рацэ. Некалі тут паілі свойскую жывёлу. Бялынічы.

БЫКОЎСКАЯ ДАРОГА. Поле. Раней тут ішла дарога ад г. Мсціслава да в. Быковічы Мсц.

БЫНАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Бынава Чав.

БЫНАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Бынава Чав.

БЫРДАЎКА ж. Узгорыстая мясцовасць. Хацілавічы Крыч.

БЫСТРЫЦА ж. Месца на рэчцы (з вельмі хуткай плынню). Ніканавічы Бых.

БЫСЬКАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут працаваў мужык Быська (мянушка). Раманавічы Маг.

БЫТ м. Частка в. Малыя Лазіцы. Тут стаіць некалькі хат. Вялікія Лазіцы Шкл.

БЫТОКА ж. Лес. Калісьці тут працаваў ляснік па прозвішчы Бытока. Прудок Слаўг.

БЫЧАЛКА ж. Балота. Каля яго пасвілі жывёлу. Селішча Кір.

БЫЧАТНІК м. Лес. Некалі сюды збеглі два шалёныя быкі. Прусіна Крыч.

БЫЧЫНАЕ БАЛОТА. Балота. Раней тут быў луг, дзе пасвілі свойскую жывёлу (быкоў, кароў). Данькавічы Шкл.

БЫЧЫНАЕ КЛАДБІШЧА. Могільнік свойскіх жывёл. Перагон Слаўг.

БЫЧЫНЫ ВІР. Глыбокае месца на рэчцы. Калісьці тут утапіўся бык. Малыя Аўчыненкі Шкл.

БЫЧЫНЫЯ МОГІЛКІ. Могільнік для свойскай жывёлы. Свенск Слаўг.

БЭЗАВЫ ЛУГ. Невялікі луг. Раней тут раслі кусты бэзу. Стайкі Маг.

БЭРКАВА ГРАДКА. Луг. Даўней тут пастух Бэрка пасвіў статак. Слаўкавічы Глуск.

БЭРКАВЫ ГОРЫ. Пясчаныя ўзгоркі за в. Дрычын Асіп.

БЯДЗІХАВА БАЛОТА. Балота ў лесе. Свенск Слаўг.

БЯЗБОЖНІК м. Частка вёскі. Раней тут жылі людзі, якія не верылі ў бога. Выдранка Красн.

БЯЗДОНКА ж. Глыбокае возера з чыстай празрыстай вадой. Пранічкі Крыч.

БЯЗДОННАЕ ВОЗЕРА. Глыбокае возера. Баханы Хоц., Сакольнічы Крыч.

БЯЗДОННІЦА ж. Глыбокае возера. Ліпень Асіп.; Забалочаная мясціна. Арэхаўка Кліч.

БЯЗДОННЫ м. Глыбокі вір. Балбечына Гор.

БЯЗЛЮДДЗЕ н. Частка вёскі. Тут амаль ніхто не жыве. Вялікія Лазіцы Шкл.

БЯЗРУКАВА н. Балота. Рыжкаўка Бых.

БЯЛКОЎСКАЯ КРЫНІЦА. Крыніца (са светлай празрыстай вадой). Сякерка Бял.

БЯЛЯК м. Сенажаць (за пясчаным берагам ракі). Чэрнеўка Шкл.

БЯРОЗАВЫ КУТ. Бярозавы гай. Нізкі Крыч.

БЯРОЗАВЫ МОСТ. Мост цераз р. Белая Натапа. Каля яго растуць бярозы. Лапаціна Мсц.

БЯРОЗАЎКА ж. Частка вёскі. Тут расце шмат бяроз. Прылессе Чав., Мокрае Бых.; Пасёлак (каля бярозавага гаю). Гавяды Шкл.; Частка вёскі. Раней на гэтым месцы быў бярэзнік. Вільчыцы Маг.; Поле. Раней тут расло шмат бяроз. Вялікая Машчаніца Бял., Азарычы Слаўг.; Бярозавы гай. Чорнае, Вялікія Лазіцы Шкл.; Луг за бярозавым гаем. Смятанічы Бял.; Бярэзнік. Даўней на гэтым месцы быў пасёлак. Высокае Клім.; Бераг ракі. Тут расце шмат бяроз. Займішча Шкл.; Вуліца Савецкая. Тут расце шмат бяроз. Новы Быхаў Бых.; Рэчка. Мокрае Бых.

БЯРОЗАЎСКІ ЛЯСОК. Бярозавы гай. Дубасна Мсц.

БЯРОЗАЎСКІ РАВОК. Равок (каля бярозавага гаю). Ціманава Клім.

БЯРОЗАЧКІ мн. Шлях. Абапал яго растуць бярозы. Літоўск Кругл.

БЯРОЗКІ мн. Вуліца, паабапал яе раслі бярозы. Свенск Слаўг., Дашкаўка Маг.; Дарога. Уздоўж яе растуць бярозы. Слабада Бял., Літоўск Кругл., Збышын Кір.; Бярозавы Гай. Капачы Мсц.; Калгаснае поле. Раней тут быў бярэзнік. Вепрын Чэрык.; Мясціна каля трох бяроз. Некалі тут павесілі салдата. Яноўка Клім.; Луг. Раней тут раслі бярозы. Закупленне Кліч.

БЯРОЗЫ мн. Пасека. Тут расце шмат маладых бяроз. Хамінічы Гор.

БЯРЭЖАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога ўздоўж берага р. Сож. Крычаў.

БЯРЭЗІНА ж. Поле. Раней на гэтым месцы раслі бярозы. Старыя Максімавічы Кліч.; Рака (каля бярэзніку). Капачы Мсц.

БЯРЭЗІНКА ж. Рэчка. Абапал яе растуць бярозы. Рудня Бял.

БЯРЭЗНІК м. Бярозавы лес. Вязаўніца Асіп., Бірча Бабр., Вялікая Машчаніца, Масцішча, Камяніца, Забавы Бял., Поўстка, Падзамша Глуск., Чырвоная Слабада Касц., Стайкі Красн., Бродак Крыч., Пятровічы, Прысна 1 Маг., Свенск Слаўг., Антонаўка, Прылессе Чав., Дуброўка, Рошча Чэрык.; Частка лесу. Тут растуць бярозы. Градзянка Асіп., Сялец, Глінькава Гор., Пянькоўка Клім., Арэхаўка, Нясята Кліч.; Узгорак. На ім растуць бярозы. Аляксандраўка Слаўг., Дашкаўка Маг.; Поле (каля бярозавага гаю). Адаменка Бых.; Кустоўнік. Раней тут раслі бярозы. Хацілавічы Крыч.; Парк. У ім расце шмат бяроз. Раманавічы Маг.; Месца ў вёсцы. Тут расце шмат бяроз. Следзюкі Бых.; Паляна. Тут расце бяроза. Ліпаўка Хоц.; Месца ля чыгункі. Тут растуць бярозы. Дзягавічы Крыч.

БЯСЕДАВІЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Бяседавічы Хоц.

БЯСЕДНАЯ ДАРОГА. Лясная дарога ад в. Ігнатаўкі да р. Бесядзь. Ігнатаўка Хоц.

БЯСЕДЫ мн. Зараснікі. Раней тут збіралася моладзь на бяседу. Мокрае Бых.

БЯСХЛЕБІЦА ж. Неўрадлівае поле каля в. Пусты Асавец Маг.

# В

В'ЮНІЦА ж. Сенажаць. Некалі на гэтым месцы была канава, у якой вадзіліся ўюны. Праточнае Бых.

В'ЮНІЦКІ МОХ. Лес недалёка ад в. В'юніца Глуск.

В'ЮНОЎКА ж. Рака. Калісьці ў ёй было шмат ўюноў.

ВАЗЯРЫШЧА н. Мясціна каля рэчкі. Александрыя Шкл.; Балацявіна. Раней тут было возера. Сідаравічы Маг.; Курган каля возера. Некалі тут збіралася на ігрышча моладзь. Старына Мсц.; Луг. Раней тут было возера. Гута Клім.; Заліўны луг каля возера. Дубраўка Красн.

ВАЙНІЛАЎШЧЫНА ж. Невялікі луг каля балота. Добрая Гор.

ВАЙСКОВАЯ ДАРОГА. Дарога. У гады Вялікай Айчыннай вайны па ёй праз вёску ішлі вайсковыя часці. Дашкаўка Маг.

ВАКЗАЛ м. Прылеглая да вакзала мясціна. Тут стаялі жылыя дамы. Александрыя Шкл.

ВАКОНЦЫ мн. Глыбокія ўпадзіны з вадою сярод балота. Пільнікі Кліч.

ВАКУМАЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік каля сядзібы Вакума. Бахацец Чав.

ВАЛ м. Насып на беразе канавы. Свенск Слаўг.; Узгорак, падобны на дарожны насып. Новы Быхаў Бых.; Кар'ер, выкапаны ў час меліярацыі. Літоўск Кругл.

ВАЛАСЯНАЎКА ж. Поле. Раней тут пасвілі коней. Навасёлкі Шкл.

ВАЛАСЯНКА ж. Поле. Раней тут пасвілі коней, якія пакідалі вылінялую шэрсць. Халмы Маг.

ВАЛАТОЎЕ н. Падлесак. Прудок Слаўг.

ВАЛАТОЎКА ж. Курган. Там нібыта пахаваны волат(ы). Княжыцы Маг.; Свадкавічы Крыч.

ВАЛІСАЎ ЛЕС. Лес. Раней тут лесніком быў Valіс. Карасі Шкл.

ВАЛКІЎШЧЫНА ж. Лес. Тут водзіцца шмат ваўкоў. Дзягавічы Крыч.

ВАЛКОВІЧАВА н. Поле. Раней тут жыў Валковіч. Пясчанка Маг.

ВАЛЛЯНАВА БАЛОТА. Балота. Непадалёку ад яго жыў Валлян. Таценка Кліч.

ВАЛЛЯНКА ж. Шырокае прасторнае (вольнае) поле. Тур'я Красн.

ВАЛОВА н. Паляна ў лесе. Некалі тут ваўкі задралі вала. Высокае Клім.

ВАЛОДЗЬКАВА ДАРОГА. Дарога. Па ёй ездзіць у лес ляснік Валодзька. Антонаўка Чав.

ВАЛОДЗЬКАВА КАЦВІНА. Сажалка. Калісьці яе выкапаў селянін Валодзька. Антонаўка Чав.

ВАЛОДЗЬКАВА ПРАСЕКА. Прасека ў лесе. Тут сек дровы ляснік Валодзька. Антонаўка Чав.

ВАЛОДЗЬКАЎ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Некалі яго выкапаў селянін Валодзька. Антонаўка Чав.

ВАЛОДЗЬКАЎ ЛЕС. Лес. Тут лесніком працуе Валодзька. Антонаўка Чав.

ВАЛОКА ж. Заліўны луг. Аднойчы, пасля працяглых дажджоў, сена вывозілі (выцягвалі) з вады на сухое месца. Доўгае Кліч.

ВАЛОКІ мн. Луг. Падзелены на надзелы. Макавічы Глуск.; Луг. На ім расце вялікая трава, і яе зграбаюць, калі падсохне, у валкі (валокі). Падзамша Глуск.

ВАЛОЎНІКІ мн. Поле. Тут часта пасвілі валоў. Стары Дуб Мсц.

ВАЛОЎНІЦКІ ГАЙ. Гай за в. Валоўнікі Мсц.

ВАЛОЎНІЦКІ ПАД'ЁМ. Дарога праз узгорак да в. Валоўнікі Мсц.

ВАЛОЎНЯ ж. Поле. Раней тут пасвілі валоў. Углы Шкл., Недзведзь Клім.

ВАЛУЕЎКА ж. Поле. Некалі тут стаяў маёнтак пана Валуя. Вялікія Лазіцы Шкл.

ВАЛУН м. Вусце ракі. Непадалёк ад яго шмат валуноў. Крычаў.

ВАЛУНОВА ПОЛЕ. Поле. Там шмат вялікіх камянёў. Александрыя Шкл.

ВАЛУЯНЫ мн. Частка в. Хасеўка Дрыб.

ВАЛЫ мн. Поле. Раней тут быў лес, пасля раскарчоўкі якога засталіся грады, на якіх расце маліна. Ліпск Бял.; Доўгія палосы малінніку пасярод поля. Новае Брашчына Шкл.; Поле на месцы выкарчаванага лесу. Ліпніца Кліч.; Бугрыстае месца. Доўгая Дуброва Хоц.; Луг. Раней тут быў лес, які згарэў. Плешчыцы Шкл.; Участкі лесу. Яны цягнуцца адной паласой. Літоўск Кругл.; Вялікае з грудкамі поле. Некалі тут была пушча, якую высеклі, а кусты згарнулі ў невялікія грудкі. Залесавічы Крыч.; Пасадкі малінніку ў лесе. Тут збіраюць маліну. Дзернавая Красн.

ВАЛЫНЕЖСКІ ЕЛЬНІК. Ельнік каля в. Валынеж Касц.

ВАЛЬКАВА ПЛЁСА ж. Месца на рэчцы. Ваевічы Кліч.

ВАЛЬНЯ ж. Луг. Раней на гэтым месцы быў вялікі лес, які потым высеклі. Сідаравічы Маг.; Луг. Давыдавічы Бых.

ВАЛЯЎ ХУТАР. Хутар. Некалі тут жыла памешчыца. Трасціно Хоц.

ВАНЮЧКА ж. Невялікая рэчка. Вада ў ёй мае непрыемны пах. Дубасна Мсц.; Ракушава Кругл.; Балота. Вада ў ім мае непрыемны пах. Восаў Красн.

ВАРАБ'ІНАЕ БАЛОТА. Балота. Тут заўсёды шмат вераб'ёў. Рабінаўка Кругл.

ВАРАЖБІН ЛУГ. Луг. У даўнія часы маладыя дзяўчаты прыходзілі сюды варажыць. Карпілаўка Клім.

ВАРАНЁЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Над ім заўсёды лётала многа варон. Крычаў.

ВАРАНОЎ БОРАК. Вялікі лес. Там гняздзяцца вароны. Раманькі Красн.

ВАРАНЦОВА БАЛОТА. Балота. Даўней на гэтым месцы быў рас-

страляны камуніст Варанцоў. Панькі Касц.

ВАРАНЦОЎСКІ САД. Сад. Калісьці яго пасадзіў багаты селянін Варанцоўскі. Гутараўшчына Мсц.

ВАРАПАІ мн. Урочышча. Раней тут быў пасёлак, дзе жыў Варапаеў. Круча Кругл.

ВАРАЦЕЦ м. Мясціна ў лесе. Раней тут было разбіта войска шведаў. Вепрын Чэрык.

ВАРВАРАЎКА ж. Балота. Некалі тут утапілася дзяўчына Варвара. Драчкоў Чав., Стайкі Красн.; Хутар. Раней там жыла сялянка Варвара. Шырокая Красн.

ВАРВАРАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Варвараўка Хоц.

ВАРВАРАЎСКІ САСОННІК. Сасоннік за в. Варвараўка Хоц.

ВАРГУЦЬЕЎСКІ ЛЕС. Лес непадалёку ад в. Варгуцьева Кругл.

ВАРКІН ЛУГ. Луг каля дома старой Варвары. Дудаковічы Кругл.

ВАРКІНА ГАРА ж. Узвышанае месца. Раней тут жыла Варка. Літоўск, Загаранкі Кругл.

ВАРЛЯ ж. Багністае месца на полі. Новая Брашчына Шкл., Трылесіна Гор.

ВАРОЖАЕ МЕСЦА. Паляна ў лесе. Там заўсёды расце шмат ядавітых грыбоў. Гай Кругл.

ВАРОЖАЯ ЛУЖА. Невялікае багністае месца. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут патапілася шмат варожых сіл. Бязуевічы Слаўг.

ВАРОНА ж. Луг. Закупленне Кліч.; Балацянка з чорнай вадой. Доўгае Кліч.

ВАРОНАЎ БОР. Лес. Там гняздзяцца вароны. Палядкі Красн.

ВАРОНАЎКА ж. Поле. Раней тут быў хутар. Чэрнеўка Шкл.

ВАРОНЕЎКА ж. Поле. На гэтым месцы часта збіраецца шмат варон. Арцёхаў Красн.

ВАРОНІ ГАЙ. Урочышча. Тут растуць высокія дрэвы, на якіх шмат воронніх гнёзд. Рудня, Дуцькі Бял.; Лес. У ім шмат воронніх гнёзд. Карасі Шкл.

ВАРОНІНА ПОЛЕ. Поле. Тут заўсёды шмат варон. Прылессе Чав.

ВАРОНІНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Вароніна Крыч.

ВАРОНКІ мн. Ямы. Яны ўтварыліся ад разрываў бомб у гады Вялікай Айчыннай вайны. Александрыя Шкл.

ВАРОННІ ВОСТРАЎ. Востраў сярод возера. Там гняздзяцца вароны. Буглаі Красн.

ВАРОННІ ЛЕС. Лес. У ім шмат варон. Дудаковічы Кругл.

ВАРОННІК м. Лясок каля вёскі. У ім заўсёды шмат варон. Слабада Клім.

ВАРОЦІШЧА н. Месца ў вёсцы. Раней тут была царква з вялікімі варотамі. Градзянка Асіп.

ВАРЧЫН БРОД. Месца на рацэ. Тут утапілася баба Варка. Стайкі Клім.

ВАРЫ мн. Хмызняк. Некалі там хаваліся злодзеі. Скляпава Кругл.

ВАРЫЛЬНЯ ж. Урочышча. Раней тут варылі піва. Васькавічы Чав.

ВАРЭНІКІ мн. Лес. Калісьці на гэтым месцы гналі смалу. Перагон Слаўг.; Балота, зарослае кустамі. Даўней тут быў хутар Варэніка (мянушка). Перагон Слаўг.

ВАСАВОК м. Лес. Некалі тут жыў пан Васоўскі. Тур'я Красн.

ВАСАЎСКІ ЛУГ. Луг непадалёку ад в. Восаў Красн.

ВАСАЎШЧЫНА ж. Мясціна ў лесе. Там растуць асавікі (падасінавікі), баравікі. Глінь Чэрык.; Лес каля в. Восаў. Брылі Маг.

ВАСЕЕВА ДАРОГА. Дарога. Некалі яе праклаў Васей. Камяніцы Бял.

ВАСЕЧКІНА УСАДЗЬБА. Сад. Раней тут была сядзіба гаспадара Васечкі. Чырвоны Бор Бял.

ВАСІЛЁВА БАЛОТА. Балота. Некалі там утапіўся Васіль. Слабада Бабр.; Балота. Раней каля яго жыў Васіль. Горка Шкл.

ВАСІЛЁВА БАНЯ. Лазня. Калісьці яе пабудаваў Васіль. Лабковічы Крыч.

ВАСІЛЁВА ДЗЯЛЯНКА. Луг. Даўней тут Васіль касіў сена. Сыманаўка Кліч.

ВАСІЛЁВА ДУБРАВА. Дуброва. Некалі яе пасадзіў Васіль. Лабковічы Крыч.

ВАСІЛЁВА КУЗНЯ. Кузня. Раней там працаваў каваль Васіль. Трылесіна Дрыб., Гладкова Чав.

ВАСІЛЁВА ЛАШЧЫНА. Сенажаць. Яна належыць Васілю. Наркі Чэрык.

ВАСІЛЁВА ПОЛЕ. Поле. Раней яго апрацоўваў селянін Васіль. Кашаны Крыч.

ВАСІЛЁВА ПУНЬКА. Старая пуня. Туды заганялі начач коней. Кіраўск.

ВАСІЛЁВА СЯДЗІБА. Поле. Раней тут жыў Васіль. Чырвоны Бор Бых.

ВАСІЛЁВА ХАТА. Вялікая хата пабудаваная калісьці Васілевічам. Чырвоная Слабада Бых.

ВАСІЛЁВЫ ДРЭВЫ. Старыя дрэвы ў канцы вёскі. Некалі яны былі пасаджаны селянінам Васілём. Рожава Мсц.

ВАСІЛЕННІКАВА ГАРА. Поле з узгоркамі. Калісьці яно належала Васілю. Сабалёўка Клім.

ВАСІЛЁЎ БОР. Лес. Раней ён належаў пану Васілю. Клічаў.

ВАСІЛЁЎ БРОД. Частка рэчкі (насупраць хаты Васіля). Бель Мсц.; Пратóчнае Бых.; Турышчава Гор.

ВАСІЛЁЎ КАЛОДЗЕЗЬ. Калодзеж. Па словах вяскоўцаў, яго выкапаў дзед Васіль. Малы Асавец Маг.; Калодзеж. Некалі яго выкапаў хлопец Васіль. Бель Маг.

ВАСІЛЁЎ КЛІН. Зямельны надзел. Некалі яго апрацоўваў Васіль. Горкі Чэрык.

ВАСІЛЁЎ ЛЕС. Лес. Калісьці яго даглядаў ляснік Васіль. Брылі Маг.; Кашаны Крыч.; Частка лесу. Некалі тут садзіў дрэвы Васіль. Мушына Мсц.

ВАСІЛЁЎ ЛУГ. Месца ў лесе. Раней тут была сядзіба лесніка Васіля. Чырвоная Слабада Бых.; Луг. Тут Васіль пасвіў коз. Глінь Чэрык.

ВАСІЛЁЎ МОСТ. Мост за вёскай. Непадалёку ад яго жыў дзед Васіль. Леніна Красн.

ВАСІЛЁЎ ПАЛЯДАК. Кавалак зямлі на полі. Раней ён належаў Васілю. Забалоцце Бял.

ВАСІЛЁЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў гаспадар Васіль. Рэкта Слаўг., Адамаўка Гор., Комсенічы Кругл.; Лес. Даўней на гэтым месцы быў хутар Васіля. Цяхцін Бял.; Узлесак. Некалі тут жыў Васіль. Горкі Чэрык.

ВАСІЛЁЎКА ж. Луг каля ракі. Раней тут быў хутар Васіля. Балбечына Гор.

ВАСІЛЕЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Васількі Бял.

ВАСІЛЕЎСКАЯ КУПЧА. Куп'істае балота. Раней яно належала Васілеўскаму. Гонча Кліч.

ВАСІЛЕЎСКАЯ ПАСЕКА. Лес. Калісьці тут была пасека Васілеўскага. Гута Клім.

ВАСІЛЕЎСКІ БЕРАГ. Луг. Некалі на гэтым месцы жыў пан Васілеўскі. Кароўчына Бых.

ВАСІЛЕЎСКІ КАЛОДЗЕЗЬ. Калодзеж. Даўней яго выкапаў Васілеўскі. Гута Клім.

ВАСІЛЕЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Васілевічы Дрыб.

ВАСІЛЕЎШЧЫНА ж. Лес. Раней ён належаў пану Васілеўскаму. Гута Клім., Брылёўка Красн.; Надзелы. Калісьці яны належалі пану Васілеўскаму. Горкі Чэрык.

ВАСІЛЁЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў хутаранец Васіль. Валаськоўня Касц.

ВАСІЛІСІН ХУТАР. Поле. Даўней тут была сядзіба Васілісы. Мяжэнін Клім.

ВАСІЛІСІНА ТРАПА. Вялікая сцежка ў лесе. Некалі па ёй хадзіла вядзьмарка Васіліса. Боркі Чав.

ВАСІЛІХІН ХУТАР. Поле. Калісьці на гэтым месцы жыла хутаранка Бандарэнка Васіліха. Сабалёўка Клім.

ВАСІЛЬЕВА ХАТА. Будынак. Раней ён належаў Васільевым. Бракава Маг.

ВАСІЛЬЕЎКА ж. Частка вёскі. Тут першым пасяліўся Васіль. Вялікія Лазіцы Шкл.

ВАСІЛЬКІ мн. Рэчка ў в. Васількі Маг.

ВАСІЛЬКОВА ДВОРЫШЧА. Лес. Некалі тут жыў селянін Васілька. Антонаўка Чав.

ВАСІЛЬКОВА ЛУЖЫНА. Возера. Раней каля яго жыў Васілька. Казакоўка Слаўг.

ВАСІЛЬКОВАЕ ПОЛЕ. Поле каля лесу. Тут расце шмат васількоў. Самулкі Чав., Александрыя Шкл.

ВАСІЛЬКОЎ ХУТАР. Месца каля вёскі. Даўней тут жыў хутаранец Васіль. Чарнаўцы Чав.

ВАСІНСКІ РАВОК. Роў каля вёскі. Раней тут жыў Васіль. Чарнаўцы Чав.

ВАСКРАСЕНСКІ ХОЛМ. Узгорак. Некалі, паводле слоў жыхароў, тут была пабудавана царква Уваскрэсення. Крычаў.

ВАСТОЧНАЯ ЗАРА. Частка вуліцы. Тут заўсёды брудна. Камяніца Бял.

ВАСТРАЎНІЦА ж. Поле пасярод лесу. Наркі Чэрык.

ВАСХОД м. Луг за вёскай. Ён знаходзіцца ў тым баку, дзе ўзыходзіць сонца. Вепрын Чэрык.

ВАСХОДАЎСКІЯ КУСТЫ. Кусты каля в. Васход Красн.

ВАСЬКАВА БАЛОТА. Невялікі лес з глыбокай ямінай. Тут скончыў жыццё самагубствам хлопец Васька. Петухоўка Чав.; Лясок. Раней на гэтым месцы селянін Васіль шукаў крыніцу. Жукава Маг.

ВАСЬКАВА ДЗЕСЯЦІНА. Сенажаць. Раней яна належала Ваську. Мокрае Бых.; Любонічы Кір.

ВАСЬКАВА н. Сенажаць. Раней тут быў хутар памешчыка Ваські (ласк.-пам. ад Васіль). Ігнатаўка Хоц.

ВАСЬКАЎ АМБАР. Урочышча. Калісьці тут загінуў дзядзька Вася. Дразды Кругл.

ВАСЬКАЎ ЛЕС. Лес. Некалі непадалёк жыў хутаранец Васька. Мачулкі Бабр.

ВАСЬКАЎСКІЯ СЕНАКОСЫ. Луг. Раней ён належаў Ваську. Гіжэнка Слаўг.

ВАСЬКАЯ ж. Луг. Тут вяскоўцы касілі сена. Надзелы размяркоўваў брыгадзір Купцоў Васіль. Ігнатаўка Хоц.

ВАСЬКІНА ВОЗЕРА. Возера непадалёку ад двара Ваські. Палетнікі, Рэпішча Маг.; Возера. Яго выкапаў Васька. Маляцічы Крыч.

ВАСЬКІНА ЕЛКА. Месца на полі. Некалі тут расла елка, якую пасадзіў Васька. Чорны Бор Бых.

ВАЎКАСТАЎ м. Воўчыя ямы. Усохі Бых.

ВАЎКАЎНЯ ж. Месца на балоце. Тут водзяцца ваўкі. Арэхаўка Кліч.; Нізіна ў лесе. Раней на гэтым месцы была яма для лоўлі ваўкоў. Каменка Мсц., Лудчыцы, Абідавічы Бых.; Месца ў лесе. Калісьці тут было логава ваўкоў. Доўгае Кліч., Кляшчоўка Глуск., Кіраўск.

ВАЎКІ мн. Месца ў лесе. Тут заўсёды водзяцца ваўкі. Камяніца Бял.; Урочышча. Некалі яго пераходзілі

ваўкі і нападалі на тур'еўскую ферму. Горкі Чэрык.

ВАЎКОВА ПЕЧ. Урочышча. Раней тут быў завод пана Ваўка. Леніна Красн.

ВАЎКОВЫ ПЕЧЫ. Месца каля лесу. Раней тут выраблялі (выпальвалі) цэглу пад кіраўніцтвам Ваўка. Віроўка Касц.

ВАЎКОЎ ЛЕС. Лес. Даўней тут знаходзілася хата ляснічага Ваўковіча. Гарадзец Бых.

ВАЎКОЎНЯ ж. Поле. Калісьці тут ставіліся пасткі на ваўкоў. Дубейкава Мсц.; Месца ў густым, дрымучым лесе. Некалі тут вадзілася шмат ваўкоў. Зоры Чэрык.; Мясціна на балоце. Тут водзяцца ваўкі. Турчылаў Кліч.

ВАЎКОЎШЧЫНА ж. Гушчар у лесе. Тут водзяцца ваўкі. Калінаўка Шкл.; Вялікі роў у лесе. Раней тут было многа ваўкоў. Літоўск Кругл.

ВАЎЧКІ мн. Яр. Тут выводзіліся ваўкі. Глінь Чэрык.; Зараснікі кустоў з воўчымі ягадамі. Гарадок Глуск.

ВАЎЧКОВА ГАРА. Узгорак. Некалі тут жыў селянін Ваўчок (мянушка). Антонаўка Чав.

ВАЎЧКОЎ ХУТАР. Поле. Раней там жылі Ваўчкі. Азарычы Слаўг.

ВАЎЧНОЕ н. Лясок. Калісьці тут было шмат ваўкоў. Заеліца Глуск., Ржаўцы Шкл.

ВАЎЧОК м. Урочышча. Тут расце хмызняк. Камяніца Бял.; Луг. Раней тут было шмат ваўкоў. Барсукі Бых.; Равок, парослы нізкім хмызняком. Гонча Кліч., Супанічы Маг.

ВАЎЧЫНАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут вадзіліся ваўкі. Брылёўка Красн.; Балота сярод поля. Іванаўка Касц.; Балота. Зімой адсюль чуецца выццё ваўкоў. Сетнае Крыч.

ВАЎЧЫНАЕ н. Лес. Тут водзіцца шмат ваўкоў. Плюшчава Кліч.

ВАЎЧЫНАЯ ЯМА. Частка лесу. Іванаўка Касц.

ВАЎЧЫНЫ ЯР. Мясціна ў лесе. Тут знаходзілі логава ваўкоў. Баханы Хоц.

ВАШЧЫЛАЎ ЛУГ. Луг. Раней на гэтым месцы жылі Вашчылы. Крычаў.

ВЁДЗЕРКА ж. Неглыбокая рачулка. Гарадзішча, Цяхцін Бял.

ВЕДЗЬМІН ЛУГ. Балоцістая мясціна. Тут, казалі старыя людзі, можа прайсці толькі вядзьмак. Дубрава Бял.

ВЕДРЫЧ ж. Рэчка з астравамі. Слабада Бых.

ВЕДРЫШЧА ж. Рэчка з пратокамі. Гуслішчы Маг.

ВЕЛЕЎШЧЫНА ж. Пасёлак. Раней тут быў хутар Велія. Благавічы Чав.; Калгасны сад. Даўней тут жыў пан Велій. Градзянка Асіп.

ВЕЛЬКІ ЛУГ. Азярцо на балоце. Валынеж Касц.

ВЕЛЯШЧЫНА ж. Поле. Раней на гэтым месцы было балота, якое асушылі. Кухенка Бабр.

ВЕНДАРАЖСКІ ЛЕС. Лес каля в. Вендараж Маг.

ВЕНДЗЕЖ м. Невялікая сажалка. Слабада Бых.

ВЕПРЫНА ж. Луг. Тут цячэ рэчка Вепрынка. Малінне Кліч.

ВЕПРЫНКА ж. Месца ў лесе. Раней тут працякала рэчка Вепрынка. Селішча Кір.

ВЕРАБ'ЁВА ЛІНІЯ. Дарога ў лесе. Яна з'яўляецца мяжой паміж лясніцтвамі, у адным з якіх працуе ляснічы Вераб'ёў. Балбечына Гор.

ВЕРАБ'ЁЎ ХУТАР. Мясціна ў лесе. Некалі на гэтым месцы быў хутар Вераб'ёва. Ядраная Слабада Кліч.; Хутар. Тут водзіцца шмат вераб'ёў. Лудчыцы Бых.

ВЕРАБ'ЁЎКА ж. Месца ў вёсцы. Раней тут жыла сям'я Вераб'ёвых. Дружкі Крыч.

ВЕРАБ'ЁЎШЧЫНА ж. Нізіна. Раней тут збіралася шмат птушак. Дуброва Бял.; Частка вёскі. Даўней тут жыў чалавек па прозвішчы Вераб'ёў. Цяхцін Бял.; Лес. Раней тут быў хутар пана Вераб'ёва. Гусарка Клім.; Канец вуліцы. Тут жыве некалькі сем'яў з прозвішчам Вераб'ёвы. Сялец Бых.; Урочышча. Раней тут стаяў палац пана Вераб'я. Паўлавічы Клім.

ВЕРАБІННІКІ мн. Поле. Калісьці тут раслі верабіны (рабіны). Слабада Кліч.

ВЕРАБКІ мн. Урочышча. Тут расце шмат вербаў. Градзянка Асіп.

ВЕРАМЕЕЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Верамейкі Чэрык.

ВЕРАМЕЕЎШЧЫНА ж. Лес вакол в. Верамейкі Чэрык.

ВЕРАСОЎКА ж. Паляна. Тут расце верас. Праточнае Бых.

ВЕРАСЫ мн. Поле. Тут расце шмат верасу. Рагі Слаўг.; Паляна, зарослая верасам. Тур'я Красн.

ВЕРАЦЕІ мн. Узвышаныя сухія мясціны на няўдобіцах. Іх можна апрацоўваць. Слабада Бых.

ВЕРАЦЕЙ м. Лес. Стайкі Маг.

ВЕРАЦЕННІКАЎ ХУТАР. Сенажаць. Некалі тут жыў селянін Вераценнікаў. Антонаўка Чав.

ВЕРАЦІЯ ж. Лес сярод балота. Свенск Слаўг., Бель Мсц.

ВЕРАЦЫЯ ж. Заліўны луг. Ён знаходзіцца каля таго месца рэчкі, дзе шмат віроў. Чырвоны Бор Бял.

ВЕРАЦЯЯ ж. Лес на ўзгорку сярод балота. Валынеж Касц.

ВЕРАШЧАКА ж. Лясная сцяжынка. Клімавічы.

ВЕРАШЧАКАВА н. Месца ў лесе. Раней тут быў хутар пана Верашчакава. Сыманаўка Кліч.

ВЕРБАЧКІ мн. Месца каля рэчкі. Тут раслі вялікія вербы. Бёрда Кліч.; Луг. Тут расло некалькі старых вербаў. Жаролы Слаўг.; Нізіна. Увесь час тут растуць вербы. Нясята Кліч.; Частка дарогі. Некалі паабапал яе раслі вербы. Антонаўка Чав.; Урочышча. Раней на гэтым месцы раслі вербы. Дружба Бых.

ВЕРБІНА н. Частка вёскі. Тут расло шмат вербаў. Прудок Слаўг.

ВЕРБКІ мн. Частка вуліцы. Раней тут раслі толькі вербы. Добрае Мсц.

ВЕРБНІК м. Хмызняк. Тут заўсёды збіралася моладзь. Тур'я Красн.

ВЕРБНЫ РАВОК. Равок. Уздоўж яго растуць вербы. Боўсевічы Кругл.

ВЕРБШАЕ БАЛОТА. Вялікае багністае балота. Баяры Бабр.

ВЕРБЫ мн. Урочышча. Раней тут раслі вербы. Калініца Клім.

ВЕРКІН САДОК. Хмызняк. Даўней тут быў сад цёткі Веркі. Тур'я Красн., Чорны Бор Бых.

ВЕРНІКОЎШЧЫНА ж. Поле. Калісьці на гэтым месцы жыў пан Вернікоўскі. Уборак Асіп., Турчылаў Клім., Карзеева Дрыб., Рэпішча Маг.

ВЕРХАЛЕССЕ н. Лес на высокім месцы. Пятровічы Бых.

ВЕРХАНЬ ж. Высокі бераг ракі Пціч каля в. Дрычын Асіп.

ВЕРЫН БЕРАГ. Месца на беразе рэчкі. Тут утапілася жанчына Вера. Лубяны Бял.

ВЕРЫНЫ КУСТЫ. Сад. Некалі на гэтым месцы жыла Вера. Гарадок Шкл.

ВЕТКА ЧОРНАЙ НАТАПЫ ж. Канава. Яна адыходзіць ад р. Чорная Натапа. Маляцічы Крыч.

ВЕТРАВА ПОЛЕ. Поле. Раней на гэтым месцы жыў Вецер (мянушка). Азарычы Слаўг.

ВЕТРАХОЎШЧЫНА ж. Палі вакол в. Ветракі. Алешкавічы Бял.

ВЕТРЫНСКАЕ ВОЗЕРА. Возера каля пасёлка Ветрын. Праточнае Бых.

ВЕТЭРЫНАРАЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Некалі на гэтым месцы жыў ветэрынар. Доўгавічы Мсц.

ВЕЧНАСЦЬ ж. Поле. Раней тут радзіла толькі бульба . Круча Кругл.

ВЕШНЯ ж. Заліўны луг. Вясной ён затапляецца вадою. Пятровічы Бых.

ВЕЯНКА ж. Расчышчанае гладкае месца. Слабада Бых.

ВЁТУХНА ж. Старалессе. Пятровічы Бых.

ВІГУРАЎ РОЎ. Роў. Даўней на гэтым месцы жыў Вігура. Горкі Крыч.

ВІДЗЯНЕЕЎ ХУТАР. Частка хутара. Калісьці тут жыў хутаранец Відзянееў. Данькава Дрыб.

ВІДЛІН м. Возера. Яно відаць з усіх бакоў. Сідаравічы Маг.

ВІДЛІНСКІ ЛЕС. Лясны масіў каля в. Відлін Чав.

ВІЖГОР м. Месца. Раней тут стаяў палац, адкуль было відаць усё наваколле. Высокае Чав.

ВІЗІРКА ж. Дарога ў лесе. Некалі тут была прасека, якая зарасла травой. Ордаць Шкл., Нікіцінічы Маг.; Лясная паляна. Тут заўсёды многа грыбоў. Зарэчча Кругл.

ВІКТАРАВА ДАРОГА. Дарога з в. Макавічы ў в. Дуброву. Раней яе абкошваў дзядзька Віктар. Макавічы Глуск.

ВІКТАРАВА КАЦВІНА. Лес. Некалі тут была сажалка, якую выкапаў селянін Віктар. Антонаўка Чав.

ВІКТАРАЎ ЛЕС. Лес з балотам. Раней тут быў хутар Віктара. Краснае Глуск.

ВІКТАРАЎШЧЫНА ж. Поле. Калісьці яно належала Віктару. Баронькі Касц.

ВІКЦІН ЛЯСОК. Кустоўе каля хаты бабы Вікці. Коўбча Кліч.

ВІЛЕЙКА ж. Звілістая рэчка. Нічыпаравічы Шкл.

ВІЛЕЙСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Вілейка Чав.

ВІЛЕЙШЧЫНА ж. Частка вёскі. Адсюль пачынаецца іншая вёска (Вілейка). Благавічы Чав.

ВІЛЫ мн. Месца ў полі. Тут разыходзяцца дарогі. Усохі Бых., Градзянка Асіп.; Сенажаць. Па форме яна падобная на вілы. Сідаравічы Маг.

ВІЛЬЧАНКА ж. Рэчка каля в. Вільчыцы Маг.

ВІЛЯГА ж. Поле. Раней на гэтым месцы была невялікая в. Віляга. Дабужа Бых.

ВІНАГРОБЛЬ м. Урочышча. Даўней тут людзі займаліся вінаробствам. Свацілавічы Бял.

ВІНЧЫЦКІ ЛУГ. Луг. Некалі ён належаў пану Вінчыку. Лапацічы Слаўг.

ВІР БАЛЬШЫ. Месца на р. Чырвоная Аўчаса. Даўней тут быў вялікі вір. Акунёўка Шкл.

ВІР м. Глыбокае возера ў в. Коўшава Мсц.; Глыбокае месца на рэчцы. Добрае Мсц., Крычаў, Замошша, Ордаць Шкл.; Месца на рэчцы. Тут было багата віроў. Запруддзе Маг.; Частка крута закругленай рэчкі. Вець Бых.

ВІР МАЛЫ. Месца на р. Чырвоная Аўчаса. Некалі тут быў малы вір. Акунёўка Шкл.

ВІРАВЫЯ ЛУЖЫ. Нізкая мясціна. Раней тут была рэчка з вірамі. Вець Бых.

ВІРАЎЛЯ ж. Глыбокае вірлівае месца на рэчцы. Падгор'е, Ніканавічы Бых.

ВІРКАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Віркаў Кліч.

ВІРКІ мн. Узгорак. Камароўка Крыч., Сакольнічы Крыч.; Месца на р. Сож. Тут вада віруе. Горкі Чэрык.

ВІРОК м. Глыбокае месца на невялікай рэчцы. Збышын Кір.; Частка крута закругленай рэчкі. Паўлавічы Клім.; Месца на рэчцы. Калісьці тут біў вір. Эсьмоны Бял.

ВІРЫ мн. Месца на рэчцы. Тут шмат віроў. Халмы Чав., Чырвоны Бор, Майск Бял.; Месца на рацэ. Тут хуткая, з завіхрэннем плынь. Іванаўка Крыч.

ВІСЕЛЬНІЦА ж. Лес. Раней тут забілі лесніка. Траўна Красн.

ВІСКУЧАЯ ж. Поле. Даўней ваўкі пераходзілі яго, ідучы ў лес або з лесу. Машавое Касц.

ВІСЛІЦА ж. Катлавіна. У ёй доўга заставалася веснавая талая вада. Падгор'е Быx.

ВІТАВА ГАРА. Гара. Раней тут стаяла хата Віта. Сласцёны Чав.

ВІТАНЬ ж. Поле. Некалі тут былі хутары. Дубна Слаўг.

ВІТАЎ КАЛОДЗЕЖАК. Яма ў лесе. Раней тут быў калодзеж. Ніканавічы Быx.; Калодзеж. Калісьці яго выкапаў ляснік Вітаў. Гута Клім.

ВІТАЎ МОСТ. Мост. Зроблены на самым крутым павароце ручая. Доўгае Кліч.

ВІХАРАВЫ ВЕРБЫ. Вербы. Калісьці іх садзіў чалавек па мянушцы Віхар. Мурын Бор Касц.

ВІХОР м. Месца ў лесе. Раней тут стаяў маёнтак памешчыка Віхрова. Боўкі Быx.

ВІХРА ж. Звілістая рэчка. Мсціслаў.

ВІХРАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Калісьці яе выкапаў дзед Віхор (мянушка). Данькавічы Шкл.

ВІХРАНЫ мн. Выток р. Віхра. Мсціслаў.

ВІЦЕНЕЎ РОЎ. Роў. Некалі каля яго быў хутар Віценя. Александрыя Шкл.

ВІЦЬ ж. Балоцістая мясціна. Усохі Быx.

ВІЦЬКАЎ ВЫГАН. Месца каля хаты Віцькі. Тут пасецца свойская жывёла. Літоўск Кругл.

ВІЦЯНКОВА БАЛОТА. Балота. Раней каля яго была сядзіба Віцянкі. Бахацец Чав.

ВІЧЫШЧА н. Поле. Некалі тут расла віка. Петухоўка Чав.

ВІШАННІК м. Месца, дзе знаходзіцца дзіцячы сад. Раней там раслі вішні. Забялышын Хоц.

ВІШАНЬКІ мн. Поле. Раней тут раслі вішні. Крукаўшчына Глуск., Данькавічы Шкл., Раздзел Мсц., Абідавічы, Гарадзец Быx.; Паляна ў лесе. Калісьці на гэтым месцы расло некалькі вішань. Пруды Шкл.; Урочышча. Тут растуць вішні. Забялышын Хоц., Даколь Глуск.; Вуліца. Паабапал яе растуць вішні. Пераколь Кліч.; Мясціна каля вёскі. Раней тут быў хутар, дзе расло багата вішань. Ордаць Шкл.; Узгорак. Некалі тут расло шмат вішань. Займішча Шкл.; Месца ў вёсцы. Тут расце многа вішань. Стайкі Клім.

ВІШАР м. Кустоўе (пераважна вішаннік). Перагон Слаўг.

ВІШНЁВЫ ХУТАР. Месца ў вёсцы. Калісьці тут быў вялікі вішнёвы сад. Асавец Крыч.

ВІШНЁЎКА ж. Нізкае месца. Раней тут быў хутар, ад якога засталося толькі некалькі вішань. Лясная Слаўг.; Частка вёскі. Тут расло шмат вішань. Аўчыненкі, Малыя Лазіцы Шкл.; Урочышча. Слаўня Слаўг.; Частка г. п. Клічава. Тут у кожным двары расло шмат вішань. Клічаў; Лес. У ім растуць вішні. Галічы Клім.; Забялышын Хоц.

ВІШНЕЎСКІ ХУТАР. Сенажаць. Раней тут быў хутар пана Вішнеўскага. Лобжа Клім.

ВІШНІЦА ж. Поле. Раней тут раслі вішні. Рэкта Слаўг.

ВІШНЯВАЯ ж. Паша (на месцы былога хутара, дзе раслі вішні). Валынеж Касц.

ВІШНЯВЕЦ м. Урочышча. Тут расце многа вішань. Недзведзь Клім.

ВІШНЯНСКІ ШЛЯХ. Шлях каля в. Вішні Касц.

ВІШОЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера ў в. Вішова Бял.

ВОГНЕННАЕ БАЛОТА. Балота. У спякоту яно вельмі часта дыміцца. Лешча Шкл.

ВОГНЕННАЕ МЕСЦА. Месца ў лесе. Тут у спякоту часта бывае пажар. Малыя Лазіцы Шкл.

ВОГНЕННЫ ШАР. Сажалка. Тут збіраюцца рыбакі і распальваюць вогнішча. Ананічы Крыч.

ВОГНІШЧА н. Урочышча. Некалі тут згарэў хутар. Літоўск Шкл.

ВОЖАЎСКІ ЛЕС. Лес. Некалі тут жылі бандыты (у народзе іх называлі "вожлы"). Папоўшчына Мсц.

ВОЖЫШЧА н. Лес. Раней тут было поле, дзе вадзіліся вожыкі. Клічаў.

ВОЗЕРА н. Месца на сенажаці. Калісьці тут было невялікае возера, якое потым перасохла. Рожава Мсц.; Азярцо. Высокае Клім.; Заліўны луг. Вайнілы Чав.

ВОЗЕРНАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней яно знаходзілася каля возера, якое высахла. Забалоцце Мсц.

ВОЙСТРАЎ м. Лес. Раней тут было балота, пасярод якога знаходзіўся востраў. Падзамша Глуск.; Лес пасярод поля. Прудок Слаўг.

ВОЙТАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці яго выкапаў гаспадар па прозвішчы Войтаў. Краснаполле.

ВОЙТАВА ЛЯДА. Поле. Калісьці тут Войт (мянушка) выкарчоўваў кусты. Каратышкі Гор.

ВОКНЫ мн. Балота. У ім асобныя месцы (вокны) не зараслі мохам і напоўнены вадою. Градзянка Асіп.

ВОЛАВА ГАРА. Участак лесу. Аднойчы ваўкі тут з'елі вала. Боўкі Быx.

ВОЛАВА н. Месца каля рэчкі. Калісьці там знайшлі волава. Лабковічы Крыч.

ВОЛАК м. Дарога ад шашы да в. Зоры Быx.

ВОЛАС м. Поле. Раней тут быў хутар, дзе трымалі валоў. Глыбаў Красн., Цялуша Бабр.

ВОЛІН ЛЕС м. Лес. Некалі яго садзіла Воля. Заеліца Глуск.

ВОЛКАВА МЕСЦА н. Месца ў лесе. Тут шмат воўчых ягад. Вялікія Лазіцы Шкл.

ВОЛКАЎ ХУТАР м. Хутар каля лесу. Раней там вадзілася шмат ваўкоў. Жалвінец Глуск.

ВОЛМА ж. Упадзіна ў пойме ракі. Слабада Быx.

ВОЛЧАС ж. Рэчка. Раней тут, паводле падання, утапіўся воўк. Камароўка Крыч.

ВОЛЫК м. Зімовая дарога ў лесе. Па гэтай дарозе вывозяць волакам спіленыя дрэвы. Дарлівая Крыч.

ВОЛЫНЕЖ м. Поле. Раней на гэтым месцы быў хутар. Добасна Кір.

ВОЛЬГІНА КЛАДКА. Кладка цераз канаву. Некалі яе зрабіла Вольга. Ігнатаўка Хоц.

ВОЛЬГІНА КРЫНІЦА. Крыніца з гаючай вадой. Непадалёк ад яе жыла Вольга. Шчокатава Дрыб.

ВОЛЬКАВА ПЛЁСА. Месца на рэчцы. Ваевічы Кліч.

ВОЛЬСКАЯ КРЫНІЧКА. Крыніца каля в. Вольса Кір.

ВОЛЬСКІ ХУТАР. Поле. Калісьці тут жыў дзед Вольскі. Восава Асіп.

ВОЛЬЧЫКАВА СЕНАЖАЦЬ. Сенажаць. Раней на гэтым месцы жыў ляснік Вольчык. Слаўкавічы Глуск.

ВОМШАР м. Балота. Даўней тут было многа моху. Фальварак Глуск.; Поле на асушаным балоце. Астравец Шкл.

ВОРАНАВА БАЛОТА. Балота. Тут водзіцца шмат варон. Грыбы Красн.

ВОРЛЯ ж. Гразкае месца на полі. Азер'е Шкл.; Вялікая глыбокая канава. Тут ніколі не высыхае вада. Васілевічы Маг.

ВОСАЎ м. Лес. Раней тут быў пасёлак. Галічы Клім.; Сенажаць. Склімін Клім.

ВОСАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Калі цвітуць кветкі, тут збіраецца многа вос. Селішча Клім.

ВОСІПАВА ДАРОГА. Дарога. Раней гэта была галоўная дарога на Магілёў, якая праходзіла каля хутара Восіпа. Русенка Маг.

ВОСІПАВА КАЦВІНА. Кустоўе. Некалі тут жыў селянін Восіп. Антонаўка Чав.

ВОСІПАЎ ДУБ. Дуб на беразе р. Друць. Ён быў пасаджаны леснікам Восіпам. Чачэвічы Бых.

ВОСІПАЎ ЛУГ. Луг каля сядзібы Восіпа. Ордаць Шкл.

ВОСІПАЎКА ж. Лес. Калісьці ён быў пасаджаны Восіпам. Грозны Красн.

ВОСІПАЎШЧЫНА ж. Луг. Некалі тут жыў хутаранец Восіп. Рэкта Слаўг.

ВОСЛІЎСКІ ЛУГ. Луг. Раней у час паводкі ён затопліваўся р. Вослік. Вялікая Машчаніца Бял.

ВОСПІНЫ мн. Вялікі лес. Тут шмат высечаных дзялянак. Тур'я Красн.; Сасновы лес. Тут на сасонцы павесіўся Восіп. Буглаі Красн.; Лес. Некалі лесніком тут быў Восіп. Мхінічы Красн.; Лес (пасаджаны Восіпам). Гута Бабр.

ВОСТРАВЫ мн. Сухое месца на балоце. Рэут Клім.

ВОСТРАЎ КАХАННЯ ж. Астравок пасярод ракі. Тут збіралася моладзь. Манастырок Чэр.

ВОСТРАЎ м. Мясціна ў лесе. Тут заўсёды шмат грыбоў. Добрая Гор.; Узвышанае месца на полі. Стайкі Клім.; Сухое месца на балоце. Красавічы Клім.; Паляна ў лесе. Валоўнікі Мсц.; Поле пасярод лесу, парослае кустоўем. Пральня Бял.; Мясціна, акружаная лесам. Ждановічы Шкл.; Частка г.п. Круглае, аддзеленая ад цэнтра невялікай рэчкай. Круглае.

ВОСТРАЯ ГАРА. Гара з вострым верхам. Леніна Красн.

ВОСТРАЯ ЛУКА. Дуброва на беразе р. Свіслач. Лапічы Асіп.

ВОСТРЫ ДУБ. Бераг рэчкі. Тут расце высокі дуб. Рудня Слаўг., Глуск; Бераг рэчкі. Тут стаіць абламаны бураю дуб. Круглае.

ВОСТРЫЯ ЛУКІ мн. Бераг на р. Сож у выглядзе лука. Язёры Чэрык.

ВОТМУТ м. Балота, рэчка, кустоўе. Праточнае Бых.

ВОТЧАБАРОК м. Мясціна каля лесу. Тут расло вельмі многа чабору. Перагон Слаўг.

ВОТЧЫНА ж. Лес. Сямёнаўка Клім.

ВОЎКАВА БАЛОТА. Балота. Даўней тут утапіўся мужчына па імені Воўка. Язёры Чэрык.

ВОЎКАЎ ЛЕС. Лес. Раней на гэтым месцы быў панскі хутар. Добрая Гор.

ВОЎЧА ЛОГАВА. Месца ў лесе. Раней тут было шмат ваўкоў. Гавяды Шкл.

ВОЎЧА ЯМА. Мясціна ў лесе. Некалі тут было логава ваўкоў. Шалаёўка Кір.

ВОЎЧАЕ БАЛОТА. Забалочанае месца ў лесе. Тут шмат ваўкоў. Дзернавая, Стайкі Красн.; Балота. Тут растуць воўчыя ягады. Стайкі Клім.; Балота. Тут водзяцца ваўкі. Рудня, Камяніца Бял., Кіраўск, Бабоўка Кліч., Градзянка Асіп., Асавец Крыч.

ВОЎЧАЕ ГОРЛА. Мясціна ў лесе. Раней тут вадзіліся ваўкі. Доўгае Кліч.; Лес. Некалі тут паляўнічы перарэзаў ваўку горла. Стайкі Клім.

ВОЎЧАЕ ЛОГАВА. Мясціна ў лесе. Раней тут было шмат ваўкоў. Асавец Маг., Чорны Бор Бых.; Непралазны густы ельнік. Тут водзяцца ваўкі. Чырвоны Бор Бял.;

Абрыў з вялікай колькасцю нор. Раней тут было логава ваўкоў. Замышкі Кругл., Адамаўка Гор.; Паляна ў лесе. Даўней на гэтым месцы было логава ваўкоў. Кострычы Кір.; Мясціна ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Александрыя Шкл.

ВОЎЧАЕ н. Востраў сярод балота. Ручай Касц.; Лес. Тут водзяцца ваўкі. Халмы Чэрык.

ВОЎЧАСА ж. Невялікая рачулка. Доўгавічы Мсц.

ВОЎЧАСАЎ м. Лес. Раней тут было шмат ваўкоў. Клічаў.

ВОЎЧАЯ ГАРА. Узгорак каля лесу. Раней тут вадзіліся ваўкі. Полькавічы Кір., Ліпаўка Хоц., Міхалёва Бабр.; Месца ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Дубравіца Клім., Паплавы Кліч.; Узвышанае месца на полі. Некалі тут збіралася шмат ваўкоў. Леніна Красн.

ВОЎЧАЯ ГОРКА. Узгорак. Па словах вяскоўцаў, раней тут бачылі ваўкоў. Чыкілі Глуск.

ВОЎЧАЯ ГРЫВА. Лес. Тут шмат ваўкоў. Галічы Клім., Забялышын Хоц.; Кустоўе. Раней тут збіралася многа ваўкоў. Яноўка, Высокае Клім.; Мясціна. Некалі тут ваўкі пераходзілі з аднаго лесу ў іншы. Сямёнаўка Клім.

ВОЎЧАЯ ДАРОГА. Сцяжынка ў лесе. Калісьці па ёй хадзілі ваўкі. Леніна Красн.

ВОЎЧАЯ ЛУЖА. Нізкая мясціна ў лесе. Раней сюды ваўкі прыходзілі піць ваду. Лічынка Бял.

ВОЎЧАЯ ПАЛЯНА. Месца ў лесе. Раней тут палявалі на ваўкоў. Эсьмоны Бял.

ВОЎЧАЯ СЛАБАДА. Вуліца ў вёсцы. Раней тут была воўчая нара. Цялуша Бабр.

ВОЎЧАЯ СЦЕЖКА. Вузкая, амаль нябачная сцяжынка ў лесе. Па ёй рэдка ходзяць людзі, бо раней тут часта сустракалі ваўкоў. Буглаі Красн.

ВОЎЧАЯ СЦЯЖЫНКА. Вузкая сцяжынка ў густым лесе. Аляксандраўка Слаўг.

ВОЎЧАЯ ЯМА. Мясціна ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Гавяды, Данькавічы Шкл., Аляксандраўка Слаўг.; Кустоўе. Раней тут было воўчае логава. Жаролы Слаўг.; Паляна ў лесе. Калісьці на гэтым месцы капалі ямы для палявання на ваўкоў. Арцёхаў Красн., Глінь Чэрык., Новая Брашчына Шкл., Орсічы Бабр.; Яма. Тут забілі некалькі ваўкоў. Перагон, Свенск Слаўг.

ВОЎЧЫ БОР. Лес. Тут водзіцца шмат ваўкоў. Гайшын Слаўг., Пільнікі Кліч.

ВОЎЧЫ ЗАРАСНІК. Невялікі лес. Калісьці тут вадзілася шмат ваўкоў. Трылесіна Шкл, Трылесіна Гор.

ВОЎЧЫ КАМЕНЬ. Мясціна ў лесе. Раней тут збіраліся ваўкі. Ганнаўка Клім.

ВОЎЧЫ КУТОК. Мясціна ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Арэхаўка Кліч.

ВОЎЧЫ ЛЕС. Непраходны лес. Займішча Шкл.; Лес. Раней тут было шмат ваўкоў. Стайкі, Рэут Клім., Старое Сяло Бых.; Лес. Некалі тут ваўкі загрызлі карову. Градзянка Асіп.

ВОЎЧЫ ЛОГ. Месца ў лесе. Раней тут вадзіліся ваўкі. Елькаўшчына Кругл., Палянкі Бабр., Забалоцце, Забавы, Сіпайлы Бял., Сухары Маг., Клічаў, Сыманаўка Кліч., Камароўка Крыч., Полькавічы Кір.; Луг. Некалі праз яго праходзіла воўчая сцежка з адной часткі лесу ў іншую. Багацькаўка Мсц.

ВОЎЧЫ ЛУГ. Лес. Тут расце густая, у рост чалавека трава. Курманава Мсц.; Луг з густой высокай травой. Тут водзяцца ваўкі. Плешчыцы Шкл.

ВОЎЧЫ МОХ. Забалочаная мясціна ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Орсічы Бабр.

ВОЎЧЫ РОЎ. Месца ў лесе. Тут было логава ваўкоў. Пацкава Мсц., Леніна Красн.

ВОЎЧЫ СЛЕД. Дрэва, паваленае цераз рэчку. Пянькоўка Клім.

ВОЎЧЫ ЯР. Яма ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Рэкатка Гор., Плешчыцы Шкл.

ВОЎЧЫЧЫ мн. Лес. Раней тут было шмат ваўкоў. Старое Сяло Бых., Чарнякоўка Слаўг.

ВОЎЧЫЯ АСТРАЎКІ. Палянкі сярод лесу. Тут водзяцца ваўкі. Хоўстава Бых.

ВОЎЧЫЯ ЯМЫ. Лес. Калісьці тут была глыбокая яма для лоўлі ваўкоў. Післяціна Клім., Эсьмоны Бял., Галееўка Бых.

ВОХР м. Возера каля в. Вохар Чэрык.

ВОЧКА н. Мясціна на сенажаці. Даўней тут была сажалка. Рожава Мсц.

ВУГАЛ м. Сенажаць, акружаная ракой. Уланава Шкл., Гонча Кліч., Жавань Гор.; Мясціна паміж Сасноўскім і Лешчанскім лясамі. Лешча Шкл.; Месца на полі. Юраўка Шкл.; Месца на згібе рэчкі. Раней тут быў вір. Вялікая Машчаніца Бял.

ВУГАЛЛЕ н. Хутар. Раней на гэтым месцы быў вялікі лес, які згарэў. Семукачы Маг.

ВУГЛІНКА ж. Месца на р. Бесядзь. На дне рэчкі ляжаць маленькія каменьчыкі. Хоцімск.

ВУГЛЫ мн. Поле. Яно вуглом абступае лес. Поўстка Глуск.; Месца ў лесе. Красніца Касц.

ВУГОЛЕЦ м. Луг. Ён пачынаецца адразу за лесам. Падзамша Глуск.

ВУГРЫЎ м. Прыгорак. Тут у спёку вельмі горача. Петухоўка Чав.

ВУДАЧА ж. Рэчка. Раней тут часта лавілі вудамі рыбу. Горкі Чэрык.

ВУЖАВА БАЛОТА. Балота. Тут вадзіліся вужы. Вець Бых.

ВУЖАВІНА ж. Месца ў лесе. Раней тут вадзілася шмат вужоў. Сычкава Бабр.

ВУЖАРЫ мн. Месца ў лесе. Некалі тут быў пажар. Сыманаўка Кліч.; Выгаралае балота сярод лесу. Няраж Бых.

ВУЖАЎ РОЎ. Роў на лузе. Тут водзіцца шмат вужоў. Аляксандраўка Слаўг.

ВУЖАЧКА ж. Звілістая мясціна на полі. Сідаравічы Маг.

ВУЖЖА н. Месца ў лесе. Раней тут вадзіліся гадзюкі. Клічаў.

ВУЖНЯК м. Нізіна на лузе. Тут шмат вужоў. Казлы Гор.

ВУЖОВА БАЛОТА. Балота. Тут водзіцца шмат вужоў. Таранава Маг.; Поле. Раней на гэтым месцы было балота, у якім вадзіліся вужы. Вець Бых.

ВУЖОВІНА ж. Балота. Калісьці тут было шмат вужоў. Любонічы Кір.; Урочышча. Тут водзяцца вужы. Гута Бабр.

ВУЖОЎКА ж. Звілістая дарога паміж лесам і возерам. Гута Клім.

ВУЖОЎНІК м. Балота. Тут водзіцца многа вужоў. Дуброўка Шкл.

ВУЖЫН м. Поле. Раней на гэтым месцы было балота, у якім вадзілася шмат змей і вужоў. Катка Глуск.

ВУЖЫНАЕ БАЛОТА. Балота . Тут шмат вужоў. Краснаполле.

ВУЖЫНЫ РОЎ. Роў на полі. Тут водзяцца вужы і гадзюкі. Буглаі Красн.

ВУЖЭЎЕ н. Забалочаны луг. Раней тут вадзілася многа вужоў. Чырвоны Бор Бял.

ВУЗЕЛ м. Скрыжаванне дарог. Адаменка Бых.

ВУЗЕНЬКАЕ н. Паласа лесу, якая аддзяляла в. Лыкава ад в. Вільчыцы Маг.; Луг. Кароўчына Бых.

ВУЗЕНЬКІЯ мн. Вузкае, але доўгае поле. Прылессе Чав.; Вузкая

палоска зямлі. Яе вельмі цяжка апрацоўваць. Горкі Чэрык.

ВУЗКАЕ ПОЛЕ. Нешырокае поле. Акунёўка Маг.

ВУЗКАКАЛЕЙКА ж. Участак лесу. Раней тут праходзіла чыгунка. Уюн Бых.

ВУЗКАЯ ж. Нешырокая палоска ў лесе. Раней тут касілі сена. Кіраўск.

ВУЗКАЯ КАЛЕЙКА. Дарога на станцыю. Раней па ёй вазілі на конях торф. Чырвоная Беларусь Бых.

ВУЗКІ ЛОГ. Вузкая лагчына за в. Бязуевічы Слаўг.; Невялікі луг каля лесу. Глінь Чэрык.

ВУЗКІЯ мн. Поле. Раней яго дзялілі паміж вяскоўцамі на вузкія палоскі. Дубна Слаўг.

ВУЗКІЯ ПАЛОСЫ. Калгаснае поле. Некалі яно было падзелена на вузкія палосы. Мікулічы Бабр.

ВУЗКІЯ РЭЗКІ. Луг. Некалі ён быў падзелены на невялікія палосы. Буда Бял.

ВУЛАЧКА ж. Вузкая вуліца ў в. Эсьмоны Бял.

ВУЛІТКА ж. Ручэй . Дужаўка Чав.

ВУЛЛІ мн. Дзялянка ў лесе. Тут знаходзіцца пасека. Вялікая Машчаніца Бял.

ВУЛЛІШЧА н. Дзялянка ў лесе. Тут знаходзяцца вуллі для пчол. Забалоцце Бял.

ВУЛЛЯНІН ХУТАР. Поле, зарослае кустамі. Даўней тут жыла Вулляна. Літоўск Кругл.

ВУЛЛЯНІНА НІЗІНА. Месца ў лесе. Раней тут стаяла хата бабкі Вулляны. Бахацец Чав.

ВУЛЛЯНІНА СЦЁЖКА. Сцежка. Некалі па ёй хадзіла Вулляна. Мурын Бор Касц.

ВУЛЛЯНЧЫНА ДАРОГА. Дарога ў лес. Яна праходзіць каля хаты Вулляны. Гавяды Шкл.

ВУРЧАНКА ж. Гаманкі ручай. Майск Бял.

ВУСАВА КРЫНІЦА. Крыніца на хутары Вуса. Селішча Клім.

ВУСАВА ПОЛЕ. Поле. Раней на гэтым месцы была сядзіба пана Вуса. Бліунг Клім.

ВУСАЎ РОГ. Нізкая мясціна. Тут жыве Вусаў. Паўлавічы Кругл.

ВУСАЎ ХУТАР. Лес. Раней на гэтым месцы жыў хутаранец Вус. Бліунг Клім.

ВУСАЎШЧЫНА н. Поле. Даўней тут жыў пан Вус. Раёк Касц.

ВУСАЧОВА БАЛОТА. Балота каля сядзібы селяніна па мянушцы Вусач. Кадзіна Маг.

ВУТРАНЬ ж. Азярцо. Яно вельмі прыгожае на ўзыходзе сонца. Вецъ Бых.

ВУХАВА БАЛОТА. Балота. Яно мае форму вуха. Вільча Глуск.

ВУЦІНА н. Азярцо. Тут водзяцца дзікія качкі. Папоўка Слаўг.

ВУЦІНАЕ БАЛОТА. Балота. Вясной сюды прылятае шмат качак. Утра Маг., Александрыя Шкл.

ВУЦІНАЕ ВОЗЕРА. Возера. Тут водзіцца шмат качак. Пудзелішчы Касц.

ВУШЛАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Вушлава Бял.

ВЫБАРНЁНКАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Выбарнёнкаў. Мяжэнін Клім.

ВЫВАРАТ м. Урочышча. Раней на гэтым месцы выкарчоўвалі лес. Закупленне Кліч.

ВЫВАРАЦЕНЬ м. Месца ў лесе. Раней там было шмат паваленых дрэў. Селішча Кір.

ВЫГАВІШЧА н. Сенажаць. Тут пасвяць коней. Краснаполле.

ВЫГАЛЕНЬ м. Пусты, без усялякай расліннасці ўчастак зямлі. Сямёнаўка Клім.

ВЫГАН м. Частка в. Мачулкі Бабр.; Нізіна ў в. Слаўня Слаўг.; Пустое, незасеянае поле за в. Віркаў Кліч.; Частка сенажаці.

Стайкі Маг.; Месца ў лесе. Раней тут пасвілі кароў. Сахараўка Гор., Клічаў; Дарога. Даўней па ёй ганялі пасвіць на луг (поле) жывёлу. Буда Клім., Забялышын Хоц.; Урочышча каля ракі. Тут пасвяць кароў. Паўлавічы Клім.; Поле. Тут пасвяць жывёлу. Васількі Бял., Харошкі Маг., Даўгавічы Мсц., Наваельня Красн., Дубна Слаўг., Лазовіца Клім., Кухенка Бабр; Луг. Тут пасвяць кароў. Прылессе Чав., Казакоўка Слаўг., Зуі Крыч; Лог. Сюды ганяюць пасвіць жывёлу. Стайкі, Новая Ельня, Казелле, Паджалезніца Красн., Забялышын, Баханы Хоц., Шалаёўка Кір., Чырвоная Слабада, Іванаўка Касц., Вялікая Машчаніца, Алешкавічы Бял., Градзянка Асіп., Усохі, Чорны Бор Быx., Шупені Кругл., Васілевічы Маг., Крычаў, Стайкі Клім.

**ВЫГАНКІ** мн. Урочышча. У часы сталіншчыны адсюль высялялі людзей. Ордаць Шкл.

**ВЫГАНСКАЕ БАЛОТА**. Забалочаная мясціна, зарослая кустамі і вялікай травой. Раней сюды ганялі пасвіць жывёлу. Дубраўка Маг.

**ВЫГАНЧУК** м. Маленькі выган (частка поля ў канцы вёскі). Дразды Кругл.

**ВЫГАНЫ** мн. Мясціна ў лесе. Раней тут пасвілі кароў. Новае Брашчына Шкл., Жавань Гор.; Лог. Сюды ганяюць пасвіць жывёлу. Вялікая Машчаніца Бял.

**ВЫГАР** м. Выгаралае месца. Раней тут быў лес. Пятравічы Быx.; Вадаём (на месцы выгаралага лесу). Ржавец Чэрык., Рэут Клім.; Поле. Калісьці тут было тарфяное балота, якое выгарала. Забалоцце, Забавы Бял.; Месца на лузе. Калісьці тут згарэў хутар. Данькавічы Шкл.; Невялікія кусты за в. Клімавічы Шкл.; Выгаралае месца на балоце. Ясная Паляна Чэрык., Іванаўка Касц.; Поле. Калісьці на гэтым месцы згарэлі хаты. Забялышын Хоц.; Лес каля в. Каўшова. Раней на гэтым месцы распрацоўваліся тарфянікі. Каўшова Мсц.

**ВЫГАРКА** ж. Невялікая паляна ў лесе. Забялышын Хоц., Галічы Клім.; Поле. Летам яно заўсёды выгарае. Дудаковічы Кругл.; Урочышча. Раней тут было тарфяное балота, якое выгарала. Нежкава, Забавы Бял., Восаў Красн.; Выгаралае месца каля возера. Прыгані Кругл.

**ВЫГАРКІ** мн. Месцамі выгаралае поле. Васілевічы Маг., Зарэчча Кругл.

**ВЫГАРНАЕ БАЛОТА**. Балота. Некалі тут выкарчоўвалі дрэвы. Ананічы Крыч.

**ВЫГАРНЫЯ БАЛОТЫ**. Забалочаная мясцовасць, зарослая кустамі. Раней яна гарэла. Кучын Маг.

**ВЫГАРЫ** мн. Ворнае поле. Некалі тут выгараў лес. Рэкта Гор.; Балота каля поля. Яно выгарала ў 1946 г. Няраж Быx.

**ВЫДМА** ж. Пясчаны ўзгорак. Суша, Ваевічы Кліч., Нікaнавічы Быx.

**ВЫДРА** ж. Балота. Калісьці тут вадзіліся выдры. Вішні Касц.

**ВЫДРАНКА** ж. Поле. Раней тут быў лес, які выкарчавалі. Праточнае Быx., Арцёхаў Красн.; Балотца. Калісьці тут вадзілася выдра. Сідаравічы Маг.; Месца ў лесе. Тут растуць пераплеценыя паміж сабой дрэвы. Асмолавічы Клім.; Лугавіна ў лесе. Раней тут бралі мох. Клімавічы. Рэчка. Некалі тут вадзіліся выдры. Тур'я Красн.

**ВЫДРАНСКІЯ ЛЯСЫ**. Лясы вакол в. Выдранка Красн.

**ВЫДРЫЦА** ж. Рэчка. Раней тут вадзіліся выдры. Турышчава Гор.; Няўдобіца. Следзюкі Быx.

**ВЫДРЫЦКАЕ ПОЛЕ**. Поле. Некалі тут была в. Выдрыца. Паўлава Кругл.

В**Ы**ДРЫЦКІ МОСТ. Мост цераз р. Выдрыца. Глыбаў Красн.

В**Ы**ЖАР м. Выгаралае балота. Сідаравічы Маг.; Поле. Некалі тут гарэў торф. Цяцерына Кругл.; Выгаралае месца (узгорак). Ніканавічы Быx.

В**Ы**ЖАРКА ж. Лес. Калісьці ён гарэў. Галавічы Дрыб.; Поле. Раней тут было балота, на якім нічога не расло. Жавань Гор.

В**Ы**ЖАРКІ мн. Поле (на месцы невялікага выгаралага лесу). Хімы Бабр.

В**Ы**ЖАРЫ мн. Поле. Раней на гэтым месцы было балота. Горка Шкл., Вяленік Кліч., Добрае Гор; Балота. Некалі тут гарэў торф. Віркаў Кліч., Заазер'е Бял., Малая Гарожа Асіп.; Месца ў лесе. Раней тут былі канавы, дзе пасвілі кароў. Паплавы Кліч.; Выгаралае месца ў лесе. Перасопня Кліч.; Выпаленае сонцам мясціна. Тут расце чабор, верас. Рэкта Гор.

В**Ы**ЖГА ж. Лес. Калісьці ён быў моцна пашкоджаны агнём. Горня Хоц.

ВЫКАРЧ**О**ЎШЧЫНА ж. Поле. Раней на гэтым месцы быў лес, які выкарчавалі. Курманава, Асінаўка Мсц.

В**Ы**ЛАЗКА ж. Невялічкая вуліца ў в. Дуброва Кліч.

В**Ы**МАЧ ж. Вымаклае месца каля ракі. Недзведзь Клім., Трасціно Хоц.

В**Ы**МАЧЫ мн. Луг каля рэчкі (затапляецца вадой). Стайкі Маг.

ВЫМ**О**ІНА ж. Месца на лузе (вымытае вадой). Глінь Чэрык.

ВЫМ**О**К м. Сенажаць. У час дажджу тут стаіць вада. Татаркі Асіп.

В**Ы**НАЕ н. Луг. Тут пасвяць жывёлу. Чэрыкаў, Лічынка Бял.

В**Ы**ННЯ ж. Вялікая паляна сярод лесу. Следзюкі, Падгор'е Быx., Сталяры Асіп.

В**Ы**ПАСКАЕ БАЛ**О**ТА. Балота. Раней тут пасвілі кароў. Вялікія Лазіцы Бял.

В**Ы**ПУК м. Поле сярод балота. Петухоўка Касц.; Узвышанае месца на лузе. Лабковічы Крыч.

В**Ы**ПУСК м. Поле. Тут пасвяць жывёлу. Забялышын Хоц.; Урочышча. Касперка Клім.

В**Ы**РУБКА ж. Высечаны ўчастак лесу. Заглiннае, Казакоўка, Лапацічы Слаўг., Кулешава Шкл.

В**Ы**РЫЎ м. Поле (зарослае бур'янам). Клімавічы, Гулідаўка Гор.

ВЫСАКАВ**О**ЛЬТНАЯ ж. Месца ў полі. Тут праходзіць высакавольтная лінія. Збышын Кір.

ВЫСАКАВ**О**ЛЬТНІК м. Вялікі лес. Раней тут праходзіла высакавольтная лінія. Лясная Слаўг.

ВЫСАКАГ**О**Р'Е н. Узвышанае месца ў лесе. Вялікія Лазіцы Шкл.

В**Ы**СЕЛКІ мн. Аддаленае ад вёскі месца сярод лесу. У час Вялікай Айчыннай вайны туды перасяляліся людзі з блізкіх вёсак. Шалаёўка Кліч.; Новы пасёлак. Запруддзе Маг., Клімавічы; Некалькі хат (пабудаваны недалёка ад вёскі). Замышкі Кругл., Маляцічы Крыч.; Поле. Раней на гэтым месцы стаялі хаты. Калініна Быx.; Закінутая частка в. Засценкі Маг.; Поле. Калісьці на гэтым месцы быў хутар, куды ў час калектывізацыі высялялі кулакоў. Чамаданы, Карасі Шкл.

В**Ы**СЕЧ ж. Высечаны ўчастак сярод лесу. Падбудкі Чэрык.

В**Ы**СМАЛЬНІК м. Выгаралае месца ў лесе. Чорны Бор Быx.

ВЫС**О**КАЕ БАЛ**О**ТА. Балота на ўзгорку. Праточнае Быx.

ВЫС**О**КАЕ н. Поле. Яно знаходзіцца на ўзвышшы. Брылі Маг.; Узгорак каля в. Манькаўка Мсц.

ВЫС**О**КАЕ П**О**ЛЕ. Поле на ўзгорку. Іванаўка Чав., Сухары Маг., Аляксандраўка Слаўг.

ВЫС**О**КАЯ ГАР**А**. Узгорак. Гарадзішча Маг.

ВЫС**О**КАЯ ГР**Ы**ВА. Узгорак сярод лугу. Цяхцін Бял., Лыкава Маг.; Узвышанае месца. Сідаравічы Маг.

ВЫСОКАЯ ж. Вуліца (размешчаная на ўзгорку). Прудок Слаўг.; Узвышанае месца ў лесе. Восаў Красн.

ВЫСОКІ БАРОК. Поле. Раней на гэтым месцы быў высокі лес. Чорны Бор Бых.

ВЫСОКІ БЕРАГ. Месца на рэчцы. Тут высокія берагі. Эсьмоны Бял., Чудзяны Чэрык.

ВЫСОКІ БОР. Сасновы лес. Асінаўка Мсц.

ВЫСОКІ БОРАК. Поле. Раней на гэтым месцы быў высокі лес. Тур'я, Леніна Красн.

ВЫСОКІ БУГ. Луг (на ўзвышаным месцы). Высокае Шкл.

ВЫСОКІ БЯРЭЗНІК. Урочышча. Некалі тут раслі бярозы. Зацішша Маг.

ВЫСОКІ ЛОГ. Сенажаць каля в. Сутакі Мсц.

ВЫСОКІ м. Вір на рэчцы. Сідаравічы Маг.; Месца на рэчцы. Тут вельмі высокія берагі. Рудня, Малінаўка Бял.

ВЫСОКІЯ КЛАДКІ. Кладкі цераз рэчку. Бель Мсц.

ВЫХАДСКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Яно ўпадала ў р. Днепр. Сідаравічы Маг.

ВЫЧАТЫ мн. Невялікае поле. Размешчана яно асобна ад асноўнага поля. Дзмітраўка Кліч.

ВЫШКОЎКА ж. Лес (на ўзвышаным месцы). Раней тут быў хутар. Свенск, Перагон Слаўг., Трасціно Хоц.

ВЫШКОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота ў Вышкоўскім лесе. Перагон Слаўг.

ВЫШКОЎСКІ ЛЕС. Лес. Раней на гэтым месцы быў хутар. Перагон Слаўг.

ВЫШНІ ЛОГ. Поле (на ўзвышаным месцы). Вепрын Чэрык.

ВЫШОЎСКІ МОСТ. Мост праз раку каля в. Вышова Мсц.

ВЯДЗЬМАРКІНА ВОКА. Месца ў лесе. Некалі тут утапілася шмат жывёлы. Хацень Клім.

ВЯДОМЫ БОР. Бор каля дарогі. Сідараўка Маг.

ВЯДРЫШЧА н. Рэчка са шматлікімі рукавамі. Следзюкі Бых.

ВЯЗАНКА ж. Мясціна. Тут зліваюцца дзве ракі. Лабковічы Крыч.

ВЯЗАЎЕ н. Луг. Тут заўсёды косяць траву. Багацькаўка Мсц.

ВЯЗАЎКІ мн. Палі каля в. Вязаўка Кір.

ВЯЗАЎНЯ ж. Глiністае месца. Вепрын Чэрык.

ВЯЗВІНА ж. Сенажаць з дубовымі зараснікамі. Раней тут секлі вязы для санак. Валынеж Касц.

ВЯЗЗЕ н. Месца ў лесе. Тут вяжуць венікі. Жавань Гор.; Вязкае балота. Новы Быхаў Бых.

ВЯЗІШЧА н. Ускраек лесу. Добрая Гор.; Рэдкалессе. Папоўка Кругл.; Дубовыя зараснікі. Раней тут секлі вязы для санак. Семукачы Маг.

ВЯЗІШЧЫ мн. Балоцістае месца. Тут расце адна лаза. Камяніца Бял.

ВЯЗКАЕ н. Багністае балота. Адаменка Бых.

ВЯЗКІ м. Участак дарогі. Раней тут, на ўскраўку, раслі два вялікія вязы. Залесавічы Крыч.

ВЯЗКІ РАВОК. Сенажаць. Зарубец Крыч.

ВЯЗОВАЯ ж. Частка цёмнага лесу. Калісьці тут раслі пераважна вязы. Курманава Мсц.

ВЯЗОВЫ ЛОГ. Лог. Раней тут расла лаза, з якой пляпі кошыкі. Шаламы Слаўг.

ВЯЗОК м. Луг. Некалі тут вязалі лён. Азарычы Слаўг.

ВЯЗОЎНЯ ж. Поле. Тут расце шмат вязаў. Курманава Мсц.

ВЯЗОЎСКІЯ мн. Частка поля. Тут вязкая глеба. Вышова Мсц.

ВЯЗЫ мн. Урочышча. Тут растуць вязы. Сякерка, Вялікая Машчаніца Бял., Загаранкі, Літоўск Кругл.

ВЯЗЫЧЫНКА ж. Рэчка каля в. Вязычын Асіп.

ВЯЗЬ ж. Гразкае месца. Нікана-вічы Бых.

ВЯЗЬМЕНКІ мн. Поле каля р. Вязьменка. Градзянка Асіп.

ВЯЗЬНІК м. Месца. Тут растуць вязы. Шупені Кругл.

ВЯЛІКА ПОЛЕ. Малады лес (на месцы былога поля). Гарадзішча Шкл.

ВЯЛІКАЕ БАЛОТА. Балоцістае месца вялікіх памераў. Няраж, Сялец Бых., Карпаўка Бял., Градзянка Асіп., Касцюковічы Кругл.; Луг. Некалі на гэтым месцы было балота. Гарадзішча Шкл.; Поле. Раней тут было балота. Вялікая Машчаніца Бял.

ВЯЛІКАЕ КУПАННЕ. Месца на рэчцы. Тут заўсёды купаюцца. Азарычы Слаўг.

ВЯЛІКАЕ МАЧАЛІШЧА (МАЧАЛІЦА). Балоцістая мясцовасць паміж двума палямі. Туркі Бабр.

ВЯЛІКАЕ ПАТАПЕЧЧА. Балота, зарослае мохам, кустоўем. Мхінічы Красн.

ВЯЛІКАЕ ПОЛЕ. Поле вялікіх памераў. Сіпайлы Бял., Прылессе Чав.; Лес. Некалі на гэтым месцы было поле. Акунёўка Шкл.

ВЯЛІКАЯ ГРАДА. Востраў. Раней тут была рака. Чэрыкаў.

ВЯЛІКАЯ ДАРОГА. Дарога. Калісьці па ёй сяляне ездзілі ў горад. Завалочыцы Глуск.

ВЯЛІКАЯ КРЫНІЦА. Крыніца паміж двума балотамі. Вепрын Чэрык.

ВЯЛІКАЯ ЛУЖА. Сенажаць. Сядзіч Бых.

ВЯЛІКАЯ ЛУКА. Луг. Вялікая Машчаніца Бял.

ВЯЛІКАЯ РЖАЎКА. Жытняе поле. Адамаўка Гор.

ВЯЛІКАЯ СТАРЫНА. Мясціна ў лесе. Даўней тут быў хутар. Паплавы Кліч.

ВЯЛІКІ АЛЕШНІК. Лес. Даўней тут расло шмат алешніку. Чэрнеўка Шкл.

ВЯЛІКІ БОР. Хваёвы лес (вялікіх памераў). Поўстка Глуск., Чорнае, Данькавічы Шкл.; Цэнтральная сядзіба калгаса. Раней на гэтым месцы рос вялікі хваёвы лес. Градзянка Асіп.

ВЯЛІКІ БРОД. Неглыбокае месца на рацэ. Навасёлкі Шкл.; Месца каля дарогі, залітай вадой. Забавы Бял.

ВЯЛІКІ ВОСТРАЎ. Поле на ўзвышаным месцы сярод балота. Лапаціна Мсц.

ВЯЛІКІ ГРУД. Сенажаць сярод лесу. Поўстка Глуск.

ВЯЛІКІ КАМЕНЬ. Поле. Тут ляжаў вялікі камень. Дубна Слаўг., Сельцы Глуск.

ВЯЛІКІ КРЫЖ. Месца ў вёсцы. Тут перакрыжоўваюцца дзве вялікія дарогі. Плешчыцы Шкл.

ВЯЛІКІ ЛЕС. Лес (вялікіх памераў). Закупленне Кліч.; Поле. Адаменка Бых., Макавічы Глуск.

ВЯЛІКІ ЛОГ. Луг (вялікіх памераў). Паўлаўка Маг., Свенск, Перагон Слаўг., Стаяны Кліч.

ВЯЛІКІ ЛУГ. Вялікі заліўны луг каля р. Бярэзіны. Бабруйск; Луг (вялікіх памераў). Закупленне, Слабодка Кліч.; Прылессе Чав.; Вялікі луг паміж в. Загаранкі і лесам. Загаранкі Кругл.

ВЯЛІКІ МОСТ. Мост. Раней ён быў шырокі. Перагон Слаўг.

ВЯЛІКІ МОХ. Хвойнік. Курманава Мсц.

ВЯЛІКІ ПЕРАХОД. Частка абмялелай рэчкі. Тут людзі пераязджаюць па сена на другі бок р. Сож. Сялец Мсц.

ВЯЛІКІ РАВОК. Купальня на р. Бесядзь. Хоцімск.

ВЯЛІКІ РОГ. Луг (у выглядзе рога). Слабодка Кір.

ВЯЛІКІ ХУТАР. Урочышча. Раней тут быў хутар, на якім жыла мнагадзетная сям'я. Карпілаўка Клім.

ВЯЛІКІЯ АСТРАЎКІ. Балота. Ліпень Асіп.

ВЯЛІКІЯ БАЛОТЫ. Некалькі балот на адной тэрыторыі. Раней яны былі вельмі глыбокія і багністыя. Шупені Кругл.

ВЯЛІКІЯ ЛЕНІ. Сенажаць (вялікіх памераў). Наркі Чэрык.

ВЯЛІКІЯ ЛУГІ. Поле (вялікіх памераў). Тут расце трава. Восаў Красн.

ВЯЛІКІЯ мн. Сенажаць. Тут заўсёды расце спорная трава. Гарадок Глуск.

ВЯЛІКІЯ ШТАНЫ. Лес каля рэчкі (падобны па сваёй форме на штаны). Старасёлы Чав.

ВЯРБЕЖЧЫНА ж. Месца ў лесе. Тут многа вербаў. Зара Чэрык.

ВЯРБІЛАВА н. Поле. Раней тут жыў Вярбілаў. Вышова Мсц.

ВЯРБІЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Раней тут жыў свяшчэннік Вярбіцкі. Клін Мсц.

ВЯРБНІК м. Месца каля ракі. Раней тут расло шмат вербаў. Дабужа Бых.

ВЯРБОВЫ ЛУГ. Луг. Калісьці тут раслі вербы. Камяніца Бял.

ВЯРОЎКІ мн. Вузкае і доўгае поле. Туркі Бабр.

ВЯРХІ мн. Канава. Тарасавічы Асіп.; Узвышанае месца. Пятравічы Бых.

ВЯРХОЎЕ н. Поле (на ўзвышаным месцы). Гусарка, Янаўка Клім.

ВЯРЭНЯ ж. Забалочаны лес. Каўшы Красн., Чырвоная Слабада Касц., Маслакі Гор., Пацяраеўка Слаўг.

ВЯСЁЛАЕ ПОЛЕ. Поле. Даўней калгаснікі адзначалі там дзень вясны. Вепрын Чэрык.

ВЯСЁЛАЎКА ж. Рэдкі хваёвы лес. Раней тут людзі збіраліся на гулянкі. Катка, Чыкілі Глуск.

ВЯСЁЛАЎСКІ ЛУГ. Луг. Тут заўсёды сонечна. Брылі Маг.

ВЯСЁЛАЯ БЕДНАТА. Пасёлак. Тут жылі бедныя, але вясёлыя людзі. Болін Красн.

ВЯСЁЛАЯ ВУЛІЦА. Частка вёскі. Тут заўсёды гучаць песні і музыка. Добрае Мсц.

ВЯСЁЛАЯ ГОРКА. Частка вёскі. Тут заўсёды збіралася моладзь. Добрая Гор.

ВЯСЁЛАЯ ПАЛЯНА. Паляна. Тут заўсёды збіралася моладзь. Бель Маг.

ВЯСЁЛКА ж. Невялікая паляна ў лесе. Бель Маг.

ВЯСЁЛКІНА ХАТА. Хата. Тут жылі вясёлыя людзі. Коўбча Клім.

ВЯСЁЛЫ м. Пасёлак у в. Хамінічы Гор.

ВЯСНІНСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Вясной па ёй цяжка праехаць або прайсці. Мяжэнін Клім.

ВЯТРАК м. Поле. Даўней тут стаяла невялічкая хата, якую потымператварылі ў ветраны млын. Сідаравічы Маг.

ВЯХАЎ м. Поле на месцы вёскі. Панкратавічы Бабр.



## Г

ГАБАРОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Даўней тут жыла сем'я Габароўскага. Слабада Кір.

ГАБРАВЕЛЕЎШЧЫНА ж. Поле з балотам. Некалі тут быў хутар Габрывеляў. Пагост Глуск.

ГАБРЫЕЛЕВЫ ПАСАДКІ мн. Невялікі лес. Некалі тут садзіў дрэвы Габрыель. Алешкавічы Бял.

ГАДАВА БАЛОТА. Забалочаная мясціна. Тут водзяцца змеі. Нічыпаравічы Шкл.

ГАДАЛЬНАЯ ПАЛЯНА. Паляна. Тут варажылі дзяўчаты. Лабковічы Крыч.

ГАДАЎКА ж. Вуліца. Калісьці на гэтым месцы было балота і вадзіліся змеі. Ермалавічы Бял.

ГАДЗЮХА ж. Хмызняк. Тут шмат змей. Стайкі Клім., Слабада Кліч.

ГАДЗЮШНІК м. Лясок. Тут водзіцца шмат змей. Благаўка Шкл., Галоўчын Бял., Вільчыцы Маг.; Старыя могілкі. Клімавічы.

ГАДКА ж. Балоцістая мясціна. Тут шмат чарніц. Суша Кліч.; Поле. Раней тут вадзілася шмат змей. Саннікі Кругл.; Рачулка ў в. Загацце. Даўней тут была гаць. Нясята Кліч.

ГАДКІ мн. Луг. Тут працякае невялікая рэчка з бруднай цёмнай вадой. Вомелля Бабр.

ГАДЫЛЁЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Гадылёва Бых.

ГАЁК м. Бярозавы гай. Тут расце шмат баравікоў. Русакі Шкл., Добрае Мсц.; Поле. Раней тут быў невялікі гай. Бель Крыч.

ГАЁЎСКАЯ ПАВАРОТКА. Паваротка на в. Гаі. Жукава Маг.

ГАЁЎСКІ САД. Сад. Раней тут была в. Гай. Гаева Кругл.

ГАЗІКАВА ПАЛЯНА. Мясціна ў лесе. Раней тут жыла сям'я Газікавых. Вольніца Бял.

ГАЙДАМАНАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў пан Гайдамах. Нясята Кліч.

ГАЛАВАЧОВА КЛАДБІШЧА. Поле. Даўней тут былі пахаваны Галавачовы. Башкіраўка Шкл.

ГАЛАКОЎКА ж. Неўрадлівае поле. Рагі, Прудок Слаўг.

ГАЛАЛОБАЎКА ж. Урочышча. Раней тут жылі катаржнікі. Цёмны лес Гор., Альшанікі Кругл.

ГАЛАНЦОЎКА ж.Урочышча. Некалі тут быў хутар. Барчыцы Кір.

ГАЛАПУПКА ж. Неўрадлівае поле. Лыкава Маг.

ГАЛАХАВА ЯМА. Глыбокае месца на рацэ. Калісьці тут утапіўся мужык Галахаў. Зуі Крыч.

ГАЛАХАЎ РОЎ. Роў. Раней непадалёк жылі Голахавы. Каўшова Мсц.

ГАЛАЧОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога з в. Галачоўка Чав.

ГАЛАШЭЎСКАЯ ДАЧА. Мясціна. Некалі тут жыў пан Галаш. Асман-Касаева Бял.

ГАЛЕНЕЎШЧЫНА ж. Спалены ўчастак лесу. Падзамша Глуск.

ГАЛЁНІ мн. Цэнтральная вуліца. Ліпень Асіп.

ГАЛІСТАЕ н. Рэдкі лес. Чарняўка Хоц.

ГАЛІЦА ж. Неўрадлівае поле. Кулікоўка Слаўг., Трылесіна Шкл., Гонча Кліч.

ГАЛІЦКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Галішчына. Коўбча Кліч.

ГАЛІЦЫ мн. Пустка. Вуглата Асіп.

ГАЛКАВА ГНЯЗДО. Балота. Тут заўсёды гняздзяцца галкі. Галічы, Буда Клім.; Круглае балота. Таклёўка Хоц.

ГАЛКАЎСКАЕ н. Поле. Раней тут быў пасёлак Галкоўскае. Аўтухоўка Клім.

ГАЛКІН ЛЕС. Тут шмат галак. Гута Клім.

ГАЛКОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі яно належала Галкоўскаму. Новае Брашчына Шкл.

ГАЛЛЁ н. Пасёлак (з трох бакоў абкружаны лесам). Запруддзе Маг.

ГАЛОДНЫЯ МОГІЛКІ. Урочышча. Некалі тут хавалі людзей, якія паміралі з голаду. Палянікавічы Бых., Рабяткі Крыч.

ГАЛОНІХІНА н. Лес. Раней ён належаў багатай кабеце Галонісе. Карасі Шкл.

ГАЛОЎКА ж. Глыбокае месца на р. Друць. Ядраная Слабада Кліч.

ГАЛОЎЧАНКА м. Лес. Праз яго ездзяць у в. Галоўчын Бял.

ГАЛОЎЧЫНСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Галоўчын Бял.

ГАЛОЎЧЫЦЫ мн. Невялікі хутар. Раней тут жылі Галаўнёвы Горкі Чэрык.

ГАЛУБА ж. Рэчка (з блакітнай вадой). Каменка Слаўг.

ГАЛУБАЯ КРЫНІЦА. Крыніца (з чыстай, празрыстай вадой). Кліны Слаўг.

ГАЛУБІНКА ж. Частка ракі. На беразе яе расце шмат блакітных кветак. Ордаць Шкл.

ГАЛУБІЦКАЯ ПУШЧА. Лес каля в. Галубоўка Бял.

ГАЛУБОЕ БАЛОТА. Балота. Тут расце шмат буякоў. Галубоўка Бял.

ГАЛУБОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Галубоўка Бял.

ГАЛЫ мн. Лес. Бутрамееўка Бых.

ГАЛЫНАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Галынаўка Кір.

ГАЛЫНКА ж. Пустка. Слабада Асіп.

ГАЛЬБА ж. Неўрадлівыя лес і поле. Масцішча Глуск.

ГАЛЬКАВА н. Поле. Тут шмат камянёў. Доўгавічы Мсц.

ГАЛЬКІНА ВОЗЕРА. Возера. Даўней тут утапілася дзяўчына Галя. Занькаўшчына Мсц.

ГАЛЬКОЎКА ж. Частка вёскі. Раней тут жыла сям'я, у якой было тры Галі: маці, дачка, унучка. Чорны Бор Бых.

ГАМЛЁВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапаў дзядзька Гамель. Доўгавічы Мсц.

ГАМШЭЕЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Гамшэй. Азарычы Слаўг.

ГАНІНА СЦЕЖКА. Сцежка да Ганінага двара. Рэкта Слаўг.

ГАННАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Тут расце жыта. Зарубец Крыч.

ГАННАЎШЧЫНА ж. Поле. Да рэвалюцыі гэта зямля належала пану Ганскаму. Трусак Касц.

ГАННАЧКІНА ГАРА. Узгорак. Некалі тут стаяла хата Ганны. Трылесіна Шкл.

ГАННІН КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Каля яго жыве Ганна. Бракава Маг.

ГАННІН РАВОК. Равок. Раней каля яго жыла Ганна. Жданавічы Дрыб.

ГАННІН РОЎ. Роў. Даўней каля яго жыла Ганна. Прыбар Бял.

ГАННІН САД. Невялікі садок (5-7 яблынь). Некалі тут жыла Ганна. Дужаўка Чав.

ГАННІН ЯР. Яміна. Вішанька Шкл.; Месца ў полі. Калісьці, паводле падання, тут замерзла служанка Ганна, якая вярталася з панскага двара дахаты. Вяззе Асіп.

ГАННІНА БАЛОТА. Балота. Калісьці тут утапілася дзяўчына Ганна. Галічы Клім., Бардзінічы Чав.

ГАННІНА БЯРОЗА. Бяроза. Даўней на ёй павесілася жанчына Ганна. Сава Гор.; Бяроза за вёскай. Некалі яе пасадзіла Ганна. Слабодка Кліч.

ГАННІНА ВЕРБАЧКА. Вярба каля Ганнінай хаты. Стайкі Клім.

ГАННІНА ДАРОГА. Дарога. Калісьці па ёй хадзіла Ганна. Гарадзец Бых.

ГАННІНА КОПАНКА. Невялікая сажалка каля хаты Ганны. Леніна Красн.

ГАННІНА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі яе знайшла Ганна. Асавец Крыч.

ГАННІНА ПОЛЕ. Участак зямлі. Раней тут сеяла авёс Ганна. Літоўск Шкл.

ГАННІНА РАБІНКА. Рабіна. Калісьці яе пасадзіла Ганна. Бель Крыч.

ГАННІНА СЛЯЗА. Возера. Даўней тут утапілася дзіця Ганны. Занькаўшчына Мсц.

ГАНУСІНА БАЛОТА. Балота (побач з хатай Ганусі). Тур'я Красн.

ГАНЧ**А**РНЯ. Пабудова ў канцы вёскі. Даўней тут жылі і працавалі ганчары. Горка Шкл.

ГАНЧАР**О**ВА БАЛ**О**ТА. Кустоўе. Раней на гэтым месцы было балота, якое знаходзілася каля Ганчаровай сядзібы. Мяжэнін Клім.

ГАНЧАР**О**ВА ДАР**О**ГА. Дарога каля Ганчаровай сядзібы. Дрычын Асіп.

ГАНЧАР**О**Ў ЛЕС. Лес. Даўней каля яго было мястэчка, у якім жылі ганчары. Туркі Бабр.

ГАНЧАР**О**ЎКА ж. Луг. Калісьці тут касіў ганчар. Дубна Слаўг.; Вуліца. Раней тут жыло шмат людзей з прозвішчам Ганчаровы. Іскань Быx.; Поле. Некалі тут было мястэчка, дзе жылі ганчары. Хімы Бабр.; Раён г. Крычава. Раней тут жылі ганчары. Крычаў; Поле. Калісьці тут здабывалі гліну. Зуі Крыч.; Урочышча. Даўней тут жылі ганчары. Нясята Кліч.

ГАНЧАР**Ы** мн. Неўрадлівае глiністае поле. Стараселле Гор.

ГАНЧ**А**РЫШЧА н. Частка вёскі. Раней тут выраблялі гліняны посуд. Камяніца Бял.

ГАН**Э**РЫКАЎ Х**У**ТАР. Поле. Калісьці тут жылі кулакі Ганэрыкі. Ліпень Асіп.

ГАПАЛ**Я**ДАК м. Поле і лес каля в. Ганнаўка Клім.

Г**А**ПКІН ВІР. Вір на рацэ. Ён знаходзіцца насупраць Гапкінай хаты. Славені Шкл.

ГАП**У**ЛІН Б**Е**РАГ. Месца на рацэ. Некалі тут утапілася дзяўчына Гапуля. Рудня Бял.

ГАР м. Поле. Раней на гэтым месцы было балота, на якім доўгі час гарэў торф. Сабалёўка Клім.; Частка в. Паўлавічы Клім.; Выгаралы лес. Мосін Хоц.; Возера сярод вёскі. Тут заўсёды плаваюць гусі. Юзафоўка Хоц.; Выгаралае месца. Пятравічы, Падгор'е Быx.; Поле. Раней тут была няўдобіца, на якой выпальвалі старую траву. Балбечына Гор.; Невялікае балота, акружанае абгарэлымі кустамі. Раманькі Красн.

ГАРАВ**А**Я ж. Лес (на ўзвышаным месцы). Дубоўка Кругл.

Г**А**РАНАЕ н. Выгаралы лес. Мачулкі Бабр.

ГАР**А**НШЧЫНА ж. Узвышанае месца ў в. Мядзвёдаўка Маг.

ГАРБАВ**І**ЦКІ ГАЁК. Змешаны лес. Бялынкавічы Касц.

ГАРБ**А**КА ж. Няроўнае, з узгоркамі поле. Смолка Чав.

ГАРБАЦ**Э**ВІЧАВА П**О**ЛЕ. Поле. Даўней яно належала Гарбацэвічу. Ручай Касц.

ГАРБУЗ**О**ЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жылі гаспадары па мянушцы Гарбузы. Балбечына Гор.

ГАРБ**Ы** мн. Узгаркаватае поле. Халмы Маг.

ГАРБЫЛЁВА П**О**ЛЕ. Поле. Раней яно належала сям'і Гарбылёвых. Забалоцце Бял.

ГАРБЫЛ**І** мн. Поле на месцы выкарчаванага лесу. Каменка Чав.

ГАРДЗ**Е**ЕВА В**О**ЗЕРА. Возера каля хаты дзядзькі Гардзея. Бялынкавічы Касц.; Балота. Даўней на гэтым месцы было возера, якое выкапаў Гардзей. Жаркі Касц.

ГАРЛ**А**Ч м. Месца на рацэ. Тут моцна віруе вада. Гута Клім.

ГАРЛАЧ**О**Ў ПАСЁЛАК. Поле. Раней тут быў хутар. Благавічы Чав.

ГАРП**І**НІНА БАЛ**О**ТА. Поле. Раней тут жыла Гарпіна. Забалоцце Бял.

ГАРШЧ**О**К м. Месца ў лесе. Чорны Бор Быx.; Поле (па форме падобнае на гаршчок). Лічынка Бял.

Г**А**РЫ мн. Балота. Некалі тут гарэў торф. Глухая Сяліба Быx.; Мясціна ў лесе. Раней тут выпальвалі лес. Градзянка Асіп.

Г**А**РЫШЧА н. Поле на ўзгорку. Чырвоны Бор Бял.; Гарыстая

мясціна ў лесе. Сідаравічы Маг.; Некалькі хат на ўзгорку. Вялікія Лазіцы Шкл., Маляцічы Кліч.; Узвышанае месца. Глінь Чэрык., Дужаўка Чав., Ржаўцы Шкл.; Урочышча. Раней тут згарэў хутар. Аўчыненкі Шкл.; Поле. Даўней тут гарэла жыта. Раманавічы Маг.; Выгаралая сенажаць. Супанічы Маг.

ГАСПОДНЯ СЛЯЗА. Крыніца. У ёй вада заўсёды студзёная і халодная. Папкоўка Гор.

ГАСЦЮШЫНА ж. Поле. Славені Шкл.

ГАТАР м. Сажалка. Нясята Кліч.; Невялікае дрэваапрацоўчае прадпрыемства каля сажалкі. Нясята Кліч.

ГАТКА ж. Забалочаная мясцовасць. Стаялы Кліч.

ГАТКІ мн. Рачулка. Праз яе пакладзены насціл з жэрдак. Зуі Крыч.

ГАЎРЫЛАВА КОПАНЬ. Невялікая сажалка . Даўней каля яе стаяла хата Гаўрылы. Бахацец Чав.

ГАЦЕЦКАЕ ВОЗЕРА. Непраходнае балота. Раней тут была сажалка, якую выкапаў Гацецкі. Жаркі Касц.

ГАЦЬ ж. Грэбля. Разальмоў Хоц.

ГЕБЕЛЕЎШЧЫНА ж. Лясок. Некалі ён належаў пану Гебельсу. Займішча, Ордаць Шкл.

ГЕДМАНАЎ ЛЕС. Паляна. Даўней тут жыў купец Гедман. Градзянка Асіп.

ГЕЛІНА ПАЛЯНА. Мясціна. Раней тут быў хутар Гелі. Заеліца Глуск.

ГЕНЕРАЛЬСКІ ЛУГ. Луг каля в. Давыдавічы Бых.

ГЕНЬКАЎ ХУТАР. Мясціна. Калісьці тут жыў хутаранец Генька. Касцінка Маг.

ГЕРМАНАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут быў невялікі лес, які выкарчаваў Герман. Дубасна Мсц.

ГЕРМАНАВА ГАРА. Месца каля ракі. Да вайны тут жыў немец Герман, які меў малатарню. Мыслоціна Глуск.

ГЕРМАНАЎ ЛЕС. Лес. Раней тут працаваў лесніком Герман. Збышын Кір.

ГЕРМАНІЯ ж. Хаты на водшыбе. Сямёнаўка Клім.; Вуліца. Даўней тут жыў немец. Ціманава Клім.

ГЕРОЎШЧЫНА ж. Луг. Тут пасвяць свойскіх жывёл. Зарубец Крыч.

ГІБАЛЫ мн. Гіблая балоцістая мясціна. Чырвоная Слабада Касц.

ГІБЕЛЬНАЕ МЕСЦА. Непраходнае балота. Грудзінаўка Бых.

ГІБЛАЕ БАЛОТА. Багністае балота. Раней тут часта гінулі людзі. Рудня Бял.

ГІБЛАЕ МЕСЦА. Урочышча. Даўней тут было балота. Карпілаўка Клім.

ГІБЛАЯ СЦЕЖКА. Сцежка праз балота з в. Жаролы ў в. Рагі Слаўг.

ГІРАЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Гіраўцы. Радомля Чав.; Рэчка. Паводле падання, некалі пан забіў гіраю мужыка і скінуў яго ў гэтую рэчку. Гутараўшчына Мсц.

ГІРЫКАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней яно належала Гірыку. Гіжэнка Слаўг.

ГІТАРА ж. Паляна. Яна мае форму гітары. Баханы Хоц.

ГІТАРЫН МАГАЗІН. Магазін. Калісьці ў ім працавала жанчына па мянушцы Гітара. Новы Быхаў Бых.

ГІЦАЛЕВА МОРА. Возера. Некалі яго выкапаў Гіцаль (прозвішча). Буглаі Красн.

ГЛАДЭХІН ХУТАР. Сенажаць. Раней тут жыў дзед Гладэй (мянушка). Сялец Гор.

ГЛАФІРЫНА СЦЕЖКА. Сцежка. Некалі па ёй хадзіла цётка Глафіра ў ягады. Вязаўніца Асіп.

ГЛЕБАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Калісьці каля яе жыў панскі служка Глеб. Гарадзішча Маг.

ГЛЕБАЎКА ж. Ягадная мясціна ў лесе. Яна знаходзіцца непадалёку

ад в. Глебава. Чорнае Шкл.; Поле. Даўней тут жыў гаспадар Глеб. Таценка Кліч.; Урочышча. Раней тут знаходзілася вёска. Дразды Кругл.

ГЛЁКАЎ ЛУГ. Поле і сенажаць. Раней яны належалі кулаку Глёкаву. Камяніца Бял.

ГЛІНАЎКА ж. Частка вёскі. Раней тут жылі ганчары. Ордаць Шкл.

ГЛІНІЦЫ мн. Лес (з глiністай глебай). Літоўск Кругл.

ГЛІНІШЧА н. Сенажаць (каля лесу з гліністай глебай). Кіраўск; Гліністая мясціна каля вёскі. Тут бяруць (або бралі) гліну. Аўтухоўка, Буда Клім., Нежкава Бял., Гай Кругл., Хонава Хоц., Слаўня Слаўг.; Поле (на гліністым месцы). Прылессе Чав.; Гліністае месца ў лесе. Касцінка Маг, Кароўчына Бых.

ГЛІНІШЧЫ мн. Урочышча. Раней тут бралі гліну. Дразды Кругл., Поўстка Глуск., Бутрамееўка Быx.; Гліністае поле. Капані Чав.; Гліністае месца ў лесе. Падзамша Глуск.

ГЛУШЫНЫ РОЎ. Роў. Калісьці тут вадзілася шмат глушцоў. Катка Глуск.

ГЛЫБОКАЯ ДАРОГА. Дарога ў нізіне. Горкі Крыч.

ГЛЫБОКІ БРОД. Месца на рэчцы. Тут можна перайсці р. Сож. Вепрын Чэрык.

ГЛЫБОКІ ЛЕС. Лес каля в. Глыбокае. Новая Ніва Маг.

ГНАЁЎКА ж. Поле. Сюды на зіму вывозілі гной. Шалаёўка Кір.

ГНЕЎКА ж. Балота з непраходным зараснікам. Клімавічы.

ГНІЛІШЧА н. Забалочаная мясціна. Раней тут было балота. Сянная Клім.

ГНІЛЯКІ мн. Забалочаны луг. Сідаравічы Маг.

ГНЯКОВА н. Урочышча. Раней тут быў пасёлак. Слабодка Кліч.

ГНЯТЫ мн. Вуліца. Некалі тут жыў Гнёт (мянушка). Слабада Клім.

ГОБАРАВАЎ ХУТАР. Поле. Даўней тут жыў кулак Гобар. Стужыца Маг.

ГОБАРАЎ РОЎ. Роў. Раней каля яго жыў Гобар (прозвішча). Дрыбін Гор.

ГОЙКАЎКА ж. Вуліца. Калісьці тут збіралася і гуляла моладзь. Дубравіца Клім.; Луг. Раней тут жыў кулак Гой. Сямёнаўка Клім.; Лугавіна каля р.Лабжанкі. Некалі тут дзеці любілі скакаць з кручы ў ваду. Клімавічы.

ГОЙКАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Гойкі, Глінь Чэрык.; Лес побач з р. Гойкаўка. Селішча, Гусарка Клім.

ГОЙКАЎСКІЯ БАЛОТЫ. Луг. Тут працякае рачулка Гойкаўка. Селішча Клім.

ГОЛАЕ БАЛОТА. Багністая мясціна. Тут загінула шмат людзей Цяхцін Бял.; Забалочанае месца. Тут нічога не расце. Пруды, Пясчанка Шкл.; Паша. Раней на гэтым месцы было балота. Халмы Красн.; Луг. Некалі на гэтым месцы нічога не расло. Вуглы Шкл.

ГОЛАЯ ПАЛЯНА. Месца ў лесе. Тут не растуць дрэвы. Марцянавічы Кругл.

ГОЛАЯ ПЯТА. Поле. Карасі Шкл.

ГОЛДАЎКА ж. Неўрадлівае поле. Круча Кругл.

ГОЛІКАВА ГАРА. Лес. Раней тут жыў ляснік Голік. Лебядзёўка Слаўг.

ГОМАНАЎ САД. Поле. Калісьці на гэтым месцы быў сад, які належаў пану Гоману (мянушка). Грыбіна Кругл.

ГОНЬ ж. Доўгая паласа зямлі. Слабада Асіп.

ГОНЬКАЎ БРОД. Неглыбокае месца на рацэ. Некалі каля яго жыла сям'я Гонькі. Ордаць Шкл.

ГОРАНСКАЕ ПОЛЕ. Поле каля в. Горанка Красн.

ГОРАНСКАЯ ПУШЧА. Вялікі лес недалёка ад в. Горанка Красн.

ГОРАНСКІ ШЛЯХ. Дарога ў в. Горанка Красн.

ГОРА-ПАСЁЛАК. Пасёлак. Даўней тут жылі бедныя людзі. Капусціна Кір.

ГОРАЎ ЛУГ. Куп'істы, нязручны для касьбы луг. Малая Машчаніца Бял.

ГОРБ м. Узвышанае месца. Слабада Асіп.

ГОРБАЎКА ж. Няроўнае поле. Сідаравічы Маг.

ГОРБАЎКІ мн. Гарыстая мясцовасць. Камяніца Бял.

ГОРКА ж. Поле на ўзгорку. Баханы Хоц.; Частка горада на ўзвышаным месцы. Крычаў; Узгорак у лесе. Адаменка Бых.; Яр над рэчкай. Рудня Слаўг.; Хата на ўзгорку. Леніна Красн.

ГОРКА КАВАЛЯ ж. Невялікі ўзгорак. Раней тут стаяла кузня. Рудня Клім.

ГОРКАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Горкі Чэрык.

ГОРКАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Горкі Чэрык.

ГОРКІ мн. Лес на ўзвышаным месцы. Мокрае Бых., Крапіўня Касц., Коўбча Кліч.; Гарыстая мясцовасць. Нясята Кліч.

ГОРЛА н. Вузкая палоска лесу ўздоўж балота. Ядраная Слабада Кліч.

ГОРНАЕ н. Поле (за ўзгоркам). Капані Чав.

ГОРЫ мн. Гарыстая мясцовасць. Уюн Бых., Барчыцы Кір., Раздзел Мсц.; Лес (на ўзвышаным месцы). Халмянка Чэрык.; Узгорак. Паводле падання, тут у 1912 годзе былі захаваны французы. Лудчыцы, Сапяжынка Бых., Коўбча Кліч.

ГОСЛІВА ПОЛЕ. Лес. Даўней ён належаў пану Гословіу. Селішча Клім.

ГОСЛІЎ ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыў пан Госліў. Гусарка Клім.

ГОСЦІКАВА ГАРА. Узгорак. Супанічы Маг.

ГРАДКА ж. Участак сасновага лесу каля р. Сож. Сялец Мсц.

ГРАДЫ мн. Месца ў лесе. Раней тут былі агароды. Глінь Чэрык., Забалоцце Бял.

ГРАБАЛАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Грабалава Чав.

ГРАБОВАЕ н. Мясціна ў лесе (з грабамі). Буда Касц.; Частка лесу за в. Дрычын Асіп.

ГРАБШЧЫНА ж. Лес. Раней тут раслі грабы. Белая Красн., Перагон Слаўг.; Лес каля в. Бутрамееўка Бых.

ГРАВІЦА ж. Месца на полі. Раней тут раслі кусты. Кулешава Шкл.

ГРАДА ж. Луг паміж двух азёр. Вепрын Чэрык.; Невялікае поле. Раней тут калгас сеяў гародніну. Шалаёўка Кір.; Частка р. Пціч каля в. Дрычын Асіп.; Паляна ў лесе. Тут растуць нібы на градцы суніцы. Гарожа Асіп.; Паласа цвёрдай глебы сярод забалочанай мясцовасці. Вязаўніца Асіп.

ГРАДАВІНА ж. Лес побач з в. Болін Красн.

ГРАДАЧНАЯ н. Балота. Вакол яго знаходзяцца градкі. Хацень Клім.

ГРАДЗЬ ж. Мясціна ў лесе. Тут растуць пераважна лісцевыя дрэвы. Молатаў Слаўг.; Балота ў лесе. Петухоўка Касц.; Палоска лесу (на ўзвышаным месцы). Макаранцы Маг.

ГРАДКІ мн. Заліўны луг. Чырвоны Бор, Іскры Бял.; Поле. Раней тут былі сялянскія надзелы. Ямнае, Бутрамееўка Бых., Нясята Кліч.; Мясціна ў лесе. Тут расце шмат грыбоў. Рожава Мсц.

ГРАЗАЎКА ж. Дарога (праз забалочаную мясцовасць). Бель Крыч.

ГРАЗІ мн. Лог. Раней тут былі канавы. Благавічы Чав.

ГРАЗІВЕЦ м. Нізкая балоцістая мясціна. Вясной і восенню тут цяжка прайсці. Новая Лешча Шкл.; Балота. Ходараўка Гор., Лапашавічы Клім.; Частка вуліцы. Тут заўсёды гразка. Рагі Слаўг.; Тарфяное месца. Даўней тут быў лес. Хацкавічы Чав.; Месца ў полі. Тут вельмі гразка. Віроўка Касц.

ГРАЗІВЕЦКАЕ ПОЛЕ. Поле за в. Гразівец Клім.

ГРАЗІВЕЦКІ ЛУГ. Луг у нізіне. Пасля дажджу тут вельмі гразка. Мядзвёдаўка Маг.

ГРАЗНАЕ БАЛОТА. Багністая балота. Антонаўка Чав.

ГРАЗНАЕ ВОЗЕРА. Возера. Раней тут скідвалі смецце. Карпілаўка. Клім.

ГРАЗНАЯ ВАДА. Месца на рэчцы. Тут вельмі брудная вада. Сялец Клім.

ГРАЗНАЯ ж. Вуліца ля возера. Забялышын Хоц.

ГРАЗНАЯ ЛУЖА. Нізкае месца ў лесе. Тут заўсёды брудная вада. Ржавец Чэрык.

ГРАЗНІЦА ж. Вуліца. Тут заўсёды брудна.Турышчава Гор.

ГРАЗНЫ РОЎ. Пасёлак у нізіне. Рудня Бял.

ГРАЗОК м. Гразкае месца каля ракі. Свенск Слаўг.; Поле. Калісьці тут было гразка. Перагон Слаўг.

ГРАЗЬ ж. Гразкі луг. Старына Мсц.

ГРАКАЎШЧЫНА ж. Ускраек лесу. Тут гняздзяцца гракі. Рагі Слаўг.

ГРАКІ мн. Мясціна каля вёскі. Тут растуць вялізныя дрэвы, на якіх гняздзяцца гракі. Ржаўка, Шаламы Слаўг.; Ускраек лесу каля в. Дуброўка Слаўг.; Частка в. Стараселле. Тут шмат грачыных гнёздаў. Стараселле Шкл.; Луг каля в. Гракі. Слаўня Слаўг.

ГРАКОЎКІ мн. Лес. Раней тут было шмат гракоў. Халмы Красн.

ГРАМАК м. Поле. Даўней на гэтым месцы была в. Грамак. Балешына Клім.

ГРАМАХОНАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў пан, у якога быў грамафон. Кухенка Бабр.

ГРАМАХОЎШЧЫНА ж. Луг за в. Грамакі. Чарапы Шкл.

ГРАНАВА ПАСЕЛІШЧА. Частка вёскі. Тут заўсёды гняздзяцца гракі. Маляцічы Крыч.

ГРАНІЦА ж. Мяжа паміж в. Свенск, Рэкта Слаўг.; Дарога паміж калгасным полем і пасёлкам. Князеўка Маг., Камяніца Бял.; Прасека ў лесе. Яна служыць мяжой двух раёнаў. Заглiннае Слаўг.; Дарога паміж двума палямі. Літоўск Кругл., Наркі Чэрык.; Поле на мяжы двух калгасаў. Перагон Слаўг.

ГРАНІЧКА ж. Палявая дарога (з адной вёскі ў іншую). Жукава Маг.

ГРАСІМАЎ ЛЕС. Лес. Раней тут быў хутар Грасіма. Бутрамееўка Бых.

ГРАСІМАЎ РАВОК. Роў. Каля яго знаходзіцца хата дзеда Грасіма. Кулешава Шкл.

ГРАСЬКАЎ ВІР. Месца ля ракі, у якой віруе вада. Калісьці побач з ім жыў Граська. Радамля Чав.

ГРАСЬКАЎ ВІРОК. Месца на рацэ. Некалі тут утапіўся Граська. Хацілавічы Крыч.

ГРАСЬКАЎ РАВОК. Роў. Даўней ля яго жыў гаспадар Граська. Хацілавічы Крыч.

ГРАФІНІН ПАРК. Парк. Некалі ён быў пасаджаны па загадзе графіні ў в. Грудзінаўка. Малы Асавец Маг.

ГРАФСКІ ЛЕС. Лес. Калісьці ён належаў графіне Талстой. Грудзінаўка, Боўкі Бых.

ГРАФСКІЯ КЛАДКІ. Дарога. Паводле паданняў, па насланай дарозе графіня ехала на востраў, каб паглядзець паляванне на мядзведзя. Слаўкавічы Глуск.

ГРАЧКА ж. Палявая дарога. Праточнае Бых.

ГРАЧОВА н. Хутар. Вясной тут шмат гракоў. Лудчыцы Бых.

ГРОДНЯ ж. Поле (за агародамі). Наркі Чэрык.

ГРОМНАЕ н. Дубовы лес на ўзгорку. Раней у дубы часта біла маланка. Трылесіна Шкл.

ГРОНАЎСКІ РОГ. Луг каля ракі паблізу в. Гронаў Чэрык.

ГРОНШЧЫНА ж. Поле. Раней на гэтым месцы быў маёнтак фельчара. Асінаўка Мсц.

ГРОШКАВЫ КУСТЫ. Кустоўе. Даўней на гэтым месцы жыў хутаранец Грышка. Звянчатка Клім.

ГРУДЗІНАВЫ РАЗОРЫ. Грыбное месца ў лесе. Вуглы Шкл.

ГРУДЗІНАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Грудзінаўка. Сідаравічы Маг.

ГРУДЗІНАЯ ЯМА. Гразкая частка поля. Сліжы Шкл.

ГРУДНОЕ БАЛОТА. Балота. Кішчыцы Шкл.

ГРУЗДЗЕВА н. Лес. Тут расце шмат груздоў. Лудчыцы Бых.

ГРУЗДЗЕЎ ЛЕС. Лес. Тут расце шмат груздоў. Суслаўка Дрыб., Радамля Чав.

ГРУНЦІК м. Поле. Раней тут стаяў млын Грунціка (мянушка). Плешчыцы, Гарадзішча Шкл.

ГРУШАЎКА ж. Месца. Раней тут быў хутар, на якім расло шмат ігруш-дзічак. Катка Глуск.

ГРЫБАВА н. Месца ў лесе. Тут расце шмат баравікоў. Збышын Кір.

ГРЫБАВАРНЯ ж. Месца адпачынку моладзі. Раней тут стаяла грыбаварня. Узраджэнне Маг.

ГРЫБАНОЎСКАЯ ГРАНІЦА. Лясная прасека да в. Грыбаны. Русінка Шкл.

ГРЫБАЎ МОСТ. Мост цераз раку. Раней каля яго, у нізіне, расло шмат грыбоў. Вышова Мсц.

ГРЫБАЎСКАЯ РЭЧКА. Рэчка каля в. Грыбы Красн.

ГРЫБАЎШЧЫНА ж. Мясціна ў лесе. Тут заўсёды шмат грыбоў. Вольніца Бял.

ГРЫБАЧЭЎСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Грыбачы Маг.

ГРЫБНАЯ ГОРКА. Узгорак. Тут расце шмат грыбоў. Чыкілі Глуск.

ГРЫБНАЯ ЛАШЧЫНА. Месца ў лесе. Тут багата грыбоў. Чырвоная Слабада Бых.

ГРЫБНАЯ ПАЛЯНА. Паляна. Раней тут было шмат грыбоў. Чэрнеўка Шкл.

ГРЫБНІЦА ж. Месца ў лесе. Верамейкі Чэрык.

ГРЫБНЫ РАВОК. Роў. Тут расцуць грыбы. Лабковічы Крыч.

ГРЫБОВІШЧА н. Месца ў лесе. Некалі тут было шмат грыбоў. Міхеевічы Крыч.

ГРЫБОК м. Месца ў лесе. Некалі тут было шмат грыбоў. Доўгавічы Мсц.; Лес. Раней тут быў драўляны грыбок, пад якім адпачывалі людзі. Шыракаўвелле Красн.; Мясціна ў лесе. Тут знаходзіцца драўляны грыбок. Капані Чав.

ГРЫБОЎКА ж. Невялікі лес. Тут расце шмат грыбоў. Сіваі Бял.

ГРЫБОЎШЧЫНА ж. Месца ў лесе. Тут расце шмат грыбоў. Літоўск, Цяцерына, Шупені Кругл., Забалацце, Сіпайлы Бял.

ГРЫВА ж. Маленькае возера. Пасярод яго расце палоска травы. Рудкаўшчына Гор.; Сенажаць каля р. Днепр. Сідаравічы Маг.; Урочышча. Раней тут расла высокая трава. Горкі Чэрык.; Кустоўе. Ціманава Клім.; Вузкая і доўгая дзялянка чарніц. Халмы Маг.; Луг. Кароўчына Бых.; Паласа дубовага лесу. Бутрамееўка Бых.

ГРЫМ-ГОРАД м. Пясчаны ўзгорак у лесе за в. Крамок. Дары, Дрычын Асіп.

ГРЫМУЧАЯ КРЫНІЦА. Бурлівая крыніца. Селішча Клім.

ГРЫШАВА СТАЛОТА. Невялікая сажалка. Некалі яе выкапаў Грыша. Ржавец Чэрык.

ГРЫШАЕЎ ЛОГ. Лог. Даўней каля яго стаяла хата дзеда Грышая. Раздзел Мсц.

ГРЫШАКОЎСКІ ЛЕС. Лес. Калісьці тут працаваў Грышка-ляснік. Тур'я Красн.

ГРЫШКАВА БАЛОТА. Балота. Раней каля яго жыў кулак Грышка. Беражыстае Крыч.

ГРЫШКАЎ ДУБ. Поле. Калісьці тут рос дуб, і пад ім знайшлі забітага Грышку. Буглаі Красн.

ГРЫШКАЎ ЛЕС. Мясціна ў лесе. Некалі тут павесіўся Грышка. Брылі Маг.

ГРЫШКАЎ САД. Поле. Раней на гэтым месцы была сядзіба Грышкі. Азёры Кругл.

ГРЫШЧАНКА ж. Частка вуліцы. Тут жылі сваякі па прозвішчы Грышковы. Дуцькі Бял.

ГРЫШЧАНКОВА ПОЛЕ. Поле. Калісьці тут была Грышчанкова дзесяціна. Сялецкае Касц.

ГРЭБЕЛЬКА ж. Насыпаная лясная дарога. Поўстка Глуск.; Насыпны ўзгорак. Гута Бабр.

ГРЭБЕНЬ м. Частка ўзвышша на забалочанай мясцовасці. Ліпень Асіп.; Вузкая паласа лесу. Заеліца, Стражы Глуск.

ГРЭБЛЯ ж. Былая назва р. Зубр. Сялецкае Касц.

ГУБАЁЎ ЛЕС. Лес. Раней тут жыў ляснік Губаёў. Петухоўка Чав.

ГУБАРЭЎШЧЫНА ж. Лес. Раней ён належаў Губарэвічам. Коўбча Клім.

ГУБЕНСКАЕ ПОЛЕ. Раней тут знаходзілася в. Губеншчына. Горкі Крыч.

ГУБЕНШЧЫНА ж. Лес. Крычаў.

ГУДКІ ЛУГ. Луг каля р. Днепр. Следзюкі Бых.

ГУЕВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут утапіўся Гуй. Ліпаўка Хоц.

ГУЕВА ГАРА. Узгорак. У час Вялікай Айчыннай вайны тут змагаўся да апошняга Гуеў. Трасціно Хоц.

ГУЖНЕЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Гужні Бых.

ГУЖОЎКА ж. Невялікае балота. Яно знаходзілася на лузе, і з яго цягалі сена. Прылессе Чав.

ГУЗЯНКОВА БАЛОТА. Поле. Раней на гэтым месцы было балота, каля якога жыў Гузянок. Азарычы Слаўг.

ГУЛІДАЎКА ж. Лес. Даўней тут вадзілася шмат ваўкоў. Гасподы Дрыб.

ГУЛІДАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Гулідаўка. Акунёўка Шкл.

ГУЛІДАЎСКІЯ БАЛОТЫ. Балоты каля в. Гулідаўка. Кішчыцы Шкл.

ГУЛІМАВА БАЛОТА. Балота. Раней яно належала Гуліму (мянушка). Жаралы Слаўг.

ГУЛЬБІШЧА н. Луг. Тут пасвяцца коні. Хамічы Кір.; Палянка. Калісьці тут збіралася моладзь. Цяхцін Бял.

ГУЛЬСКАЯ РЭЧКА. Месца за вёскай. Раней тут была маленькая рэчка. Ядраная Слабада Кліч.

ГУМЕННАЯ ж. Вуліца ў г. Крычаве. Тут знаходзіцца шмат складоў. Крычаў.

ГУМЕНСКІЯ ПАЛІ. Зямельныя надзелы. Даўней яны належалі пану Гуменскаму. Трасціно Хоц.

ГУМНІШЧА н. Поле. Калісьці тут стаялі гумны. Вецьх Бых., Шалаёўка Кір., Прылессе Чав.; Урочышча. Раней тут былі гумны. Скоклева Чав., Камяніца Бял., Віроўка, Фёдараўка Касц., Красавічы, Уздзевічы Клім.; Луг. Некалі на гэтым месцы стаяла гумно. Сялецкае Касц.; Паша. Даўней тут былі калгасныя гумны. Чорнае Шкл.

ГУМНО н. Поле. Раней тут было калгаснае гумно. Буглаі Красн.

ГУМНЫ мн. Месца на лузе. Раней тут былі гумны. Саннікі Кругл.; Поле. Некалі тут стаялі гумны. Свёкрава Кліч.

ГУРАЎШЧЫНА ж. Лес. Трасціно Хоц.

ГУРДЗЕЕЎ ЛОГ. Луг, поле. Раней яны належалі Гурдзелю. Кароўчына Дрыб.

ГУРКАВІЦКІ ЛЯСОК. Лясок каля в. Гуркавічы. Дубасна Мсц.

ГУРКІ мн. Лес. Некалі каля яго ўвесь час сеялі гуркі. Перагон, Свенск Слаўг.

ГУРКОВЫ ЛУГ. Луг. Даўней тут было поле, на якім вырошчвалі гуркі. Дубраўка Красн.

ГУРОЎКА ж. Частка вёскі. Раней усе яе жыхары вырошчвалі гуркі. Дамамерычы Клім.

ГУРЫ мн. Поле. Даўней тут жыў хутаранец Гурскі. Паплавы, Сыманаўка Кліч.

ГУРЫНА ВОЗЕРА. Возера. Калісьці яно належала Гурыну. Дарагінь Клім.

ГУРЫНАВА ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Некалі тут сеяў збожжа і садзіў бульбу дзед Гурын. Калюга Глуск.

ГУРЭЕЎ РАСЦЯРОБ. Лог. Некалі тут касілі сена Гурэевы. Востраў Клім.

ГУРЭШЧЫНА ж. Месца ў лесе. Раней тут жыў Гурэцкі. Турчылаў Кліч.

ГУСЁНАК м. Забалочаная мясціна. Раней тут пасвілі калгасных гусей. Рудкаўшчына Гор.

ГУСІНА РАКА. Мясціна, залітая вадой Раней тут была невялікая рачулка, а зараз пасвяцца гусі. Глінькава Гор.

ГУСІНАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут пасвілі гусей. Баханы Хоц.

ГУСІНАЯ ЛАПКА. Месца, дзе сыходзяцца дзве дарогі. Яно падобна на гусіную лапку. Малыя Лазіцы Шкл.

ГУСІНАЯ ЛУЖА. Мясціна каля вёскі. Тут адпачываюць пералётныя гусі. Кулешава Шкл.

ГУСІНЕЦ м. Частка вуліцы. Тут заўсёды пасвіліся гусі. Кліны Слаўг.; Луг. Раней тут пасвіліся гусі. Слаўня Слаўг.

ГУСІНЫ БРОД. Мелкае месца па рацэ. Яўсеевічы Глуск.

ГУСІНЫ ВЫГАН. Луг. Тут пасвяцца гусі. Слабодка Глуск.

ГУСІНЫ ЛУГ. Луг. Тут пасвяцца гусі і качкі. Прысна Маг., Рудкаўшчына Гор.

ГУСЛІШЧА н. Мясціна на балоце. Тут водзіцца шмат дзікіх гусей. Крукаўшчына Глуск.

ГУСЛЯНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Гуслішчы Маг.

ГУСТЫ ЛЕС. Лес. Стайкі Клім.

ГУСЦЕЖ м. Густы, цёмны лес. Недзведзь Клім.

ГУСЯТНІК м. Урочышча. Раней тут была гусіная ферма. Смолка Чав.; Поле. Некалі тут пасвілі гусей. Слабодка Кір.; Месца. Калісьці тут вадзіліся дзікія гусі. Горкі Чэрык.

ГУТЛЯНКА ж. Рэчка каля в. Гута. Вецъ Бых.

ГУЦІШЧА н. Месца ў лесе. Даўней тут быў шклозавод. Ядраная Слабада Кліч.

ГУЦЯНСКАЯ ДАРОГА. Лясная дарога да в. Гута. Барсукі Кір.

ГУШЧАР м. Вельмі густы лес. Ляхаўшчына Чав., Трылесіна Дрыб., Забалочаная мясціна, зарослая кустамі. Таўпечыцы Маг.

ГЭЛА ж. Хутар. Раней тут жыла прыгожая дзяўчына Гэла. Боркі Кір.

ГЭМАНАЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут жылі перасяленцы, якія не маглі размаўляць па-беларуску. Сласцёны Чав.

# Д

ДАБРАЛУЦКАЕ н. Сенажаць. Тут добра расце трава. Халмы Красн.

ДАБРЫНЕЦ м. Невялікі луг. Тут расла добрая трава. Шчокатава Дрыб.

ДАВЫДАВА БАЛОТА. Балота. Раней тут жыў Давыд. Замышкі Кругл.

ДАВЫДАВА ГЛІНІШЧА. Месца каля сядзібы Давыда. Даўней тут бралі гліну. Дзмітраўка Кліч.

ДАВЫДАВА ДВОРЫШЧА. Поле. Раней тут жыў хутаранец Давыд. Карасі Шкл.

ДАВЫДАВА ЛЯДА. Урочышча. Некалі тут жыў ляснік Давыд. Дзмітраўка Кліч.

ДАВЫДАВА ПУНЯ. Мясціна ў лесе. Калісьці тут рубіў пуню Давыд. Голоўчын Бял.

ДАВЫДАЎ ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Давыд. Кустоўка Гор.

ДАВЫДЗЁНКАЎ ЛОГ. Лог. Раней ён належаў кавалю Давыдзёнку. Бардзілы Чав.

ДАДЭЙКІНА н. Балота. Даўней каля яго жылі Дадэйкі. Азарычы Слаўг.

ДАДЭРШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут жыў Дадэрка. Рагач Бял.

ДАЙНЕКАВА ЛОДКА. Месца на рацэ. Калісьці тут утапіўся Дайнека. Рагач Бял.

ДАЙНЕКАЎ КЛЮЧ. Урочышча. Рагач Бял.

ДАКЛОНЬ ж. Поле. Раней тут быў хутар Даклоньскага. Таценка Кліч.

ДАКОЛЬКА ж. Невялічкая рэчка каля в. Даколь Глуск.

ДАКУЛЬСАЎ ХУТАР. Мясціна. Некалі тут жыў хутаранец Дакульса. Заеліца Глуск.

ДАЛЁКАЯ НІВА. Далёкае ад вёскі поле. Радамля Чав.

ДАЛЁКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца далёка за в. Займішча Шкл.

ДАЛЁКІ РАЁН. Лес. Тут водзіцца шмат ласёў. Дзягавічы Крыч.

ДАЛЁКІЯ КУТЫ. Далёкая ад вёскі сенажаць. Малыя Аўчыненкі Шкл.

ДАЛІНА ДУБОВІКА ж. Паляна ў лесе. Даўней тут раслі разгалістыя дубы. Яноўка Клім.

ДАЛІНА ж. Поле (на нізкім месцы). Астравец Шкл., Сахараўка Гор.; Поле (за вёскай). Замышкі Кругл., Маляцічы Крыч.

ДАЛІНА СМЕРЦІ ж. Урочышча паміж дзвюма рэчкамі. Ціманава Клім.

ДАЛІНКА ж. Урочышча за в. Дары Асіп.

ДАЛІНЫ мн. Поле каля лесу. Даўней тут было шмат равоў і канаў. Макавічы Глуск.

ДАЛЬНІ ЛУГ. Луг. Ён знаходзіцца далёка ад в. Заглiннае Слаўг.

ДАЛЬНІ РОЎ. Роў. Ён знаходзіцца далёка за в. Дуброўка Маг.

ДАЛЬНІЯ ХУТАРЫ. Урочышча (далёка за вёскай). Даўней тут былі хутары. Нясята Кліч.

ДАЛЬНЯЕ н. Сенажаць (далёка за вёскай). Склімін Клім., Шамава Мсц.

ДАЛЬНЯЯ ЗАХАРЭЎШЧЫНА. Невялікі луг сярод лесу. Некалі ён належаў заможнаму селяніну Захарэўскаму. Шалаёўка Кір.

ДАЛЬНЯЯ РОШЧА. Лес. Ён знаходзіцца далёка ад в. Мосін Хоц.

ДАМОЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Дамоўскіх. Баханы Хоц.

ДАМАРАЦКІЯ ЗЕМЛІ. Палі. Калісьці тут жыў пан. Каменка Шкл.

ДАМАРАШЧЫНА ж. Лес. Раней тут жылі паны Дамарацкія. Добрая Гор.

ДАМАСАЎШЧЫНА ж. Лес. Калісьці тут жыў хутаранец Дамас. Сабалёўка, Стайкі Клім.

ДАМБА ж. Узвышанае месца на рэчцы. Клімавічы; Дарога. Чыгірынка Кір.

ДАМКІ мн. Некалькі дамоў. Яны стаяць асобна ад астатніх. Антонаўка Чав.

ДАМОЎСКІ ХУТАР. Поле. Калісьці тут жылі Дамоўскія. Дзмітраўка Кліч.

ДАНЕЦ м. Мясціна на р. Белая Натапа. Некалі тут утапіўся конь Данец. Добрае Мсц.

ДАНЕЦКІ ХУТАР. Поле. Раней тут жылі яўрэі з Данецка. Язёры Чэрык.

ДАНІЛАВА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жыў дзед Даніла. Літоўск Кругл.

ДАНІЛАВА ГАРА. Узгорак. Некалі тут жыў Даніла. Затоны Гор.

ДАНІЛАВА ДАРОГА. Сцяжынка. Раней па ёй ездзіў дзед Даніла. Вяззе Асіп.

ДАНІЛАВА КОПАНКА. Копанка. Калісьці яе выкапаў Даніла. Следзюкі Бых., Капусціна Кір.

ДАНІЛАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Раней яе даглядаў Даніла. Вільчыцы Маг.

ДАНІЛАВА КУПАЛЬНЯ. Балота. Некалі тут была купальня пана Данілы. Антонаўка Чав.

ДАНІЛАВА ПАЛЯНКА. Невялікае поле. Раней тут жыў хутаранец Даніла. Мірная Крыч.

ДАНІЛАЎ БРОД. Кладка праз рэчку. Некалі яе зрабіў селянін Даніла. Антонаўка Чав.

ДАНІЛАЎ БУГОР. Узгорак. Раней тут жыў Даніла. Падудага Крыч.

ДАНІЛАЎ ХУТАР. Грыбное месца ў лесе. Раней тут жыў Даніла. Аўтухоўка Клім.

ДАНІЛІХІНА ЛАШЧЫНА. Нізкае месца. Калісьці тут жыла Даніліха. Шчокатава Дрыб.

ДАНІЛКІН БУГОР. Поле. Раней тут жыў селянін Данілка. Дзягавічы Крыч.

ДАНІЛКІН ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Даніла. Дары Асіп.

ДАНІЛЬКАЎ ХУТАР. Луг. Раней тут быў хутар дзеда Данількі. Балбечына Гор.

ДАНОЎСКІ ХУТАР. Поле. Даўней тут жылі Даноўскія. Дзмітраўка Кліч.

ДАНЬКАЎСКІ ЛУГ. Луг недалёка ад в. Данькавічы Шкл.

ДАНЬКОВА ДВОРЫШЧА. Кустоўе. Калісьці тут была сядзіба Данькі. Фядотава Буда Клім.

ДАПРЫЗЫЎНІК м. Рака. Калісьці ў ёй утапіўся дапрызыўнік. Цяцерын Кругл.

ДАР'ІНА ВОЗЕРА. Возера. Даўней тут утапілася цётка Дар'я. Вяззе Асіп.

ДАР'ІНА ГАРА. Узвышанае месца. Некалі тут Дар'я пахавала свайго сына. Даманы Дрыб.

ДАР'ІНА ДАРОГА. Дарога. Раней тут Дар'я нарадзіла дзіця. Слабада Бабр.

ДАР'ІНА ЗАВАДЗЬ. Азярцо. Некалі тут утапілася Дар'я. Капусціна Кір.

ДАР'ІНА КАСА. Мясціна ў лесе. Даўней тут пан забіў парабчанку Дар'ю. Мазалава Мсц.

ДАРАФЕЕВА ДАРОГА. Дарога. Некалі яе праклаў вясковец Дарафей. Бялынкавічы Касц.

ДАРАШОВА н. Поле каля балота. Пчэльня Слаўг.

ДАРДЫЛАЎКА ж. Лес. Раней каля яго жыў дзед Дардылаў. Леніна Красн.

ДАРДЫЛЁЎКА ж. Вялікае балота вакол лесу. Дашкаўка Маг.

ДАРОГА К ДУБУ ж. Поле каля р. Днепр. Тут расце вялікі дуб. Замошшча Шкл.

ДАРОГА-КЛЁН ж. Дарога. Недалёка ад яе расце вялікі стары клён. Самулкі Чав.

ДАРОГІ мн. Мясціна на полі. Раней тут перасякалася некалькі палявых дарог. Рудкаўшчына Гор.

ДАРОЖКА ж. Сцяжынка. Некалі па ёй хадзіў ляснік. Жаролы Слаўг.

ДАРОЖКА Ў ЛЕС ж. Лес. Калісьці тут жыў хутаранец Дарожка. Заходы Шкл.

ДАРЫ мн. Луг. Калісьці ён быў падараваны аднаму пану іншым. Бацэвічы Кліч.

ДАЎБЕНЬ м. Нізіна. Градзянка Асіп.

ДАЎБЛІ мн. Лашчына. Вязаўніца Асіп.

ДАЎГАЙЛАЎ ХУТАР. Поле. Некалі тут жыў дзед Даўгайлаў. Восава Асіп.

ДАЎГАЛЕССЕ н. Хмызняк. Шалаёўка Кліч.; Доўгае поле каля лесу. Градзянка Асіп.

ДАЎГІ ЛОГ. Прадаўгаватая лагчына ў лесе. Чырвоны Бор Бял.; Вялікі лог. Сідаравічы Маг.

ДАЎГІЯ мн. Поле. Калісьці яно было падзелена на вузкія і доўгія надзелы. Дзмітраўка Кліч.

ДАЎЖАНКА ж. Далёкі ад вёскі лес. Кароўчына Бых.

ДАЧА ж. Паляна ў лесе. Раней тут была дача. Цяцерын Кругл.

ДАЧКІ мн. Мясціна ў лесе. Даўней тут стаяла некалькі хат. Ніканавічы Бых.

ДАЧЫ мн. Сенажаць. Раней тут былі дачы. Супанічы Маг.

ДАЮРАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці каля яго стаяла хата старога Даюры. Раманавічы Маг.

ДВАРАКОЎ ВІР. Месца на рэчцы. Даўней непадалёку стаяла хата Дваракова. Зарэсце Маг.

ДВАРЦЫ мн. Месца ў лесе. Раней тут былі невялікія паселішчы людзей. Ядраная Слабада Кліч.

ДВАРЭЦ м. Урочышча. Некалі тут стаяў панскі палац. Арэхаўка Кліч.; Мясціна ў лесе. Раней тут жыў пан. Дубраўка Касц.

ДВАРЭЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапалі паводле загаду пана. Курманава Мсц.

ДВАРЭЦКАЯ ДАРОГА. Дарога. Даўней каля яе знаходзіўся маёнтак памешчыка. Супанічы Маг.

ДВОР м. Мясціна каля рэчкі. Калісьці тут жыў пан Дварэцкі. Ваевічы Кліч.; Урочышча. Раней тут была МТС. Рудкаўшчына Гор.

ДВОРЫШЧА ЛАПЦЕВЫХ. Месца ў лесе. Раней тут быў хутар Лапцевых. Бутрамееўка Бых.

ДВОРЫШЧА н. Урочышча. Даўней тут жылі людзі. Сідаравічы, Васілевічы Маг., Алешкавічы Бял., Літоўск Кругл., Доўгая Дуброва Хоц., Стайкі Клім.; Поле. Некалі тут быў панскі маёнтак. Крывуліна Кругл.; Мясціна, зарослая кустамі. Раней тут быў панскі двор. Зуі Крыч.

ДЖЫГАСТАЯ ж. Паляна. Тут стаіць пасека. Краснаполле.

ДЖЫГАЎ КАТЛАВАН. Катлаван. Даўней тут была сядзіба Дабравольскага ( мянушка Джыг). Навaельня Красн.

ДЗЁБРА ж. Забалочаная мясцовасць у лесе каля в. Прудок. Петухоўка Чав.; Узгорак. Раней тут была в. Смолка Чав.

ДЗЕВІН ЛУГ. Непраходная балоцвіна. Калісьці тут утапілася дзяўчына Каця. Следзюкі Бых.

ДЗЕВІЦА ж. Луг. Даўней тут маладыя хлопцы і дзяўчаты вадзілі карагоды. Вець Бых.

ДЗЕВЯТАЕ ПОЛЕ. Поле. Грыбіна Кругл.

ДЗЕГЦЯНІЦА ж. Мясціна ў лесе. Калісьці тут стаяла смалярня. Халмы Краон.

ДЗЕГЦЯНІЦА м. Лясок. Калісьці тут гналі дзёгаць. Петухоўка Касц.

ДЗЁГЦЯНКА ж. Палянка ў лесе. Даўней тут гналі дзёгаць. Халмы Красн.

ДЗЕГЦЯРОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Дзегцярова Герасіма. Дубцы Кір.

ДЗЕДАВА ГАРА. Узгорак. Тут хавалі старых людзей. Любонічы Кір.

ДЗЕДАВА ДАРОГА. Дарога. Некалі па ёй часта хадзіў стары вясковец. Чыкілі Глуск.

ДЗЕДАВА ЛЯДА. Месца ў лесе. Даўней тут былі хутары. Шаламы Слаўг.

ДЗЕДАЎ КУРГАН. Невялікі курган у лесе. Тут пахаваны дзед Пятро. Следзюкі Бых.

ДЗЕДАЎ ЛУГ. Луг. Раманавічы Маг.

ДЗЕДАЎ РАСЦЯРОБ. Лясная паляна. Некалі тут былі кусты, якія выцерабіў стары па прозвішчы Вугалеўскі. Коўбча Кліч.

ДЗЕДАЎШЧЫНА ж. Дзялянка ў лесе. Даўней тут была пасека дзеда-пчаляра. Ясная Паляна Клім.; Сенажаць. Некалі тут раслі дрэвы, якія потым выкарчавалі. Дубасна Мсц.; Пасёлак у вёсцы. Тут шмат старых хат. Сямёнаўка Клім.; Лес. Некалі тут жылі паны-браты. Асмолавічы Клім.; Старая дарога. Паўлова Кругл.; Мясціна ў лесе, там вельмі старыя дрэвы. Ціманава Клім.

ДЗЕДУШАЎ ЛОГ. Лог. Раней тут жыў Дзедуш (прозвішча). Плюшчава Клім.

ДЗЕЖЧЫХА ж. Поле. Падзамша Глуск.

ДЗЕМІХІНА н. Луг. Некалі тут жыў чалавек па прозвішчы Дземіх. Беразуга Красн.

ДЗЁМКІН КРУГ. Поле. Некалі тут жыў хутаранец Дзёмка. Бель Мсц.

ДЗЕМЧЫХА ж. Поле каля лесу. Некалі тут жыла сям'я Дземчаў. Бабірова Глуск.

ДЗЁМЧЫХІНА ПОЛЕ. Лужок. Ён належыць Дзёмчысе. Літоўск Шкл.

ДЗЕМЯНКОЎСКАЕ БАЛОТА. Поле. Раней тут быў хутар Дземянкова. Балбечына Гор.

ДЗЕНІСЁНКАВА БАЛОТА. Балоцістая мясціна. Раней тут стаяла хата старога Дзенісёнка. Кадзіна Маг.

ДЗЕНЬКАЎШЧЫНА ж. Месца на лузе. Тут стракочуць цвыркуны. Падбелле Маг.

ДЗЕРАЎНАЯ ж. Старыя паселішчы. Сямёнаўка Клім.

ДЗЕРБА ж. Запушчаны, недагледжаны, зараслы кустоўем участак пашы. Сталяры Асіп.

ДЗЕРГАЧОЎ ПАВАРОТ. Паваротка. Каля яго жыве Дзяргач (мянушка). Луты Крыч.

ДЗЕРКАЧОВА БАЛОТА. Участак зямлі. Калісьці яго апрацоўваў Дзяркач (мянушка). Любонічы Кір.

ДЗЕРКАЧЫ мн. Сенажаць. Раней там вадзіліся дзеркачы (драчы). Аляксандраўка Слаўг., Хамінічы Гор., Залачэва Мсц.

ДЗЕРНАВОЕ н. Поле. Яно зарасло дзёрнам. Леніна Красн.

ДЗЁРЦЬ м. Распрацаванае поле. Сталяры Асіп.

ДЗЕСЯЦІНА ж. Вялікае поле. Восаў Красн.

ДЗЕСЯЦІНЫ мн. Поле, зарослае хмызняком. Забавы, Забалоцце Бял., Рэкта Гор., Любонічы Кір.

ДЗЕХВАНКА ж. Невялічкая рэчка. Сычкава Бабр.

ДЗЕЦКІ ВІР. Неглыбокая частка ракі. Лебедзева Гор.

ДЗІКАЕ МЕСЦА. Мясціна ў лесе. Вільча Глуск.

ДЗІКАЕ н. Вялікае непраходнае балота. Орсічы Бабр.; Пасёлак Кіраўскае. Ён знаходзіцца каля самага лесу. Падзамша Глуск.

ДЗІКАЕ ПОЛЕ. Неўрадлівае поле каля в. Рэкта Гор.

ДЗІКІ БОР. Густы ельнік каля в. Галачоўка Чав.

ДЗІКІ ГАРАДОК. Узгорак. Раней, паводле падання, тут адбывалася шмат чаго незвычайнага. Зуі Крыч.

ДЗІКІ ЛУГ. Зарослы хмызняком луг каля рэчкі. Жалвінец Глуск.

ДЗІКІ ПАСЁЛАК. Частка в. Благавічы Чав.

ДЗІКІ ШЛЯХ. Старая, занядбаная дарога. Нясята Кліч.

ДЗІМЯНЁНКАВА ВЫГАР. Поле. Раней тут жыў Дзімянёнак. Мяжэнін Клім.

ДЗІРАВІЦА ж. Рэдкі лес. Уюн Быx, Каменка, Асінаўка Мсц.

ДЗІРАВЫ МОСТ. Дарога. Яна праходзіць на тым месцы, дзе калісьці быў гнілы мост. Сыманаўка Кліч.

ДЗІЎНАЎКА ж. Дарога праз лес з в. Ордаць у в. Дзіўнава Шкл.

ДЗІЦЯЧАЕ МОРА. Сенажаць. Тут, у крыніцы, купаюцца дзеці. Лобча Чэрык.

ДЗІЦЯЧАЯ СЦЕЖКА. Дарога. Па ёй дзеці ходзяць у школу. Салтанаўка Маг.

ДЗІЧКА ж. Паляна ў лесе. Тут растуць дзікія грушы. Валынцава Гор.

ДЗІЧКАЎ РОГ. Астравок на балоце. Раней тут вадзіліся дзікія кабаны. Крывуліна Кругл.

ДЗІЧКУНОВА н. Рэдкае кустоўе каля ракі. Раней на гэтым месцы быў непраходны лог. Цялуша Бабр.

ДЗІЧЫНА ж. Альхова-дубовыя зараснікі. Тут водзяцца дзікі. Слаўня Слаўг.

ДЗМІТРАКА РАВОК. Поле. Раней тут быў невялікі кавалак урадлівай зямлі (з раўком), які апрацоўваў Дзмітрок. Мяжэнін Клім.

ДЗМІТРАКОЎСКАЯ НІЗІНА. Месца на рэчцы. Тут паілі коней. Склімін Клім.

ДЗМІТРАЎКА ж. Частка вёскі. Некалі тут жылі тры Дзмітрыі. Вялікія Лазіцы Шкл.

ДЗМІТРАЎСКІ САД. Сад. Рыжкаўка Быx.

ДЗМІТРАЎСКІ СЕНАКОС. Поле. Раней тут касіў сена гаспадар Дзмітраў. Градзянка Асіп.

ДЗМІТРЫЕВА ДЗЯЛЯНКА. Дзялянка ў лесе. Непадалёку ад яе жыў ляснік Дзмітрыеў. Прыгаўка Крыч.

ДЗЮБІКАВА БАЛОТА. Балота. Некалі каля яго жыў хутаранец Дзюбік (мянушка). Зоры Чэрык.

ДЗЮБКІНА ГАРА. Луг. Формай ён нагадвае дзюбу. Буглаі Красн.

ДЗЮНДЗІКАЎ ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Дзюндзік (мянушка). Бортнікі Бабр.

ДЗЮРАВІЦА ж. Забалочанае месца. Тут расце дзюравіца (дзераза). Нiраж Быx.

ДЗЮСАВА РЭЧКА. Месца каля рэчкі. Калісьці тут жыў дзед па мянушцы Дзюс. Кухенка Бабр.

ДЗЮШКАВА ВОЗЕРА. Возера (з бруднай вадой). Чэрыкаў.

ДЗЯБРА ж. Густы лес. Наркі Чэрык.

ДЗЯВІЦА ж. Рэчка. Раней на Івана Купалу тут мыліся дзяўчаты. Вець Быx.

ДЗЯВІЧАЯ ГАРА. Узвышанае месца. Даўней тут збіраліся дзяўчаты на гулянне. Забавы Бял.; Узгорак. Некалі тут быў жаночы манастыр. Мсціслаў, Поле. Паводле падання, дзяўчына, якую хацелі аддаць замуж за нялюбага чалавека, стала гарою, з-пад якой цякла крынічка — слёзы дзяўчыны. Бабруйск.

ДЗЯВОЦКАЯ ГАРА. Узгорак на ўскрайку горада. Паводле легенды, некалі яго насыпалі дзяўчаты, носячы зямлю ў фартухах. Мсціслаў.

ДЗЯВОЦКІ ВІР. Мясціна на рацэ. Тут заўсёды купаліся дзяўчаты. Брылёўка Красн.

ДЗЯВОЧАЯ ГАРА. Узгорак. Раней тут збіраліся дзяўчаты на гулянне. Малыя Аўчыненкі Шкл.; Узгорак. Даўней, паводле падання, яго насыпалі дзяўчаты. Мсціслаў, Сапрына-

вічы, Сялец Мсц., Стайкі Клім.; Узвышанае месца. Некалі тут стаяў дзявочы манастыр. Трылесіна Дрыб., Зарэчча Мсц., Каменка Чав.

ДЗЯВОЧЫ ВІР. Месца на рэчцы. Раней тут утапілася дзяўчына. Затоны Гор.

ДЗЯВОЧЫ РУЧЭЙ. Урочышча. Раней тут быў ручай, які ўзнік, паводле падання, на тым месцы, дзе дзяўчына плакала па сваім каханым. Свірэль Клім.

ДЗЯГАВІЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Дзягавічы Крыч.

ДЗЯГАЎСКІ ЛЕС. Грыбны лес. Крычаў.

ДЗЯГІЛЕЎШЧЫНА ж. Поле і могілкі. Калісьці тут быў пахаваны Дзягіль (мянушка). Халмы Красн.

ДЗЯГЦЯНКА ж. Палянка ў лесе. Даўней тут гналі дзёгаць. Курманава Мсц.

ДЗЯГЦЯРНІК м. Сасоннік. Раней тут гналі дзёгаць. Вець Бых.

ДЗЯГЦЯРНЯ ж. Месца за вёскай. Раней тут знаходзілася смалярня. Вець Бых., Ціманава Клім.

ДЗЯГЦЯРСКІ БРОД. Брод. Даўней каля яго жыў Дзягцяр (мянушка). Слаўкавічы Глуск.

ДЗЯГЦЯРСКІЯ БРАДЫ. Сухое месца на балоце. Заеліца Глуск.

ДЗЯДЗІНЕЦ м. Невялікі сасоннік каля возера. Кароўчына Дрыб.

ДЗЯДЗЬКАЎ БРОД. Бераг р. Пціч. Даўней тут дзядзька Антон вартаваў лодкі. Дрычын Асіп.

ДЗЯДОЎНІК м. Ягадная дзялянка ў лесе. Тут шмат дзядоўніку. Аўчыненкі Шкл.; Роў (парослы дзядоўнікам). Рэут Клім.

ДЗЯДЫ мн. Поле. Раней тут расло шмат дзядоўніку. Турышчава Гор., Халмы Красн., Грушава Крыч., Плешчыцы Шкл.; Хмызняк каля р. Проні. Раней тут жыло два ўдаўцы-хутаранцы. Дужаўка Чав.

ДЗЯКАВА ДВОРЫШЧА. Урочышча. Раней тут жыў царкоўны служка. Смолка Чав.

ДЗЯКАЎСКАЯ РОШЧА ж. Гай. Даўней тут жыў дзяк з Узнясенскай царквы. Крычаў.

ДЗЯКОЎШЧЫНА ж. Лес. Падлешчанка Кір.

ДЗЯЛКІ мн. Поле. Яно падзелена на асобныя ўчасткі. Халмы Красн.

ДЗЯЛЯНКА ж. Высечаная частка лесу. Алешкавічы, Мікалаеўка Бял., Селішча, Скрыпліца Кір., Стайкі Клім., Княжыцы Маг., Загліннае Слаўг., Вялікія Лазіцы, Сапронькі Шкл.

ДЗЯМ'ЯНАВА ЛЯДА. Балота. Раней тут быў участак лесу, высечаны Дзям'янам. Чырвоны Бор Бял.

ДЗЯМ'ЯНАЎ БУГОР. Узгорак. Некалі тут жыў селянін Дзям'ян. Антонаўка Чав.

ДЗЯМ'ЯНАЎ КЛІН. Поле. Раней яно належала Дзям'яну. Глінь Чэрык.

ДЗЯМ'ЯНАЎ РАВОК. Роў. Даўней каля яго жыў Дзям'ян. Ліпск Кругл.

ДЗЯМ'ЯНАЎ РОГ. Урочышча. Даўней тут быў хутар Дзям'яна. Градзянка Асіп.

ДЗЯМ'ЯНАЎ САД. Сад. Некалі яго пасадзіў Дзям'ян. Камяніца Бял., Сіманавічы Глуск., Купёлы Маг.

ДЗЯМ'ЯНАЎ СЕНАКОС. Луг. Некалі ён належаў Дзям'яну. Глінне Мсц.

ДЗЯМ'ЯНАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў Дзям'ян. Грушава Крыч.

ДЗЯМІДАВА ДАЛІНА. Урочышча. Раней тут жыў Дзямід. Дрычын Асіп.

ДЗЯМІДАВА ДАРОГА. Дарога. У час Вялікай Айчыннай вайны тут загінуў Дзямід. Камяніца Бял.

ДЗЯМІДАВА ДВОРЫШЧА. Сядзіба. Даўней тут жыў Дзямід. Наркі Чэрык.

ДЗЯМІДАВА ЖЭСЦЬ. Мясціна ў лесе. Некалі тут жыў хутаранец Дзямід. Добрая Гор.

ДЗЯМІДАВА ПЛЁСА. Месца на рэчцы. Даўней тут утапіўся Дзямід. Чарнякоўка Слаўг.

ДЗЯМІДАВІЧАВА КЛАДКА. Кладка. Некалі яе зрабіў Дзямідавіч. Карасі Шкл.

ДЗЯМІДАЎ КАЛОДЗЕЖ. Месца на полі. Даўней тут жыў хутаранец Дзямід, які меў калодзеж. Кулікоўка Слаўг.

ДЗЯМІДАЎ ХУТАР. Сенажаць. Калісьці тут жыла сям'я Дзямідавых. Праточнае Бых.

ДЗЯМІДАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Дзямідавічы Касц.

ДЗЯНІСАВА ВОЗЕРА. Возера. Даўней тут была сядзіба Дзяніса. Бахацец Чав.

ДЗЯНІСАВА ГАРА. Узгорак. Калісьці тут жыў хутаранец Дзяніс. Перагон Слаўг.

ДЗЯНІСАВА КРЫНІЦА. Сажалка. Некалі яе выкапаў Дзяніс. Слабада Бабр.

ДЗЯНІСАВА СЯЛІБА. Калгаснае поле. Раней тут жыў Дзяніс. Ушакі Чэрык.

ДЗЯНІСАВА УРОЧЫШЧА. Урочышча. Калісьці тут жыў Дзяніс. Перагон, Свенск Слаўг.

ДЗЯНІСАВЫ КУСЦІКІ. Кустоўе. Даўней тут стаяла хата Дзяніса. Аляксееўка Касц.

ДЗЯНІСАЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Некалі яго пасадзіў Дзяніс. Перагон, Свенск Слаўг.

ДЗЯНІСАЎ ЛЕС. Лес. Калісьці ў ім жыў ляснік Дзяніс. Баханы Хоц.

ДЗЯНІСАЎ ЯР. Роў. Некалі тут забілі дзядзьку Дзяніса. Зылі Маг.

ДЗЯНІСІХІН ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыла хутаранка Дзянісіха. Кулешава Шкл.

ДЗЯНЬГУБ м. Глухое, непраходнае месца ў лесе. Лешча Шкл.

ДЗЯНЬГУБАЎКА ж. Далёкі луг. Вайнілы Чав.

ДЗЯРБІНА ж. Поле. Доўгі час тут нічога не сеялі. Балешын Клім.

ДЗЯРЖЫНСКІ м. Урочышча. Да Вялікай Айчыннай вайны тут быў пасёлак. Боркі Кір.; Частка в. Ордаць Шкл.

ДЗЯРКАЧ м. Сенажаць. Раней тут вадзіліся дзеркачы (драчы). Касперка Клім.

ДЗЯРЛІЎКА ж. Частка вёскі каля балота. Васькавічы Чав.

ДЗЯРЫБНАВА ВОЗЕРА. Возера. Даўней каля яго жыў Дзярыбнаў (прозвішча). Ліпец Маг.

ДЗЯРЭЎНЯ ж. Невялікі пасёлак. Раней тут была вялікая вёска. Дубраўка Маг.; Частка в. Красавічы Клім., Нясята Кліч.

ДЗЯТЛАЎ ЛЕС. Невялікі лес. Акунёўка, Літоўск Шкл.

ДЗЯТЛАЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Раней тут жыла сям'я Дзятлавых. Дары Асіп; Лес. Стайкі Клім.

ДЗЯТЛАЎСКІ ЛЕС. Лес. Даўней ён належаў пану Дзятлаву. Шаламы Слаўг., Ермалоўка Гор.

ДЗЯЎЧОНКІ мн. Поле. Некалі тут жыла сям'я, у якой былі адны дочкі. Панкратавічы Бабр., Горка Шкл.

ДЗЯЦІНАЕ н. Поле за вёскай. Тут любілі гуляць дзеці. Уздзевічы Клім.

ДОБАСНА ж. Рэчка каля в. Добасна. Падлешчанка Кір.

ДОБРАЕ н. Урадлівае поле. Халмы Красн., Кульшычы Слаўг.

ДОБРАНСКІ МОСТ. Мост каля в. Добрая Гор.

ДОБРЫ ДУБ м. Поле. Раней тут раслі дубы. Перагон Слаўг.

ДОМІКІ мн. Нядаўна пабудаваны пасёлак. Тут шмат двухпавярховых цагляных дамоў. Хамінічы Гор., Саматэвічы Касц., Шалаёўка Кір., Брылі Маг.; Мясціна ў лесе. Некалі тут сталі паляўнічыя домікі. Халмы Чав.

ДОМНІН САД. Поле. Некалі на гэтым месцы быў хутар Домны. Славені Шкл.

ДОМНІН ХУТАР. Урочышча каля возера. Благавічы Чав.

ДОМНІНА ДЗЯЛЯНКА. Участак лесу. Калісьці тут быў хмызняк, які высекла Домна. Гавяды Шкл.

ДОМНІНА ЛІНІЯ. Лясная прасека. У час Вялікай Айчыннай вайны тут быў лес, дзе немцы расстралялі жанчыну Домну з дзецьмі. Запруддзе Маг.

ДОМНІНА ЛУЧКА. Урочышча. Даўней тут жыла Домна. Сіпайлы Бял.

ДОНЬКАЎ ЛЕС. Мясціна ў лесе. Раней тут жыў Донька (мянушка). Замошша Шкл.

ДОРАХАЎ ЛЕС. Лес. Некалі тут працаваў ляснік Дорах. Манастырок Чэрык.

ДОЎБІНСКІ ХУТАР. Месца ў лесе. Даўней тут жыў хутаранец Доўбінскі. Паплавы Кліч.

ДОЎГАЕ БАЛОТА. Вялікае прадаўгаватае балота. Добрая Гор., Заполле Кліч., Дубраўка Маг.

ДОЎГАЕ н. Шырокі і доўгі луг. Рэкатка Гор., Сапрынавічы Мсц., Плешчыцы Шкл.; Вялікая паляна ў лесе. Тут расце шмат грыбоў. Красніца Касц.; Доўгае поле. Сычык Крыч.; Вуліца. Дружба Бых.

ДОЎГАЕ ПОЛЕ. Поле. Чорны Бор Бых., Друць Бял., Боркі Кір.

ДОЎГАНЬКАЕ н. Вузкае і доўгае балота. Прыпечына Чэрык.

ДОЎГАЯ ГРЫЎКА. Палоска зямлі паміж двума балотамі. Лыкава Маг.

ДОЎГАЯ ДУБРОВА. Вялікі дубовы лес. Чорнае Шкл.

ДОЎГАЯ ж. Вузкая і доўгая сенажаць каля р. Свіслач. Малая Гарожа Асіп.

ДОЎГАЯ НІВА. Месца на лузе. Следзюкі Бых.

ДОЎГАЯ ПЛОШЧА. Поле. Брылёўка Красн.

ДОЎГІ АБОРАК. Частка в. Малыя Аўчыненкі Шкл.

ДОЎГІ БАРОК. Частка выгаралага лесу. Азарычы Слаўг.

ДОЎГІ БОР. Поле. Яно цягнецца ўздоўж сасновага лесу. Трылесіна Бых.

ДОЎГІ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Сетнае Крыч.

ДОЎГІ ВІР. Прадаўгаватая паласа ракі. Там віруе вада. Балбечына Гор.

ДОЎГІ ВЫГАР. Балота. Чарнякоўка Слаўг.

ДОЎГІ ЛЕС. Вузкая і доўгая палоска лесу. Старына Мсц., Чыкілі Глуск.; Паша. Раней тут быў лес. Мачулкі Бабр.

ДОЎГІ ЛОГ. Поле. Недзведзь Клім.; Балота. Сасноўка Шкл.; Луг. Дзягавічы Крыч.

ДОЎГІ ЛУГ. Луг. Зуі Крыч., Перагон Слаўг.; Луг каля в. Доўгае. Чорны Бор Бых.

ДОЎГІ м. Луг. Рэкатка Гор.

ДОЎГІ МОСТ. Мост праз раку. Следзюкі Бых.

ДОЎГІ МОХ. Балота ў лесе. Сухары Маг., Балбечына Гор.

ДОЎГІ РОЎ. Вялікі роў. Валоўнікі Мсц.

ДОЎГІ ЯР. Яр каля лесу. Глінь Чэрык.

ДОЎГІЯ мн. Доўгае поле паміж дзвюма дарогамі. Мыслоціна Глуск.; Заліўны луг уздоўж р. Сож. Сялец Мсц.; Доўгая паласа лесу. Катка Глуск.; Поле. Бялынічы, Радча Кругл., Прудок Слаўг.

ДОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Доўгаўка. Вайнілы Маг.

ДОЎСКІ ЛУГ. Луг каля в. Доўгае. Слабада Кір.

ДОЎСКІ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыла сям'я Доўскіх. Боркі Кір.

ДОЎСКІЯ ЛУГІ. Лугі каля в. Доўгае. Гонча Кліч.

ДРАВАСЕК м. Забалочанае месца. Доўгае Кліч.; Луг. Некалі на гэтым месцы быў лес. Маління Кліч.; Лес. Ухлесць Бых.

ДРАГАЖЫНШЧЫНА ж. Лес каля в. Драгажынь. Казакоўка Слаўг.

ДРАГУНСКІЯ ХУТАРЫ. Мясціна каля лесу. Паводле паданняў, у гады вайны 1812 г. тут стаялі драгуны. Буда Красн.

ДРАЖНЕВА ДЗЯЛЯНКА. Мясціна ў лесе. Даўней тут стаяла хата лесніка, якога вясковыя хлапчукі дражнілі за непрыгожы вонкавы выгляд. Цяхцін Бял.

ДРАЖНЫ ЛОГ. Непраходнае балоцістае месца ў лесе. Нясята Кліч.

ДРАЖНЯ ж. Урочышча. Калісьці тут працякала некалькі рачулак. Сямёнаўка Клім.; Ягаднае мясціна ў лесе. Асіповічы Гор.

ДРАЗГА ж. Густы непраходны лес. Ліпень Асіп.

ДРАЗДЗІХІН ЛЕС. Лес. У час Вялікай Айчыннай вайны тут жыла Драздзіхіна (прозвішча). Глінь Чэрык.

ДРАЗДОВА БАЛОТА. Балота. Вакол яго быў лес, дзе гняздзіліся дразды. Чырвоны Бор Бял.

ДРАЗДОВА КУПЁЛА. Узлесак. Раней тут быў хутар Драздовых. Наркі Чэрык.

ДРАЗДОВА ЛАЗА. Поле. Даўней тут рос лазняк, каля якога жыў Драздоў. Чорны Бор Бых.

ДРАЗДОЎ ЛОГ. Луг. Калісьці ён належаў селяніну Дразду ( мянушка). Мядзвёдаўка Маг.

ДРАЗДОЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў селянін Дрозд (мянушка). Мядзвёдаўка Маг.

ДРАЗДОЎКІ мн. Луг. Тут пасвяць кароў. Слаўня Слаўг.

ДРАНІНЫ мн. Мясціна ў лесе. Даўней тут дралі мох. Масцішча Глуск.

ДРАНЫ м. Лес. Некалі тут дралі мох. Кострычы Кір.

ДРАНЬКОЎШЧЫНА ж. Месца на лузе. Раней тут жылі Драньковы. Затоны Гор.

ДРАЎЛЯНІК м. Месца ў лесе. Раней тут нарыхтоўвалі дровы. Замышкі Кругл., Маляцічы Крыч.

ДРАЎЦОВА н. Поле. Калісьці тут быў лес. Добрая Гор.

ДРАЧКОЎШЧЫНА ж. Лес каля в. Драчкоў Чав.

ДРУГАЯ МАСКВА. Месца ў лесе. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут размяшчаліся партызаны. Ліпень Асіп.

ДРУГІ ЛЕС. Лес каля в. Хацілавічы Крыч.

ДРУГІ ЛЯСОК. Частка лесу (аддзелена ад асноўнага масіву полем). Трылесіна Гор.

ДРУДЫ ЛЕС. Лес. Даўней ён належаў пану Друдому (мянушка). Леніна Красн.

ДРУКАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыла сям'я Друкавых. Антонаўка Чав.

ДРЫБЧЫНА н. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Дрыбчын. Боркі Кір.

ДРЫВАСКЕП м. Узлесак. Даўней тут выкопвалі карчы. Сельцы Глуск.

ДРЫВЯТЫ мн. Багністая мясціна ў лесе. Ліпень Асіп.

ДРЫГВЯНАЕ н. Багністае балота. Клімавічы.

ДРЫГВЯНКА ж. Невялікае балота каля в. Сычкава Бабр.

ДРЫГЛЯ ж. Балота. Дубасна Мсц.

ДРЫЖАЧА ж. Балота. Раней яно было багністае. Барчыцы Кір.

ДРЫШЧОЎ м. Возера з глiністым дном. Казакоўка Слаўг.

ДРЭТАВА н. Поле. Раней тут быў хутар. Сцяг Глуск.

ДРЭЎКІ мн. Лес каля в. Падудага Крыч.

ДУБ КАХАННЯ. Дуб над рэчкай. Тут часта збіраецца моладзь. Слаўгарад.

ДУБ м. Месца ў лесе. Калісьці тут рос вялікі дуб. Ржавец Чэрык.

ДУБ'Ё н. Поле. Раней на гэтым месцы рос дубняк. Мхінічы Красн.

ДУБАВОЕ н. Балота. Раней каля яго рос вялікі дуб. Сенькава Гор.

ДУБАЎКА ж. Поле. Некалі тут рос дубняк. Панкратавічы Бабр.

ДУБАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут раслі дубы. Камяніца Бял.

ДУБЕЛЬ м. Мясціна ў лесе. Тут шмат дубоў. Мыслоціна Глуск.

ДУБІКІ мн. Лес каля в. Горка Шкл., Гонча Кліч.

ДУБІНА ж. Урочышча. Некалі тут раслі дубы. Асман-Касаева Бял.

ДУБІНСКАЕ ВОЗЕРА. Возера каля в. Дубінка Маг.

ДУБІНСКІ ЛЕС. Дубовы лес каля в. Гарбавічы Чав.

ДУБІНЧЫКАВА ПАЛЯНА. Паляна сярод лесу. Даўней тут любіў адпачываць Дубінчык. Глуск.

ДУБІЦКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Дубінка Маг.

ДУБІЧЫ мн. Урочышча. Тут расце некалькі вялікіх дубоў. Цялуша Бабр.

ДУБІШЧА н. Мясціна ў лесе. Тут расце шмат дубоў. Вялікія Лазіцы Шкл.

ДУБІШЧЫНА н. Дубняк. Валынеж Касц.

ДУБКІ мн. Мясціна на беразе. Тут расце некалькі дубкоў. Стайкі Клім.

ДУБНІЦА ж. Ускраек лесу. Тут растуць старыя дубы. Добры Дуб Слаўг.

ДУБНІЦКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Дубнікі. Перасопня Кліч.

ДУБНІЧОК м. Урочышча. Тут растуць дубы. Лазаравічы Бых.

ДУБНІШЧА н. Сенажаць. Некалі тут раслі дубы. Дубасна Мсц.

ДУБНЯК м. Дубовы лес. Стайкі Клім., Ваевічы Кліч., Каменка Мсц., Рагі Слаўг.; Месца ў лесе. Тут растуць дубы. Маляцічы Крыч.; Урочышча (каля дубовага лесу). Загараны Кругл.

ДУБНЯКІ мн. Месца ў лесе. Раней тут раслі дубы. Селішча Кір.

ДУБНЯКОВА ДАРОГА. Дарога. Абапал яе растуць дубы. Кухенка Бабр.; Дарога праз дубняк. Палянінавічы Бабр.

ДУБНЯЧОК м. Месца на лузе. Раней тут раслі вялікія дубы. Вець Бых.

ДУБОВАЕ КАЛЕНА. Месца каля дарогі. Тут рос сагнуты дуб, як калена. Мхінічы Красн.

ДУБОВАЕ н. Лес. Даўней тут была в. Дубок, якую спалілі немцы. Караны Асіп.

ДУБОВАЕ УРОЧЫШЧА. Мясціна ў лесе. Тут расце дубняк. Барчыцы. Кір.

ДУБОВАЯ ГРЫВА. Невялікі лес. Вароніна Бых.

ДУБОВАЯ ж. Дубовы лес. Радамля Чав.

ДУБОВАЯ КАЛОДА. Лес. Некалі тут рос вялікі дуб, які спілілі. Маслакі, Паршына Гор.

ДУБОВАЯ ЛАШЧЫНА. Урочышча. Некалі тут рос стары высокі дуб. Стайкі Маг.

ДУБОВАЯ ЛУКА. Звілістая частка ракі. Даўней на яе беразе раслі дубы. Глінь Чэрык.

ДУБОВАЯ м. Месца ў лесе. Раней тут раслі дубы. Зарэсце Маг.

ДУБОВАЯ РОШЧА. Дубовы лес. Рагі Слаўг.

ДУБОВЫ АБОРАК. Месца за вёскай. Тут растуць дубы. Мушына Мсц.

ДУБОВЫ ВУГАЛ. Частка лесу. Тут многа дубняку. Маслакі Гор.

ДУБОВЫ ГАЙ. Дубовы лес. Бірча Бабр.

ДУБОВЫ ЛЕС. Лес. Тут расце шмат дубоў. Барчыцы Кір.

ДУБОВЫ САД. Урочышча. Некалі на гэтым месцы быў сад, на ўзмежку якога раслі дубы. Новая Ельня, Дубраўка Красн.

**ДУБОВЫЯ ХУТАРЫ**. Луг. Раней тут былі хутары, каля якіх расло шмат дубоў. Радамля Чав.

**ДУБОК** м. Поле за вёскай. Тут расце высокі дуб. Сабалёўка Клім.; Месца на полі. Калісьці тут рос магутны дуб. Прылессе, Халмы Чав.; Узгорак у лесе. Тут расце дуб. Азярышча Асіп.

**ДУБОЎКА** ж. Месца каля ракі. Тут расце некалькі дубоў. Заполле Кліч.; Рэчка. Яна цячэ па дубовым гаі. Навасёлкі Бял.; Поле. Калісьці тут раслі дубы. Паўлавічы Клім.

**ДУБОЎШЧЫНА** ж. Урочышча. Тут растуць дубы. Літоўск, Шупені Кругл., Пясчанка Маг.

**ДУБОЦКАЯ ДАРОГА**. Дарога. Паабапал яе растуць магутныя дубы. Сідаравічы Маг.

**ДУБРАВА** ж. Урочышча. Тут растуць вялікія дубы. Горкі Чэрык.; Лес. Тут расце многа дубоў. Дубравіца Клім., Арцёхаў Красн., Кутня Чав.; Частка лесу. Тут многа дубняку. Гавяды Шкл.

**ДУБРАЎКА** ж. Сенажаць у лесе. Вакол яе расце шмат дубоў. Кіраўск; Месца каля вёскі. Тут растуць дубы. Рабінаўка Слаўг.; Урочышча каля ракі. Даўней тут была вялікая дуброва. Бортнікі Бабр.; Урочышча. Тут расце многа дубоў. Дубраўка Чэрык., Лебядзёўка Слаўг.

**ДУБРАЎКІ** мн. Луг. Даўней тут была дуброва. Вець Бых.; Невялікі дубовы лес. Курманава Мсц.

**ДУБРАЎНЯ** ж. Вясковая вуліца. Тут расце шмат дубоў. Капані Чав.

**ДУБРАЎСКАЕ БАЛОТА**. Балота каля в. Дубраўка Маг.

**ДУБРАЎСКАЕ ВОЗЕРА**. Возера ў в. Дубраўка Маг.

**ДУБРАЎСКАЕ ПОЛЕ**. Даўней тут была в. Дубрава. Градзянка Асіп.

**ДУБРАЎСКАЕ УРОЧЫШЧА**. Луг каля дубовага лесу. Рабінаўка Слаўг.

**ДУБРАЎСКАЯ ДАРОГА**. Дарога ў в. Дубравіца. Селішча Клім.

**ДУБРАЎСКІ ЛЕС**. Лес каля в. Дубраўка Маг.

**ДУБРАЎСКІ** м. Пераезд. Даўней па гэтым месцы жыў пан Дубраўскі. Градзянка Асіп.

**ДУБРОВА** ж. Поле. Да Вялікай Айчыннай вайны на гэтым месцы быў гай. Ямнае Бых.; Шырокае поле каля дубровы. Каменка Чав.; Хмызняк. Некалі тут расло многа дубоў. Леніна Красн.; Луг. Раней тут раслі дубы. Ананічы Крыч.; Дубовы лес. Пячкоўка, Янаўка Мсц., Мурын Бор Касц., Белае Красн.; Месца ў лесе. Тут растуць дубы. Мікулічы Бабр., Забавы Бял., Галічы Клім., Зарэчча Кругл., Асавец Крыч.

**ДУБРОВЕНСКАЯ БАЛОТА**. Балота каля дубровы. Дзмітраўка II Кліч.

**ДУБРОВІНЫ** мн. Лес. Даўней непадалёку жыў хутаранец Дуброў. Кобча Кліч.

**ДУБРОВІШЧА** н. Дубовы лес. Калісьці тут быў хутар. Забавы Бял.

**ДУБРОЎКА** ж. Мясціна ў лесе. Тут расце многа дубоў. Перасопня Кліч., Свенск Слаўг.; Частка вёскі. Тут шмат дубоў. Васькавічы Чав., Наркі Чэрык.; Дарога. Абапал яе раслі велізныя дубы. Гусарка Клім.; Поле, зарослае рэдкім дубняком. Мяжэнін Клім.; Малады дубовы лес. Высокае Клім.; Паляна ў дубовым лесе. Казелле Красн.

**ДУБРОЎКІ** мн. Поле. Даўней тут расло шмат дубоў. Малая Багацькаўка Мсц.; Дубовы лес. Сялецкае Касц., Аляксандраўка Слаўг.

**ДУБРОЎНА** ж. Дубовы лес. Раней тут было шмат ягад і грыбоў. Крычаў.

**ДУБРОЎНІК** м. Урочышча каля дубровы. Завадок Красн.

**ДУБРОЎСКАЕ БАЛОТА**. Балота за в. Дуброва Глуск ., Бых.

ДУБРОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Дуброва Кліч.; Лес. Калісьці ў ім быў павешаны пан Дуброўскі. Трасціно Хоц.

ДУБРОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Даўней тут жыла сям'я Дубровіных. Глінь Чэрык.; Дубовы лес. Свяцілавічы Бял.

ДУБЫ мн. Месца на беразе ракі. Тут растуць дубы. Ліпень Асіп., Заполле Кліч.; Урочышча. Даўней на гэтым месцы раслі дубы. Ніканавічы Бых., Турыно Глуск., Недзведзь Клім., Новыя Максімавічы Кліч., Жданавічы Шкл.; Дубовы лес. Градзянка Асіп., Давыдавічы Бых., Эсьмоны Бял., Бялынкавічы Касц.; Урочышча. Тут растуць вялізныя дубы. Баханы Хоц.; Месца на лузе. Тут расце некалькі дубоў. Перасопня Кліч.; Пасека. Тут шмат маладых дубоў. Маслакі Гор., Замышкі Кругл.; Мясціна ў лесе. Тут растуць адны дубы. Крынка Асіп., Алешкавічы, Цяхцін Бял., Сялец Гор., Восаў Красн.

ДУДАРАЎКА ж. Поле. Раней тут жыў конюх Дудар. Прудок Слаўг.

ДУДАРОЎКА ж. Лес. Даўней на гэтым месцы была сядзіба Дударава. Зуі Крыч.

ДУДЗІНШЧЫНА ж. Лес. Калісьці ён належаў пану Дудзінскаму. Лазовіца Клім.

ДУДКІН ЛОГ. Лог. Некалі ён належаў сям'і Дудкіных. Забалоцце, Нежкава Бял.

ДУДКІН ХУТАР. Паляна. Раней тут жыла сям'я Дудкіных. Пясчанка Маг.

ДУДКОЎ ЛЕС. Лес. Некалі тут жыў хутаранец Дудкоў. Баханы Хоц.

ДУДКОЎСКІ ГУШЧАР. Урочышча каля лесу. Тут жыве сям'я Дудковых. Мышкавічы Крыч.

ДУЖАВА ПАСЕКА. Пасека. На ёй гаспадарыць Дужаў. Ліпаўка Хоц.

ДУКАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Дук. Заеліца Глуск.

ДУЛЯ ж. Месца каля рэчкі. Тут расце невялікая груша. Кулешава Шкл.

ДУНДЗІНА ж. Месца ў лесе. Даўней тут жыў ляснікі Дунда. Запруддзе Маг.

ДУНІН ВІР. Месца на рэчцы. Калісьці тут утапілася Дуня. Туркі Бабр.

ДУНІН ЛЕС. Лес. Даўней каля яго стаяла хата старой Дуні. Раманавічы Маг.

ДУНІНА БАЛОТА. Балота. Некалі каля яго стаяла хата Дуні. Раманавічы Маг.

ДУНСІНЫ КАРЧЫ. Агарод. Калісьці яго распрацавала адзінокая жанчына Дунься. Юзафоўка Хоц.

ДУНУВЕЦ м. Бальшак. Нежкаўка Чав.

ДУНУВІЦЫ мн. Поле. Прылессе Чав.

ДУПЛІШЧЫ мн. Месца ў лесе. Тут шмат дуплаватых дрэў. Каменка Мсц.

ДУПЛІШЧА н. Лес. У ім шмат дуплаватых дрэў. Аўчыненкі Шкл.

ДУРАВІНКА ж. Балота. Тут заўсёды растуць дуравы (дурніцы). Следзюкі Бых.

ДУРАЎНАЕ БАЛОТА. Тут шмат ягад дурніц (буякі). Мядзвёдаўка Маг.

ДУРНІЦА ж. Балота. На ім растуць ягады дурніцы (буякі). Абідавічы Бых.

ДУРНІЧНІК м. Лес. У ім расце вельмі многа дурніц. Аўчыненкі Шкл.

ДУРНІЧНЫ МОХ. Балота. Вяскоўцы збіраюць тут дурніцы. Літоўск Кругл.

ДУРНОЕ БАЛОТА. Балота. Тут шмат багуну і ягад дурніц (буякі). Дубраўка Красн., Рагі, Ржаўка Слаўг., Доўгая Дуброва Хоц., Вайнілы Чав., Нікіцінічы Шкл.

ДУРНОЕ МЕСЦА. Лясная сцежка. Паводле вясковых паданняў, тут з людзьмі часта здаралася няшчасце. Крычаў.

ДУРЫЛАЎКА ж. Частка в. Перагон Слаўг.

ДУХАВІЦА ж. Луг. Даўней на ім амаль ўсё лета стаяла вада, таму было цяжка сушыць сена. Косічы Бых.

ДУШАГУБАЎКА ж. Месца ў лесе. Раней тут было багністае балота, дзе часта тапіліся людзі. Гразівец Чав.

ДУШЫЛАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Родня Клім.

ДЫРДЗІНА ДЗЯЛЯНКА. Багатая на маліну мясціна ў лесе. Некалі тут быў невялікі надзел Дырды (мянушка). Фядотава Буда Клім.

ДЭХАВА ГАРА. Поле. Даўней тут жыў паляўнічы Дэх (прозвішча). Прудок Слаўг.

# Е, Ё

ЁВІКАВА РЭЧКА. Заліўная сенажаць. Даўней яна належала Ёўкіну. Рагі Слаўг.

ЕВІНА БАЛОТА. Балота (каля хаты бабы Евы). Чырвоны Бор Бял.

ЕГАНОЎСКІ ЛЕС. Лес ля в. Еганы Шкл.

ЕДВАРТАВА ЗАШЧЫТА. Густыя непралазныя кусты. Раней тут стаяла хата Едварта. Русенка Маг.

ЕЗАЎЕ н. Мелкаводны ўчастак ракі. Ліпень Асіп.

ЕЗВА ж. Пясчаны плёс на рацэ. Ліпень Асіп.

ЁЗКАЎ ПАЛЯДАК. Поле. Калісьці тут жыў Ёзка. Гута Клім.

ЁЛАЧКІ мн. Дарога. Абапал яе растуць елкі. Родня Клім., Кухенка Бабр.

ЕЛЕНКА ж. Рачулка. Яна бярэ свой пачатак паблізу в. Ельня. Бярозкі Хоц.

ЕЛЬКА ж. Рачулка. Некалі тут утапілася дзяўчына Алена (ласк.-пам. форма Елька). Новы Свет Красн.

ЕЛЬКАЎШЧЫНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Елькаўшчына Кругл.

ЕЛЬНІКІ мн. Урочышча. Ржаўка Слаўг.

ЕЛЬНІЧАК м. Частка в. Забялышын Хоц.

ЕЛЬНЯ ж. Частка берагу ракі. На беразе яе расце елка. Стайкі Клім.

ЕМЯЛЬЯНАВА СЦЯЖЫНКА. Сцежка ў лесе. Калісьці па ёй хадзіў ляснік Емяльян. Раманавічы Маг.

ЕМЯЛЬЯНАЎ МОСТ. Мост. Некалі яго пабудаваў дзед Емяльян. Вільча Глуск.

ЕРАСЦЕНКАВЫ ПАЛЯДКІ. Лес. Раней тут было поле, якое належала Ерасценку. Вепрын Чэрык.

ЕРМАКОЎ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Некалі яго выкапаў Ермакоў. Мурын Бор Касц.

ЕРМАКОЎ ЛЕС. Лес. Раней на гэтым месцы жыў купец Ермакоў. Петухоўка Чав.

ЕРМАКОЎ РАВОК. Поле. Калісьці тут быў невялікі кавалак урадлівай зямлі, на якой працаваў Ермакоў. Мяжэнін Клім.

ЕРМАКОЎКА м. Урочышча. Раней тут быў хутар Ермака. Язёры, Горкі Чэрык.

ЕРМАЛАЕЎШЧЫНА ж. Луг. Даўней тут жыла сям'я Ермаловічаў. Коўбча Кліч.

ЁРХАЎКА ж. Луг і лес. Некалі тут жыў пан Ёрхаў. Зарэчча Чав.

ЕРЫК м. Пясчаны яр. Слабада Асіп.

ЕТВІЦА ж. Частка возера. Па форме яна нагадвае літару "Е". Вець Быx.

ЕЎДАКІМАВА ДАЛІНА. Нізіна. Калісьці тут жыў хутаранец Еўдакім. Заеліца Глуск.

ЕЎДАКІМАЎ ЛЯСОК. Лог. Раней тут быў невялікі лес, які высек селянін Еўдакім. Антонаўка Чав.

ЕЎДАКІМАЎШЧЫНА ж. Мясціна. Некалі тут быў хутар Еўдакіма. Заеліца Глуск.

ЕЎСТРАТАВА ГАРА. Узвышанае месца. Раней тут стаяў млын Еўстрата. Поўстка Глуск.

# Ж

ЖАБ'Е ВОКА. Балота. Тут водзіцца шмат жаб. Дручаны Бял.

ЖАБ'Е н. Мясціна ў лесе. Калісьці тут было многа жаб. Асінаўка, Курманава Мсц.

ЖАБ'Я САЖАЛКА. Сажалка (з зялёнай вадой). Паўлава Кругл.

ЖАБАВІННЕ н. Мясціна ў лесе. Тут водзіцца шмат жаб. Забалоцце Бял.

ЖАБАР м. Невялікае балота. Тут водзяцца жабы. Слабада Асіп.

ЖАБАЎЁ н. Азярцо. Тут водзіцца шмат жаб. Слаўня Слаўг.

ЖАБІНА БАЛОТА. Балота. У ім многа жаб. Гуслішчы Маг.

ЖАБІНАЕ ВОКА. Круглае балота. Мікулічы Бабр.

ЖАБІНШЧЫНА ж. Поле. Даўней яно належала Жабінскаму. Кулікоўка Слаўг.

ЖАБСКАЯ КАНАВА. Канава. Раней тут было вельмі многа жаб. Багацькаўка Мсц.

ЖАБУРЫННЕ н. Луг. Некалі на гэтым месцы было балота, у якім вадзіліся жабы. Прыгаўка Крыч.

ЖАВАРАНКАЎ БРОД. Мелкае месца на рацэ. Даўней паблізу яго жыла сям'я Жаваранкавых. Ордаць Шкл.

ЖАДЭЦКАЕ БАЛОТА. Балота каля дома Жадэцкіх. Дзмітраўка II Кліч.

ЖАКАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота пасярод лесу. Яно знаходзіцца непадалёку ад в. Жакаўка Дрыб.

ЖАКОЎСКАЕ н. Лес каля в. Жакаўка Дрыб.

ЖАЛЕЗІНКА ж. Лес. Дабужа Быx.

ЖАЛЕЗНАЕ БАЛОТА. Лес. Тут растуць магутныя дубы. Крычаў.

ЖАЛЕЗНАЯ БАРАВІНА. Урочышча каля чыгункі. Доўгае Кліч.

ЖАЛЕЗНІЦА ж. Сенажаць ў лесе. Кіраўск.

ЖАЛЕНСКІ САД. Поле. Раней тут быў сад лекара. Дубравіца Клім.

ЖАЛУДОЎ ДУБ. Стары магутны дуб. Некалі яго пасадзіў дзед Жолуд (мянушка). Акунёўка Шкл.

ЖАЛУДЫ мн. Урочышча. Тут шмат дубоў. Ермалоўка Гор.

ЖАНОЧАЯ РЭЧКА. Рака. Паводле падання, яна ўтварылася ад слёз жанчыны. Пудзелішчы Касц.

ЖАРВАНОК м. Мясціна ў лесе. Тут шмат жаўранкаў. Барчыцы Кір.

ЖАРКІ мн. Вялізная яміна (на месцы выгаралага балота). Слабада Асіп.

ЖАРКІЯ мн. Месца на балоце. Раней тут гарэў торф. Альхоўка Чав.

ЖАРКОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Жаркі Касц.

ЖАРНАКЛЁВЫ мн. Месца ў лесе. Калісьці тут высякалі дрэвы, з якіх рабілі жорны. Красніца Касц.

ЖАРНАКЛЁЎ м. Поле. Па ім часта ходзяць жоравы. Чыкілі Глуск.

ЖАРСЦВЯНКА ж. Поле. Даўней тут было возера. Асіповічы Гор.

ЖАРЫКАВА н. Лес. Бутрамееўка Быx.

ЖАЎБРОЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Некалі яна належала пану Жаўброўскаму. Стайкі Клім.

ЖАЎРАНКАВА ПАЛЯНА. Паляна. Тут водзіцца шмат жаўранкаў. Канава Хоц.

ЖАЎРАНКАЎ БРОД. Месца на рацэ.Тут загінуў чалавек па прозвішчы Жаўранкаў. Ордаць Шкл.

ЖАЎРАНОК м. Лес. Летам тут неўгамонна спяваюць птушкі. Дубна Слаўг.

ЖАХЛІВАЕ БАЛОТА. Балота. Елькаўшчына Кругл.

ЖБЭРАЎ ЛЕС. Урочышча. Раней тут быў лес, у якім жыў хутаранец Жбэра (мянушка). Брускі Маг.

ЖВІРБЛЕЎШЧЫНА ж. Урочышча. Даўней тут быў хутар Жвірблеўскага. Слабада Кір.

ЖГУНЬ ж. Пасека з выгаралымі пнямі. Градзянка Асіп.

ЖМАЧЫНСКІЯ мн. Поле. Раней тут жыў хутаранец Жмачынскі. Таценка Кліч.

ЖНІЎНЫ РАНАК. Поле. Тут заўсёды пачынаюць убіраць збожжа. Дзягавічы Крыч.

ЖОРАВА БАЛОТА. Балота. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут загінуў партызан Жора. Пудаўня Дрыб.

ЖОРЖАВА н. Урочышча. Калісьці тут жыў хутаранец Жорж. Боркі Кір.; Поле. Даўней тут быў Жоржаў хутар. Чорны Бор Бых.

ЖОЎТАЕ ВОЗЕРА. Возера (з пясчаным дном). Пацкава Мсц.

ЖОЎТАЕ н. Поле. Тут расце шмат дзьмухаўцоў. Краснаполле.

ЖОЎТАЕ ПОЛЕ. Поле (з пясчанай глебай). Эсьмоны Бял.

ЖОЎТАЕ ТАПІЛА. Лясное балота (з вадой жоўтага колеру). Слабада Кліч.

ЖОЎТЫ БРОД. Пясчанае месца ў лесе. Вербкі Бабр.

ЖОЎТЫ ЛУГ. Луг. Летам тут цвіце шмат дзьмухаўцоў. Суша Кліч.

ЖОЎТЫ ПРУДОК. Сажалка (з вадой жоўтага колеру). Прудок Слаўг.

ЖОЎТЫ ПЯСОК. Круты бераг ракі. Тут многа жоўтага пяску. Ордаць Шкл.; Частка ракі (з пясчаным дном). Дамамерычы Клім.

ЖУКАВА ГАРА. Узгорак. Даўней тут быў забіты пан Жук. Клін Мсц.

ЖУКАВА КАЛЮГА. Сенажаць. Чарнякоўка Слаўг.

ЖУКАВА н. Вельмі густы і цёмны лес. Вець Бых.

ЖУКАЎ БАРОК. Месца ў лесе. Раней тут было шмат жукоў. Лабковічы Крыч.

ЖУКАЎ ЛУГ. Луг. На ім водзіцца шмат жукоў. Паклады Крыч., Катка Глуск.

ЖУКАЎ РАВОК. Сенажаць. Некалі непадалёк жыў Жукаў. Чарнякоўка Слаўг.

ЖУКАЎКА ж. Пасёлак у вёсцы. Тут жыве чалавек па мянушцы Жук. Круча Кругл.

ЖУКАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў пан Жукаў. Селішчы Кір.

ЖУКОЎКА ж. Лес каля в. Бутрамееўка Бых.

ЖУКОЎСКІ МОСЦІК. Мост. Некалі ён належаў пану Жукоўскаму. Сабалёўка Клім.

ЖУКОЎСКІ РАЖОК. Поле. Даўней тут была сядзіба Жука (мянушка). Жданавічы Шкл.

ЖУКОЎШЧЫНА ж. Невялікі лес. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут загінуў партызан Жукаў. Загаранкі Кругл.; Поле. Раней яно належала пану Жукоўскаму. Сабалёўка Клім.

ЖУРАВІНАВАЕ БАЛОТА. Балота. Тут расце багата журавін. Князеўка Маг., Высокае Шкл.

ЖУРАВІНАЯ КАЦВІНА. Паляна ў лесе. Тут расце шмат журавін. Гіжэнка Слаўг.

ЖУРАВІНІХА ж Забалочаная мясціна. Тут растуць журавіны. Залесавічы Крыч.

ЖУРАВІНКА ж. Густы, непраходны лес. Гатавец Красн.; Мясціна ў лесе. Тут растуць журавіны. Дзернавая Красн., Лабковічы Крыч.; Балота. Тут расце шмат журавін. Катка Глуск., Трылесіна Дрыб., Саматэвічы Касц.; Крыніца каля балота. Леніна Красн.

ЖУРАВІННАЕ н. Балота. Тут растуць журавіны. Доўгая Дуброва Хоц.

ЖУРАВІННІК м. Забалочаная мясціна. Там расце багата журавін. Высокае Клім., Заглiннае Слаўг., Баханы Хоц., Займішча Шкл.

ЖУРАВОВА ДАРОГА. Дарога. Паблізу ад яе жыў дзед Жураў. Бірча Бабр.

ЖУРАЎКА ж. Лес. Раней тут было многа журавін. Узраджэнне Маг.

ЖУРАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут быў хутар Жураўскіх. Зоры Чэрык.

ЖУРАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Журавель Чэрык.

ЖУРКАВА ГРАДКА. Узгорак. Даўней на гэтым месцы стаяла хата лесніка Журкі (мянушка). Чапаева Глуск.

ЖУРКОЎКА ж. Лес. Доўгавічы Мсц.

ЖУРОВІНЫ мн. Забалочаная мясціна. Тут расце шмат журавін. Пільнікі Кліч., Слабада Кір.

ЖУРОМСКАЕ УРОЧЫШЧА. Поле. Раней тут жылі гаспадары Журомскія. Бутрамееўка Бых.

ЖУРОМСКАЯ ГАРА. Узгорак. Калісьці тут жыла сям'я Журомскіх. Глінь Чэрык.

ЖУРСКАЕ н. Поле. Даўней тут быў хутар Жураўскага. Катка Глуск.

ЖУЧОК м. Мост праз рэчку. Нядашава Маг.

ЖЫВАЯ КРЫНІЦА. Крыніца з чыстай, гаючай вадой. Жавань Гор., Трылесіна Гор., Чырчына Шкл.

ЖЫВЕЦ м. Мясціна ў лесе. Калісьці тут жылі людзі. Ядраная Слабада Кліч.

ЖЫВІЦАВА БАЛОТА. Балота. Паблізу ад яго знаходзілася хата гаспадара Жывіцы (прозвішча). Славені Шкл.

ЖЫВЫ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. У ім чыстая і смачная вада. Кісялёва Буда Клім.

ЖЫГАЛАВА БАЛОТА. Балота. Некалі паблізу жыў гаспадар Жыгалка (мянушка). Чырвоны Бор Бял.

ЖЫГУНОЎ БОР. Мясціна ў лесе. Раней тут быў хутар Жыгунова. Чырчына Шкл.

ЖЫГУЧКІН ДВОР. Мясціна каля ракі. Раней тут жыла жанчына па мянушцы Жыгучка. Глінь Чэрык.

ЖЫДАВА ЛЯДА. Поле. Калісьці яно належала яўрэю. Балбечана Гор.

ЖЫДАЎ ХУТАР. Частка вёскі. Даўней тут жыў яўрэй, які меў невялікі магазінчык. Мурын Бор Касц.

ЖЫДАЎКА ж. Мясціна каля лесу. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут хаваліся яўрэі. Глухая Сяліба Бых.

ЖЫДАЎСКАЯ КУЗНЯ. Поле. Некалі тут стаяла кузня, у якой працавалі яўрэі. Сялецкае Касц.

ЖЫДАЎСКАЯ ЛАШЧЫНА. Урочышча. Раней тут быў яўрэйскі хутар. Забалацце Мсц.

ЖЫДОЎНЯ ж. Частка вёскі. Даўней тут жылі яўрэі. Леніна Красн.

ЖЫДОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Непадалёку ад яго жылі яўрэі. Канаўка Хоц.; Балота. Раней тут забілі яўрэя. Гародня Чав.

ЖЫДОЎСКАЕ КЛАДБІШЧА. Мясціна ў лесе. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут былі расстраляны і пахаваны яўрэі. Клічаў; Яўрэйскія могілкі. Баханы Хоц.

ЖЫДОЎШЧЫНА ж. Узвышанае месца. Раней тут знаходзіўся яўрэйскі пасёлак. Міхейкава Кругл., Шумілавічы Шкл.

ЖЫЛІН БРОД. Поле. Калісьці тут жыў селянін Жылін. Раманавічы Маг.

ЖЫРАЎКА ж. Грыбное месца ў лесе. Віркаў Кліч.

ЖЫСІНЫ м. Луг. Раней тут быў хутар гаспадара Жысіна. Дуброва Кліч.

ЖЫЎНІЦА ж. Гразкае балота. Новы Быхаў Бых.

ЖЫЎРАНОК н. Урочышча. Даўней тут жыла сям'я Жыўранковых. Шалаёўка Кір.

ЖЭНІНА БАЛОТА. Балота. Некалі каля яго жыла Жэня. Наркі Чэрык.

# З

ЗІНКІН РАВОК. Равок. Даўней каля яго жыла Зіна. Багіна Дрыб.

ЗА ЛЕС м. Поле (за лесам). Свіслач Асіп.

ЗА ЛІПЫ мн. Поле. Раней тут раслі ліпы. Чырвоны Бор Бял.

ЗА ЛІСОЮ ж. Сенажаць за р. Лісой. Поўстка Глуск.

ЗА ЛУГАМІ мн. Лес (за лугам). Поўстка. Глуск.

ЗА МЕЖЫ мн. Сенажаць. Мяжэнін Клім.

ЗА МЕЛЬНІЦАЮ ж. Поле. Раней тут быў млын. Усцярхі Глуск.

ЗА НАСЫП м. Луг (за насыпам). Маляцічы Крыч.

ЗА РАВОК м. Вуліца (за раўком). Іскань Бых.

ЗА РАЎКІ мн. Частка цёмнага лесу (за трыма равамі). Курманава Мсц.

ЗА РЭЧАЧКАЙ ж. Урочышча (за лясной рачулкай). Дуброва Кліч.

ЗА ЧЫГУНКАЙ ж. Поле (за чыгункай). Баркалабава Бых.

ЗА ЧЫСТАЙ ЛУЖАЙ. Поле. Яно знаходзіцца за вялікай лужынай. Дубна Слаўг.

ЗАВОЗЕР'Е н. Лес. Даўней за ім было возера. Язёры Чэрык.

ЗАГАЖАНЫ БОР. Бор. Праз яго ганяюць на поле кароў. Ясень Бабр.

ЗАГОН м. Загароджанае месца на полі. Сюды заганяюць удзень жывёлу. Замышкі Кругл.

ЗАЛЕГЛІ мн. Поле. Некалі тут былі багатыя залежы торфу. Гораўка Шкл.

ЗАЛЕССЕ н. Урочышча (за лесам). Цяхцін Бял., Лабковічы Крыч.; Поле (за лесам). Масцішча Бял.; Балота (за лесам). Пагост Глуск.

ЗАЛІВЫ мн. Нізіна каля рэчкі. У час паводкі яна затапляецца вадой. Малыя Аўчыненкі Шкл.

ЗАЛІГАЎ м. Месца ў лесе. Тут шмат паваленых дрэў. Грыбіна Кругл.

ЗАЛІЎНОЕ н. Заліўны луг. Літоўск Кругл.

ЗАЛІЎНОЕ ПОЛЕ. Поле. Вясной яно залівaецца вадой. Ліхінічы Кругл.

ЗАЛІЎНЫ БОР. Лес. У час паводкі ён залівaецца вадой. Вільчыцы, Лыкава Маг.

ЗАЛІЎНЫ ЛУГ. Луг. Вясною ён залівaецца вадою. Рудня Бял., Пудзелішчы Касц., Арэхаўка Кліч.

ЗАЛІЎНЫЯ ЛУГІ. Лугі. У час паводкі яны залівaюцца вадой. Камаровічы Чэрык.

ЗАЛІЎНЫЯ мн. Заліўныя лугі. Лебядзёва Гор.

ЗАЛОГА ж. Грыбная мясціна. Зоры Чэрык.

ЗАЛОЖЖА н. Урочышча паміж лугамі. Радамля Чав.

ЗАЛУГА ж. Урочышча (за лугам). Гарадок Глуск.

ЗАЛУГІ мн. Лес (за лугам). Русакі Шкл.

ЗАЛУГОМ м. Поле (за лугам). Віркаў Кліч.

ЗАЛУГОЎЕ н. Поле (за лугам). Вязаўніца Асіп.

ЗАЛУЖЖА н. Лес (за лугам). Цяхцін Бял., Шаманы Слаўг.; Рэчка (за лугам). Каменка Мсц.; Невялікая выспа ў Цёмным лесе. Багацькаўка Мсц.; Урочышча ў лесе. Даўней тут былі балоты. Градзянка Асіп.

ЗАЛУЖНАЕ ПОЛЕ. Поле (за лугам). Сцяг Глуск.

ЗАЛУЖСКАЕ н. Лес (за лугам). Наркі Чэрык.

ЗАЛУЗЗЕ н. Урочышча каля рэчкі. Вельмі часта яно затапляецца вадой. Майск Бял.

ЗАЛЯГА ж. Грыбное месца. Каменіца Бял.; Дразды Кругл.

ЗАЛЯЖАК м. Мяжа паміж палямі суседніх калгасаў. Цяцерын Кругл.

ЗАЛЯЖАНКА ж. Лужок у канцы вёскі. Тут пасвяцца свінні. Малая Гарожа Асіп.

ЗАЛЯМНІЧАНКА ж. Лес (за ручаём Лямнічанка). Лямніца Бял.

ЗАМАСТОК м. Дарога (за мастом). Каменка Мсц.; Частка вёскі (за мастом). Зоры Чэрык.

ЗАМАСТОЧЧА н. Поле (за мастом). Таценка Кліч.; Лес (за мастом). Ермалоўка Гор.

ЗАМАСЦІШЧА н. Нізіна (за мастом). Вець Быx.

ЗАМАШАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Яна вядзе да імшыстага балота. Нясята Кліч.

ЗАМАШАНСКІ КАТЛАВАН. Нізкае месца каля в. Замошша. Шкл.

ЗАМАШАНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Замошша Шкл.; Лес каля в. Замашаны Быx.

ЗАМІКІТКА ж. Поле. Даўней каля яго стаяла хата Мікіты. Паплавы Кліч.

ЗАМКІ мн. Хмызняк. Даўней тут быў лес. Свенск Слаўг.

ЗАМОСЦЕ н. Частка вёскі (за мастом). Трылесіна Быx., Гавяды Шкл.; Луг (за ракой). Славені Шкл.; Лес. Клімавічы Шкл.

ЗАМОШША н. Лес (за балотам). Заеліца Глуск.; Імшыстае балота. Завалочыцы Глуск., Грыбіна Кругл., Рэкта Слаўг.; Частка вёскі каля балота. Гарадзец Быx.; Балоцістая мясціна ў лесе. Мерч Шкл.

ЗАМЧЫШЧА н. Узвышанае месца. Раней тут стаяў замак. Бель Крыч.

ЗАМЫШКАНСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Замышкі Кругл.

ЗАНЬКАЎСКІ АЎРАГ. Лагчына за в. Занькаўшчына Мсц.

ЗАНЬКІ мн. Далёкі лес. Паклады Крыч.

ЗАПАР м. Нізкае балоцістае месца. Данькавічы Шкл.

ЗАПЕЧКІ мн. Мясціна ў лесе. Раней тут людзі бралі гліну. Забалацце Бял., Шупені Кругл.

ЗАПЕЧЧА н. Поле. Калісьці тут выраблялі цэглу. Асіноўка Мсц.; Поле. Даўней тут быў хутар Запечча. Трылессе Чав.

ЗАПІСАК м. Пясчанае месца каля Дняпра. Стайкі Маг.

ЗАПЛАТА ж. Вялікае поле сярод балота. Мікулічы Бабр.

ЗАПЛАШША н. Поле. Рагі Слаўг.

ЗАПНЯВАХА ж. Малады лес. Ён вырас на месце старога, высечанага лесу, ад якога засталіся адны пні. Мыслоціна Глуск.

ЗАПОЛЛЕ н. Лес (за полем). Восава Асіп.; Урочышча паміж полем і пушчай. Мурын Бор Касц.; Частка вёскі (за полем). Дуцькі Бял., Сакалова Гор.; Паляна (за полем). Тур'е Чэрык.

ЗАПРАЎШЧЫКАВА БАЛОТА. Невялікае балотца. Клімавічы Шкл.

ЗАПРУДДЗЕ н. Урочышча (за сажалкай). Цяхцін Бял., Стайкі Клім.; Возера. Гарадзішча Шкл.

ЗАПРУДСКІ ПАСЁЛАК. Частка вёскі (за сажалкай). Дубінка Маг.

ЗАПРЫХОДДЗЕ н. Урочышча (размешчана далёка ад вёскі). Стайкі Клім.

ЗАПУННЕ н. Луг (за пунямі). Асавец Маг.

ЗАРАВА БАЛОТА. Невялікае забалочанае возера. Холстава Бых.

ЗАРАЗА ж. Пасёлак. Тут заўсёды брудна. Рабінаўка Кругл.

ЗАРАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога праз зараснік. Даўней яна вяла ў в. Зара. Віроўка Касц.

ЗАРАНСКІ ЛУГ. Луг каля в. Зара Хоц.

ЗАРАСЦЕНЬ м. Дарога, зарослая травой. Падолішча Бял.

ЗАРАСЦЯНШЧЫНА ж. Лес каля в. Зарэсце Шкл.

ЗАРАЧАНСКІ ЛУГ. Луг (за рэчкай). Лютня Мсц.

ЗАРОЎЕ н. Частка горада (за вялікім равом). Слаўгарад; Поле (за возерам). Прылессе Чав.; Урочышча (за ракой). Чэрыкаў; Частка вёскі (за вялікім равом). Прудок Слаўг.; Лес. Даўней каля яго знаходзілася в. Зароўе Шкл.; Поле (за раўком). Капані, Прылессе Чав.; Вуліца (за равом). Чэрыкаў, Наркі Чэрык.

ЗАРОЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Зароўцы Шкл.

ЗАРУДЗЕЕВА н. Поле. Раней яно належала пану Зарудзею. Макаранцы Маг.

ЗАРУДЗЕЕЎСКІ ЛЕС. Лес. Некалі каля яго была в. Зарудзееўка Маг.

ЗАРУДЗЕЧЧА н. Урочышча. Калісьці тут быў хутар. Краснае Глуск.

ЗАРУЧЧА н. Зараснік малінніку (за ручаём). Васілёўка, Післяціна Клім.; Лес (за ручаём). Петухоўка Касц.; Урочышча. Яно знаходзіцца за былой в. Заручча. Ліпаўка Хоц.; Поле (за ручайком). Бель Мсц.

ЗАРЭЧАНСКІ ЛУГ. Луг (за р. Сож). Старынка Слаўг.

ЗАРЭЧКА ж. Частка вёскі (за ракой). Вець Бых.

ЗАРЭЧНАЯ ж. Частка вёскі (за рэчкай). Лудчыцы Бых.

ЗАРЭЧНЫ ЛЕС. Лес (за рэчкай). Храпы Кругл., Рэут Клім.

ЗАРЭЧНЫ ЛУЖОК. Луг (за рэчкай). Чырвоная Слабада Касц.

ЗАРЭЧЧА н. Частка вёскі (за ракой). Дашкаўка Маг.; Лес (за рэчкай). Рагі Слаўг.; Бераг р. Віхра. Мсціслаў; Маліннік (за рэчкай). Вільчыцы Маг.; Узгорак (за ракой). Каменка Мсц.; Лазняк (за р. Днепр). Новы Быхаў Бых.; Урочышча. Дарагінь Клім., Клічаў; Луг (за ракой). Глуск, Харошкі Маг., Гарадзішча Шкл.; Поле (за ракой). Крычаў.

ЗАРЭЧЫШЧА н. Луг (за рэчкай). Стайкі Клім.; Месца ў лесе. Калісьці тут жыў хутаранец Зарэцкі. Трасціно Хоц.

ЗАСАДДЗЕ н. Вялікі луг (за садам). Высокае Клім.

ЗАСЕКІ мн. Лес. Адамаўка Гор.

ЗАСЕЛЬЕ н. Поле (за сялом). Горка Красн.

ЗАСІЛЛЕ н. Балота. Некалі тут загінула многа людзей. Рудкаўшчына Гор.

ЗАСІННІК м. Лес (за сінім ад васількоў полем). Макавічы Глуск.

ЗАСОЖЖА н. Урочышча (за р. Сож). Мсціслаў.

ЗАСОЛКА ж. Возера. Некалі тут ставілі бочкі з салёнымі гуркамі. Букіна Кір., Кіраўск; Балота. Раней сюды выкідвалі сапсаваныя салёныя гуркі. Селішча Кір.

ЗАСЦЕНАК м. Пасёлак. Ён знаходзіцца ў баку ад в. Вялікія Лазіцы, Гавяды Шкл.; Поле (за дарогай). Чэрнеўка Шкл.; Урочышча. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут быў лагер ваеннапалонных. Рабавічы Слаўг.

ЗАСЦЕНКАВАЕ ПОЛЕ. Поле (за вёскай). Ямнае Бых.

ЗАСЦЕНКІ мн. Дарога. Абапал яе растуць дрэвы. Малая Багацькаўка,

Суш Мсц.; Поле. Зуі Крыч.; Луг (за вёскай). Камяніца Бял., Пароеўка Чав., Ржаўцы Шкл.

ЗАТОК м. Урочышча каля ракі. Цінькаўшчына Дрыб.

ЗАТОКА ж. Луг каля ракі. Масцішча Бял.; Урочышча каля рэчкі. Эсьмоны Бял., Валынеж Касц., Каменка Мсц.

ЗАТОН м. Лес каля р. Свіслач. Вялікая Гарожа Асіп.

ЗАТОЧЧА н. Урочышча (за ракой). Глухая Сяліба Быx.

ЗАХАЛУСЦЕ н. Непраходны гушчар. Яноўка Клім.

ЗАХАРАВА ДЗЕСЯЦІНА. Лужок. Некалі ён належаў Захару. Харошкі Маг.

ЗАХАРАВА УПАДЗІНА. Нізіна каля сядзібы Захара. Бураўшчына Кругл.

ЗАХАРАВЫ РАЎКІ. Лес. Раней яго даглядаў ляснік Захар. Наркі Чэрык.

ЗАХАРАНКА ж. Крыніца на лузе. Калісьці яе знайшоў Захар. Дунаёк Быx.

ЗАХАРАЎ МОСТ. Мост каля сядзібы Захара. Сліжы Шкл.

ЗАХАРАЎ САД. Сад. Некалі яго пасадзіў дзед Захар. Рэут Клім.

ЗАХАРАЎ ХУТАР. Поле. Калісьці тут жыў хутаранец Захар. Сялец Быx., Ліпаўка Хоц.

ЗАХАРАЎ ШЛЯХ. Дарога. Некалі яна вяла да хутара Захара. Рэут Клім.

ЗАХАРАЎШЧЫНА ж. Поле. Даўней тут жыў хутаранец Захар. Чорны Бор Быx., Загараны Кругл.; Кустоўе каля лесу. Раней паблізу яго стаяла хата Захара. Данькавічы Шкл.

ЗАХАРЭЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жыла сям'я Захарэўскага. Шалаёўка Кір.

ЗАХВАТ м. Балота сярод поля. Вялікія Лазіцы Шкл.

ЗАХІМОЧЧА н. Ворыва за Хімавай сядзібай. Брылёўка Красн.

ЗАХОД м. Клін поля. Ён уразаецца ў лес. Следзюкі Быx.

ЗАХОДЫ мн. Аддаленая ад вёскі частка лесу. Следзюкі Быx.; Далёкі ад вёскі луг. Вайнілы Маг.; Палянка ў лесе. Супанічы Маг.; Былая назва в. Прылессе. Раней тут жыло шмат прымакоў. Прылессе Чав.; Дарога да лясной паляны. Раздзел Мсц.

ЗАЦІШАНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Зацішша Шкл.

ЗАЦІШША н. Луг пасярод лесу. Шупені Кругл; Аддаленая частка в. Вялікія Лазіцы Шкл.; Урочышча паміж лесам і полем. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут знаходзіліся партызаны. Круча Кругл.; Поле, акружанае лесам. Лудчыцы Быx., Хамічы Кір., Доўгае Кліч., Краснаполле.

ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА. Дарога. Паплавы Кліч.

ЗАЧАРАВАНЫ ЛЕС. Лес. Тут расце шмат суніц. Бялынкавічы Касц.

ЗАШЛЯШША н. Луг і лес (за бойкай дарогай). Малы Асавец Маг.

ЗАЮХАВА КАЛАТУША. Гразкая лясная дарога. Тур'я Красн.

ЗАЯМ'Е н. Мясціна ў лесе. Яна знаходзіцца за вялікай ямінай. Мыслоціна Глуск.

ЗАЯМАЧНАЯ СЦЕЖКА. Сцежка. Каля яе шмат ямін. Бялынкавічы Касц.

ЗАЯЧЫ ЛУГ. Луг. Тут водзяцца зайцы. Мікалаеўка І Маг.

ЗАЯЧЫ УЗЛЕСАК. Месца ў лесе. Даўней тут было шмат зайцоў. Дуброўка Маг.

ЗБАРОЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Калісьці тут збіраліся паўстанцы. Любонічы Кір.

ЗБАРОЦКАЯ ГАРА. Узгорак. Некалі тут збіраліся паўстанцы. Любонічы Кір.

ЗБІШЧЫ мн. Луг каля лесу. Дубна Слаўг.

ЗБОРАЎШЧЫНА ж. Месца за вёскай. Тут часта збіралася моладзь. Літоўск Кругл.

ЗБОРНЫ м. Змешаны лес. Леніна Красн.

ЗБОРЫШЧА н. Змешаны лес. Прыгані Кругл.

ЗБЫШЧА н. Імшыстае месца ў лесе. Восаў Красн.

ЗБЫШЫНСКІЯ БАРАНЫ. Луг. Калісьці тут пасвілі авечак. Збышын Кір.

ЗВАНКОВА н. Луг. Тут пасвяць кароў. Вялікая Машчаніца Бял.

ЗВЁЗДАЧКА ж. Частка чыгункі. Паблізу яе знаходзіцца магіла чырвонаармейца. Хатовіж Клім.

ЗВЕРАВА ЛЯДА. Лес. У ім водзяцца ваўкі. Петухоўка Чав.

ЗВЕРУГАНЫ мн. Лес. Тут водзяцца ваўкі. Мхінічы Красн.

ЗВЯРЫНАЕ н. Балота на ўскрайку лесу. Мерч Шкл.

ЗВЯРЫНАЯ ДАРОЖКА. Сцежка ў лесе. Коўбча Кліч.

ЗВЯРЫНЕЦ м. Пясчанае месца каля рэчкі. Даўней сюды выганялі курэй і гусей. Праточнае Бых.; Лес. Раней у ім было многа звяроў. Добрая Гор.

ЗВЯРЫНКА ж. Вуліца ў в. Наркі Чэрык.

ЗДАНКІ мн. Поле. Паводле вясковых паданняў, тут часта з'яўляліся прывіды. Крукі Бял.

ЗДАРАВЕЦ м. Крыніца з чыстай, гаючай вадой. Мсціслаў.

ЗДАРОЎЦА н. Калодзеж з вельмі халоднай вадой. Горка Красн.

ЗЕБРАЎ ВЫГАН. Урочышча. Калісьці тут жыў чалавек па празвішчы Зебраў. Сідаравічы Маг.

ЗЕВЯРШАНЫ мн. Узгорак. Сталяры Асіп.

ЗЕЛЕНА ж. Сенажаць. Сялец Гор.

ЗЕЛЕНЬ ж. Дарога. Паабапал яе растуць дрэвы. Гута Клім.

ЗЕЛІКАЎ ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Зелікаў. Бортнікі Бабр.

ЗЁЛКІНА СЦЕЖКА. Лясная сцежка. Некалі яна вяла да хаты бабкі-знахаркі. Цяхцін Бял.

ЗЕЛЯНІ мн. Дубовы лес. Слаўня Слаўг.; Яловы лес. Буда, Недзведзь Клім.

ЗЕЛЯНІЦА ж. Месца ў лесе. Раней тут расло адно кустоўе. Селішча Кір.

ЗЕЛЯНЬКОЎСКІЯ ЛУКІ. Луг. Тут косяць сена зелянькоўцы. Круча Кругл.

ЗЕМЛЯНІЧНАЯ ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Тут расце шмат суніц. Лабковічы Крыч.

ЗЁМНАЕ н. Балота ў полі. Валынеж Касц.

ЗЕМНЫ ВІР. Мясціна (вір) на р. Сураў каля в. Валынеж Касц.

ЗЕМСКІ ХУТАР. Урочышча. Калісьці тут быў хутар. Вільча Глуск.

ЗЕНЬКАЎ ВІР. Поле. Раней яно належала Зеньку (мянушка). Ніканавічы Бых.

ЗЕНЯВІЦКІ МАСТОК. Мост у в. Зенявічы. Бялынкавічы Касц.

ЗЕРАМЁНЫ мн. Сенажаць. Тут расце алешнік і малліннік. Ручай Касц.

ЗЕРЦЫ мн. Луг. Даўней тут быў хутар, на якім жылі Зерцы (празвішча). Сідаравічы Маг.

ЗІМВІШЧА н. Поле каля лесу. Раней на гэтым месцы жыў пан Зімовій. Чапаева Глуск.

ЗІМНІЦКАЯ ДАРОГА. Дарога да в. Зімніца. Ніканавічы Бых.

ЗІМНІК м. Дарога праз балота, Па ёй можна ездзіць толькі зімой. Недзведзь Клім., Юраўка Шкл.; Зімовая дарога праз рэчку. Сямёнаўка Клім.; Луг. Раней тут на зіму пакідалі сена.

Вепрын Чэрык.; Штучны вадаём. Некалі яго выкапалі ўзімку прыгонныя сяляне. Дужаўка Чав.; Поле. Даўней тут было балота, якое ніколі не замярзала. Петухоўка Чав.; Поле. Калісьці тут была дарога, па якой ездзілі толькі зімой. Белая Красн.

ЗІМНІЦА ж. Зімовая дарога ўздоўж трасы. Следзюкі Бых.

ЗІМОНІЎСКАЕ ПОЛЕ. Пясчанае поле. Крычаў.

ЗІМОЎКА ж. Месца ў лесе. Раней тут была хата паляўнічага. Асавец Крыч.

ЗІНЕВІЧАЎ ПІТОМНІК. Малады лясок. Яго пасадзіў Зіневіч. Краснае Глуск.

ЗІНЕВІЧАВА ПЕЛЬ. Невялікая сажалка. Некалі яе выкапаў Зіневіч. Краснае Глуск.

ЗІНКІНА ДАРОЖКА. Сцяжынка ад хаты Зіны да лесу. Сабалёўка Клім.

ЗІНКІНА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі тут утапілася дзяўчына Зіна. Горы, Тур'я, Леніна Красн.

ЗІНКОВА ЗАСТАВА. Частка ракі каля хутара Зінкова. Гарадок Шкл.

ЗІНЬКОВІШЧА н. Лес. Некалі ён належаў пану Зіньковічу. Шапярова Чав.

ЗЛАБІНШЧЫНА ж. Урочышча каля лесу. Паводле паданняў, тут жылі злыя чарадзеі. Пацкава Мсц.; Лес. Даўней тут жыў злы ляснік. Курманава Мсц.

ЗЛАДЗЕЕЎКА ж. Частка вёскі. Тут жыла сям'я зладзееў. Катка Глуск.

ЗЛОДЗЕЙСКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак у вёсцы. Адзін з яго жыхароў быў злодзей. Хамінічы Гор.

ЗМЕЙНІК м. Лес. Тут водзіцца шмат змей. Дудаковічы Кругл.

ЗМЕЯВІШЧА н. Паляна ў лесе. Тут водзяцца змеі. Капані Чав.

ЗМІТРАВА БАЛОТА. Урочышча. Некалі тут жыў хутаранец Зміцер. Мачулкі Бабр.

ЗМІТРАКОВА СЯЛІБА. Урочышча. Раней тут жыў Зміцер. Віроўка Касц.

ЗМІТРАКОЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік за хатай селяніна Змітрака. Антонаўка Чав.

ЗМІТРАКОЎ ЛУГ. Частка лесу. Некалі тут жыў хутаранец Змітрок. Цішоўка Шкл.

ЗМІТРАЎКА ж. Частка в. Рыжкаўка Бых.

ЗМІТРАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле каля в. Дзмітраўка Кліч.

ЗМЯІНАЕ БАЛОТА. Балота. Тут водзіцца многа змей. Карпачы Клім., Багацькаўка Мсц., Баханы Хоц.; Мясціна ў лесе. Даўней тут было балота, у якім вадзіліся змеі. Краснаполле; Луг. Калісьці тут было балотца, у якім вадзілася шмат змей. Ніканавічы Бых.

ЗМЯІНАЯ ЛАГЧЫНА. Нізкае месца. Раней тут вадзіліся змеі. Ліпаўка Хоц.

ЗМЯІНАЯ ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Некалі тут вадзіліся змеі. Дубраўка Маг.

ЗМЯІНАЯ СЦЕЖКА. Сцежка ў лесе. Тут водзяцца змеі. Баханы Хоц.

ЗМЯІННІК м. Месца ў лесе. Тут водзяцца змеі. Буда Красн., Петухоўка Чав.; Поле. Раней тут было шмат змей. Буглаі Красн.; Паляна ў лесе. Тут водзяцца змеі. Новая Ельня Красн.

ЗМЯІНСКІЯ ПАЛІ. Палі. Тут водзіцца многа змей. Прылессе Чав.

ЗМЯІНЫ ВОСТРАЎ. Востраў. Тут водзіцца многа змей. Праточнае Бых.

ЗМЯІНЫ КАМЕНЬ. Камень у лесе. Каля яго любяць грэцца на сонцы змеі. Лудчыцы Бых.

ЗМЯІНЫ ЛЕС. Лес. Тут шмат змей. Слабада Гор., Болін Красн., Брылі Маг.

ЗМЯІНЫ ЛУГ. Поле. Калісьці тут было шмат змей. Родня Клім.; Луг.

Раней тут вадзіліся змеі. Елькаўшчына Маг.

ЗМЯЮШНІК м. Луг. Тут шмат змей. Слабада Кір.

ЗОРНАЕ н. Невялікае возера каля в. Сутокі Мсц.

ЗОРНАЯ СЦЕЖКА. Сцежка. Бялынкавічы Касц.

ЗОСІНА ДАРОГА. Дарога ў лесе. Некалі па ёй часта хадзіла Зося. Падсёлы Кір.

ЗОТЫКАЎ ЛЕС. Лес. Даўней тут быў Зотыкаў хутар. Акунёўка Шкл.

ЗОТЫКАЎШЧЫНА ж. Сенажаць каля Зотыкава лесу. Акунёўка Шкл.

ЗУБАВА н. Луг. Ён мае форму зуба. Катка Глуск.

ЗУБАРАВА н. Лес. Калісьці ён належаў Зубаву. Градзянка Асіп.

ЗУБАЎ ПАСЁЛАК. Невялікі пасёлак у вёсцы. Тут жыве селянін Зубаў (мянушка). Свенск Слаўг.

ЗУБАЎШЧЫНА ж. Канец вуліцы. Раней тут жыў паляўнічы Зубаў. Мушына Мсц.

ЗУБІКАВА БАЛОТА. Балота. Даўней каля яго жыў дзед Зубік. Раманавічы Маг.

ЗУБКОЎ ХУТАР. Месца пасярод поля. Калісьці тут жыў хутаранец Зубкоў. Шчокатава Дрыб.

ЗУБОВІЧАВА КАНАВА. Сенажаць. Некалі тут была канава, якая знаходзілася побач з хатай Зубовічаў. Антонаўка Чав.

ЗУБОЎШЧЫНА ж. Поле. Даўней яно належала Зубоўскаму. Падрайск Касц.

ЗУБРЫНЫ РОГ. Месца ў лесе. Некалі тут знайшлі зубрыны рог. Уюн Бых.

ЗЫКАВА ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала чалавеку па мянушцы Зык. Дубцы Кір.

ЗЫЛЁЎКА ж. Месца на лузе. Калі ідуць дажджы, яно затапляецца вадой. Шупені Кругл.

ЗЯЗЮЛІНА н. Паляна ў лесе. Тут заўсёды кукуе зязюля. Вялікія Лазіцы Шкл.

ЗЯЗЮЛІНА ПЛАЦЦЕ. Луг. Прылессе Чав.

ЗЯЗЮЛЬКІН ХУТАР. Поле. Даўней тут жыла хутаранка Зязюлька (мянушка). Гіжэнка Слаўг.

ЗЯЛЁНАЕ н. Месца ў лесе. Тут расце шмат елак. Мерч Шкл.; Вялікае поле. Кісялёва Буда Клім.; Купальня на кар'еры. Каля яе расце шмат зеляніны. Крычаў.

ЗЯЛЁНАЕ ПОЛЕ. Поле. Калісьці тут расло шмат травы. Петухоўка Чав.

ЗЯЛЁНАЎКА ж. Частка в. Лобча. Тут расце многа дрэў. Ржавец Чэрык.

ЗЯЛЁНАЯ ВУЛІЦА. Вясковая вуліца. Тут расце многа дрэў. Ліпец Маг.

ЗЯЛЁНАЯ ГАРА. Узгорак, зарослы высокай травой. Добрая Гор.; Узвышанае месца, зарослае кустоўем. Цялуша Бабр., Леніна Красн.

ЗЯЛЁНАЯ ДАРОГА. Дарога, зарослая травой. Камяніца Бял., Доўгая Дуброва Хоц.; Дарога каля лесу. Стайкі Клім.; Лясная сцежка. Сухары Маг.

ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВА. Лес. У ім растуць пераважна дубы. Зуі Крыч., Зарэсце Маг.

ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА. Лісцевы лес. Чырвоная Слабада Касц.

ЗЯЛЁНАЯ ж. Вуліца ў вёсцы. Тут растуць вялікія дрэвы. Паўлавічы Клім., Лебядзёўка Слаўг.

ЗЯЛЁНАЯ РОШЧА. Бярозавы гай. Некалі тут быў хутар. Благавічы Чав.; Урочышча вакол возера. Тут расце шмат рознай зеляніны. Новая Ельня, Дубраўка Красн.; Балота. Калісьці тут раслі кусты. Антонаўка Чав.; Частка вёскі каля лесу. Гавяды Шкл.; Поле, зарослае кустоўем. Прылессе Чав.; Невялікі лес.

У ім растуць пераважна маладыя бярозкі. Мушына Мсц.

ЗЯЛЁНКА ж. Яловы лес. Сідаравічы Маг.; Сажалка. Нясята Кліч.

ЗЯЛЁНКАВІЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Зялёнкавічы Касц.

ЗЯЛЁНКАВІЧЫ мн. Ускраек в. Саматэвічы Касц.

ЗЯЛЁНКІ мн. Лес. Тут растуць грыбы зялёнкі. Баханы Хоц.

ЗЯЛЁНЫ БАРОК. Малады сасоннік. Рэкта Слаўг.

ЗЯЛЁНЫ ДУБ. Урочышча. Некалі тут рос вялікі дуб. Ходасы Мсц.

ЗЯЛЁНЫ ЛЕС. Малады лясок. Ясень Бабр.

ЗЯЛЁНЫ ПРУДОК. Мясціна ў лесе. Некалі тут быў хутар. Петухоўка Чав.

ЗЯЛЁНЫ РУЧЭЙ. Вузенькі ручаёк на ўскрайку лесу. Ён зарос асакой. Рагі Слаўг.

ЗЯЛЁНЫЯ БЕРАГІ. Бераг рэчкі, зарослы хмызняком. Мікалаеўка I Маг.

ЗЯМЛЯ КАРОТКІНА ж. Балоты. Некалі яны належалі пану Кароткіну. Каменка Шкл.

ЗЯМЛЯ РАДЗІВОНАВА ж. Лес. Раней ён належаў пану Радзівонаву.Чырчына Шкл.

ЗЯМЛЯНКА ж. Месца ў лесе. У час Вялікай Айчыннай вайны тут былі партызанскія зямлянкі. Градзянка Асіп., Крычаў.

ЗЯМЛЯНКІ мн. Месца ў лесе. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут было шмат зямлянак. Крупкі Бял., Каменка Мсц.

ЗЯМЦОВА н. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Зямцоў. Боркі Кір.

ЗЯМЧАНСКІ ЛЕС. Лес за в. Зямцы Шкл.

# І

ІВАНОЎКІ мн. Поле. Раней тут быў хутар Івановых. Наркі Чэрык.

ІВАНАВА БАЛОТА. Частка лесу. Даўней непадалёку ад яго жыў Іван. Леніна Красн.

ІВАНАВА ГАРА. Узвышанае месца. Тут стаіць дом Івана. Бель Маг.; Узгорак. Некалі тут быў пахаваны Іван. Чапялінка Гор.

ІВАНАВА ГОРКА. Узгорак. Раней тут стаяла хата Івана. Зуі Крыч.

ІВАНАВА ДАРОГА. Дарога. Даўней каля яе стаяла хата Івана. Халацічы Глуск.

ІВАНАВА ДВОРЫШЧА. Месца ў лесе. Раней тут жыў хутаранец Іван. Бутрамееўка Бых.

ІВАНАВА ЗАЙМІШЧА. Поле. Калісьці тут жыла сям'я Івана Чорнага. Дрычын Асіп.

ІВАНАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Яе даглядаў Іван. Дзмітраўка II Кліч.

ІВАНАВА КУЗНЯ. Урочышча. Даўней тут была кузня, у якой працаваў Іван. Дары, Дрычын Асіп.

ІВАНАВА ЛАШЧЫНА. Балота. Раней каля яго жыў ляснік Іван. Прыгаўка Крыч.

ІВАНАВА ЛЯДА. Поле. Буда Бял; Урочышча. Некалі тут жыў Іван. Дзмітраўка II Кліч.; Лес. Раней яго даглядаў ляснік Іван. Нежкаўка Чав.; Мясціна (ляда) у лесе. Калісьці гэтую частку лесу раскарчаваў Іван. Дзмітраўка II Кліч.

ІВАНАВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут жыў Іван. Пудзелішчы Касц., Прудок Слаўг., Крычаў.

ІВАНАВА САЖАЛКА. Сажалка. Некалі яе выкапаў Іван. Лабковічы Крыч.

ІВАНАВА СЦЕЖКА. Дарога да хаты Івана. Гарадзішча Шкл.

ІВАНАВА СЦЯЖЫНКА. Дарога. Раней па ёй часта ездзіў (хадзіў) Іван. Баханы Хоц., Прылессе Чав.

ІВАНАВА ЯМА. Месца каля рэчкі. Раней тут жыў Іван. Галоўчын Бял.

ІВАНАВЫ ДУБЫ. Дубы. Шмат гадоў таму іх пасадзіў Іван. Дубавое Кір.

ІВАНАЎ АБОРАК. Нізіна (каля хаты Курзава Івана). Беразуйкі Мсц.

ІВАНАЎ АЛЕШНІК. Альховыя кусты за вёскай. Некалі іх пасадзіў Іван. Мурын Бор Касц.

ІВАНАЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Калісьці яго пасадзіў Іван. Горы Красн.

ІВАНАЎ ВІР. Месца на рэчцы. Раней тут утапіўся Іван. Маляцічы Крыч., Камаровічы Чэрык.

ІВАНАЎ ДУБ. Дуб у полі. Некалі яго пасадзіў дзед Іван. Леніна Красн.

ІВАНАЎ КАЛОДЗЕЖ. Урочышча. Раней тут быў калодзеж, які выкапаў селянін Іван. Рожава Мсц.

ІВАНАЎ КЛЁН. Вялікі клён у цэнтры вёскі. Некалі яго пасадзіў Іван. Вязаўніца Асіп.

ІВАНАЎ ЛАЖОК. Урочышча. Калісьці тут загінуў Іван. Малінаўка Красн.

ІВАНАЎ ЛОГ. Месца ў лесе. Раней тут жыў Іван. Забалоцце Бял.; Луг (недалёка ад хаты Івана). Кароўчына Дрыб.

ІВАНАЎ ЛУГ. Луг (каля сядзібы Івана). Цяцерын Кругл.; Мясціна ў лесе. Даўней тут быў луг, які належаў Івану. Ржавец Чэрык.; Луг. Калісьці тут забілі пастуха Івана. Зуі Крыч.; Луг. Раней тут Іван пасвіў коней. Катка Глуск.

ІВАНАЎ МОСТ. Мост цераз рэчку. Некалі яго зрабіў Іван. Кашаны Крыч.

ІВАНАЎ РОЎ. Роў. Раней паблізу яго жыў Іван. Даманы Шкл.; Нізіна. Даўней тут дзед Іван касіў траву. Асман-Касаева Бял.

ІВАНАЎ САД. Сад. Калісьці яго пасадзіў Іван. Крычаў; Сад. Тут быў вартаўніком Іван. Бацвінаўка Крыч.

ІВАНАЎ ХУТАР. Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Іван. Бель Крыч., Мяжысеткі Маг., Усохі Слаўг.; Поле. Некалі тут быў хутар Івана. Алешкавічы Бял.; Урочышча каля лесу. Раней тут стаяла хата Івана. Чачэвічы Бых.

ІВАНАЎКА ж. Сад каля рэчкі. Шароеўка Чэрык.; Урочышча. Даўней тут жыў хутаранец Іван. Сяргеевічы Кір., Доўгае Кліч.; Лясок. Смолка Чав.; Рэчка. Раней каля яе жыў Іван. Рудня Клім.; Частка вёскі. Некалі тут жыў багаты селянін Іван. Вялікія Лазіцы Шкл.

ІВАНАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут жыў кузнец Іван. Крычаў.

ІВАНАЎСКАЯ ГРЭБЛЯ. Урочышча (каля в. Іванавічы). Сухары Маг.

ІВАНАЎСКАЯ РОШЧА. Бярозавы лес. Даўней тут павесіўся Іван. Мартынаўка Хоц.

ІВАНАЎСКІ КАНЕЦ. Частка вёскі. Тут жыве некалькі мужчын па імені Іван. Халмы Чав.

ІВАНАЎСКІ МОСТ. Мост (каля в. Іванаўка). Трасціно Хоц.

ІВАНАЎСКІ МОСЦІК. Мост (каля в. Іванаўка). Дзмітраўка ІІ Кліч.

ІВАНАЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Калісьці паблізу яе жыў дзед Іван. Галоўчын Бял.; Поле. Некалі яно належала Івану. Стайкі Клім.

ІВАН-БОР м. Лес. Калісьці яго даглядаў панскі ляснічы Іван. Градзянка Асіп.

ІВАНОЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Раней тут жыў Іван. Хоцімск.

ІВАНОЎСКІ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік (каля в. Іваноўка). Ліпаўка Хоц.

ІВАНОЎСКІ ЛЕС. Лес непадалёк ад в. Іваноўка Хоц., Хоцімск, Грышын Клім.

ІВАНОЎСКІ МОСТ. Мост (каля в. Іваноўка). Трасціно Хоц.

ІВАН-ПОЛЕ н. Урочышча. Калісьці тут жыў Іван. Ліпаўка Хоц.

ІВАНЦОВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут утапіўся Іванцоў (прозвішча). Ціманава Клім.

ІВАНЦОЎСКАЯ СЕНАЖАЦЬ. Сенажаць. Раней яна належала Іванцовым. Галоўчын Бял.

ІВАНЦОЎШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут служыў лесніком Іванскі. Крычаў.

ІВАНЧЫКАВА н. Частка поля. Паблізу яго жыве Іванчыкаў (прозвішча). Грыбы Красн.

ІВАНЬКАВА ПАШАНЬКА. Урочышча. Даўней тут жыў селянін Іван. Адамаўка Гор.

ІВАНЮКОВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў хутаранец Іванюк. Вязаўніца Асіп.

ІВАНЮШЫНА УРОЧЫШЧА. Частка лесу. Даўней тут быў хутар Івана. Бутрамееўка Бых.

ІВЕНЬКА ж. Рачулка. На яе берагах расце багата ракіт. Лудчыцы Бых.

ІГЛІСТЫ ЛЕС. Частка лесу. Тут растуць толькі сосны і елкі. Цяхцін Бял.

ІГНАТАВА ВЫЖАРКА. Урочышча. Раней тут жыў Ігнат. Дубраўка Маг.

ІГНАТАВА ГЛІНІШЧА. Гліністая мясціна. Некалі яна належала Ігнату. Жаролы Слаўг.

ІГНАТАВА ДАРОГА. Дарога. Даўней па ёй часта ездзіў ляснік Ігнат. Ліпаўка Хоц.

ІГНАТАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Раней яе даглядаў Ігнат. Гавяды Шкл.

ІГНАТАВА ЛАШЧЫНА. Нізкая мясціна ў лесе. Шчокатава Дрыб.

ІГНАТАВА ПОЛЕ. Поле. Некалі тут жыў хутаранец Ігнат. Займішча Шкл.

ІГНАТАВА РЭЧКА. Рэчка. Раней каля яе жыў Ігнат. Калацічы Глуск.

ІГНАТАВА СЯДЗІБА. Мясціна ў лесе. Даўней тут стаяла хата Ігната. Мерч Шкл.

ІГНАТАЎ ЛЕС. Мясціна ў лесе. Калісьці тут жыў Ігнат. Петухоўка Чав.

ІГНАТАЎ ЛУГ. Луг. Некалі ён належаў Ігнату. Кіркоры Маг.

ІГНАТАЎ ХУТАР. Частка маладога бярэзніку. Даўней тут жыў хутаранец Ігнат. Шчокатава Дрыб.

ІГНАЦЬКАВА ВЫЖАР. Урочышча. Раней тут жыў Ігнацька (ласк.-памянш. ад Ігнат). Малы Асавец Маг.

ІГНАЦЬКАВА ПОЛЕ. Луг. Некалі ён належаў Ігнацьку (ласк.-памянш. ад Ігнат). Благавічы Чав.

ІГНАШКАВА ДВОРЫШЧА. Мясціна ў лесе. Даўней тут жыў хутаранец Ігнашка (ласк.-памянш. ад Ігнат). Бутрамееўка Бых.

ІГОЛІЦА ж. Невялікі густы яловы лес. Ржаўка Слаўг.

ІГРУШКА ж. Мясціна каля грушы. Тут часта збіраецца моладзь. Асман-Касаева Бял.

ІЗОБІШЧА н. Частка дарогі (па форме падобная на валляк). Вялікія Лазіцы Шкл.

ІЗОТАЎСКАЯ ВУЛІЦА. Вуліца ў вёсцы. Даўней тут жыло шмат людзей па прозвішчы Зотавы. Брылёўка Красн.

ІЗОТАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут стаяў Ізотаў хутар. Заеліца Глуск.

ІЗРАІЛЬ м. Частка вёскі. Некалі тут жыло многа яўрэяў. Сліжы Шкл.

ІЛКАВА н. Мясціна ў лесе. Раней тут было вялікае балота. Боўшава Маг.

ІЛЛЁВА КРЫНІЦА. Крыніца. Даўней непадалёк ад яе жыў Ілья. Ржавец Чэрык.

ІЛЛЁВА САЖАЛКА. Балота. Калісьці паблізу яго жыў хутаранец Ілья. Русенка Маг.

ІЛЛЁЎСКАЕ ДВОРЫШЧА. Мясціна ў лесе. Некалі тут жыў Ілья. Бутрамееўка Быx.

ІЛЛІХІН БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Калісьці тут быў хутар Ілыхі. Азарычы Слаўг.

ІЛЫНСКІ ЛЕС. Лес. Раней тут служыў лесніком Ілынскі. Галубоўка Бял.

ІЛЫЧОВА БАЛОТА. Забалочаная мясціна. Калісьці непадалёк ад яе жыў Ілычоў (прозвішча). Глінькава Гор.

ІЛЫШЧА н. Урочышча. Некалі тут жыў Ілья. Асман-Касаева Бял.

ІЛЬКАЎСКІ ЛУГ. Луг. Ён знаходзіцца каля в. Ількавічы Бял.

ІЛЬНОЗАВОДСКІ ЛЕС. Лес (непадалёк ад ільнозавода). Баханы Хоц.

ІЛЬЧЫХА ж. Лес. Даўней тут лесніком служыў Ілья. Мыслоціна Глуск.

ІЛЬШАНЕЦ м. Луг. Бірча Бабр.

ІЛЬШАННЕ н. Мясціна ў лесе. Тут расце шмат махавікоў. Следзюкі Быx.

ІЛЬЮШКАВА БАЛОТА. Балота. Раней паблізу яго жыў Ільюша (ласк.-памянш. ад Ілья). Післяціна Клім.

ІЛЬЮШКАВА ВОЗЕРА. Возера. Даўней непадалёк ад яго жыў дзед Ілья. Малы Асавец Маг.

ІЛЬЮШЫНА ЛАШЧЫНА. Нізкае месца. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут расстралялі Ільюшына (прозвішча). Кулешава Бял.

ІМШАРАВА БАЛОТА. Балота (зарослае мохам). Александрыя Шкл.

ІМШАРКА ж. Балота. Поршына Гор.

ІМШОК м. Кустоўнік у балоце. Свенск Слаўг.

ІНДЗЮКОВА ПОЛЕ. Поле. Даўней тут жыў хутаранец Індзюк (мянушка). Сідаравічы Маг.

ІНДЫКАЎ РОЎ. Роў. Раней тут пасвілі індыкоў. Забалацце Чав.

ІНДЫЧАНКА ж. Багністая мясціна. Калісьці тут пасвілі індыкоў. Масцішча Бял.

ІНДЫЯ ж. Пясчаная вуліца ў в. Вепрын Чэрык.; Тры хаты. Яны знаходзяцца воддаль. Ціманава Клім.

ІПАЛІТАВА БАЛОТА. Балота. Некалі непадалёк ад яго жыў Іпаліт. Азарычы Слаўг.

ІПАЛІТАЎ ВУГАЛ. Луг. Раней тут жыў хутаранец Іпаліт. Аўтухоўка Клім.

ІПАТАЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Раней на гэтым месцы быў маёнтак памешчыка Іпата. Клін Мсц.

ІРДЗІЦА-ПАСЁЛАК м. Частка вёскі (каля р. Ірдзіца). Лудчыцы Быx.

ІРЖАВЕЦ м. Ручай з мутнай вадой. Адамаўка Гор.; Луг. Падзамша Глуск.

ІРЖАНКА ж. Мясціна ў полі. Раней тут цякла маленькая р. Іржанка. Рожава Мсц.

ІСАЕВА КАНАВА. Канава. Калісьці тут жыў дзед Ісай. Ямнае Быx.

ІСАЕЎСКІ ПАЛЯДАК. Поле. Раней яно належала Ісаю. Гута Клім.

ІСАКАВА КРЫНІЦА. Крыніца (каля хаты Ісака). Маляцічы Крыч.

ІСАКАЎ ЛУГ. Лог. Раней ён належаў Ісаку. Нядашава Маг.

ІСАКАЎ ХУТАР. Мясціна ў лесе. Даўней тут жыў ляснік Ісак. Прудок Слаўг.

ІСАКАЎКА ж. Поле. Раней тут жыў Ісак. Рагі Слаўг.

ІСАКАЎСКІ мн. Луг (каля р. Ісакаўка). Прудок Хоц.

ІСАКАЎШЧЫНА ж. Забалочаная мясціна. Некалі тут жыў хутаранец Ісак. Сельцы Глуск.

ІСАКОЎШЧЫНА ж. Мясціна ў лесе. Раней тут жыў ляснік Ісак. Цяхцін Бял.

ІСАЧЫНКАЎ РАВОК. Роў. Калісьці непадалёк ад яе жыў Ісачанка (прозвішча). Карасі Шкл.

ІСАЮШКАЎ РОЎ. Роў (каля хаты Ісая). Чырвоны Бор Бял.

ІСКАЎ БРОД. Неглыбокае месца на рацэ. Раней непадалёк ад яго жыў Іска. Ордаць Шкл.

ІСТОПКІ мн. Частка лесу. Калісьці яна выгарала. Касцюковічы Кругл.

ІЎКАВА БАЛОТЦА. Забалочаная мясціна каля лесу. Даўней тут касіў траву Іўка. Ядраная Слабада Кліч.

ІЎКАВА ЛАШЧЫНА. Нізкая мясціна. Раней тут жыў Іўка. Шчокатава Дрыб.

ІЎКАЎ ЛЕС. Лес. Калісьці каля яго жыў Іўка. Акунёўка Шкл.

ІЎНІК м. Поле. Паблізу яго расце лазняк. Рэкта Слаўг.

ІХВАНАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў Іхван. Нікуліна Гор.

ІХВАТАВА ПОЛЕ. Поле. Некалі тут жыў хутаранец Іхват. Бутрамееўка Бых.

## К

КАБАНАВАЯ ПАЛЯНА. Паляна. На ёй быў забіты дзік. Хацень Клім.

КАБАНАЎ ХУТАР. Узлесак. Раней тут знаходзілася сядзіба Кабанавых. Асінаўка Чав.

КАБАНІНЫ ЛОГ. Поплаў. Некалі ён быў зрыты кабанамі. Эсьмоны Бял.

КАБАНОВА ДЗЯЛЯНКА. Мясціна ў лесе. Тут водзяцца дзікія свінні. Глінь Чэрык.

КАБЦОВА БАЛОТА. Маленькае балота (каля хаты Кабцова). Калініна Бых.

КАБЫЛІШЧА н. Луг. Калісьці тут пасвілі коней. Масцішча Глуск.

КАБЫЛЛЕ БАЛОТА. Балота. Некалі ў ім утапіліся коні. Слаўня Слаўг.

КАБЫЛЛІ ЛАЖОК. Мястэчка ў лесе. У час Вялікай Айчыннай вайны тут хавалі ад немцаў коней. Доўгае Кліч.

КАБЫЛЬНІЦА ж. Мясціна за вёскай. Раней тут пасвілі коней. Паплавы Кліч.

КАБЫЛЯНКА ж. Вёска. Раней тут жыў пан Кабылянскі. Турчылаў Кліч.; Луг. Раней тут быў хутар, гаспадар якога трымаў коней. Боркі Кір.; Урочышча. Раней тут жыў пан, які разводзіў коней. Гарадзянка Асіп.; Поле. Раней тут была вёска, жыхары якой трымалі шмат коней. Сялец Клім.; Хутар. Раней належаў селяніну Кабылянцу. Осава Асіп.

КАБЫЛІЙ КАПЕЦ. Узмежак. Некалі тут пасвілі коней. Ліпаўка Бых.

КАВАЛЕНКАВА ПОЛЕ. Поле. Раней яно знаходзілася за хатай Каваленкі. Ніканавічы Бых.

КАВАЛЕНЬКАЎ ВІР. Сажалка. Некалі яго выкапаў Кавалькоў. Лебедзева Гор.

КАВАЛЕЎСКІ ЛЕС. Лес (ля хутара Кавалёва). Праточнае Бых.

КАВАЛЁВА н. Поле. Раней тут стаяла хата Кавалёва. Вялікія Лазіцы Шкл.

КАВАЛЁВА КАЛЕНА. Поле. Раней тут быў лес пана Кавалёва. Гута Клім.

КАВАЛЁЎ м. Лес. Раней яго даглядаў ляснік Кавалёў. Петухоўка Чав.

КАВАЛЁЎ ВЫГАР. Поле. Раней тут жыў каваль. Мяжэнін Клім.

КАВАЛЁЎ ДВОР.Урочышча. Раней тут стаяла кавалёва хата. Вышова Мсц.

КАВАЛЁЎ МОСТ. Мост (ля дома каваля). Галічы Клім.

КАВАЛЁЎ КЛІН. Луг. Даўней тут жыў каваль. Дужаўка Чав.

КАВАЛЁЎ ЛОГ. Поле. Раней тут жыў каваль. Перагон Слаўг.

КАВАЛЁЎ ЛУГ. Луг. Даўней тут быў хутар каваля. Кледнявічы Гор.

КАВАЛЁЎ ПРУД. Сажалка. Калісьці яе выкапаў каваль. Савінічы Клім.

КАВАЛЁЎ САД. Сад. Некалі яго пасадзіў Кавалёў. Гіжэнка Слаўг.

КАВАЛІХА ж. Узвышанае месца. Раней тут стаяла хата каваля. Абідавічы Быx.

КАВАЛІШЫНА н. Частка вёскі. Раней тут жыў каваль. Прудок Слаўг.

КАВАЛЬКІ мн. Сенажаць. Раней на гэтым месцы жыў каваль. Буда Хоц.

КАВАЛЬКОЎ РАВОК. Равок. Раней каля яго жыў каваль. Ліпск Кругл.

КАВАНЦАВЫ ЯМАЧКІ. Луг ля ракі. Раней ён належаў кулаку Каванцаву. Грыбы Красн.

КАВЯЗА ж. Вёска. Раней тут быў хутар пана Кавязы. Біорда Кліч.

КАГАЛЬНЫ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Некалі яго выкапаў Кагальны (мянушка). Паўлавічы Клім.

КАДЗІКАВА ПАЛЯНА. Мясціна ў лесе. Тут часта збіраў грыбы Кадзік. Шчарбачы Крыч.

КАДЗІНСКАЕ БАЛОТА. Возера (непадалёк ад в. Кадзіна). Брылі Маг.

КАДЗІНСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца непадалёк ад в. Кадзіна Маг.

КАЖАГОД м. Поле. Тут кожны год пасвяць кароў. Ількавічы Бял.

КАЖАМЯКІН н. Вёска. Жыхары яе калісьці апрацоўвалі скуру жывёлы. Кажамякіна Красн.

КАЖАМЯКІНА ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Даўней тут касіў Кажамяка. Высокае Клім.

КАЖАНАВА н. Поле. Яно знаходзіцца за хатай Кажана (мянушка). Мерч Шкл.

КАЖАНАЎ РОЎ. Роў. Раней тут быў хутар Кажанавых. Дарлівая Крыч.

КАЖАНАЎКА ж. Лес. У ім водзяцца кажаны. Малы Асавец Маг., Дубраўка Маг.

КАЖАНОЎ УЧАСТАК. Поле. Раней тут жыў Кажан (мянушка). Перагон Слаўг.

КАЖАРАЎКА ж. Мясціна ў лесе. Раней тут жыў кулак Кажараў. Паляшчыцы Гор.

КАЖЭЎНІ мн. Былая назва в. Слабада. Раней тут выраблялі скуры. Слабада Красн.

КАЗАБРОДДЗЕ н. Вёска. Раней быў хутар, дзе разводзілі коз. Казаброддзе Кругл.

КАЗАБРОДСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Казаброддзе). Замышкі Кругл.

КАЗАНАЎ МОСТ. Урочышча. Раней тут жыў пан Казанаў. Старая Буда Красн.

КАЗАЧКОЎ МОСТ. Мост праз балота. Некалі яго зрабілі казакі. Доўгае Кліч.

КАЗАКІ мн. Частка вёскі. Даўней тут жылі казакі. Суша Кліч.

КАЗАКОВА ДВОРЫШЧА. Лес. Раней тут была сядзіба Казаковых. Бутрамееўка Быx.

КАЗАКОВА ГАРА. Поле. Раней тут быў курган, у якім, паводле падання, пахаваны казак. Кухенка Бабр.

КАЗАРМА ж. Хутар. Тут пабудаваны адзін вялікі, як казарма, дом на некалькі сем'яў. Беражыстае Крыч.; Лес. Раней, у час Вялікай Айчыннай вайны, тут былі казармы. Чавусы.

КАЗАЦКІ ГАЁК. Зарослае месца на балоце. Калісьці тут утапіўся казак. Палянікавічы Быx.

КАЗЕВА БАЛОТА. Лес. Раней тут была сядзіба Казі (мянушка). Бутрамееўка Быx.

КАЗЕКАЎКА ж. Урочышча. Раней тут жылі людзі, якія разводзілі коз. Язёры Чэрык.

КАЗЕЛКА ж. Грыбная мясціна. Яна знаходзіцца ля в. Казелле Красн.

КАЗЕЛЛЕ н. Поле. Летам тут пасвяцца козы. Следзюкі Бых.; Сцяжынка праз лес (да в. Казелле). Леніна Красн.

КАЗЕЛЬКІ мн. Зараснік. Раней тут была сядзіба Казелькі (мянушка). Мяжэнін Клім.

КАЗЕЛЬСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца ля в. Казелле Красн.

КАЗЁЛ м. Астравок сярод балота. Тут водзяцца дзікія козы. Праточнае Бых.; Вёска. Гаспадары яе разводзілі коз і авечак Казёл Бых.; Луг. Названы паводле формы. Збышын Кір.; Поле. Названа паводле формы. Чорны Бор Бых.; Рэчка. Раней у ёй патанула шмат коз. Наркі Чэрык.

КАЗЁЛШЧЫНА ж. Паляна ў лесе. Тут расце шмат грыбоў. Слабада Бял.

КАЗЁННІК м. Лес. Да рэвалюцыі ён належаў пану. Сіпайлы Бял.

КАЗЁННЫ БОР. Бор. Раней ён належаў князю Радзівілу. Градзянка Асіп.

КАЗЁННАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала казне. Кавалі Бабр.

КАЗЁНШЧЫНА ж. Лес. Раней ён належаў памешчыку. Беражыстае Крыч., Лічынка Бял.

КАЗІМІРАЎКА ж. Мікрараён г. Магілёва. Раней гэта мясцовасць належала пану Казіміру. Магілёў.

КАЗІМІРАЎСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца каля в. Казіміраўка Маг.

КАЗІНКІ мн. Лес. Раней тут быў хутар Казіна. Паплавы Кліч.

КАЗІНА ж. Луг. Летам тут пасвяць коз. Альшанікі Кругл.

КАЗІНАЕ БАЛОТА. Балота. Раней тут утапілася многа коз. Кісялёва Буда Клім.

КАЗІНАЯ ГАРА. Узвышаная мясціна ў лесе. Раней тут вадзіліся козы. Любонічы Кір.

КАЗІНСКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Раней у ім утапіўся Казінскі. Капачы Мсц.

КАЗЛІНЫ БЕРАГ. Бераг р. Друць. Раней тут збіраліся на вадапой дзікія козы. Чачэвічы Бых.

КАЗЛОВА БАЛОТА. Забалочаная мясціна. Раней быў хутар селяніна Казлова. Паўлавічы Кругл., Радамля Чав.

КАЗЛОВА ЛУЖА. Забалочаная лугавіна перад лесам. Некалі тут касіў траву дзед Казёл (мянушка). Запруддзе Маг.

КАЗЛОЎ КРУГ. Возера. Раней на гэтым месцы быў млын, які належаў Казлову. Баеўка Крыч.

КАЗЛОЎ ВУГАЛ. Луг. Раней тут жыў Казлоў. Брылі Маг.

КАЗЛОЎ ЛЕС. Лес. У ім расце многа казлоў (грыбоў). Баханы Хоц.

КАЗЛОЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў Казлоў. Бортнікі Бабр.

КАЗЛОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут быў хутар Казловых. Слабада Кір.

КАЗЛЯНСКАЯ ГРЭБЛЯ. Грэбля (каля в. Казлы). Арэхаўка Кліч.

КАЗНА ж. Забалочаная мясціна ў лесе. Раней яна належала казне. Бярозаўка Глуск.

КАЗОРАВА ПОЛЕ. Поле. Раней яго араў Казора. Вепрын Чэрык.

КАЗУЛІЧЫ мн. Вёска. Жыхары яе раней гадавалі коз. Міхалёва Бабр.

КАЗУРЭЎШЧЫНА ж. Луг. Раней тут жыў Казура. Слабада Клім.

КАЗЮКАВА БАЛОТА. Надзел зямлі. Некалі яго апрацоўваў Казюка (мянушка). Любонічы Кір.

КАНАВАРАТ м. Месца ля выезду з вёскі. Раней тут былі вароты. Круглае.

КАЛАДЗЯНОЕ БАЛОТА. Балота. Праз яго калісьці была вымашчана калодамі сцежка. Праточнае Бых.

КАЛАКАЛУША ж. Лес. Тут расце шмат чаромхі. Славені Шкл.

КАЛАНДЖА ж. Паляна ў лесе. Тут пабудавана вышка для назірання за лесам. Вепрын Чэрык.

КАЛАСОЎШЧЫНА ж. Вёска. Раней тут было ўрадлівае поле памешчыцы Каласоўскай. Благавічы Чав.

КАЛАТОЎКА ж. Поле. Раней тут стаяў ветраны млын. Славені Шкл.

КАЛАЎРЫШЧА н. Поле (ля рэчкі). Крычаў.

КАЛАЧКОЎШЧЫНА ж. Лес. Раней тут павесіўся ляснік Калачкоў. Каменка Крыч.

КАЛАЧЫК м. Поле. Назва паводле формы. Стайкі Клім., Халмы Кір.

КАЛБАСКІ мн. Вуліца ў вёсцы. Гаспадары якой рабілі маленькія кілбасы. Валоўнікі Мсц.

КАЛГАСНАЯ ж. Цэнтральная вуліца ў вёсцы. Яна вядзе да калгаснай фермы. Паўлавічы Клім.; Вуліца. Яна была зроблена калгасам для калгаснікаў. Свенск Слаўг.

КАЛГАСНЫ САД. Сад. Раней ён належаў калгасу. Коўбча Кліч.

КАЛГАСНАЯ САЖАЛКА. Сажалка (ля калгаснай фермы). Камяніца Бял.

КАЛДОБІНА ж. Невялікае возера. У час разліву ракі або пасля дажджу яно напаўняецца вадой. Клімавічы.

КАЛДОБНІК м. Мясціна (зрытая канавамі). Бураўшчына Кругл.

КАЛДОБЫ мн. Участак лесу. Тут шмат ямак. Макавічы Глуск.

КАЛДУНОВА ГРЭБЛЯ. Мясціна ў лесе. Калісьці тут жыў знахар, чараўнік. Раздзел Мсц.

КАЛДЫБЫ мн. Лес. У ім шмат узгоркаў і ям. Паўлавічы Клім.

КАЛЕКЦІЎ м. Поле. Некалі яго апрацоўвалі калектыўна. Кунцы Кругл.

КАЛЕНЬКАВА ЛЯДА. Месца ў лесе. Некалі тут высек дрэвы Каленька (мянушка). Галяні Маг.

КАЛЯСЯНКА ж. Урочышча. Раней тут жылі майстры па вырабе колаў. Радамля Чав.

КАЛІНАВА ГРАДКА. Канава. Раней тут расло шмат каліны. Слаўкавічы Глуск.

КАЛІНАЎКА ж. Балота. Каля яго растуць кусты каліны. Навасёлкі Бял.; Вёска. Раней тут была забалочаная мясцовасць, дзе расло шмат каліны. Калінаўка Гор.; Поле. Раней тут расло шмат каліны. Халмы Чав.

КАЛІНАЎКІ мн. Поле. Раней тут было шмат каліны. Праточнае Бых.

КАЛІНАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Яно знаходзіцца каля в. Калінаўка Мсц.

КАЛІНАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Тут расце багата каліны. Малыя Аўчыненкі Шкл.

КАЛІНЕВІЧАВА КЛАДКА. Кладка на рэчцы (побач з домам Каліневічаў). Зарэчча Чав.

КАЛІНІНА н. Частка г.п. Клічава. Раней тут была вёска, у якой расло шмат каліны. Клічаў.

КАЛІНІНСКАЕ БАЛОТА. Балота (за в. Калініна). Крычаў.

КАЛІНІЦА ж. Частка лесу. Тут расце шмат каліны. Звянчатка Клім.

КАЛІНКІ мн. Лес.У ім шмат каліны. Вейна Маг.; Сенажаць (за кустамі каліны). Праточнае Бых.

КАЛІННІК м. Забалочаная мясцовасць. Раней тут расло шмат каліны. Хацілавічы Крыч.

КАЛІНШЧЫНА ж. Лес. Раней у ім было шмат каліны. Селішча Клім.

КАЛМАТЫ ЛЕС. Лес з разгалістымі дрэвамі. Гарадзішча Шкл.

КАЛНОЕ н. Сенажаць на балоце. Некалі тут быў заколаты войт. Малінава Глуск.

КАЛОДЗЕЖ НІКАНДРЫ. Калодзеж. Калісьці яго выкапаў Ніандра. Аржаўцы Шкл.

КАЛОДЗЕЖКІ мн. Поле. У час Вялікай Айчыннай вайны тут было шмат калодзежаў. Ямнае Бых.

КАЛОДЗЕЖЫ мн. Луг. Раней тут было панскае поле, на якім былі выкапаны калодзежы. Пічаўка Гор.

КАЛОДЗЕШКА ж. Месца на рэчцы. Тут часта бяруць чыстую ваду. Плешчыцы Шкл.

КАЛОДЛІВА н. Вёска (на месцы высечанага лесу). Калодліва Касц.

КАЛОНА ж. Вёска (уздоўж дарогі). Рэкта Слаўг.

КАЛОША ж. Кустоўнік каля ракі. Па форме нагадвае калошу. Глінь Чэрык.

КАЛУГАЎКА ж. Вёска. Калісьці тут прыпыняліся адпачываць праезджыя дваране з Калугі. Красны Ручай Крыч.

КАЛХОЗНАЕ БАЛОТА. Балота. Сюды ганялі на вадапой калгасных кароў. Самулкі Чав.

КАЛХОЗНЫ ПАСЁЛАК. Вуліца ў вёсцы. Яе пачалі будаваць у час калектывізацыі. Рудкаўшчына Гор.

КАЛХОЗНЫ ШЛЯХ. Дарога. Яна вядзе да калгасных фермаў. Стайкі Маг.

КАЛЬЦАВОЕ ВОЗЕРА. Круглае возера. Пасярэдзіне яго знаходзіцца маленькі востраў. Падвудага Крыч.

КАЛЮГА ж. Вялізная лужына. У ёй нават летам халодная вада. Ядраная Слабада Кліч.

КАЛЮЖКА ж. Дарога цераз лес. Яна ўся ў выбоінах, калдобінах. Краснаполле Красн.

КАЛЯБІН ХУТАР. Мясціна ў лесе. Раней тут знаходзіўся хутар Калябіна. Карпілаўка Клім

КАЛЯДНАЕ н. Поле (на месцы ляда). Леніна Красн.

КАЛЯСЬКІ мн. Лес. Раней там быў хутар пана Каляські. Масцішча Бял.

КАМАРКОЎ ЮРОК. Мясціна ў лесе. Некалі тут жыў Камарок (прозвішча). Сідаравічы Маг.

КАМАРОВА БАЛОТА. Балота. Тут водзіцца шмат камароў. Паўлавічы Клім.

КАМАРОВА РОШЧА. Гай. Калісьці ён належаў памешчыку Камарову. Грыбы Красн.

КАМАРОЎКА ж. Вёска. Яна будавалася каля балота, дзе водзіцца шмат камароў. Камароўка Бых.

КАМАРОЎСКІ ЗАТОН. Затон на Сожы. Тут утапіўся пастух Камароў. Зуі Крыч.

КАМАРОЎСКІ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Камарову. Бель Крыч.

КАМАРОЎСКІ ШЛЯХ. Дарога. Яна вядзе да в. Камаровічы Чэрык.

КАМАРОЎШЧЫНА ж. Гаёк. Раней тут жыў пан Камароў Зуі Крыч.; Лес. Раней тут была в. Камароўка. Халмы Красн.; Сенажаць. Раней тут жыла сям'я Камаровых. Дубасна Мсц.

КАМАРЫНА н. Вёска. Улетку тут заўсёды шмат камарэчы. Лука Асіп.

КАМАРЫНА БАЛОТА. Балота. Раней тут працякала р. Камарынка. Калюга Глуск.

КАМАРЫНСКАЕ н. Лес. Раней тут было шмат камарэчы. Бутрамееўка Бых.

КАМАРЫНСКАЕ БАЛОТА. Балота. Каля яго некалі жыў Камарынскі. Коўбча Кліч.; Балота каля в. Камарына. Лука Асіп.

КАМАРЫНСКІ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Камарынскаму. Вілейка Чав.; Лес (каля в. Камарына). Лука Асіп.

КАМАРЫЦКАЯ ДАРОГА. Сцяжынка праз лес (у якім шмат камароў). Буглаі Красн.

КАМАРЫНЫ н. Мясціна ў лесе. Раней тут вадзілася шмат камароў. Раманькі Красн.

КАМАРЫШЧА н. Балота. Некалі тут было многа камароў. Коўбча Кліч.

КАМАСІНА н. Балота (непадалёк ад хутара Камасавага Петрака). Балбечана Гор.

КАМЕНЕЦ м. Балота. Сярод яго ляжыць вялікі камень. Дубраўка Красн.

КАМЕНКА ж. Вёска. Яна размешчана на камяністай мясцовасці.

Каменка Бял.; Лес. Першым леснікам тут працаваў Каменскі. Сялец Мсц.; Месца на рацэ (з камяністым дном). Раманавічы Маг., Туркі Бабр., Ордаць Шкл; Поле. На ім шмат камянёў. Старыя Максімавічы Кліч.; Рэчка (з камяністым дном). Петухоўка Чав.

КАМЕННАЯ МАГІЛА. Урочышча. Некалі тут была каменная магіла. Палкі Бых.

КАМЕННАЕ ПОЛЕ. Поле. На ім шмат камення. Глінь Чэрык.

КАМЕННЕ н. Месца ў лесе. Некалі сюды звозілі з палёў каменне. Асінаўка Чав.; Месца на полі. Тут шмат камення. Градзянка Асіп.

КАМЕННІЦА ж. Рэчка. У яе з-пад каменчыкаў б'е шмат крыніц. Пераможная Гор.

КАМЕННІШЧА н. Камяністае месца на беразе ракі. Стайкі Маг.

КАМЕННЫ ВІР. Мясціна на рацэ. Дно тут вельмі цвёрдае, як камень. Петухоўка Чав., Рэкатка Гор.

КАМЕННЫ ЛОГ. Вёска. Раней тут было шмат камення. Рэпішча Маг.

КАМЕННЫ МОСТ. Мост на рацэ. Некалі ён быў зроблены з камення. Глінь Чэрык., Свенск Слаўг.

КАМЕНСКАЯ ДАРОГА. Дарога (у в. Каменка). Прылессе Чав.

КАМЕНСКАЯ ЛІНІЯ. Прамая дарога праз лес. Яна злучае з в. Цёмны Лес в. Каменка Мсц.

КАМЕНСКАЯ СЦЕЖКА. Сцежка. Яна вядзе з в. Цішоўка ў в. Каменка. Цішоўка Шкл.

КАМЕНСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца каля в. Каменка Чав.

КАМЕНСКІЯ ЛУКІ. Луг (каля в. Каменка). Па ім працякае звілістая рэчка. Каменка Мсц.

КАМЕНЬЧЫКІ мн. Месца ў рэчцы (з камяністым дном). Кузавіна Гор.

КАМЕНШЧЫНА ж. Камяністае поле. Ціхань Хоц.

КАМЕНШЧЫНА ж. Лес. Ён знаходзіцца побач з в. Каменка Чав.

КАМЕРЧАСКАЯ ГАРА. Вуліца ў в. Княжыцы. Раней тут былі яўрэйскія лаўкі. Княжыцы Маг.

КАМЕШКІ мн. Мясціна на рэчцы. На дне яе шмат каменьчыкаў. Сухары Маг.

КАМЁНКАЎ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Камёнку. Пусты Асавец Маг.

КАМІНКА ж. Поле. На ім шмат камянёў. Майск Бял.

КАМІНШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут быў лес пана Камінскага. Высокае Клім.

КАМІЦЕТ м. Поле. Раней тут быў лес, які высеклі ў першыя гады савецкай улады. Туркі Бабр.; Поле. Тут у час Вялікай Айчыннай вайны збіраліся партызанскія атрады. Каменка Касц.; Лес. Тут у час Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся падпольны камітэт. Рэкта Чав.; Лес. Тут у час рэвалюцыі стваралі камітэты. Высокае Шкл.

КАМІСАРАЎ ЛУГ. Луг. Раней тут быў расстраляны чырвоны камісар. Прудок Крыч.

КАМКОЎСКІ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў дзед Камок. Ляхаўшчына Чав.

КАМКІ мн. Камяністы бераг ракі. Эсьмоны Бял.; Камяністае месца на рацэ. Шароеўка Чэрык.

КАМОРКА ж. Балота. Прыпёчына Чэрык.

КАМСАМОЛЬСКІ МОСЦІК. Мост праз рэчку. Некалі ён быў пабудаваны камсамольцамі. Фядотава Буда Клім.

КАМУНА ж. Вёска. Калісьці тут была заснавана першая камуна. Жаркі Касц., Заполле Глуск., Камуна Бых.

КАМУНАРСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца каля в. Камуна Бых.

КАМЫШША н. Месца ля рэчкі. Тут расце шмат камышоў. Клічаў.

КАМЫШЫННІК мн. Возера. Тут расце шмат камышоў. Ушакі Чэрык.

КАМЫШЫШЧА н. Частка поля. Раней тут было балота, на якім расло шмат камышоў. Лебядзёўка Бабр.

КАМЯНІЦА ж. Камяністае поле. Асінаўка Мсц.

КАМЯНІЧЫ мн. Урочышча ля в. Каменка. Каменка Чэрык.

КАМЯНІШЧА н. Поле. На ім шмат камянёў. Трылесіна Гор., Прылессе Чав.

КАМЯННОЕ н. Поле. Раней на ім ляжалі два вялізныя камяні. Вішні Касц.

КАМЯНЫЯ ЛАГІ. Месца ў лесе. Тут шмат вялікіх камянёў. Чарнаўцы Чав.

КАНАВАЛАВА н. Саўгаснае поле. Бароньki Касц.

КАНАВАЛАЎ ЛЕС. Лес. Некалі ён належаў Канавалу. Праточнае Бых.

КАНАВА ж. Луг. На ім знаходзіцца вялікая канава. Сялец Бых.

КАНАВЫ мн. Луг. На ім шмат канаў. Лямніца Бял.

КАНАПЛЁЎКА ж. Поле. Некалі тут раслі каноплі. Леніна Красн.

КАНАПЛЯНАЕ ВОЗЕРА. Поле, на якім сеюць каноплі. Раней тут было возера. Барысавічы Клім.

КАНАПЛЯНІ мн. Поле. Раней тут раслі каноплі. Кунцы Кругл.

КАНАПЛЯНІКІ мн. Поле. Раней тут вырошчвалі каноплі. Гайшын Слаўг.

КАНАТОПСКІ КАНЕЦ. Вуліца. Раней на ёй жыло многа людзей з прозвішчам Канатопы. Іскань Бых.

КАНДЗАЛЕЎ ХУТАР. Некалькі хат у вёсцы (належаць сям'і Кандзалёвых). Склімін Клім.

КАНДЗІДАТАВА ГАРА. Узвышанае месца ў вёсцы. Раней на ім стаяла хата Кандзідатава. Шалаёўка Кір.

КАНДРАТАВА ХАТА. Хата. У ёй часта збіраецца моладзь (адпачыць, павесяліцца). Раней тут жыў Кандрат. Зоры Чэрык.

КАНДРАТАЎ ЛУГ. Сенажаць. Раней яна належала Кандрату. Праточнае Бых.

КАНДРАТАЎ РОЎ. Роў. Раней тут бандыт Кандрат рабаваў людзей. Завалочыцы Глуск.

КАНДРАТАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Кандрат. Нядашава Маг.

КАНДРАТАЎШЧЫНА ж. Паляна ў лесе. Раней на гэтым месцы быў хутар Кандрата. Вяленік Кліч.

КАНДРАШОЎ САД. Сад. Раней ён належаў Кандрату. Гарадок Шкл.

КАНЁВА н. Сенажаць ля рэчкі. Тут летам пасвяцца коні. Усцяркі Глуск.

КАНЁЎ БРОД. Плыткае месца на рэчцы. Яго можна было пераехаць на кані, не намачыўшы воза. Пута Бабр.

КАНЁЎ ЛУГ. Луг. Раней на ім пасвілі коней. Коўбча Кліч.

КАНЕЦ-ГАРА ж. Луг. На ім знаходзіцца ўзгорак з абрывам. Вайнічы Чав.

КАНСТАНЦІНАВА ЛУКА. Урочышча. Раней тут знаходзілася пожня дзеда Канстанціна. Асман-Касаева Бял.

КАНСТАНТАЎ м. Хутар. Раней тут быў хутар пана Канстанціна. Паплавы Кліч.

КАНСТАНЦІНАЎ ЛЕС. Бярозавы гай. У ім часта адпачываў Канстанцін. Махава Маг.

КАНТАСОЎ ЛЕС. Лес. Некалі ў ім жыў хутаранец Кантасоў (прозвішча). Заеліца Глуск.

КАНТОРА ж. Балота ў лесе. Раней ля яго была кантора лясніцтва. Галічы Клім.

КАНТОРСКІ ЛОГ. Поле. Раней тут была саўгасная кантора. Зелянькова Кругл.

КАНТОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Яна ішла праз лес да дзялянкі, дзе рабілі гонту. Балбечана Гор.

КАНТЫ мн. Урочышча (на месцы в. Канты) . Шароеўка Чэрык.

КАНЦАВЫ ЛОГ м. Урочышча. Тут праходзіць мяжа раёна. Трасціно Хоц.

КАНЦАДАЛАЎ КАМЕНЬ. Урочышча. Раней тут любіў адпачываць Канцадал (мянушка). Сакольнічы Крыч.

КАНЦЫ мн. Некалькі дамоў (на ўскрайку вёскі). Стайкі Маг.

КАНЦЫПЛОТ м. Частка р. Пціч. Яна пачынаецца ад канца плота і цягнецца за в. Пціч Глуск.

КАНШОНКАВЫ ВОМУТ. Вір на рацэ (ля сенажаці Каншонка). Праточнае Бых.

КАНЬЧАНЕЎКА ж. Вуліца (у канцы вёскі). Высокае Клім.

КАНЮШНЯ ж. Урочышча. Раней тут быў конны двор. Паўлавічы Клім.; Поле. Раней тут была канюшня. Кішчыцы Шкл.

КАНЯЧУКАВА СЦЕЖКА. Сцежка. Некалі яе пратаптаў Канячук. Турчылаў Кліч.

КАПАЛЬНЯ ж. Месца ў лесе. Тут бяруць гравій. Кульшычы Слаўг.; Урочышча. Раней тут капалі гліну. Пацава Слабада Кір.

КАПАНКІ мн. Месца ў лесе. Раней тут бралі пясок. Трылесіна Гор.

КАПЕЦ м. Упадзіна сярод поля. Раней тут праходзіла мяжа паміж дзвюма вёскамі. Сялецкае Касц.; Ручай. Некалі яго выкапалі сяляне. Пачалы Красн.; Курган. У ім пахаваны партызан. Дрыбін Гор.

КАПЁШКІНА ж. Ускраек лесу. Раней уздоўж яго ўсё лета стаялі копы саломы. Балбечана Гор.

КАПІТАНСКІ РОЎ. Роў. У час Вялікай Айчыннай вайны тут загінуў капітан. Стайкі Шкл.

КАПІШЧА н. Балота. Раней тут стаялі копы сена. Пчэльня Слаўг.

КАПТУР м. Узгорак у лесе (ад коптура — "высока"). Дубцы Кір.

КАПТУРЫ мн. Дзевяць узгоркаў. Некалі там былі пахаваны французы. Комсенічы Кругл.

КАПУСНІК м. Урадлівая мясціна ля рэчкі Капылкі. Тут садзяць вяскоўцы капусту. Горкі, Халмы Крыч.

КАПУСНІКІ мн. Урочышча. Раней тут садзілі вяскоўцы капусту. Бель Мсц., Камароўка Крыч.

КАПУСНАЕ н. Поле. Некалі тут калгаснікі садзілі капусту. Рэкта Клім.

КАПУСНАЯ ж. Луг ля вёскі. Тут расце дзікая капуста. Кароўчына Бых.

КАПУСЦІНСКАЯ ДАРОГА. Дарога ад в. Скрыпліцы да в. Капусціна. Скрыпліца Кір.

КАПЦЫ мн. Кусты. Раней было поле, дзе закопвалі бульбу ў капцы. Раздзел Мсц.

КАПЫЛЬ ж. Вёска. Паводле легенды, тут двое каханых, Коля і Поля, загінулі ад маланкі. Палянінавічы Бых.

КАПЫСІЦКІЯ КУРГАНЫ. Курганы. Яны знаходзяцца ля в. Капысіца Шкл.

КАПЫТА н. Возера. Названа паводле формы. Хоцімск; Узгорак. Названы паводле формы. Стараселле Шкл.

КАПЫТОВА н. Возера. Названа паводле формы. Лудчыцы Бых.

КАПЦЕНКАВА н. Паша. Раней тут жыў селянін Капценка. Свенск Слаўг.

КАПЦЯЛЕЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў пан Капцель. Зацішша Маг.

КАРАБАНАЎКА ж. Вуліца. Раней тут жыў пан Карабан. Гарадзец Бых.

КАРАЛЕЎСКІ ЛУГ. Луг каля р. Лабжанкі. У час Паўночнай вайны тут стаялі войскі Карла XII. Клімавічы.

КАРАЛЕЎ ЛУЖОК. Луг. Раней тут жыў Каралёў. Слабодка Кругл.

КАРАЛЁВА БАЛОТЦА. Балотца. Раней ля яго жыў Каралёў. Вялікія Лазіцы Шкл.

КАРАЛЁВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапаў Каралёў. Трусак Касц.

КАРАЛЁЎ ПЕРАГОН. Пераезд цераз канал. Раней тут быў перагон для жывёлы непадалёк ад хутара Каралёва. Ржавец Чэрык.

КАРАЛЁЎ РАВОК. Урочышча (з раўком). Некалі тут жыў пан Кароль (мянушка). Камяніца Бял.

КАРАЛЁЎКІ мн. Сенажаць. Раней тут быў хутар Каралёвых. Наркі Чэрык.

КАРАЛЁЎСКІЯ мн. Поле. Раней тут быў сенакос сялян з в. Каралёўка. Балбечана Гор.

КАРАЛЁЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут працавала брыгада Каралёвай. Глінь Чэрык.; Лес. Ён знаходзіцца ля в. Каралёўка Чав.; Хутар у лесе. Раней тут жыла сям'я Каралеўскіх. Гарадок Глуск.

КАРАЛІХІН ХУТАР. Мясціна ў лесе. Раней тут жыла Караліха (мянушка). Хамінічы Гор.

КАРАЛЬКОЎ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Першым тут пасяліўся Каралькоў. Нядашава Маг.

КАРАСЁВА БАЛОТА. Балота. У ім водзіцца шмат карасёў. Рэкта Гор.

КАРАСЁВА ЯМА. Вялікая яміна на полі. У час Вялікай Айчыннай вайны тут упаў збіты савецкі самалёт, лётчыкам якога быў Карасёў. Хацень Клім.

КАРАСЁВАЕ ВОЗЕРА. Возера. У ім водзіцца шмат карасёў. Забалоцце Чав.

КАРАСЁЎ ЛУГ. Поле. Раней было возера, у якім вадзіліся карасі. Пятровічы Чав.

КАРАСЁЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў Карась (мянушка). Хацень Клім.

КАРАСЁЎКА ж. Балота. У ім вадзілася шмат карасёў. Раманавічы Маг., Ордаць Шкл.; Вёска. Некалі тут было балота, у якім вадзілася многа карасёў. Карасёўка Красн.

КАРАСЁЎНІК м. Балота. Раней у ім вадзілася шмат рыбы. Азёры Шкл.

КАРАСІ мн. Вёска (ля вадаёма, багатага на рыбу). Башкіраўка Шкл.; Затока на р. Белая Натана. Раней тут вадзілася шмат рыбы. Добрае Мсц.; Возера. У ім шмат карасёў. Задабраць Крыч.

КАРАСІНАЕ н. Невялікае возера. У ім водзіцца шмат карасёў. Беразетня Мсц.

КАРАСІШЧА н. Месца на полі. Раней тут было невялікае возера, дзе вадзілася шмат карасёў. Рагі Слаўг.

КАРБАНАЎШЧЫНА ж. Лес. Даўней ён належаў пану Карбановічу. Коўбча Кліч.; Луг. Раней ён належаў пану Карбаноўскаму. Ямнае Бых.

КАРДОН м. Лес. Раней тут жыў ляснічы. Хонькавічы Чав., Слаўня Слаўг.

КАРЗІНАЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Многія яе жыхары плялі кошыкі. Хацілавічы Крыч.

КАРЗІННІК м. Месца ля рэчкі. Раней тут жыла сям'я Карзінніка (мянушка). Збышын Кір.

КАРМА ж. Лес. Ён быў пасаджаны клінам. Лыкава Маг.; Бярозавы гай. Ён расце роўнай паласой. Асавец Маг.; Луг. Раней тут была в. Карма. Падзамша Глуск.; Сенакос. Старыя Максімавічы Кліч.; Месца ў лесе. Тут падкормліваюць дзікіх жывёл. Васькавічы Чав.

КАРМІЦА ж. Пасёлак. Раней тут жылі вельмі гасцінныя людзі. Мокрае Бых.

КАРМОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота (ля в. Карма). Наркі Чэрык.

КАРМУШКА ж. Лясная паляна. Тут знаходзіцца кармушка для жывёл. Дары, Дрычын Асіп.

КАРНЕЕВА ВЫГАР. Кустоўнік. Раней тут жыў Карней. Мяжэнін Клім.

КАРНЕЕВА ПОЛЕ. Поле. Некалі яно належала Карнею. Кледнявічы Гор.

КАРНЕЕЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Карней. Вяззе Асіп.

КАРНІЛАЎ БРОД. Брод на рацэ. Раней тут жыла сям'я Карнілавых. Ордаць Шкл.

КАРНІЛАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут стаяла хата Карнілава. Ордаць Шкл.

КАРОВАЛАД м. Дарога. Па ёй ганяюць кароў на луг. Мікулічы Бабр.

КАРОВІН БРОД. Брод на рацэ. Праз яго ганяюць кароў. Пуцькі Чав.

КАРОВІН МОСТ м. Мост. Па ім ганяюць з поля кароў. Катка Глуск.

КАРОВІНА ГАРА. Узгорак. Тут жыхары вёскі сустракаюць кароў з поля. Шупені Кругл.

КАРОВІНА ЯМА. Катлавіна ў лесе. Сюды звозяць астанкі жывёлаў. Макаранцы Маг.

КАРОВІН РУЧАЙ. Ручай. У ім каровы п'юць ваду. Праточнае Бых.

КАРОК м. Лес. Раней тут было многа лазняку, з якога дралі кару. Гладкова , Вілейка Чав.

КАРОЛЬКАВА ГАРА. Пагорак. Раней тут жыў Каролька. Горкі Крыч.

КАРОМКА ж. Лес (ля в. Карма). Наркі Чэрык.

КАРОТКАЯ ДЗЕСЯЦІНА. Поле (0,5 га зямлі). Прылессе Чав.

КАРОТКІЯ мн. Невялікі луг. Ён знаходзіцца паміж полем і ракой. Хонькавічы Чав.

КАРОЎСКАЕ КЛАДБІШЧА. Месца ў лесе. Тут закопвалі астанкі кароў. Буглаі Красн.

КАРОЎСКІ ВІР. Месца ў рэчцы. Некалі тут ўтапілася карова. Баханы Хоц.; Азярцо. Некалі тут паілі кароў. Ржавец Чэрык.

КАРОЎЧЫНА ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала Кароўчыну (прозвішча). Коўбча Кліч.

КАРОЎЯ РЭЧКА. Ручай. У ім каровы п'юць ваду. Рэкта Гор.

КАРОЎІ ЛОГ. Нізіна. Раней тут было балота, у якім утапілася шмат жывёл. Рудня Бял.

КАРПАЎКА ж. Балота. Тут водзіцца многа карпаў. Васількі Бял.

КАРПАЎСКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Яго заснаваў Карп. Язёры Чэрык.

КАРПАВА ГАРА. Невялікая гара. Даўней тут жыў дзед Карп. Ціманава Клім.

КАРПАЎСКІ ГАЙ. Гай. Ён знаходзіцца ля в. Карпілаўка Клім.

КАРПЕЕВА МАЛОЖА. Луг. Раней тут жыў Карпей. Стайкі Маг.

КАРПЕКАВА БАЛОТА. Балота. Раней яно належала Карпу. Выдранка Красн.

КАРПЕКАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў Карпека. Лебедзева Гор.

КАРПЕЙКІНЫ ШТАНЫ. Мясціна ў лесе. Калісьці тут Карпейка (мянушка) згубіў, едучы з базара, свае штаны. Доўгая Чэрык.

КАРПЕКІНА РАНЧА. Лес. Некалі яго пасадзіў Карпека. Жаркі Касц.

КАРПЕКІНА ЯМА. Мясціна ў лесе. Раней тут жылі Карпекіны. Вепрын Чэрык.

КАРПЕЧКАВА ПУШЧА. Месца на беразе ракі. Раней тут жыў селянін Карпечка. Камяніца Бял.

КАРПІЛАЎКА ж. Частка в. Уланава. Некалі тут жылі Карпілавы. Уланава Шкл.

КАРПІЛАЎСКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Яно знаходзіцца ля в. Карпілаўка Клім.

КАРПІЛАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут стаяла хата Карпілава. Ордаць Шкл., Раманавічы Маг.

КАСЬЯНАЎ ВІР. Вір. Раней тут жыў дзед Касьян. Балбечана Гор.

КАРТЫ мн. Луг. Ён падзелены на некалькі роўных частак. Раманавічы Маг., Забалоцце, Забавы Бял., Ордаць Шкл.; Поле. Яно падзелена трыма канавамі. Высокае Клім., Літоўск Кругл.; Лес. На гэтым месцы былі кусты, потым — поле, цяпер — лес. Жаркі Касц.

КАРЧАВАТКА ж. Месца на рацэ. Тут шмат карчоў. Шупені Кругл., Яўневічы Глуск.; Луг. На ім шмат карчоў і купін. Іскра Бял.

КАРЧАВАХА ж. Узгорак. Раней тут раслі старыя яліны, якія выкарчавалі. Столка Чав.

КАРЧАВУХА ж. Поле. На ім многа карчоў. Трылесіна Гор., Паплавы Кліч.

КАРЧАВОЕ БАЛОТА. Балота ў лесе. Раней тут быў лес, а цяпер засталіся адны карчы. Ігнатаўка Хоц.

КАРЧАЎНІК м. Поле (на месцы выкарчаванага лесу). Рожава Мсц.

КАРЧМА ж. Невялікі лес. Раней тут стаяла карчма. Нямкі Кір.; Урочышча. Раней тут была карчма. Турышчава Гор., Васькавічы Чав.

КАРЧМІШЧА н. Поле. Калісьці тут была карчма. Халмы Красн.

КАРЧОМІШЧА н. Балота. Тут шмат карчоў. Таранава Маг.; Урочышча. Раней тут была карчма. Забалоцце Бял., Дудаковічы Кругл.

КАРЧОЎЕ н. Месца ў лесе. Тут шмат пнёў. Вялікія Лазіцы Шкл.

КАРЧОЎКА ж. Сенакос. Раней тут было балота. Кіраўск; Дзялянка ў лесе. Раней тут быў лес. Хамічы Кір.

КАРЧОЎНІК м. Луг. Тут шмат карчоў. Ліхінічы Кругл.

КАРЧОЎНЯ ж. Поле. Раней тут было многа карчоў. Буда Красн.

КАРЧЫ мн. Балота. На ім шмат засталося карчоў. Жадунька Клім.; Вуліца ў вёсцы. Раней тут быў лес. Іванаўка Крыч.; Поле. Раней тут быў лес. Заціšша Касц., Лебядзёўка Слаўг., Дружба Бых., Недзведзь Клім., Халмы Крыч.

КАРЧЫГІНА ГАРА. Лес. Раней тут выкарчоўвалі дрэвы. Запруддзе Маг.

КАРЧЫЛАЎКА ж. Пасёлак. Ён пабудаваны на месцы выкарчаванага лесу. Улькавічы Бял.

КАРЧЭЎЕ н. Малады лес. Раней тут быў непраходны лес. Чырчына Шкл., Нясята Кліч.; Месца ў лесе. Тут шмат карчоў. Таценка Кліч.; Сенажаць. Тут шмат карчоў. Ваевічы Кліч., Халмы Крыч., Валынеж Касц.

КАРЫТА н. Вялікі роў. Названы паводле формы. Заходы Шкл.; Вялікі абрыў. Названы паводле формы. Старое Брашчына Шкл.; Участак рэчкі. Названы паводле формы. Папоўка Слаўг.

КАРЫТНАЕ н. Лес. Некалі тут пілавалі дрэвы на выраб карытаў. Градзянка Асіп.; Вёска. Раней яна славілася вырабамі карытаў. Лука Асіп.

КАРЭЛАЎКА ж. Луг. Раней праз яго ішла гразкая дарога, па якой вазілі лес. Вепрын Чэрык; Лес. У ім растуць маленькія дрэвы. Кудзін Бял.

КАРЫТНІЦА ж. Вёска. Раней тут збіралі кару. Карытніца Бял.

КАРЫЦІНА ж. Нізіна на дарозе. Тут амаль заўсёды стаіць вада. Мушына Мсц.

КАРЫЦІШЧА н. Лес. Раней тут быў загон для кароў і стаялі карыты з вадой. Буглаі Красн.

КАР'ЕР м. Урочышча. Раней тут бралі пясок. Зарэчча Кругл., Паўлавічы Клім., Глінь Чэрык., Стайкі Красн., Свенск Слаўг., Александрыя Шкл.; Месца ля лесу. Тут бяруць гліну. Градзянка Асіп., Эсьмоны Бял.; Возера. Раней тут здабывалі мел. Бель Крыч., Сапронькі Шкл.,

Рудкаўшчына Гор.; Месца ў лесе. Тут знаходзіцца вялікая яма. Клічаў, Зарэчча Кругл., Алешкавічы Бял.; Поле. На ім шмат невяліх кар'ераў. Прылессе Чав.

КАР'**Е**РНАЕ В**О**ЗЕРА. Возера. Некалі тут быў кар'ер. Кульчыцы Слаўг.

КАР'**Е**РСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца ў кар'еры. Александрыя Шкл.

КАР'**Е**РСКІ ЛУГ. Луг. Ён знаходзіцца ў кар'еры. Александрыя Шкл.

КАР'**Е**РЫ мн. Луг. На ім шмат ям. Дубейкава Мсц.; Забалочанае месца. Раней тут бралі торф. Леніна Красн.; Возера. Некалі тут капалі гліну. Разальмаў Хоц.; Глыбокія месціны на балоце, у якіх шмат вады. Пацкава Мсц.; Рака з вялікімі ямамі-ўпадзінамі. Гусакі Шкл.; Месца за вёскай. Тут шмат насыпаў і кар'ераў. Нясята Кліч.; Урочышча. Некалі тут капалі пясок. Літоўск Кругл., Жадунька Клім.; Сметнік. Раней тут здабывалі гравій. Мурын-Бор Касц.; Луг за вёскай. На ім некалькі невялікіх азёр. Зоры Чэрык.; Забалочаная мясціна ў лесе. Макаранцы Маг.

КАР**Э**Я ж. Вуліца. Яна знаходзіцца на краі вёскі. Баханы Хоц.; Хутар. Ён знаходзіцца далёка ад іншых вёсак. Аўчыненкі Шкл.; Гразкае балота. Паплавы Кліч.

КАС**А** ж. Лес (названы паводле формы). Клічаў, Атражжа Чав.; Месца на рацэ. Названа паводле формы. Мірагошч Чэрык.

КАСАВ**І**ЦА ж. Урочышча. Тут косяць траву. Баханы Хоц.

КАСАВ**У**ХА ж. Дарога. Яна ідзе дугою ў лес. Новы Быхаў Бых.

КАСАГ**О**Р'Е н. Месца ў лесе. Тут знаходзіцца шмат узгоркаў. Вялікія Лазіцы Шкл.

КАС**А**Р м. Бярозавы гай ля в. Касары. Петухоўка Чав.

КАСАР**Э**ЗІНА ЎР**О**ЧЫШЧА. Урочышча. Калісьці тут, ловячы рыбу касой, чалавек зарэзаў сябе. Гарадзец Бых.

КАСАР**Э**ЎСКАЕ П**О**ЛЕ. Поле. Раней тут была в. Касары. Петухоўка Чав.

КАС**І**НШЧЫНА ж. Асінавы лес. Ён знаходзіцца ля в. Пусты Асавец Маг.

КАС**І**НЫ РОЎ. Узлесак. Тут косяць сена. Горкі Чэрык.

КАС**І**ЦКІ м. Луг. Тут заўсёды косяць траву. Сласцёны Чав., Леніна Красн.

КАССЁ н. Паляна ў лесе. Тут косяць траву. Боўсевічы Бял., Сухары Маг.

КАСЁК м. Рачулка. Некалі ля яе касілі сена. Зуі Крыч.

КАСК**О**ЎСКАЕ н. Заліўны луг. Тут пасвяць коней. Іскра Бял.

КАСМАЧ**Ы** мн. Поле. Раней тут жыў пан Касмач (мянушка). Дубраўка Касц.

КАСМ**Ы**НЯ ж. Месца на рэчцы. Тут шмат ціны. Кухенка Бабр.

КАСТАЛЬЦ**О**ВА БАЛ**О**ТА. Лес. Раней тут быў хутар Кастальцова. Бутрамееўка Бых.

КАСТЛЯК**І** мн. Месца каля рэчкі. Тут шмат карчоў. Лабковічы Крыч.

КАСТР**Ы**ШЧА н. Месца ля лесу. Тут на Купалу паляць вогнішчы. Козлы Гор.

КАСТУСЁВА ПР**О**СЕКА. Прасека. Некалі яна вяла да хутара Кастуся. Бардзінічы Чав.

КАСТУСЁВА Р**О**ШЧА. Гай. Раней тут была сядзіба Кастуся. Бель Маг.

КАСТУСЁВЫ АР**Э**ЛІ. Арэлі. Іх змайстраваў Кастусь. Коўбча Кліч.

КАСТУСЁЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут касіў траву Кастусь. Міхалкава Клім.

КАСУН**О**ЎКА ж. Узгорак ля рэчкі. Названа ў гонар пана Касунова. Чэрыкаў.

КАС**Ы**НКА ж. Сенажаць. Названа паводле формы. Сапронькі Шкл.

КАСЫХІНА ГАРА. Узгорак. Некалі тут жыла Касыха. Пудзелішчы Касц.

КАСЬКОЎ м. Луг. Раней тут пасвілі коней. Чырвоны Бор Бял.

КАСЬКОЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут пасвілі коней. Дзесяціны Кір.

КАСЭЕЎ ЛЕС. Лес. Раней тут быў хутар пана Касэўскага. Сілішча Клім.

КАШАЛЕЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі ля яго жыў бургамістр Кошалеў. Папоўка Слаўг.

КАШОЎКА ж. Вуліца. Раней тут жыў дзед, які плёў кошыкі. Дары Асіп.

КАШЧЭЎ м. Балота. У ім, паводле падання, вадзіліся кашчэі і чэрці. Няраж Бых.

КАШЭРЫК м. Забалочаная мясцовасць. Раней тут быў луг, на якім стаяла будыніна (кашара) для начлегу коней. Краснае Глуск.

КАСЦЁ н. Вёска. Раней тут знаходзіўся касцёл. Гонча Кліч.

КАСЦЁЛ м. Месца ў лесе. Раней тут быў касцёл. Макаўе Кліч.

КАСЦЕЛІШЧА н. Пагорак за могілкамі. Раней тут быў касцёл. Стараселле Шкл.

КАСЦЮКОЎКА ж. Лес (за в. Касцюкоўкай). Сычак Крыч.

КАСЦЮКОЎ ПРУД. Сажалка. Яе выкапаў дзед Касцюк. Савінічы Клім.

КАСЦЯНЫ ЛАЖОК. Узлесак. Тут расце шмат ягад-касцянак. Клін Мсц.

КАСЮЧКА ж. Луг. Тут расце шмат касючкі (травы). Шалаёўка Кір.

КАСЬЯНАВА н. Поле. Раней тут жыў Касьян. Вішні Касц.

КАТАВІШЧА н. Канец вуліцы. Тут жыве сям'я Котавых. Папоўка Слаўг.

КАТАЎКА ж. Лес. Некалі ў час Вялікай Айчыннай вайны тут хаваліся людзі ад немцаў. Катаўка Чав.

КАТАЎШЧЫНА ж. Узлесак. Раней тут быў луг, які належаў пану Катаўшчыну. Гута Клім.; Урочышча. Раней, у гады Вялікай Айчыннай вайны, тут катавалі людзей. Радамля Чав.

КАТКОЎШЧЫНА ж. Хутар. Некалі тут жылі Котавы. Нікуліна Гор.

КОТАВА ГРЫВА. Невялікая ўпадзіна на лузе. Сакольнічы Крыч.; Невялікая нізіна. Катка Глуск.

КАЎДОБЫ мн. Куп'істы сенакос. Нярaж Бых., Мокрае Бых.

КАЎБУШОК м. Балота. Названа паводле формы. Вецъ Бых.

КАЎГАНАВА ДАЧА. Лес (ля дачы Каўгавана). Праточнае Бых.

КАЎЗЯЛЁК м. Узгорак. З яго коўзаюцца зімой дзеці. Жадунька Клім.

КАЎЗУН м. Узгорак сярод луга. З яго коўзаюцца зімой дзеці. Дужаўка Чав.

КАЎПІНА ж. Ямка ў лузе. Яна заўсёды запоўнена вадой. Новы Быхаў Бых.

КАЎПІННЕ н. Луг. На ім шмат купін. Новы Быхаў Бых

КАХАНОЎ м. Узгорак над ракой. Раней тут была в. Каханоў. Сетнае Крыч.

КАХАНЫ РОЎ. Месца ля ракі. Раней тут заўсёды збіралася моладзь. Горкі Чэрык.

КАШАНСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца каля в. Кашаны. Кашаны Крыч.

КАШАРА ж. Бярэзнік. Раней тут быў загон для авечак. Петухоўка Чав.; Лес. Раней тут быў загон для кароў. Буглаі Красн.

КАШАРЫ мн. Бярэзнік. Раней тут былі калгасныя загоны. Асінаўка Чав.

КАШОЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Некалі тут жыў дзед, які плёў кошыкі. Дрычын Асіп.

КАШЫ мн. Паўкруглая дарога. Раздзел Мсц.

КАШЫНА ж. Забалочаная мясціна. Раней тут жыў селянін Кашын. Прыбар Бял.

КАШЫНА РОШЧА. Гай. Калісьці тут жыў памешчык Каша (мянушка). Мазалава Мсц.

КАЦАПШЧЫНА ж. Лес. Некалі ён належаў "кацапам" (рускім стара-верам-перасяленцам). Чачэвічы Бых.; Вёска Туркаўская Слабада. Тут жывуць староверы. Туркі Бабр.

КАЦІН ВІР. Вір у рэчцы Бесядзь. Тут калісьці хлопец утапіў сваю каханую дзяўчыну Кацю. Юзафоўка Хоц.

КАЦІНА ГАРА. Невялікі ўзгорак. Раней тут стаяла хата Кацярыны. Ракушава Кругл.

КАЦІНА н. Пасёлак. Раней тут жыла жанчына Каця. Супанічы Маг.

КАЦІНАЯ ВУЛІЦА. Вуліца. Некалі тут жыло шмат бяздомных катоў. Вець Бых.

КАЦІНАЯ ЛУЖЫНА. Балота. Некалі тут тапілі катоў. Беліца Чэрык.

КАЦІНАЕ ДВОРЫШЧА. Сад. Раней тут жыў Котаў. Казакоўка Слаўг.

КАЦІНЫ ВОСТРАЎ. Узгорак ля лесу. Тут водзяцца дзікія каты. Холстава Бых., Каменка Мсц.

КАЦІШКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут быў хутар Кацішкі. Карзеева Дрыб., Рэпішча Маг.

КАЦЬВІНА н. Невялічкі вадаём. У ім плаваюць качкі. Бутрамееўка Бых.

КАЦЬКІН МОСТ. Стары мост. Некалі праз яго пераязджала царыца Екацярына. Забор'е Шкл.

КАЦЭНСКАЕ БАЛОТЦА. Балотца. Некалі тут жыла сям'я татар Коцней. Семукачы Маг.

КАЦЯРЫНІН ГАЙ. Гай. Калісьці ў час Вялікай Айчыннай вайны там была забіта санітарка Каця. Заньказўшчына Мсц.

КАЦЯРЫНІНА БАЛОТА. Балота. Некалі тут загінула Кацярына. Гамарня Бых.

КАЦЯРЫНІНА КРЫНІЧКА. Крынічка. Даўней тут жыла Кацярына. Купёлы Маг.

КАЦЯРЫНІНА СЦЕЖКА. Сцежка. Некалі па ёй хадзіла на працу Кацярына. Прудок Слаўг.

КАЦЯРЫНІНА РОШЧА. Гай. Раней ён належаў княгіні Кацярыне. Трылесіна Гор.

КАЦЯРЫНІН ДВОР. Урочышча. Раней тут жыла Кацярына. Акунёўка Маг.

КАЧАЛКІ мн. Луг. Раней тут было балота. Масцішча Бял.

КАЧАРГА ж. Паварот ракі. Названы паводле формы. Загараны Кругл.; Пасёлак. Запруддзе Маг.; Луг, акружаны вадаёмам. Названы паводле формы. Іскань Бых.; Дзве вуліцы. Названы паводле формы. Красавічы Клім.

КАЧАРЭЖНІК м. Лес. Названы паводле формы. Чарнякоўка Слаўг.

КАЧАРЭШКІ мн. Выкарчаванае месца сярод балота. Тут шмат журавін. Забалоцце Бял., Сіпайлы Бял.

КАЧКІ мн. Месца на лузе. Тут гняздуюцца качкі. Глінь Чэрык.

КАЧУБЕЕВА САЖАЛКА. Сажалка (ля хаты Качубеева). Вялікія Лазіцы Шкл.

КАЧУРОВЫ КУСТЫ. Кусты сярод поля. Калісьці тут вадзіліся качуры (дзікія качкі). Кухенка Бабр.

КВАДРАТ м. Пляцоўка ля сельсавета. Некалі тут збіралі дапрызыўнікоў. Буда Красн.

КВАРТАЛ м. Дзялянка ў лесе. Яна была выразана леснікамі. Асман-Касаева Бял.

КВЯЦЕЙКІНА КРЫНІЦА. Канал. Раней тут была крынічка Квяцея. Фядотава Буда Клім.

КВЯЦІСТ м. Сад. Раней тут жыў Квяціст (мянушка). Буда Хоц.

КВЯЦІСТЫ ЛУГ. Луг. Тут заўсёды ўлетку шмат кветак. Бялынкавічы Касц.

КЕЙЗАРАЎ РАВОК. Луг. Раней тут жылі Кейзаравы. Літоўск Кругл.

КЕРАСІНКА ж. Месца ў цэнтры вёскі. Тут знаходзіцца склад з газай. Забычанне Касц.

КЕРАЎ САД. Сад. Ён належыць дзядзьку Керу (мянушка). Ордаць Шкл., Раманавічы Маг.

КЕЦЬКАЎКА ж. Поле (ля р. Кецькаўка). Градзянка Асіп.

КІПЦЕВА ПЕЛЬ. Палонка на рацэ. Тут жыве Кіпець (мянушка). Катка Глуск.

КІПЯЧЫ мн. Вёска. Тут калісьці жыў працавіты народ. Кіпячы Бых.

КІПЯЧЫК м. Урочышча. Тут з зямлі многа б'е крыніц. Васілеўка Шкл.

КІРАЁНКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут быў хутар Кірэя. Мядзвёдаўка Чав.

КІРПІЧНАЕ БАЛОТА. Кар'еры. Раней тут бралі гліну для вырабу цэглы. Крычаў.

КІРПІЧНАЯ ГАРА. Узгорак. Раней тут быў цагельны завод. Крычаў.

КІРПІЧНЫ ЗАВОД. Зараснікавая мясцовасць. Раней тут быў цагельны завод. Раздзел Мсц.; Невялікае паселішча (ля кірпічнага завода). Алешкавічы Бял.

КІРПІЧНЫ ЛОГ. Лог (за цагельным заводам). Раздзел Мсц.

КІРПІЧНЯ ж. Месца ў полі. Раней тут быў цагельны завод. Бароньki Касц.

КІРЫЕНКАЎ КРУГ. Поле. Раней тут жыў Кірыенкін. Прылессе Чав.

КІРЫКАЎ ХУТАР. Лес. Раней тут быў хутар Кірыка. Праточнае Бых., Коўбча Кліч.

КІРЫЛАЎ БУГОР. Мястэчка. Раней тут стаяла кузня Кірыла. Кудзяны Чэрык.

КІРЫЛАВА КУЗНІЦА. Разваліны. Калісьці тут стаяла кузніца Кірыла. Крычаў.

КІРЫЛАЎ МОСТ. Мост праз рачулку. Некалі тут стаяла хата лесніка Кірыла. Зуі Крыч.

КІРЫЛАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут быў хутар Кірыла. Жадунька Клім., Канава Хоц.; Два дамы (у канцы вёскі). Раней тут жыў святы Кірыл. Царковішча Шкл., Лазіцы Шкл.

КІР'ЯНАЎ МОСТ. Праезд праз балота. Яго першым праклаў дзед Кір'ян. Каменка Мсц.

КІРЭЕЎ РОЎ. Кар'ер. Некалі тут жыў Кірэй. Лыкава Маг.

КІРЭЕЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў Кірэй. Куракоўка Красн.

КІСЯЛЕВІЧЫ мн. Ваенны гарадок. Названы ў гонар афіцэра Кісялёва. Міхалёва Бабр.

КІСЕЛЬ м. Вельмі доўгая, вузкая і роўная паласа поля. Заходы Шкл., Пароеўка Чав.

КІСЛАЎКА ж. Мікрараён горада. Раней тут вырошчвалі яблыкі. Крычаў; Луг. Раней тут "заквашвалі" скуру жывёл. Зуі Крыч.

КІСЛАШЧЭЕЎКА ж. Хмызняк. Тут расце багата шчаўя. Леніна Красн.

КІСЛАЯ КРЫНІЦА. Крыніца. У ёй кіславатая вада. Маляцічы Крыч., Навапруддзе Кругл.

КІСЛІДЗЬ ж. Поле. Раней тут быў лес, дзе расло многа кісліцы (травы). Галічы Клім.

КІСЛІЦЫ мн. Балоцістая мясціна ў лесе. Тут расце шмат журавін. Клічаў.

КІСЯЛЁВА н. Луг. На ім расце многа шчаўя. Прылессе Чав.

КІСЯЛЁВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыла сям'я Кісялёвых. Раманавічы Маг., Ордаць Шкл., Благаўкі Шкл.

КІСЯЛЁВА БУДА. Вёска. Некалі яна належала памешчыку Кісялёву. Кісялёва Буда Клім.

КІСЯЛЁЎСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца ля в. Кісялькі Маг.

КІСЯЛЬКІ мн. Вёска. Раней тут была забалочаная, багністая, як кісель, мясцовасць. Сухары Маг., Новы Быхаў Бых.

КІТАЙ м. Вёска. Тут жыве шмат людзей. Нікіцінічы Шкл.

КІТАЙСКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Ён быў пабудаваны кітайцамі. Раманавічы Маг.

КІТЛЯ ж. Урочышча (вакол возера). Кледнявічы Гор.

КІШКУНОВА ВОЗЕРА. Возера. На ім ёсць невялікі востраў, на якім быў пахаваны Кішкуноў. Загараны Кругл.

КІШКУНОВА МАГІЛА. Месца на балоце. Тут пахаваны рэвалюцыянер Кішка. Загараны Кругл.

КІШКУНОЎ ХУТАР. Лес. Раней тут быў хутар Кішкуновых. Загараны Кругл.

КІЙ м. Лужок. Названы паводле формы. Поблін Глуск.

КЛАДБІШЧА н. Луг. Некалі тут былі могілкі. Хацілавічы Крыч.

КЛАДЗІШЧА н. Ускраек лесу. Некалі тут у час першых МТС, быў склад з зернем. Нясята Кліч.

КЛАДКА ж. Месца ў лесе. Тут знаходзіцца канава, праз якую пакладзена кладка. Малінава Глуск.; Самае плыткае месца ў рэчцы. Тут можна перайсці раку. Маляцічы Крыч.; Месца на рацэ. Тут ляжыць кладка. Мікулічы Бабр.

КЛАДКІ мн. Мясціна ў лесе. Тут пакладзены кладкі. Асман-Касаева Бял.; Месца на рэчцы. Некалі тут ляжалі кладкі. Эсьмоны Бял.

КЛАДШЧЫНА ж. Лес. Ён знаходзіцца ля в. Мяжэніна. Мяжэніна Клім.

КЛЕПАЧЫ мн. Вёска. Раней жыхары яе ў час касьбы часта кляпалі косы. Стук малатка будзіў усё навоколле. Палянінавічы Бых.

КЛЕПЧАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Клепчы (мянушка). Чорны Бор Бых.

КЛЕТКА ж. Луг. Ён з трох бакоў акружаны канавамі. Катка Глуск.

КЛЕТКІ мн. Урочышча. Тут "шахматнымі клеткамі" пасаджаны дрэвы. Замошша Шкл.

КЛЁНІКІ мн. Невялікі бярэзнік на беразе затокі. Тут растуць маладыя клёны. Леніна Красн.

КЛЁПКІ мн. Урочышча. Раней тут раслі дубы, з якіх рабілі клёпку для дзежак. Горкі Чэрык.

КЛЁРКАЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў Клёрка. Бортнікі Бабр.

КЛІМАВА ЛЯДА. Поле сярод лесу. Яго распрацаваў Клімаў. Лянёўка Кліч.

КЛІМАЎ ВУГАЛ. Ускраек лесу. Некалі тут жыў Клім. Глінь Чэрык.

КЛІМАЎ ЛОГ. Узлесак. Раней тут жыў Клім. Валоўнікі Мсц.

КЛІМАЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Некалі тут жыў Клім. Язёры Чэрык.

КЛІМАЎСКІ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Першым жыхаром яго быў Клім. Асман-Касаева Бял.

КЛІМЕНТ м. Мясціна ў лесе. Раней тут была сядзіба Клімента. Абідавічы Бых.

КЛІМЯНЦІНАЎ ХУТАР. Месціна ля лесу. Раней тут быў хутар Клімянціна. Літоўск Кругл.

КЛІН м. Вёска. Названа паводле формы. Сухары Маг., Новы Быхаў Бых.

КЛІНАВАТЫЯ мн. Поле. Яно падзелена на кавалкі, кліны. Дубраўка Красн.

КЛІННЕ н. Поле. Названа паводле формы. Свенск Слаўг.

КЛІННЯ ж. Участкі лесу. Названы паводле формы. Па ёй хадзілі жыхары з в. Клін. Клін Хоц.

КЛІНТУХОВА БАЛОТА. Балота (ля хаты Клінтуховых). Прысна І Маг.

КЛІНЫ мн. Луг. Раней тут былі сялянскія надзелы. Капачы Мсц., Аўтухоўка Клім.

КЛІНЫ ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ мн. Два невялікія бярэзнікі за вёскай. Названы паводле формы. Мурын-Бор Касц.

КЛУБ м. Узвышанасць у лесе. Раней тут стаяў дом паляўнічага. Мушына Мсц.

КЛЫЧЫХА ж. Лес. У ім водзіцца шмат дзікоў. Гарадзішча Шкл.

КЛЮКАЎНЯ ж. Балота. Калісьці тут было шмат журавін (руск. клюквы). Градзянка Асіп.

КЛЮШНІЦКІ МОСТ. Месца на рацэ. Некалі тут быў мост, пад якім вадзілася шмат ракаў. Цяхцін Бял.

КЛЮХІНА ВЁСКА. Вёска. Раней тут было памесце Клюхіных. Клюхіна Крыч.

КЛЮЧ м. Вёска. Некалі тут бруілася крынічка. Ключ Чав.; Стары калодзеж. У ім б'е вада. Навабрашчына Шкл.; Урочышча. Тут знаходзіцца крыніца. Панькі Касц.

КЛЮЧАВАЯ ГРЫВА. Возера. Калісьці тут, паводле падання, нехта згубіў ключы. Вушакі Чэрык.

КЛЮЧАНКА ж. Рачулка. Тут з-пад зямлі б'юць крыніцы. Высокае Шкл.

КЛЮЧКІ мн. Урочышча. Тут б'е некалькі крынічак. Вялікая Машчаніца Бял.

КЛЮЧЫ мн. Месца на лузе. Тут б'е шмат крыніц. Аржаўцы Шкл.; Рака. У ёй б'е крыніца. Раманавічы Маг.; Стары калодзеж. У ім б'е вада. Арцёхаў Красн.

КЛЯННЁ н. Месца ў канцы вёскі. Тут расце некалькі клёнаў. Галічы Клім.; Поле (паміж узгоркам і рэчкай). Супанічы Маг.

КЛЯНОВАЯ ПАСАДКА. Частка лесу. Тут пасаджаны маладыя клёны. Глінь Чэрык.

КЛЯНОЎСКІ ЛЕС. Невялікая частка лесу. Тут растуць прыгожыя клёны. Займішча Шкл.

КЛЯНОЎНІК м. Частка лесу. Тут расце вялікі клён. Бярозаўка Слаўг.

КЛЯПАЦІ мн. Поле. Некалі тут касілі траву і кляпалі косы. Прылессе Чав.

КЛЯПІШЧА н. Поле. Калісьці ўздоўж яго раслі клёны. Прылессе Чав.

КЛЯПЧАНЫ МОСТ. Вельмі нізкі мост. Ён ляжыць на вадзе, якая аб яго "клепчацца" (плешчацца). Пяцілетка Асіп.

КЛЯЎЧЫХА ж. Хутар. Раней тут жыў каваль. Прылессе Чав.

КЛЯШЧЫСТАЯ БАЛАЦВІНА. Высахлае балота з рэдкім лесам. Некалі тут вадзілася шмат кляшчоў. Тубушкі Кругл.

КЛЯЧАВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі тут утапіўся Клячаў (мянушка). Гута Клім.

КНІЛУШКА ж. Рака. Яна мае багністыя берагі. Стаялава Кліч.

КНЯГІНЬКА ж. Узгорак. Калісьці, паводле падання, нейкі князь скінуў з яго сваю жонку ў раку за тое, што яна выдала тайну суседняму князю-ворагу. Палянінавічы Бых.

КНЯЖАЦКАЯ ЗЯМЛЯ. Лес. Раней тут жыў пан Княжацкі. Троіца Шкл.

КНЯЖЫЦКАЯ ДАРОГА. Дарога (на в. Княжыцы). Бракава Маг.

КНЯЖЫЦЫ мн. Вёска. Некалі тут жыў князь. Княжыцы Маг.

КНЯЗЕВА н. Вёска. Некалі тут адзін князь, закахаўшыся ў цыганку, павесіў яе мужа. Цыганка ж, калі даведалася пра гэта, засекла князя сякерай, а сама ўтапілася. Палянінавічы Бых.

КНЯЗЬКІ мн. Поле. Раней на гэтым месцы жыў князь. Петухоўка Чав.

КНЯЗЁВА н. Вёска. Раней гэтае мястэчка належала князю. Свенск Слаўг., Трасціно Хоц.

КНЯЗЕЎ ВІР. Месца на рацэ. Калісьці тут утапілася князева карэта. Крычаў.

КНЯЗЬКОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Князьковых. Літоўск Кругл.

КОГАЛЕЎ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Когалю (мянушка). Ількавічы Бял.

КОЗЗЕ н. Поле. Некалі тут пасвілі коз. Бязуевічы Слаўг., Абідавічы Бых.

КОЗІНА н. Луг. Тут пасвілі коз. Турышчава Гор.

КОЗЫ мн. Сенажаць. Раней тут пасвілі коз. Асінаўка Мсц., Нярож Бых.

КОЙДЗІНА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыла жанчына Койдзіна (мянушка). Горкі Крыч.

КОЛАНКА ж. Вадаём (за вёскай). Славені Шкл.

КОЛАС м. Вёска. Раней тут многія вяскоўцы сеялі жыта. Турчылаў Кліч.

КОЛЕНЬКАВА ДЗЯЛЯНКА. Дзялянка ў лесе. Яе выцерабіў ляснік Коля. Кулешава Шкл.

КОЛЕЎ ХУТАР. Хутар. Некалі тут жыў Коля. Трасціно Хоц.

КОЛІНА ДАРОГА. Вузкая сцяжынка ў лесе. Раней тут была дарога, якую пан назваў у гонар свайго сына Колі. Лідзіна Шкл.

КОЛДА ж. Мясцовасць (зрытая канавамі). Казелле Красн.

КОЛЬКАВА ПАЛЯНА. Паляна (ля хаты дзядзькі Колькі). Дразды Кругл.

КОНАНАЎ ЛУГ. Луг. Раней ён належаў Конану. Трылесіна Гор.

КОНАЎКА ж. Поле. Некалі яно было выганам для коней. Гладкова Чав.

КОНКА ж. Дарога праз лес. Раней сюдой ганялі на выган панскіх коней. Градзянка Асіп.

КОНІШЧА н. Луг. Раней тут пасвілі коней. Ваевічы Кліч.

КОННАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут пасвілі коней. Туркі Бабр.

КОНСКАЯ ГРЫВА. Узвышша ля рэчкі. Названа паводле формы. Прыбар Бял.

КОНСКАЯ ЯМА. Месца на рацэ. Некалі тут утапіўся конь. Прыгані Кругл.

КОНСКІ ВОЛАС. Затока. Летам сюды ганяюць на вадапой коней. Елькаўшчына Кругл.

КОНСКІ ЛУГ. Луг. Тут кожную ноч пасвяць коней. Дубінка Маг., Карпілаўка Клім.

КОНСКІ МОСТ. Месца на рацэ. Летам тут пераганяюць коней. Крычаў.

КОНСКІ РОЎ. Нізіна. Калісьці тут закопвалі нежывых коней. Прыбар Бял.

КОНЦЫ мн. Мясцовасць у лесе. Раней людзі лічылі гэтае месца канцом лесу і ніколі сюды не хадзілі. Ядраная Слабада Кліч.

КОПАНКА ж. Сенажаць. Раней тут былі вялікія ямкі з вадой. Арцёхаў Красн., Бірча Бабр.; Месца за горадам. Тут бяруць пясок. Слаўгарад; Сажалка. Яна выкапана экскаватарам. Малыя Лазіцы Шкл.

КОПАНКІ мн. Урочышча. Раней тут бралі пясок. Леніна Красн., Новая Брашчына Шкл.

КОПАНЬ ж. Кар'ер для здабычы торфу. Следзюкі Бых.; Вёска. У цэнтры яе знаходзіцца копань — невялікі калодзеж без зруба. Ржаўка Шкл.; Выкапаная сажалка. Гладкова Чав., Бутрамееўка Бых.

КОПІКАВА ВОЗЕРА. Азярцо. Яно знаходзіцца ля хаты Копіка (мянушка). Паўлавічы Клім.

КОПКА ж. Луг. На ім складаюць копы сена, каб узімку перавезці іх праз раку. Курманава Мсц.

КОРЧЫШЧА н. Месца на р. Сож. На дне яе шмат карчоў. Лабковічы Крыч.

КОРАБЦАЎ САД. Сад. Яго пасадзіў князь Корабцаў. Слаўгарад.

КОРАТЦАЎ САД. Сад. Некалі ён належаў пану Коратцу. Паўлавічы Клім.

КОРАЎШЧЫНА ж. Месца ў лесе. Тут закопваюць нежывых цялят. Аляксандраўка Слаўг.

КОРШЫКАЎ ЛОГ. Месца сярод лесу. Тут водзіцца шмат каршуноў. Раманькі, Буглаі Красн.

КОРЧ м. Месца на рацэ. Тут шмат карчоў. Стаялы Кліч., Шупені Кругл.; Зарослы бераг ракі. Новы Быхаў Быx.

КОСАЛЬ м. Луг (ля в. Косаль). Чарнякоўка Слаўг.

КОСТЛІКІ мн. Мясціна ў лесе. Тут шмат карэння. Ніканавічы Быx.

КОСТРЫЧЫ мн. Вёска. Тут спрадвеку на Івана Купалу палілі вогнішчы. Міхалёва Бабр.

КОСЦІКАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыла сям'я Косцікаў (мянушка). Зарэчча Чав.

КОСЦІКАВА ПАЛЯНА. Частка лесу. Тут калісьці жыў Косцік. Праточнае Быx.

КОСЦІКАВА ЯМА. Купальня. Калісьці тут утапіўся Косцік. Лудчыцы Быx.

КОСЦІНА ПАЛЯНА. Паляна. Тут пахаваны партызан Косця. Яноўка Клім.

КОСЦІНІЧАЎ м. Бярэзнік. Раней тут жыў кулак Косцініч. Ясная Паляна Чэрык.

КОСЦІКАЎ ЛУЖОК. Луг. Некалі ён належаў Косціку. Буйнікі Бабр.

КОСЦІНКА ж. Вёска. Першым жыхаром яе быў Косця. Косцінка Маг.

КОТАВА ЛУКА. Лука ў рэчцы Бася. Тут утапіўся дзядзька Кот (мянушка). Рудзіцы Шкл.

КОЎБЧА ж. Вёска. Паводле жыхароў, яе заснаваў пан Коўбча. Коўбча Кліч.

КОЎГАНІХІН ХУТАР. Урочышча. Раней яно належала Коўганісе (мянушка). Нядашава Маг.

КОЎЗАНКА ж. Узгорак. З яго любяць коўзацца зімой дзеці. Прыгані Кругл.

КОЎРЫКАВА ГАРА. Поле. Некалі тут жыў Коўрык. Ваевічы Кліч.

КОЎРЫКАЎ КУРГАН. Курган. Калісьці тут жыў памешчык Коўрык. Турчылаў Кліч.

КОЎРЫКАЎ МОСТ. Дарога праз поле. Некалі яно належала сям'і Коўрыкаў. Рэпішча Маг., Турчылаў Кліч.

КОЎРЫН м. Вёска. Яе заснаваў Коўрын. Міхалёва Бабр.

КОЦВІНА ж. Забалочаная нізіна ў лесе. Лукі Гор.

КОЧАВА ПАЛЯНА. Невялікая паляна ў лесе. Раней тут быў хутар Кочавых. Пясчанка Маг.

КОШЫНАЕ БАЛОТА. Балота. Летам тут збіраюць ягады. Віркаў Кліч.

КРАБАТОЎКА ж. Частка вёскі. Тут жыве Крабатоўкін. Малыя Лазіцы Шкл.

КРАВАВЫЯ ЛАГЧЫНЫ. Мясціна ў лесе. Некалі тут было паўстанне. Клічаў.

КРАЖЭ н. Поле. Раней тут была вёска, у якой цыганы часта кралі коней. Бабіна Бабр.

КРАЙНЯЯ ПАЛОСА. Месціна на лузе. Тут пасвяць жывёлу. Ліпень Асіп.

КРАЎНЯ ж. Балота. Некалі тут вадзілася шмат дзікіх качак. Замышкі Кругл.

КРАКВІН МОХ. Балота. Раней тут гняздзіліся качкі. Хамінічы Горац., Адамаўка Гор.

КРАМНЁВАЕ н. Урочышча. Тут знаходзяць шмат крамянёвых прылад працы. Лудчыцы Быx.

КРАМЯНКА ж. Урочышча. Раней тут здабывалі крэмень. Перагон Слаўг.

КРАПІВЕНЬ м. Поле. Раней тут была в. Крапівень. Туркі Бабр.

КРАПІЎНІЦА ж. Луг. На ім расце шмат крапівы. Мокрае Быx.

КРАПІВЕНСКІ ЯР. Яр (ля в.Крапіўня). Бялынкавічы Касц.

КРАПІЎНЯ ж. Ускраек лесу. Тут расце высокая крапіва. Леніна Красн.

КРАСЁННАЯ ж. Дарога. Некалі ўздоўж яе жылі людзі, якія ткалі кросны. Ніканавічы Быx.

КРАСІКІ мн. Поле. Раней тут была лагчына, у якой вадзіліся карасі. Данькава Дрыб.

КРАСНАГОР'Е н. Узвышанае месца. На ім чырвоная гліна. Лапаціна Мсц.

КРАСНАГОРКА ж. Узвышанае месца. Некалі тут было шмат чырвоных кветак. Бярозаўка Слаўг., Сапронькі Шкл.; Узвышанае месца. Тут шмат расце ягад. Перагон Слаўг.; Частка вёскі. Некалі тут ішлі крывапралітныя баі. Прыгані Кругл.

КРАСНАЕ н. Невялікі лес. Тут расце багата маліны. Дрычын Асіп.; Бераг ракі. На ім пясок чырвонага колеру. Клічаў.

КРАСНАЕ БАЛОТА. Гліністае балота. У ім іржавая вада. Праточнае Бых., Прылессе Чав.; Балота. На ім расце шмат журавін. Старасёлы Чав.

КРАСНАЕ ПОЛЕ. Поле (ля дарогі з в. Загаранкі ў в. Бураўшчына); Яно вельмі прыгожае. (ад стараж. "красное" — "красивое"). Загаранкі Кругл.

КРАСНАЯ ГАРА. Узгорак. Ён летам усыпаны чырвонымі кветкамі. Боркі Хоц.; Узвышанае мясціна з чырвонай глінай. Галічы Клім., Стайкі Клім., Белы камень Бял., Ржавец Чэр.; Вёска. Некалі ў часы вайны са шведамі тут ішлі баі. Забітыя воіны былі пахаваны ў кургане. Новы Быхаў Бых., Сухары Маг.; Узвышша. На ім у час Вялікай Айчыннай вайны ішоў цяжкі бой. Градзянка Асіп.

КРАСНАЛУКІ мн. Поле. Раней тут расло шмат маку. Градзянка Асіп.

КРАСНАЯ ГОРКА. Узгорак. На ім шмат чырвонай гліны. Каменка Мсц., Паўлавічы Клім.; Узвышаная мясцовасць. У час Вялікай Айчыннай вайны тут загінула шмат партызан. Прудок Слаўг., Рэкта Гор.; Лес. У ім расце шмат падасінавікаў. Паўлавічы Клім.; Поле. Раней тут быў пас. Красная Горка. Чырвоны Бор Бял.; Вёска. Раней тут было вельмі многа маліны. Красная Горка Шкл.

КРАСНАЯ КРУЧА. Круты схіл на Дняпры (з чырвоным пяском). Абідавічы Бых.

КРАСНАЯ ПАЛЯНА. Месца ў лесе. Раней тут было шмат маліннiку. Купёлы Маг.; Паляна ў лесе. Раней тут было шмат рабіны. Мерч Шкл.

КРАСНАЯ ПЛАЦІНА. Плаціна на рацэ. У час Вялікай Айчыннай вайны тут ішоў бой, пралілося шмат крыві. Зарэчча Чав.

КРАСНАЯ РОСАЎШЧЫНА. Лес. Некалі над ім садзілася сонца і было тут вельмі росна. Макавічы Глуск.

КРАСНІК м. Луг. Раней на ім расло шмат каліны. Бацэвічы Кліч.

КРАСНІЦА ж. Месца ў лесе. Тут расце шмат чырвоных ягад (суніц). Наваельня Красн., Ваевічы Кліч.; Вёска. Раней тут жылі майстры па афарбоўцы скуры, палотнаў. Красніца Касц.

КРАСНЫ БАРОК. Луг. Тут расце шмат чырвонага маку. Каленіна Крыч.

КРАСНЫ БЕРАГ. Вёска (ля берага ракі з чырвонымі глінянымі берагамі). Лудчыцы Бых.; Вуліца ўздоўж р. Сож. Чэрыкаў; Пасёлак (ля ракі). Раней тут вадзіліся вельмі прыгожыя птушкі. Міхалёва Бабр.; Кар'ер з чырвонай глінай. Вольса Кліч.; Прыгожы бераг на р. Віхры. Раней тут стаяла панская сядзіба. Лютня Мсц.

КРАСНЫ БОР. Вёска. Вакол яе расце шмат рабіны. Барышаўка Чав.

КРАСНЫ ВОСТРАЎ м. Круглая мясціна ў лесе. Тут гліністая зямля. Клічаў.

КРАСНЫ ЛЕС. Хутар у лесе. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут

знаходзілася стаянка партызанскай брыгады. Аколіца Кліч.

КРАСНЫ ЛУГ. Поле. Раней тут знаходзілася стаянка чырвоных войск. Сабалёўка Клім.

КРАСНЫ МОСТ. Мост праз раку. Названы паводле колеру. Жаролы Слаўг.; Мост праз раку. Калісьці ён быў зроблены мясцовымі майстрамі. Ушакі Чэрык.; Мост. На ім насыпана шмат чырвонага пяску. Загараны Кругл.

КРАСНЫ ПАСЁЛАК. Частка вёскі. Тут шмат хат пафарбавана ў чырвоны колер. Вялікія Лазіцы Шкл.

КРАСНЫ ХУТАР. Паселішча. Раней тут стаяў млын, ля якога было шмат гліны. Чэрыкаў.

КРАСНЫЯ ПЯСКІ. Пляж на беразе ракі. Названы паводле колеру пяску. Шупені Кругл.

КРАСНЫЯ СЛІЖЫ. Вёска. Яна размешчана на прыгожай мясцовасці. Акунёўка Шкл.

КРАСОВІШЧА н. Месца каля рэчкі. Вельмі прыгожае. Клічаў.

КРАСОЎКІ мн. Забалочаная мясцовасць (зарослая арэшнікам і бярэзнікам). Праточнае Бых.

КРАСТЫ мн. Месца ў лесе. Раней тут знаходзілася магіла з крыжам. Чачэвічы Бых.; Частка вёскі (каля могілак). Ялізава Асіп.

КРАСУЛІ мн. Урочышча. Раней тут вадзіліся алені. Гатавец Красн.

КРАСУЛЯ ж. Поле. На ім растуць прыгожыя кветкі. Лютня Красн.

КРАСЯНКОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў пан Красянок (мянушка). Прудок Слаўг.

КРАТЧАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога (вядзе ў в. Кроткі). Прылессе Чав.

КРАТЧАНСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Кроткі). Прылессе Чав.

КРАЎЦОВА ГАРА. Луг. Раней тут жыў хутаранец Краўцоў. Буглаі Красн.

КРОТАВА БАЛОТА. Поле. Раней тут было балота, ля якога жыў сляпы чалавек. Чорны Бор Бых.

КРОТАВА ГОРКА. Узвышанасць за вёскай. Яна заўсёды зрыта кратамі. Маляцічы Крыч.

КРОТАЎШЧЫНА ж. Сенажаць. Раней тут жыла сям'я Кротавых. Сялец Гор.; Урочышча. Раней яно належала Крату (мянушка)). Коўбча Кліч., Ямнае Бых.

КРУГ м. Поле. Названа паводле формы. Хамінічы Гор., Альхоўка Чав.; Сажалка. Названа паводле формы. Літоўск Кругл., Забалоцце Бял.; Малады лес. Раней тут быў стадыён. Загараны Кругл. Пляцоўка ля школы. Названа паводле формы. Уланава Шкл., Шыракавелле Красн., Нясята Кліч.

КРУГАВІНА ж. Поле. Названа паводле формы. Сапронькі Шкл.

КРУГІ мн. Поле сярод лесу. Названа паводле формы. Прылессе Чав.; Месца ў лесе. Раней тут здабывалі гліну і таму там засталіся вялікія круглыя ямы. Курманава Мсц.

КРУГЛАВАТКА ж. Луг. Названы паводле формы. Міхеевічы Крыч.

КРУГЛАГРЫВА ж. Лес. Названы паводле формы. Новы Быхаў Быx.

КРУГЛАЕ н. Паляна сярод поля. Названа паводле формы. Фядотава Буда Клім.; Возера. Названа паводле формы. Язёры Чэрык.; Поле. Названа паводле формы. Чэрнеўка Шкл.; Возера. Названа паводле формы. Міхасёва Бабр.

КРУГЛАЕ ПОЛЕ. Поле, акружанае лесам. Названа паводле формы. Дашкаўка Маг., Ржаўка Слаўг.

КРУГЛАЎКА ж. Поле. Названа паводле формы. Курманава Мсц.

КРУГЛІК м. Малы лес. Ён расце паўкругам. Круча Кругл.

КРУГЛІЦА ж. Бераг. Названы паводле формы. Паплавы Кліч.;

Бярэзнік. Названы паводле формы. Зацішша Бял.; Паляна ў лесе. Бракава Маг.; Лугавіна сярод балота. Жаролы Слаўг.; Поле. Названа паводле формы. Праточнае Бых.; Поле. Названа паводле формы. Добрае Гор.

КРУГЛОВІНА ж. Месца на рэчцы. Названа паводле формы. Бёрда Кліч.; Забалочаны ўчастак. Названы паводле формы. Шчацінка Чэрык.

КРУГЛЫ АЛЁС. Упадзіна на лузе, якая заліваецца вадой. Названа паводле формы. Адаменка Бых.

КРУГЛЫ БЕРАГ. Бераг ракі. Названы паводле формы. Ядраная Слабада Кліч.

КРУГЛЫ ВІР. Вірлівая мясціна на рэчцы. Названа паводле формы. Авангард Кругл.

КРУГЛЫ ЕЛЬНІК. Паляна сярод лесу. Названа паводле формы. Загаранкі Кругл.

КРУГЛЫ ЛОГ. Лугавіна сярод балота. Названа паводле формы. Віроўка Касц.; Лог. Названа паводле формы. Бярозаўка Слаўг.

КРУГЛЫ МОХ. Паляна, зарослая мохам. Названа паводле формы. Паўлавічы Клім., Абідавічы Бых.

КРУГЛЕНЬКАЕ БАЛОТЦА. Балота сярод лесу. Названа паводле формы. Чачэвічы Бых., Любонічы Кір.

КРУГЛЯЎКА ж. Поле. Названа паводле формы. Курманава Мсц.

КРУЖАЛА м. Луг. Названы паводле формы. Недзведзь Клім.

КРУЖОК м. Лес. Названы паводле формы. Высокае Шкл., Асавец Маг., Макаранцы Маг.

КРУКАЎСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца каля в. Крукі. Крукі Бял.

КРУКОЎШЧЫНА ж. Поле. Названа паводле формы. Лазіцы Бял.

КРУПАДЗЁРЫ мн. Луг. Раней тут жылі людзі, якія абдзіралі крупы. Вець Бых.

КРУПЕНІН ВІР. Вір. Раней тут жыў дзед Крупеня. Балбечана Гор.

КРУПЕНСКАЯ ДАРОГА. Дарога (да в. Крупня). Сабалёўка Клім.

КРУПЕНСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Крупня). Ведня Клім.

КРУПЕНСКІ САД. Зараслае поле. Раней тут быў сад, які належаў пану Крупенскаму. Аўтухоўка Клім.

КРУПЕНЬСКІ ХУТАР. Хутар (каля р. Крупня). Селішча Клім.

КРУПЕНЬСКІЯ БАЛОТЫ. Балота. Раней тут быў луг, праз які працякала рэчка Крупня. Селішча Клім.

КРУПІЧЫ мн. Вёска. Яе жыхары вырошчвалі шмат зерневых культур. Міхалёва Бабр.

КРУПНЯ ж. Вёска (каля р. Крупянка). Голічы Клім.

КРУПЯНШЧЫНА ж. Лес (ля в. Крупня). Мяжэнін Клім.

КРУТАЯ ГАРА. Поле. Раней тут была гара, з-пад якой біла струменем вада. Перагон Слаўг.; Глыбокая канава з крутымі берагамі. Загараны Кругл.

КРУТЫ ВІР. Вір на рацэ. Названы паводле формы. Туркі Бабр.

КРУТЫ ЛОГ. Лог. Названы паводле формы. Міхейкава Кругл.

КРУТЫ РАВОК. Крыніца. Названа паводле формы. Забялышана Хоц.; Невялікі роў. Названы паводле формы. Балбечана Гор.

КРУТЫ РОЎ. Сасоннік. Ён знаходзіцца на абрыве. Красніца Касц.; Месца на павароце ракі. Ліпаўка Хоц.; Месца ў лесе. Тут знаходзіцца вялізная яма. Лазіцы Шкл.

КРУТЫ ЯР. Роў (каля рэчкі, з крутымі берагамі). Гарадок Шкл.

КРУШЫННІК м. Вуліца ў вёсцы. Некалі тут расло шмат крушыны. Коўбча Кліч., Мокрае Бых.

КРУШНІКІ мн. Вёска. Раней тут расло шмат крушыны. Чорны Бор Бых.; Лес. Тут расце шмат крушыны.

Ядраная Слабада Кліч, Поўстка Глуск.

КРУЦЕЕВА н. Сенакос у лесе. Летам тут "круціць" вецер. Градзянка Асіп.

КРУЦЕНЬ ж. Сцежка ў ляску. Названа паводле формы. Краснаполле Красн.

КРУЦЬКАВА н. Балота. Раней ля яго жылі Круцькі (мянушка). Азарычы Слаўг.

КРУЧ ж. Глыбокае месца на рацэ. Доўгае Кліч.; Узгорак (за вёскай). Маляцічы Крыч.; Мясціна на рэчцы. Тут "закручвае" ваду. Таценка Кліч.; Узвышанасць над возерам. Лапаціна Мсц.

КРУЧА ж. Бярэзнік. Ён расце на высокай гары. Раманавічы Маг., Літоўск Кругл., Ордаць Шкл.; Круты бераг ракі. Чырвоны Бор Бял.; Круты спуск (з гары да рэчкі). Сапронькі Шкл.; Луг. Праз яго цячэ рака з крутымі берагамі. Чырвоны Бор Бял.; Мясціна на рэчцы. Некалі тут утапілася шмат людзей. Клічаў; Рэчка (з крутымі берагамі). Конаўка Чав.

КРУЧКІ мн. Дзялянка ў лесе. Тут пасля высечкі лесу засталіся смалістыя карані (кручкі). Вербеж Чэрык.

КРУЧОК м. Вуліца. Названа паводле формы. Красавічы Клім., Дразды Кругл.; Поле. Раней тут быў хутар з такой назвай. Гавяды Шкл.

КРУЧОНКА ж. Палянка ў лесе. Названа паводле формы. Краснаполле Красн.

КРУЧЫ мн. Купальня (з крутымі берагамі). Лудчыцы Бых.; Лес ля ракі. У ім шмат віроў. Князеўка Маг.

КРЫВАВЫ ЛУГ. Луг. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны немцы расстралялі ваеннапалонных. Аколіца Кліч.

КРЫВАВЫ РОЎ. Роў. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны былі спалены людзі. Касмынічы Мсц.

КРЫВАВЫ РУЧАЙ. Ручай (на гліністым месцы). Вада тут нібыта чырвоная. Карма Асіп.

КРЫВАЛЕССЕ н. Кустоўе (каля лесу). Туркі Бабр.; Лясок (з маленькімі крывымі дрэўцамі). Стайкі Красн., Леніна Касц.

КРЫВАЛЬ м. Вуліца ў вёсцы. Названа паводле формы. Дружба Бых.

КРЫВАРОЖЖА н. Поле. Яно мае форму крывога рога. Сіпайлы Бял.

КРЫВАЯ ж. Вуліца. Названа паводле формы. Даўгавічы Мсц.; Луг. Названы паводле формы. Лютня Мсц.

КРЫВАЯ БЯРОЗА. Частка дарогі. Ля яе расце крывая бяроза. Стайкі Клім.; Мясціна (скрыжаванне дарог). Паблізу яе расце крывая бяроза. Чачэвічы Бых.; Вуліца ў вёсцы. Тут растуць крывыя бярозы. Іскань Бых.

КРЫВАЯ ДАРОГА. Дарога. Названа паводле формы. Алешкавічы Бял.

КРЫВАЯ КЛАДКА. Кладка. Некалі тут яе паклаў дзед Крывы (мянушка). Зарэчча Чав.

КРЫВАЯ ЛУЖА. Невялікае возера. Названа паводле формы. Дружба, Вець Бых.

КРЫВАЯ НІВА. Поле. Названа паводле формы. Маляцічы Крыч., Луты Крыч;

КРЫВАЯ САСНА. Месца ля дарогі. Тут стаіць крывая сасна. Александраўка Слаўг.

КРЫВАЯ СЛАБАДА. Вуліца ў вёсцы. Яна мае форму дугі. Язёры Чэрык.

КРЫВАЯ СЦЕЖКА. Сцежка праз лес. Названа паводле формы. Рожава Мсц.

КРЫВАЯ ПОЖНЯ. Сенажаць (ля ракі). Галічы Клім.

КРЫВЕЛЬ м. Поле. Раней тут было крывое балота. Капані Чав.;

Дарога праз лес. Названа паводле формы. Антонаўка Чав., Дабужа Быx.

КРЫВЕЛЬСКАЕ ПОЛЕ. Поле (каля в. Крывель). Наваселле Шкл.

КРЫВОЕ н. Возера. Названа паводле формы. Сухары Маг., Новы Быхаў Быx.

КРЫВОЕ ДРЭВА. Урочышча. Тут стаіць адзінокае, скрыўленае дрэва. Кострычы Кір.

КРЫВУЛІНСКІ КАСЬКОЎ. Луг (каля в. Каськоў). Іскра Бял.

КРЫВУЛЬКА ж. Вуліца. Названа паводле формы. Паўлавічы Клім.

КРЫВУЛЬКІН МОСТ. Мост. Яго майстраваў селянін Крывулька (мянушка). Новая Лешча Шкл.

КРЫВУЛЯ ж. Дарога ў лесе. Названа паводле формы. Градзянка Асіп.

КРЫВЫ м. Лес. Ён мае форму дугі. Ельня Хоц.

КРЫВЫ ДУБ. Паляна. Раней тут рос крывы дуб. Юраўка Шкл.

КРЫВЫ ЛЕС . Месца ў лесе. Тут шмат крывых, абламаных дрэў. Цяхцін Бял.

КРЫВЫ ЛОГ м. Поле. Раней тут быў паўкруглы лес. Курманава Мсц., Бель Мсц.

КРЫВЫ ПАСЁЛАК. Вуліца ў вёсцы. Названа паводле формы. Башкіраўка Шкл., Лазіцы Шкл., Вільчыцы Маг.

КРЫВЫ РОГ. Лес (названы так паводле формы). Буглай Красн., Градзянка Асіп., Літоўск Кругл., Вялікія Лазіцы Шкл.; Мясціна на рэчцы. Названа паводле формы. Бярозаўка Слаўг., Стайкі Шкл.; Дарога (вакол возера). Ордаць Шкл.; Мясціна на Дняпры. Тут ідзе паварот ракі. Лазавічы Быx.; Частка вёскі. Названа паводле формы. Княжыцы Шкл.; Дарога ў выглядзе крывога рога. Сухары Маг.

КРЫВЫ ШЛЯХ. Луг. Раней тут праходзіла няроўная і гразкая дарога. Юраўка Шкл.

КРЫВЫЯ мн. Звілістыя дарогі (каля лесу). Паўлавічы Клім.

КРЫВЫЯ ДУБЫ. Поле. Раней тут расло шмат крывых дубоў. Дзернавая Красн.

КРЫГІ мн. Месца ля рэчкі. Тут ляжаць вялікія плоскія камяні. Рудкаўшчына Гор.

КРЫЖ м. Скрыжаванне дарог (сярод поля). Ржавец Чэрык.

КРЫЖАВА ГАРА. Узгорак. На ім скрыжоўваюцца дарогі. Абідавічы Быx.

КРЫЖАВОЕ н. Узвышша. На ім перасякаюцца дарогі. Бярозаўка Слаўг.

КРЫЖАНКОВА ГРЫЎКА. Астравок сярод рэчкі. Некалі тут касілі сена Крыжанковы. Вець Быx.

КРЫЖОЎКА ж. Скрыжаванне дарог. Следзюкі Быx.

КРЫЖОЎНІКІ мн. Урочышча. Яно знаходзіцца на скрыжаванні дарог. Лабковічы Крыч.

КРЫКСУНОЎ САД. Поле (з невялікім садам). Раней тут жыла сям'я Крыксуновых. Кульшычы Слаўг.

КРЫМЯНІЦЫН ЛУГ. Поле. Раней тут была в. Крымяніца. Хацкавічы Чав.

КРЫНЕЦ м. Урочышча (каля р. Пціч). Раней тут была крыніца. Дрычын Асіп.

КРЫНІЦА ж. Лес (ля крыніцы). Палыкавічы Маг.; Мясціна ля лесу. Тут б'е крыніца. Мокрае Быx.; Ручай. У ім крыштальная вада. Гарадзішча Шкл. Недзведзь Клім.; Поле (ля крыніцы). Стайкі Клім.; Калодзеж (з блакітнай чыстай вадой). Тур'е Чэрык.

КРЫНІЦЫ мн. Рачулка (з чыстай студзёнай вадой). Сталка Чав.; Луг (ля крыніцы). Цяхцін Бял.; Урочышча. Тут бярэ пачатак невялікая рэчка.

Бахані Бял.; Лес. Раней тут білі крыніцы. Дубраўка Касц.; Ручай (ля крыніцы). Майск Бял.

КРЫНІЧКА ж. Канава ў лесе (з крынічнай вадой). Праточнае Бых.; Выток р. Крупня. Фёдараўка Касц.

КРЫНІЧКІ мн. Бераг ракі. На ім шмат крынічак. Карасі Шкл.; Урочышча. Раней тут было шмат крыніц. Ліпень Асіп.; Урочышча. Тут з-пад зямлі б'юць крыніцы. Ржаўка Слаўг.; Пасёлак. Раней тут было шмат крынічак. Галькоўна Бых.

КРЫНІЧНАЕ н. Поле (ля в. Беразетня). На ім ёсць крыніца. Беразетня Мсц.

КРЫНІЧНАЕ БАЛОТА. Поле. Раней тут было шмат крынічак. Кухенка Бабр., Стайкі Красн.

КРЫНІЧНАЯ ж. Лес (ля крыніцы). Рагі Слаўг.

КРЫНКА ж. Крынічка на лузе. Следзюкі Бых.; Вёска (ля крыніцы). Крынка Асіп.

КРЫСІКАЎ ВІР. Вір. Некалі тут жыў дзед Крысік (мянушка). Карасі Шкл.

КРЫСІНЫ ВІР. Месца на рэчцы. Тут водзяцца вадзяныя крысы. Палашкава Клім.

КРЫЎЛЯНСКІ ЛЕС. Лес (за крывой вуліцай вёскі). Паўлавічы Клім.

КРЫЎЦОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Крывец. Зарубец Крыч.

КРЫЧАЎ м. Месца ля ракі. Калісьці тут, паводле падання, ішоў бой з татара-манголамі. Паляніна-вічы Бых.

КРЫЧАЎСКІ ШЛЯХ. Дарога (каля Крычава). Крычаў.

КРЫШЫЯНАВА н. Урочышча. Раней тут жыла сям'я Крышыянавых. Боркі Кір.

КРЭМЯНЧУТНАЕ н. Луг. Тут заўсёды летам косяць траву. Кароўчына Бых.

КРЭСАВА н. Урочышча. Тут знаходзіцца скрыжаванне трох дарог. Заполле Глуск.

КРЭСЦІК м. Урочышча. Тут стаіць крыж. Макавічы Глуск.

КРЭЎЧЫКАВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі яно належала Крэўчыку. Свіслач Асіп.

КРЭЧАНКА ж. Урочышча. Калісьці тут хаваліся паўстанцы на чале з братамі Крэчкамі (мянушка) у час бунту ў в. Любонічы Кір.

КСЁНЗАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў ксёндз. Наваселле Маг., Мокрае Бых.

КСЯНДЗОВА н. Поле і сенажаць. Некалі яно належала ксяндзу. Заціішша Касц.

КСЯНДЗОВА ГАРА. Узгорак. Калісьці тут стаяла хата ксяндза. Лудчыцы Бых.

КСЯНЗОЎСКІ ЛЯСОК. Лясок (ля в. Ксянзоўшчына). Капачы Мсц.

КСЯНДЗОЎШЧЫНА ж. Поле. Раней яно належала ксяндзу. Ліпніца Кліч, Гаршкова Шкл.

КУЗЬМОВА ЛЯДА. Невялікая травяністая мясціна ў лесе. Раней тут касіў сена селянін Кузьма. Навая Брашчына Шкл.

КУБРАКОВІЧАЎ ДВОР. Сядзіба. Раней тут жыў Кубрак (мянушка). Краснаполле Красн.

КУБЦОЎШЧЫНА ж. Луг. Раней тут жыла сям'я Кубцовых. Коўбча Кліч.

КУВЕЦКАЯ КРЫНІЦА. Урочышча. Раней тут быў хутар Кувецкага, на якім была крыніца. Валканосава Кругл.

КУДЗІНАВА ЗАТОКА. Затока на рацэ. Некалі тут лавілі рыбу Кудзіны. Коўбча Кліч.

КУДЗІНАЎКА ж. Возера. Калісьці тут жыла жанчына Кудзіна. Сідаравічы Маг.

КУДРАВІЧЫ мн. Поле. Раней тут жыў пан Кудравец. Літоўск Кругл.

КУДРАЎКА ж. Луг ля рэчкі. Тут расце добрая трава. Ордаць Шкл.

КУДРАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут быў хутар Кудраўца. Коўбча Кліч., Мокрае Бых.

КУДРОЎКА ж. Лес. Раней ён быў густы і разгалісты. Скоклева Чав.

КУДРОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Раней тут быў хутар Кудраўца. Коўбча Кліч.

КУДЫКІНА ГАРА. Узгорак. Раней тут была кузніца Кудыкі. Лазовіца Клім.

КУЗІМАЎКА ж. Возера. Некалі тут жыў ляснік Кузьма. Міхеевічы Крыч.

КУЗІН ВУГАЛ. Поле. Раней тут жыў Кузьма. Бель Мсц.

КУЗІН РОЎ. Роў. Яго выкапаў Кузьма. Валаськоўня Касц.

КУЗНЕЦКАЕ ПОЛЕ. Поле. Некалі тут была кузня. Дубна Слаўг.

КУЗНЕЧНЯ ж. Урочышча. Раней тут стаяла кузня. Кустоўка Гор.

КУЗНЕЧЫКАЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў чалавек Кузнечык (мянушка). Бортнікі Бабр.

КУЗНІЎКА ж. Урочышча. Некалі тут стаяла кузня. Бель Мсц.

КУЗНЯ ж. Урочышча. Раней тут стаяла кузня. Халмы Чав., Алешкавічы Бял., Ржавец Чэрык., Ціманава, Галічы, Пісняціна Клім.

КУЗНЯЦОВА н. Урочышча. Раней тут быў хутар Кузняцова. Курманава Мсц.

КУЗНЯЦОВА СЛАБАДА. Поле. Раней там жыў каваль Кузняцоў. Кісялёва Буда Клім.

КУЗНЯЦОЎ ЛЕС. Лес. Раней тут знаходзілася кузня. Занькаўшчына Мсц.

КУЗНЯЦОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут стаяла кузня. Боркі Чав.; Хутар. Раней тут жыў каваль. Кустоўка Гор.

КУЗНЯЦОЎКА ж. Поле. Раней тут стаяла кузніца. Казакоўка Слаўг.; Лес. Раней тут была кузня. Навапруддзе Кругл.

КУЗНЯЧЫХІН ЛЕС. Лес. Калісьці ён належаў пані Кузнячысе (мянушка). Чарнаўцы Чав.

КУЗУЎЛЯНСКІЯ мн. Поле. Раней тут быў сенакос сялян з в. Кузавіна. Балбечана Гор.

КУЗЬКАЎ ГАЁК. Поле. Калісьці тут быў хутар, дзе жыў дзядзька Кузька (мянушка). Грыбы Красн.

КУЗЬМІНКА ж. Вёска. Першым жыхаром яе быў Кузьма. Бароньki Касц.

КУЗЬМІЧОВА ПОЛЕ. Поле. Яго распрацаваў Кузьма. Дзмітраўка II Кліч.

КУЗЬМІЧОЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў Кузьма. Пудзелішчы Касц.

КУЗЬМОВА ГАРА. Узгорак. Некалі тут бацька забіў сваю непаслухмяную дачку. Карзеева Дрыб.

КУЗЬМОВА ДАРОГА. Сцяжынка ў лесе. Раней тут хадзіў ляснік Кузьма. Следзюкі Бых.

КУЗЬМОВА ЗАГАРАДА. Паляна сярод лесу. Некалі тут быў сенакос лесніка. Машчаніца Бял.

КУЗЬМОВА ЛЯДА. Паляна ў лесе. Раней тут касіў сена селянін Кузьма. Новая Брашчына Шкл.

КУЗЬМОВА РЭЧКА. Заліўная сенажаць. Раней яна належала Кузьму. Шчацінка Шкл.

КУЗЬМОЎ БЕРАГ. Бераг ракі. Некалі тут пасвіў коней Кузьма. Нежкаў Бял.

КУЗЬМОЎ ВІР. Вір. Раней тут жыў Кузьма. Балбечана Гор.

КУЗЬМОЎ ДУБ. Дуб. Яго пасадзіў Кузьма. Шалаеўка Кір.

КУЗЬМОЎ САСОННІК. Невялікі сасновы лясок. Яго пасадзіў калісьці Кузьма. Шалаеўка Кір.

КУЗЬМЯНКОВА БАЛОТА. Узлесак. Раней тут жыў Кузьмянкоў. Горкі Чэрык.

КУЙБЫШАЎСКІ ШЛЯХ. Дарога (у калгас "Куйбышаўскі шлях"). Падлешчанка Кір.

КУКАВАНКА ж. Узлесак. Тут заўсёды кукуе зязюля. Арцёхаў Красн., Орсічы Бабр., Гаваракі Шкл.

КУКАРЭКАЎКА ж. Вёска. Раней тут былі самыя галасістыя пеўні. Стайкі Маг., Чарнагразь Бых.

КУКАРЭКАЎСКІ ШЛЯХ. Дарога (на хутар Кукарэкаўка). Стайкі Маг.

КУКАРЭЧЫНА н. Луг. Некалі тут пан прымусіў, паводле жыхароў, свайго правінніка "кукарэкаць усю ноч". Балбечана Гор.

КУКАЎКА ж. Вёска (ля лесу). Тут шмат зязюль. Паводле падання, вёска належала сляпому лютаму пану, які любіў паляваць. Ён загадваў жанчынам лезці на дрэва і кукаваць, а сам страляў на слых. Навасёлкі Маг., Палянікавічы Бых., Кукаўка Клім.; Лес. Раней тут было шмат зязюль. Хоцімск.

КУКІНА ж. Дзялянка ў лесе. Раней тут касіў траву дзед Кукін (мянушка). Трасціно Хоц.

КУКІШАНКІ мн. Поле. Яно знаходзіцца далёка ад в. Прудок Слаўг.

КУКУРУЗНІК м. Поле. Раней тут расла кукуруза. Туалін Бял., Галачоўка Чав.

КУКУШКІН ЛЕС. Лес. Тут вадзілася шмат зязюль. Шупені Кругл.

КУКУШКІНА МЕСЦА. Узлесак. Тут заўсёды можна пачуць кукаванне зязюлі. Бель Маг.

КУЛАКОВА БАЛОТА. Поле. Калісьці тут у час раскулачвання хаваўся кулак. Углы Шкл.

КУЛАКОВА ГОРКА. Узгорак (сярод поля). Раней тут стаяла хата кулака. Малінаўка Чэрык.

КУЛАКОЎКА ж. Урочышча. Раней тут жыў кулак. Свенск Слаўг., Сялец Бых., Узведзічы Клім., Калінаўка Шкл., Шупені Кругл.

КУЛАКОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў кулак. Стайкі Клім.; Лес. Раней ён належаў кулаку. Сабалёўка Клім.

КУЛЁВА ПОЖЫНКА. Канал. Раней тут было поле, якое належала Кулёву. Вербеж Чэрык.

КУЛІКАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут вадзілася шмат кулікоў. Кіраўск.

КУЛІКАВА ПАШНЯ. Поле. Раней тут быў хутар Куліка (мянушка). Сухары Маг., Заеліца Глуск.

КУЛІКАВА ПЕТРЫ. Поле. Раней тут быў хутар Кулікава Петры. Загаранкі Кругл.

КУЛІКІ мн. Поле. Калісьці яно належала пану Куліку. Адамаўка Гор.

КУЛІКОВА н. Урочышча. Некалі тут жыў пан Кулікоў. Валоўнікі Мсц.

КУЛІКОЎКА ж. Узлесак. Раней тут было балота, дзе вадзіліся кулікі. Вепрын Чэрык.

КУЛІКАЎСКІ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Кулікоўскаму. Жданавічы Шкл.

КУЛІКОЎШЧЫНА ж. Лес. Раней тут жыў пан Кулікоў. Зуі Крыч.; Поле. Раней тут жылі браты Куліковы. Загаранкі Кругл.

КУЛІНАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў пан Кулінаў. Градзянка Асіп.

КУЛІНІН БЯРЭЗНІК. Лес. Калісьці тут жыла Куліна. Слаўня Слаўг.

КУЛІНІН МОСТ. Мост. Некалі тут жыла Куліна. Ціманава Клім.

КУЛІНІН РАВОК. Роў. Ён знаходзіцца за агародам удавы Куліны. Балбечана Гор.

КУЛІНІНА ДАРОГА. Дарога. Некалі па ёй бегала Куліна. Александрыя Шкл.

КУЛІНКІНА БАЛОТА. Балота. Раней яно належала пані Куліне. Хонькавічы Чав.

КУЛІКОЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле (ля в. Кулікоўка). Бахань Слаўг.

КУЛЬКІ мн. Алешнік. Раней тут вадзілася шмат кулікоў. Нараж Бых.

КУЛЬТУРА ж. Лес. Ён быў пасаджаны ўручную. Вяленік Кліч., Новая Брашчына Шкл.; Лес. Раней тут быў пасёлак. Шчацінка Шкл.; Парк. Ён быў пасаджаны ўручную. Рэкта Гор.; Частка вёскі. Некалі тут жылі адукаваныя людзі. Дубраўка Красн.

КУЛЬТУРКА ж. Лес. Ён быў пасаджаны ўручную. Вець Бых.

КУЛЬГАВЫ ПАСЁЛАК. Пасёлак. Раней тут жыў кульгавы чалавек. Іванаўка Крыч.

КУЛЯШОВА ВОЗЕРА. Сенажаць. Некалі тут была сажалка, якую выкапалі Куляшовы. Смолка Чав.

КУЛЯШОЎ ЛОГ. Поле. Яно належыць дзеду Куляшу (мянушка). Забалоцце Бял.

КУЛЯШОЎ МОСТ. Мост на рэчцы (ля хаты Куляшова). Саматэвічы Касц.

КУЛЯШОВА РОШЧА . Гай. Раней тут жыў Куляшоў. Курманава Мсц.

КУМАЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыло кумаўё. Забавы Бял.

КУМАЧКІН ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў Кумачка (мянушка). Доўгавічы Мсц.

КУНДЫКІНА ГАРА. Узгорак. Раней тут быў зямельны надзел Кундыкіна. Вепрын Чэрык.

КУНІЦКАЕ ПОЛЕ. Поле (ля дома дзеда Куніцкага). Шупені Кругл.

КУПАЛІШЧА н. Месца на рацэ. Тут купаюцца людзі. Камяніца Бял.

КУПАЛЛЕ н. Луг. Раней тут моладзь сустракала свята Купалле. Лебядзёўка Слаўг.; Месца на беразе ракі. Тут святкуюць Купалле. Малы Асавец Маг.

КУПАЛЬНЯ ж. Сажалка. Тут купаюцца дзеці. Жаролы Слаўг.; Месца на рацэ. Тут купаюцца вяскоўцы. Зарэчча Кругл., Зуі Крыч.

КУПАЛЬСКАЯ ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Калісьці тут на свята Івана Купалы збіралася моладзь. Аколіца Кліч.

КУПАЛЬСКІ ЛУГ. Луг. Раней тут была сажалка, у якой купаўся пан. Авангард Кругл.

КУПАНЁЎСКАЯ ГАЦЬ. Гаць (ля в. Купанёўка). Каменка Чав.

КУПЕЛА ж. Балота. На ім шмат купін. Праточнае Бых.

КУПЕЛАВА БАЛОТА. Балота. На ім багата купін. Мокрае Бых.

КУПЕЛІНА ж. Лужына. У ёй не высыхае вада. Праточнае Бых.

КУПЕЛІШЧА н. Месца на рацэ. Тут купаюцца вяскоўцы. Пячкоўка Мсц.

КУПЕЛЛЕ н. Куп'істае поле. Раней тут было балота. Глуская Сяліба Бых.

КУПЕЛЦЫ мн. Месца на рацэ. Раней тут купаліся паны. Баханы Хоц.

КУПЕЛЫ мн. Поле. На ім шмат купін. Альхоўка Чав.

КУПЕЛЬСКАЕ н. Поле. Раней тут было балота. Старая Буда Красн.

КУПЕЦКІ ХУТАР. Хутар. Раней тут жылі купцы. Гавяды Шкл.

КУП'Ё н. Луг. На ім шмат купін з высокай травой. Масцішча Бял.

КУПІНЫ мн. Куп'істы луг. Раней тут было балота. Чэрыкаў.

КУПІШКІ мн. Луг. Раней тут было балота. Сухары Маг.

КУПЛЁНКА ж. Вуліца ў вёсцы. Калісьці тут быў базар. Курманава Мсц.

КУПЛЯ ж. Лес. Раней тут была панская зямля, якую выкупілі сяляне. Сапяжынка Бых., Праточнае Бых., Коўбча Кліч., Сабалёўка Клім.

КУПНІК м. Балота. На ім шмат купін. Бацвінаўка Крыч., Гута Клім., Прылессе Чав.

КУПНІКІ мн. Сенажаць. На ёй шмат купін. Лебедзева Гор., Стайкі Клім.; Вёска. Яна будавалася на купленай у пана зямлі. Навaселле Шкл.

КУПНІСТАЕ н. Балота. На ім шмат купін. Вялікія Лазіцы Шкл.

КУПРЫЯНАВА ДЗЯЛЯНКА. Дзялянка. Раней тут жыў дзед Купрыян. Малая Дубраўка Маг.

КУПРЫЯНАЎ ЛЕС. Лес. Некалі яго даглядаў ляснік Купрыян. Семукачы Маг.

КУПРЫЯНАЎКА ж. Частка вёскі. Калісьці тут жыў Купрыян. Мерч Шкл.

КУПРЭЙКАВА БАЛОТА. Балота. Раней тут жыў дзед Купрыян. Гарбавічы Маг.

КУПРЭЙЧЫН ХУТАР. Урочышча. Раней тут стаяла хата Купрэя. Гавяды Шкл.

КУПЦОЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў купец. Лудчыцы Бых.

КУПЦОЎШЧЫНА ж. Луг. Калісьці ён належаў купцам. Ладагава, Сапяжынка Быx., Крапіўня Касц., Коўбча Кліч.

КУПЧА ж. Частка лесу. Яна часта перакуплялася. Бракава Маг.; Узгорак. На ім праходзіць дарога. Сетнае Крыч.

КУПЧАНІК м. Куп'істы бераг ракі. Тут здабываюць торф. Сетнае Крыч.

КУПЧАЯ ж. Поле. Яно было куплена ў пана сялянамі. Віроўка Касц., Ігнатаўка Хоц.; Частка лесу. Яна шмат разоў перакуплялася панамі. Ніканавічы Быx.

КУПЧЫКАВА ДВОРЫШЧА. Лес. Раней там жыў Купчык (мянушка). Сялецкае Касц.

КУПЧЫЯ мн. Поле. Раней тут жылі купцы. Вепрын Чэрык.

КУПЯВІЦА ж. Куп'істае балота. Сапронькі Шкл.

КУРАКАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў пан Курака (мянушка). Краснаполле.

КУРАНІ мн. Вёска. Раней яе жыхары жылі ў куранках. Сухары Маг., Рабяткі Крыч., Палянінавічы Быx.; Урочышча. Некалі тут знаходзіўся калгасны куратнік. Скляпава Кругл.

КУРАПАТЧЫН ЛЕС. Лес. У ім водзіцца шмат курапатак. Катка Глуск.

КУРАТНІК м. Лес. Ён знаходзіцца на месцы былой птушкафермы. Уздзеевічы Клім.

КУРБЭТАВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі тут жыў Курбэт (мянушка). Холстава Быx.

КУРГАН м. Возера. Раней тут быў курган. Язёры Чэрык.; Лес. Раней тут быў узгорак. Петухоўка Чав., Сісенева Шкл., Дубраўка Маг.; Луг. Раней тут быў курган. Вайнілы Маг., Самулкі Чав., Вець Быx., Капані Чав., Бярозаўка Слаўг., Смолка Чав., Катка Глуск.; Урочышча. Раней тут была вёска, якая стаяла на ўзвышшы. Навасёлкі, Рэпішча Маг.; Урочышча. Тут знаходзіцца брацкая магіла. Малыя Аўчыненкі, Таранава Маг., Славені Шкл.; Узвышша на полі. Яно нагадвае курган. Лямніца Бял.; Лес (на ўзгорку). Халмы Чав.

КУРГАНАЎКА ж. Вёска. Раней тут былі курганы. Слаўгарад.

КУРГАНАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Яно непадалёк ад в Курганаўка). Слаўг.

КУРГАНІШЧА н. Маліннік. Ён расце на кургане. Глінь Чэрык.; Частка лесу. Тут у час Вялікай Айчыннай вайны ішлі баі. Асман-Касаева Бял.

КУРГАНКА ж. Паляна ў лесе. На ёй ёсць курган. Дуброва Кругл.

КУРГАНКІ мн. Сенажаць. На ёй многа курганкоў. Чачэвічы Быx.

КУРГАННЕ н. Вёска. Яна знаходзіцца на ўзгорку. Раней тут быў курган. Заеліца Глуск.; Лес. Ён знаходзіцца на ўзвышшы. Высокае Шкл.; Лес. Ён расце на курганах. Савелінкі Шкл., Ядраная Слабада, Нясята Кліч., Вільчыцы Маг., Лудчыцы Быx., Прылессе Чав.; Урочышча. Раней тут была в. Курганок. Коўбча Кліч.; Урочышча. Тут шмат курганоў, у якіх пахаваныя загінуўшыя воіны. Зарэсце Маг., Мхінічы Красн., Іванаўка Крыч., Троіца Шкл., Раздзел Мсц.; Поле. На ім шмат купін. Вець Быx., Буглаі, Леніна Красн., Навая Брашчына Шкл., Прылессе Чав., Язёры Кругл.; Поле. Раней на гэтым месцы быў курган. Коўбча Кліч., Лагалава Быx., Перагон Слаўг., Кухенка Бабр.; Сад. Раней тут былі курганы. Сялецкае

Касц.; Узвышша. На ім знаходзіцца турбаза "Вясёлка". Чачэвічы Быx.; Узвышша над Дняпром. Стайкі Маг.; Частка лесу. Тут шмат курганоў, дзе былі пахаваны ў часы вайны шведы. Ржавец, Вепрын Чэрык., Чорны Бор Быx.

КУРГАННЫ ЛЕС. Лес. У ім шмат курганоў. Трасціно Хоц.

КУРГАНОК м. Поле. Раней тут была вёска, якая стаяла на ўзвышшы. Ліпніца Кліч.; Палоска лесу (на ўзвышшы). Бярозаўка Слаўг.; Участак поля. Ён знаходзіцца на ўзвышаным месцы поля. Трылесіна Гор.

КУРГАНЫ мн. Поле. На ім шмат курганоў. Гіжэнка Слаўг., Гарадок Шкл., Капачы Мсц., Слаўкавічы, Зорка Глуск., Прысна I Маг.; Могільнік. Тут былі пахаваны загінуўшыя шведы. Слаўкавічы Глуск., Горкі Чэрык.; Вёска. Некалі на месцы яе былі курганы. Курганы Кір.; Куп'істае балота з лесам. Краснае Глуск.; Узвышанасць. Раней тут праходзілі баі. Добрае Мсц.; Узвышша ў лесе. Там растуць маліны. Забавы, Вішова Бял.

КУРГУЗІШЧА н. Балота (ля в. Сахараўка). Раней тут быў хутар пана Кургузіка (мянушка). Балбечана Гор.

КУРКАВА СЦЕНКА. Поле. Тут раней жыў пан Курак (мянушка). Курманава Мсц.

КУРМАНАЎСКАЯ ЛІНІЯ. Прамая дарога. Яна злучае в. Курманава з в. Цёмны Лес. Цёмны Лес Мсц.

КУРМАНАЎШЧЫНА ж. Лес. Ён знаходзіцца ля в. Курманава. Курманава Мсц.

КУРНЕВІЦКАЕ БАЛОТА. Балота (ля в. Курневічы). Бялынкавічы Касц.

КУРУПАЦІНА ГАРА. Вясковы сметнік. Ён знаходзіцца за хатай Курупаціна (мянушка). Свяцілавічы Бял.

КУКУШКАВА ЗАГАРАДА. Невялікі лес. Некалі яго адгарадзіў сабе дзед Кукушка (мянушка). Запруддзе Маг.

КУРЦІШКА ж. Кар'ер. Раней тут працякала рэчка Курцішка. Машчаніца Бял.

КУРЫЛАЎ РАСЦЯРОБ. Лес. Некалі ён належаў пану Курылу. Буглаі Красн.

КУРЫЛЁНКАЎ БЯРЭЗНІК. Бярозавы лес. Раней тут жыла сям'я Курылёнкавых. Слаўня Слаўг.

КУРЫЛІХА ж. Поле. Калісьці тут жыла Курыліха. Вільчыцы Маг.

КУРЫЛІХІНА ГОРКА. Узгорак (ля хаты Курыліхі). Вільчыцы Маг.

КУРЫНЫ ПЕРАХОД. Неглыбокае месца (ў рацэ Бесядзь). Хоцімск.

КУСТОЎЕ н. Участак лесу. Раней тут было шмат кустоў. Мерч Шкл.; Бераг Дняпра. Тут расце шмат кустоў. Новы Быхаў Быx.

КУСТЫ мн. Мясціна ля рэчкі, забалочаная і зарослая кустоўем. Хацілавічы Крыч.

КУСЦЁНКІ мн. Вузкая палоска дрэў (сярод поля). Алешкавічы Бял.

КУСЦІКІ мн. Купальня (на р. Бесядзь). Непадалёк ад яе расце лазняк. Баханы Хоц.; Рэдкі кустарнік на полі. Глінь Чэрык.

КУСЬКІ мн. Вёска. Раней тут жылі незычлівыя людзі. Падзамша Глуск.

КУТ м. Лес. Раней тут былі невялікія хутаркі. Нікіцічы Маг.; Поле. Яно акружана з трох бакоў лесам. Загаранкі Кругл.

КУТАІХА ж. Поле. Раней тут жыла Кутаіха (мянушка). Вязаўка, Барчыцы Кір.

КУТНЯ ж. Сенажаць (у куце ля лесу). Нараж Быx.

КУТОК м. Луг (паміж Дняпром і лесам). Стайкі Маг.; Астравок (сярод балота). Чорны Бор Быx.; Ускраек лесу. За ім пачынаецца вёска. Брылі Маг.

КУТПОЛЕ н. Поле. Яно акружана лесам. Стайкі Клім.

КУТУЗАЎ ЛОГ. Лог. Раней тут пасвіў скаціну Кутуза (мянушка). Гавяды Шкл.

КУТУРЫ мн. Лес. Раней ён належаў Кутурову. Вепрын Чэрык.

КУТЫ мн. Участак ракі. Тут яна робіць крутыя павароты. Майск Бял.; Вёска. Яна знаходзіцца каля лесу. Міхалёва Бабр.; Урочышча. Раней тут была в. Куты. Прыбор Бял.

КУТЫРАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў пан Кутыраў. Градзянка Асіп.

КУХАРАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў хутаранец Кухараў. Балбечана Гор.

КУХЕНСКІЯ ТАРФЯНІКІ. Поле. Раней тут было балота, дзе здабывалі торф. Кухенка Бабр.

КУЎШЫНАЕ н. Возера. На ім растуць жоўтыя гарлачыкі. Лудчыцы Бых.

КУЦІКАВА БАЛОТА. Балота. Раней тут быў хутар Куцікава. Авангард Кругл.

КУЦЯНСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Куты). Мядзвёдаўка Чав.

КУЧАШЧА н. Поле. Раней тут жыў памешчык Кушча. Бароньki Касц.

КУЧУКОВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут жыў пан Кучук. Клін Мсц.

КУЧАНСКІ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца ля в. Кучын. Кучын Маг.

КУШНЕРАВА ХАТА. Лес і палянка сярод лесу. Раней тут быў хутар дзеда Кушнера. Краснае Глуск.

КУШЫНІХІН ДВОР. Сад. Раней тут жыла бабка Кушыніха. Троіца Шкл.

КЫЗІНА ж. Урочышча. Некалі тут пасвілі коз. Каменка Гор.

КЫЗЛЯТНІК м. Балотца сярод поля. Тут расце многа казлоў (грыбоў). Балбечана Гор.

КЫМАСОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут стаяў хутар Кымасова. Балбечана Гор.

# Л

ЛАБАВІНА ж. Вялікі пагорак. Ігліца Бял.

ЛАБАНАЎШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут жыў ляснік Лабанаў. Прудок, Свенск Слаўг.; Лес (на ўзвышаным месцы). Лебядзёўка Слаўг.; Луг. Раней тут жыў пан Лабанаў. Свенск Слаўг.

ЛАБКІ мн. Поле. Раней тут быў курган. Благавічы Чав.

ЛАБКОВІЦКАЯ ДАРОГА. Дарога. Некалі тут хадзілі людзі з в. Лабковічы. Лабковічы Крыч.

ЛАБУШАВА УСАДЗЬБА. Урочышча. Раней тут жыў ляснік Лабуш. Пацкава Мсц.

ЛАБЧАНКА ж. Рака. Яна пачынаецца ў в. Лобча. Язёры Чэрык.

ЛАБЯК м. Пагорак (у полі). Стараселле Бял.

ЛАВАЧКА БЕСПРАЦОЎНЫХ. Месца ў вёсцы. Тут заўсёды збіраецца шмат людзей. Крычаў.

ЛАВАЧКІ мн. Месца ў лесе. Раней тут была старожка і стаялі лавачкі. Вепрын Чэр.

ЛАВАЧНІКАВА ДВОРЫШЧА. Поле. Раней тут жыў лавачнік. Азарычы Слаўг.

ЛАВІЗА ж. Месца ў лесе. Раней тут стаяла хата Лавізы. Кузькавічы Бых.

ЛАВОК м. Нізіна (на ўскрайку вёскі). Маляцічы Крыч.

ЛАВЫ мн. Балота. Некалі тут здабывалі торф. Бутрамееўка Бых.;

Урочышча. Тут цячэ рэчка. Асман-Касаева Бял., Алікавічы, Дубраўка Слаўг.; Поле. Раней тут была вёска. Благавічы Чав.

ЛАГАДАВА н. Вёска. Некалі тут вельмі лагодна (дружна) жылі людзі. Лагадава Бых.

ЛАГЕР м. Месца на ўскрайку лесу. Раней тут быў піянерскі лагер. Нікіцінічы Маг.

ЛАГЕРЫ мн. Урочышча. Калісьці тут размяшчаліся ваенныя лагеры. Вішоў Бял.; Месца ў лесе. У час Вялікай Айчыннай вайны тут жылі людзі. Шалаёўка Кір.; Урочышча. Летам тут знаходзяцца загоны для свіней. Жадунька Клім.

ЛАГІ мн. Поле. Раней тут былі сялянскія надзелы. Халмы Чав.; Месца ля рэчкі. Эсьмоны, Дзівошына, Вушлава Бял.

ЛАГЧЫНА ж. Нізкае месца сярод узгоркаў. Александрыя Шкл., Піragова Мсц.; Лес. Ён расце ў нізіне. Чырвоны бор Бял.

ЛАДА ж. Поле. Некалі тут быў лес, у якім было шмат карчоў. Літоўск Кругл.

ЛАДАСЫ мн. Поле. Некалі тут збіраліся вернікі. Градзянка Асіп.

ЛАДЫГА ж. Затока. У ёй б'юць халодныя крыніцы. Баеўка Крыч.

ЛАДЗІКАВА ГАРА. Узвышанае месца. Раней тут стаяла хата дзеда Ладзіка (мянушка). Віляхаўка Бых.

ЛАДЗЮКОЎ ВІР. Вір. Некалі тут жыў Ладзюк (мянушка). Карасі Шкл.

ЛАДЗЮКОЎШЧЫНА ж. Месца сярод поля. Раней тут жыў дзед Ладзюк (мянушка). Камінтэрн Шкл.

ЛАТОК м. Луг (за вёскай). Запруддзе Маг.; Поле і сенажаць. Клічаў.

ЛАЗА ж. Балота. На ім расце шмат лазы. Рагозна Шкл.; Лес. У ім расло шмат лазы. Пагост Глуск., Прылессе Чав., Эсьмоны Бял., Аляксандраўка Слаўг.; Забалочаны луг. Раней тут было балота, зарослае лазой. Высокае, Старае Высокае Шкл., Дашкаўка Маг.

ЛАЗА ДЗЯКАВА. Зарослае поле. Раней тут жыў дзяк. Прылессе Чав.

ЛАЗАВІЦА ж. Месца за вёскай. Тут расце лаза. Чырвоная Слабада Бых.

ЛАЗАРАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут быў хутар дзеда Лазара. Рэчкі 2 Маг., Горкі Крыч.; Поле. Раней тут была сажалка, якая належала селяніну Лазару. Кількавічы Крыч.

ЛАЗАРАВА КАПЦІЛЬНЯ. Поле. Калісьці на ім стаяла капцільня пана Лазара. Эсьмоны Бял.

ЛАЗАРАВІЧЫ мн. Вёска. Яе першым жыхаром быў Лазар. Новы Быхаў Бых.

ЛАЗАРАЎ ВІРОК. Месца ля рэчкі. Тут стаяла хата Лазара. Эсьмоны Бял.

ЛАЗАРАЎ ЛУГ. Поле. Некалі яно належала пану Лазару. Эсьмоны Бял.

ЛАЗАРАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Яна злучае дзве вёскі: Вець і Лазаравічы Бых.

ЛАЗАРАЎСКАЯ ЛУЖА. Невялікае возера. Яно знаходзіцца ля в. Лазаравічы Бых.

ЛАЗАРАЎСКІ МАСТОК. Мост цераз рэчку. Яго пабудаваў Лазар. Вуглы Шкл.

ЛАЗАРАЎШЧЫНА ж. Вёска. Раней тут расло шмат лазы. Градзянка Асіп.; Луг. Раней тут жыў Лазараў. Беразуга Красн.

ЛАЗАРКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў дзед Лазар. Слаўна Слаўг.

ЛАЗЗЁ н. Урочышча. Калісьці тут раслі лазнякі. Заполле Кліч., Тошчыца Бых.

ЛАЗІВА н. Поле каля балота. На ім расце шмат лазы. Галышына Гор., Русінка Шкл.

ЛАЗІЦКІ ЛЕС. Лес ля в. Лазіцы. Лазіцы Бял.

ЛАЗНЕЎКА ж. Рака. Некалі ўздоўж яе берагоў людзі будавалі лазні. Сідаравічы Маг.

ЛАЗНІК м. Урочышча. Тут расце шмат лазы. Бровак Крыч., Гавяды Шкл.

ЛАЗНІЧОК н. Урочышча. Тут расце лаза. Каменіца Бял., Высокае Клім.

ЛАЗНЯК м. Частка лесу. Тут расце лаза. Лабковічы Крыч., Акунёўка Шкл.; Поле. Некалі тут рос лазняк. Рудкаўшчына Гор.

ЛАЗОВАЯ н. Частка лесу. Тут расце шмат лазы. Пяцілетка Асіп., Лудчыцы Бых.; Лес. Раней тут расла лаза. Красніца Касц.; Луг. Раней тут расла лаза. Слаўна Слаўг.

ЛАЗОВАЯ ЛЯДА. Поле. На ўскрайку яго расце шмат лазы. Дзмітраўка Кліч.

ЛАЗОВАЯ РОШЧА. Гай. У ім расце шмат лазы. Трылесіна Гор.

ЛАЗОВЕЦ м. Поле. Раней тут расла лаза. Поблін Глуск.

ЛАЗОВІЦА ж. Вёска. Раней тут расло шмат лазы. Лазовіца Клім.; Лес. Тут расце шмат лазы. Лазовіца Клім.

ЛАЗОВІЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Вакол яго расце лаза. Лазовіца Клім.

ЛАЗОВЫ ЛУГ. Луг. На ім расце шмат лазы. Вішоў Бял.

ЛАЗОЎКА ж. Балота. Раней тут была рэчка, якая цякла паміж лазовых кустоў. Станіслаў Красн.; Заліўны луг. Раней тут расло шмат лазовых кустоў. Дабужа Бых.;Поле. Раней тут расла бульба «лазоўка». Горкі Чэр.; Поле. Раней тут расла лаза. Язёры Чэр.; Рэчка. Яна бярэ пачатак у лазняку. Заходы Шкл.

ЛАЗОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Яна злучае дзве вёскі: Паўлавічы і Лазовіцы Клім.

ЛАЗЬКІЯ мн. Выган. Раней тут былі зараслі лазы. Лудчыцы Бых.

ЛАКЕЕЎШЧЫНА ж. Поле. Некалі яно належала пану і апрацоўваў яго панскі парабак Лакейка. Петухоўка Чав.

ЛАМОЎЕ н. Лес. У ім шмат буралому, смецця. Рагач Бял.

ЛАНДЫШАВА ПАЛЯНА. Паляна сярод лесу. Тут растуць ландышы. Зарубец Крыч., Нясята Кліч.

ЛАНКОЎШЧЫНА ж. Лес. Раней ён належаў пану Ланкоўскаму. Балотавічы Бабр.

ЛАПАЦІНА ж. Луг. Названы паводле формы. Мікулічы Бабр.; Кар'ер (акружаны лесам). Сельцы Глуск.

ЛАПАЦІНСКІ ВЫГАН. Прагон для кароў (ля хаты Лапацінскіх). Раманавічы Маг., Ордаць Шкл.

ЛАПІК м. Маленькі кавалак лесу. Тошчыца Бых.

ЛАПІЦКАЯ ГРЭБЛЯ. Грэбля праз балота. Некалі яна належала пану Лапіцкаму. Чорны Бор Бых.

ЛАПІЦКІ МОСТ. Мост. Калісьці ён належаў Лапіцкаму. Чорны Бор Бых.

ЛАПІЦКІ ЛУГ. Луг. Раней тут быў хутар Лапіцкага. Марцянавічы Крыч.

ЛАПІШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыў пан Лапіцкі. Новыя Максімавічы Кліч.

ЛАПКА ж. Бераг ракі. Названы паводле формы. Карасі Шкл.; Месца на рацэ. Названа паводле формы. Баханы Хоц.

ЛАПНІЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера (каля в. Лапнікі). Забалоцце Бял.

ЛАПОЎНІНЫ БЯРЭЗНІКІ. Бярозавы лес. Раней тут жыла Лапоўка (мянушка). Зялёны Дуб Чэрык.

ЛАПУЙДАЎ САД. Сад ля рэчкі. Некалі ён належаў Лапуйдзе. Новая Каменка Слаўг.

ЛАПЧЫХІНА КЛАДКА. Кладка праз рэчку (каля хаты Лапчыхі). Літоўск Шкл.

ЛАПЯНЕЦ м. Лес. Ён расце лапікамі. Хаўмы Красн.

ЛАРКАВА БАЛОТА. Балота. Калісьці ў ім утапіўся хлопчык Ларка. Займішча Шкл.

ЛАРКАВА ДАРОГА. Дарога (з Ларкавага хутара). Узраджэнне Маг.

ЛАРКАЎ СОСНІК. Лес. Раней тут жыў Ларка. Казакоўка Слаўг.

ЛАРКАЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў Ларка. Балбечана Гор.

ЛАРКІНА ПАНЕЎКА. Поле. Калісьці яно належала жанчыне Ларцы. Хацілавічы Крыч.

ЛАРКІН ХУТАР. Поле. Раней тут жыла Ларка. Хацілавічы Крыч.

ЛАРЫНА н. Ельнік. Некалі тут жыў Ларын. Галічы Клім., Забялышана Хоц.

ЛАРЫШЧА н. Лес. Калісьці лесніком яго быў Ларын. Буглаі Красн.

ЛАРЫШЧЫ мн. Лес. Некалі тут жылі браты Ларковы. Мхінічы Красн.; Прыгожыя паляны сярод лесу. Тураўя Красн., Еськаўка Дрыб.

ЛАСЁЎ ВУГАЛ. Частка лесу. Раней тут вадзіліся ласі. Вылаў Бял., Чэрнеўка Красн.

ЛАСЁЎКА ж. Лес. У ім водзяцца ласі. Чырвоны Ручай Крыч.

ЛАСІНАЕ БАЛОТА. Балота. Каля яго водзяцца ласі. Калінаўка Шкл., Дзмітраўка II, Вяззе Асіп., Паплавы Кліч.

ЛАСІНАЕ ВОЗЕРА. Лясное возера. У ім ласі п'юць ваду. Нясята Кліч.

ЛАСІНАЕ ПОЛЕ. Поле (акружанае балотамі). Доўгае Кліч.

ЛАСІНАЯ ГАРА. Зарослы лесам узгорак. Тут водзяцца ласі. Осава Асіп.

ЛАСІНАЎКА ж. Частка лесу. Раней тут вадзіліся ласі. Бураўшчына Кругл.

ЛАСІНАЯ КРЫНІЦА. Ручай. Калісьці у ім утапіўся лось. Дзягавічы Крыч.

ЛАСІНАЯ ПАДЗЬ. Месца ў лесе. Тут знаходзіцца ласінае стойбішча. Кулешава Шкл.

ЛАСІНАЯ ПАЛЯНА. Лес. Тут водзяцца ласі. Сліжы Шкл.

ЛАСІНАЯ СЦЕЖКА. Сцежка. Па ёй ласі ходзяць да рэчкі на вадапой. Літоўск Кругл., Бардзінічы Чав.

ЛАСІНАЯ КАТКА. Месца ў лесе. Тут зімой кладуць корм ласям. Мхінічы Красн.

ЛАСІНКА ж. Вёска. Яна знаходзіцца сярод лесу, у якім шмат ласёў. Мхінічы Красн.; Месца на р. Проня. Тут ласі п'юць ваду. Дужаўка Чав.

ЛАСІННІК м. Частка лесу. Тут растуць асіны і водзяцца ласі. Крычаў.

ЛАСІНЫ ВУГАЛ. Забалочаная частка лесу. Тут ходзяць ласі. Буглаі Красн.

ЛАСІНЫ ГАЙ. Месца ў лесе. Тут водзяцца ласі. Гавяды Шкл.

ЛАСІНЫ ЛЕЖНІК. Месца ў лесе. Тут ласі збіраюцца на лежбішча. Керлікоўка Слаўг., Бабірова Глуск.

ЛАСІНЫ ЛОГ. Месца ў лесе. Тут водзіцца шмат ласёў. Сыманаўка Кліч.; Паляна. Тут падкормліваюць ласёў. Каменка Мсц.

ЛАСІНЫ РОГ. Частка лесу. Тут ласі скідаюць рогі. Навасёлкі Бял.

ЛАСІНЫЯ МЫЧКІ. Зарослае лесам поле. Тут часта сустракаюцца ласі. Казлы Гор.

ЛАСІЦА ж. Вузкая палоска (паміж лесам і рэчышчам ракі). Па ёй ходзяць ласі. Следзюкі Бых.

ЛАСОЎШЧЫНА ж. Лес. Тут водзіцца шмат ласёў. Расна Гор.

ЛАСТАЎКА ж. Рачны бераг. Тут шмат птушыных гнёздаў. Крынка Асіп.

ЛАСТАЎКІН БУГ. Кар'ер. Тут гняздуюцца ластаўкі. Боўсевічы Бял.

ЛАСТАЎКІН ХВОСТ. Развілка дарог. Названа паводле формы. Асінаўка Чав.

ЛАСТАЎКІНА СЦЯНА. Абрыў на беразе ракі. На ім гняздуюцца ластаўкі. Слаўгарад.

ЛАСТАЎЧЫН БЕРАГ. Бераг ракі. На ім знаходзяцца гнёзды ластавак. Бардзінічы Чав., Нясята Кліч., Благавічы Чав.

ЛАСТАЎЧЫНА ГАРА. Узгорак. У ім ластаўкі рабілі гнёзды. Гаспады Дрыб.

ЛАТАКОЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Раней тут было возера, ля якога размяшчалася в. Латакі. Новая Ельня Красн.

ЛАТОЦКІ САД. Сад. Яго пасадзіў пан Латоцкі. Рэут Клім.

ЛАТУХІНА КРЫНІЦА. Крыніца (ля хутара Латухоўскага). Селішча Клім.

ЛАТЫШЧЫНА ж. Частка вёскі. Тут жывуць латышы. Завіраўка Клім.

ЛАТЫШОЎШЧЫНА ж. Поле. На ім знаходзяцца могілкі латышоў. Альхоўка Чав.

ЛАТЫШЧЫХА ж. Частка лесу. Некалі тут жыў латыш. Вільчыцы Маг.

ЛАТЫШЫ мн. Поле. Раней тут жылі латышы. Мяжэнін Клім.

ЛАЎРОЎШЧЫНА ж. Балота (за хатай Лаўровых). Ордаць Шкл., Раманавічы Маг.

ЛАЎРЫМАВА ГАРА. Узвышанае месца ў лесе. Раней тут быў хутар Лаўрыма. Чамаданы Шкл.

ЛАЎРЫНАВА н. Луг. Калісьці тут касіў сена Лаўрэн. Дабужа Бых.

ЛАХАВА ПОЛЕ. Поле. Некалі яно на-лежала князю Лахаву. Машкова Гор.

ЛАХТУНОЎ ВІР. Нізіна, залітая вадой. Раней тут быў хутар Лахтуна. Стары Дуб Мсц.

ЛАШАДЗІНАЕ КЛАДБІШЧА. Частка лесу. Тут у час Вялікай Айчыннай вайны хавалі забітых коней. Запруддзе Маг.

ЛАШАДЗІНЫ ЛУГ. Луг. На ім пасвяць коней. Гута Кір.

ЛЕЙБАЎ ВУГАЛ. Луг. Раней тут быў хутар Лейбы. Гіжэнка Слаўг.

ЛЕЙБІНА БУТОКА. Возера. Некалі яно належала Лейбу (мянушка). Зуі Крыч.

ЛЕЙКА ж. Ручай. Названы паводле формы. Зуі Крыч.

ЛЕЛЬЧЫН ЛУГ. Луг. Калісьці тут дзяўчына Лелька пасвіла кароў. Баханы Хоц.

ЛЕМІШАЎ БОР. Бор. Яго пасадзіла сям'я Лемішаў. Ямнае Бых.

ЛЕМЯШЫ мн. Урочышча. Калісьці тут быў хутар Лемяшы. Падбудкі Чэрык.

ЛЕНАЎ ЛОГ. Доўгі равок. Раней гэтая зямля належала пані Алене. Зарэчча Чав.

ЛЕНІНСКАЕ н. Бераг ракі. Да яго вядзе вул. Ленінская. Клічаў.

ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ. Дарога ў в. Леніна Красн.

ЛЕНІНСКІЯ ПАЛІ. Палі. На іх працавалі першыя брыгады калгаснікаў. Сакольнічы Крыч.

ЛЕНЧЫКАВА ДЗЯЛЯНКА. Лес. Раней тут быў хутар Ленчыкава. Балбечана Гор.

ЛЕСАВІК м. Дарога. Яна вядзе ў лес. Балбечана Гор.

ЛЕСАВЫЯ КОЧКІ. Куп'істы лес. Раней тут было балота. Іванаўка Крыч.

ЛЕСАСЕКА ж. Месца ў лесе. Тут высеклі дрэвы. Недзведзь Клім.

ЛЕС-БОР м. Невялікі сасновы лес. Елавец Хоц.

ЛЕСІЁНКАВА ПОЛЕ. Паляна. Раней тут было поле, якое належала Лесіёнку. Фядотава Буда Клім.

ЛЕСІШЧА н. Поле (ля лесу). Боркі Хоц.

ЛЕСНІКОВА ВОЗЕРА. Возера (ля хаты лесніка). Карпілаўка Клім.

ЛЕСНІКОВА ГАРА. Узгорак. Раней тут жыў ляснік. Савінічы Клім.

ЛЕСНІКОВА ДЗЯЛЯНКА. Дзялянка. Яна належыць лесніку. Вушлава Бял.

ЛЕСНІКОЎ ЛУГ. Луг. Раней тут стаяла хата лесніка. Скляпава Кругл., Ермалоўка, Адамаўка Гор.

ЛЕСНІКОВА ЛУКА. Поле (сярод лесу). Некалі яго апрацоўваў стары ляснік. Ядраная Слабада Кліч.

ЛЕСНІКОВА ПАСАДА. Поле (ля хаты лесніка). Іскра Бял.

ЛЕСНІКОВА ХАТА. Узлесак. Раней тут жыў ляснік. Канічы Касц.

ЛЕСНІНАЎ ЛЕС. Лес. Калісьці ён належаў пану Леснінову. Віляхаўка Бых.

ЛЕСНІЧОЎКА ж. Месца ў лесе. Раней тут жыў ляснік. Вепрын Чэрык., Юзін Кліч.; Паляна ў лесе. Некалі тут жыў ляснік. Дубраўка Слаўг.

ЛЕЎ м. Луг. Раней тут жыў Лёва. Леніна Красн.

ЛЕЦЯГІ мн. Хутар. Раней тут жыў селянін Лецягін. Замышкі Кругл.

ЛЕШАНКОВА ДВОРЫШЧА. Поле. Раней тут жылі Лешанкі. Азарычы Слаўг.

ЛЕШЧА м. Вёска. Некалі тут быў вадаём, багаты на рыбу. Башкіраўка Кліч.

ЛЕШЧАНСКАЕ БАЛОТА. Балота (каля в. Лешча). Лешча Шкл.

ЛЕШЧАНСКІ ЛЕС. Лес (каля в. Лешча). Лешча Шкл.

ЛЕШЧАНСКІ ЛУГ. Луг (ля в. Падлешчанка). Падлешчанка Кір.

ЛЁЖКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі тут збіраліся ваўкі на лежбішча. Ржаўка Слаўг.

ЛЁКСАЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут жыла Лёкса. Зацішша Маг.

ЛЁКСІНА КРЫНІЦА. Крыніца. Да яе заўсёды хадзіла маліцца бабка Лёкса. Буглаі Красн.

ЛЁКСІНА ЗЕЛЛЕ. Урочышча. Некалі тут знахарка Лёкса збірала зёлкі. Прыгаўка Крыч.

ЛЁКСІНА ПОЛЕ. Поле. Раней тут была сядзіба Лёксы. Высокае Клім.

ЛЁСЫ мн. Невялікае поле ў лесе. Новыя Максімавічы Кліч.

ЛІБІСЫ мн. Частка лесу. Раней тут была в. Лібісы. Мсціслаў.

ЛІЗІНА ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. У час Вялікай Айчыннай вайны тут жыла партызанка Ліза. Градзянка Асіп.

ЛІЗІРКА н. Месца на балоце. Тут бяруць мох. Холстава Бых.

ЛІПАЎШЧЫНА ж. Частка лесу ля в. Ліпаўка Касц.

ЛІМАНОЎСКІ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў Лімон (мянушка). Баханы Хоц.

ЛІМАРАЎ ЛУГ. Луг. Некалі ён належаў Лімару. Гута Клім.

ЛІНІЯ ж. Дарога. Уздоўж яе слупы з электраправадамі. Буглаі Красн., Аляксандраўка Слаўг., Камацічы Глуск.

ЛІПА ж. Балота. Некалі ля яго расла ліпа. Плюшчава Клім.; Поле сярод лесу. На ім расце ліпа. Клічаў.

ЛІПАВАЕ БАЛОТА. Балота. Яно акружана ліпамі. Зарэчча Чав.

ЛІПАВАЯ ДАРОГА. Сенажаць. Раней тут ішла дарога, абсаджаная ліпамі. Нямкі Кір.; Дарога. Яна праходзіць праз былы панскі ліпавы сад. Асавец Маг.

ЛІПАВЕЦКІ ЛЕС. Лес ля в. Ліпаўка Касц.

ЛІПАВІК м. Луг. Раней тут расло шмат ліп. Гажавец Красн.

ЛІПАВІЦА ж. Лог. На ім расце шмат ліп. Болін Красн.

ЛІПАВЫ ВОСТРАЎ. Востраў на балоце. На ім растуць ліпы. Барсукі Бял.

ЛІПАВЫ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Ён зроблены з ліпы. Александрыя Шкл.

ЛІПАВЫ РОГ. Урочышча. Тут расце некалькі ліп. Глуск.

ЛІПАВЫ РУЧАЙ. Ручай. Некалі абапал яго раслі вялізныя ліпы. Вепрын Чэрык.

ЛІПАЎКА ж. Урочышча. Тут расце шмат ліп. Чорны Бор Бых., Рама-

навічы, Сухары Маг., Канава Хоц., Уздзевічы Клім., Малыя Лазіцы Шкл.

ЛІПАЎСКІ ЛЕС. Лес (за в. Ліпаўка). Ліпаўка Хоц.

ЛІПАЎКІ мн. Луг. Раней тут раслі ліпы. Любонічы Кір.

ЛІПАЎСКІ ШЛЯХ. Дарога праз лес у в. Ліпаўка. Ліпаўка Хоц.

ЛІПАЎШЧЫНА ж. Месца ў лесе. Тут расце шмат ліп. Аляксандраўка Слаўг.

ЛІПЕНЬ м. Урочышча. Тут расце шмат ліп. Градзянка Асіп.; Вёска. Яе вызвалілі ад белапалякаў у ліпені. Палянінавічы Бых.; Вёска. Яна акружана ліпамі. Асінавічы Маг.

ЛІПЕЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера ў в. Ліпец Маг.

ЛІПЕЦКІ ЛЕС. Лес каля в. Ліпец Маг.

ЛІПКІ мн. Месца за вёскай. Тут знаходзіцца пасадка ліп. Асавец Крыч., Баханы Бял., Ермалоўка Гор.; Месца ў лесе. Тут расце шмат ліп. Шалаёўка Кір.; Лясок. Тут растуць адны ліпы. Капачы Мсц.; Лясок. Ля яго жыў пан Ліпскі. Смальянцы Чав., Шалаёўка Кір.; Поле. На ўскрайку яго растуць ліпы. Падзалішча Глуск.; Поле. Раней тут была в. Ліпкі. Дубцы Кір., Лебядзёўка Слаўг.; Урочышча. Раней тут раслі ліпы. Іскань Бых.

ЛІПНІК м. Парк. У ім растуць адны ліпы.Ількавічы Бял.; Лес. Некалі тут раслі адны ліпы. Гута Клім.; Урочышча. Тут растуць адны ліпы. Ліпаўка Хоц., Лічынка Бял.

ЛІПНІКІ мн. Лес. Тут растуць адны ліпы. Осава Асіп.; Урочышча. Тут растуць ліпы. Паддубкі Чэрык.; Поле. Раней тут быў ліпавы лес. Бацэвічы Клім., Чорны Бор Бых.; Ліпавы лес. Рэкта Слаўг.

ЛІПНІЦА ж. Вёска. У ёй уздоўж вуліцы растуць ліпы. Ліпніца Кліч., Паплавы Кліч.; Частка вёскі. Тут растуць ліпы. Сахароўка Гор.

ЛІПНІШЧЫНА ж. Лес. Некалі ён належаў Ліпніцкім. Коўбча Кліч.

ЛІПНЯКІ мн. Месца ў лесе. Тут растуць ліпы. Красніца Касц., Добрая Гор.; Участак лесу (ля в. Ліпаўка). Канічы Касц.; Лес. У ім растуць адны ліпы. Караны Асіп.

ЛІП'Ё н. Паляна. Вакол яе растуць адны ліпы. Вылаў Бял.

ЛІПАЎНЯ ж. Месца за вёскай. Тут расце многа старых ліп. Віхраны Мсц.

ЛІПШЧАНСКІ БРОД. Брод (ля в. Ліпск). Чырвоны Бор Бял.

ЛІПШЧАНСКІ МОСТ. Мост праз р. Друць (ля в. Ліпск). Чырвоны Бор Бял.

ЛІПШЧАНСКАЕ ПОЛЕ. Поле (ля в. Ліпск). Чырвоны Бор Бял.

ЛІСА ж. Рэчка. У ёй лісы пілі ваду. Гарадзец Шкл.

ЛІСАВЕТКІНА КОПЕНЬ. Невялікае возера (ля хаты Лісаветы). Іскань Бых.

ЛІСАЎ КОНЧЫК. Канец вёскі. Сюды часта наведваліся лісы. Галічы Клім., Слаўня Слаўг., Забялышана Хоц.

ЛІСАНСКАЯ ДАРОГА. Дарога (на хутар Лісакі). Дубраўка Касц.

ЛІСАЎ СТАН м. Невялікі лес. У ім раней вадзілася многа ліс. Палянінавічы Бых.

ЛІСАЎШЧЫНА ж. Невялікае поле (ля лесу). Тут вадзілася шмат ліс. Супанічы Маг.

ЛІСЕЕВА САЖАЛКА. Сажалка. Яе выкапаў Лісей. Сялецкае Касц.

ЛІСЕЕНКАЎ САСОННІК. Сасновы лес. Ля яго жыў Лісей. Чарнякоўка Слаўг.

ЛІСЕЕЎКА ж. Лес. У ім вадзіліся лісы. Лебядзёўка Слаўг.

ЛІСІНАЯ ГАРА. Узгорак на ўскрайку лесу. Тут шмат лісіных нор.Ількавічы Бял.

ЛІСІНАЯ НАРА. Паляна сярод бярэзніку. Раней тут было многа лісіных нор. Валынеж Касц.

ЛІСІНАЕ КЛАДБІШЧА. Старыя могілкі. Тут зараз водзяцца лісы. Свенск, Перагон Слаўг.

ЛІСІНАЕ ЛОГАВА. Роў. Некалі тут былі лісіныя норы. Займішча Шкл.

ЛІСІНАЯ ж. Урочышча. Тут шмат лісіных нор. Калацічы Глуск.

ЛІСІНА ГОРКА ж. Урочышча. Некалі тут жыла ўдава-салдатка Ліса (мянушка). Кісялёва Буда Клім.

ЛІСІНЫ ХВОСТ. Узгорак у лесе. Названы паводле формы. Клімавічы.

ЛІСІНЫЯ ГОРЫ. Лес. У ім шмат лісіных нор. Коўбча Кліч., Праточнае Бял., Раздзел Мсц., Баханы Хоц.

ЛІСІЧКА ж. Лес (ля р. Лісічка). Кострычы Кір.; Луг. Названы паводле формы. Кострычы Кір.

ЛІСІЧКІ мн. Лес. У ім было шмат грыбных мясцін. Петухоўка Чав., Кароўчына Бых.

ЛІСІЧНІК м. Вёска. Калісьці тут вадзілася шмат лісіц. Лісічнік Бых.

ЛІСІ ХВОСТ. Урочышча. Тут вадзілася шмат ліс. Раманавічы Маг.

ЛІСІЧНАЯ РЭЧКА. Рэчка. Ля яе вадзіліся лісы. Кіраўск.

ЛІСІЧЫ РОЎ. Сасоннік. У ім шмат лісіных нор. Дужаўка Чав.

ЛІСІЧАЯ ГАРА. Поле. Раней тут быў лес, у якім вадзіліся лісы. Благавічы Чав.

ЛІСІЧЫЯ ГОРЫ. Лес. У ім шмат лісіных нор. Аляксандраўка Слаўг., Болен Красн., Красніца Касц., Коўбча Кліч.

ЛІСІЧЫЯ ПІЧАРЫ. Луг. Некалі на ім знаходзіўся курган, у якім былі лісіныя норы. Рожава, Бель Мсц.

ЛІСІЧЫНКА ж. Месца ў лесе. Тут расце многа лісічак (грыбоў). Ясная Паляна Чэрык.

ЛІСІЧНІК м. Поле. Раней тут быў лес, дзе расло шмат лісічак (грыбоў). Петухоўка Чав.; Месца ў лесе. Тут расце шмат лісічак (грыбоў). Ордаць Шкл., Катка Глуск., Лабковічы Крыч. Займішча Шкл., Петухоўка Чав.

ЛІСІЯ ГАРА. Месца ў лесе. Тут водзяцца лісы. Аляксандраўка Слаўг.

ЛІСОЎКІ мн. Месца ў лесе. Тут водзіцца шмат ліс. Васькавічы Чав.

ЛІСКІНА БАЛОТА. Балота (ля хаты бабы Ліскі). Бакацец Чав.

ЛІСКОЎ ХУТАР м. Поле. Калісьці тут быў хутар Лісака. Навасёлкі Шкл.

ЛІСОЎШЧЫНА ж. Хутар. Раней тут жылі Ліскі. Заеліца Глуск.

ЛІСТОЎЕ н. Месца ў лесе. Тут растуць ліссцевыя дрэвы. Мерч Шкл.

ЛІСТРАТАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў кулак Ліістрат. Прудок Слаўг.

ЛІСТРАТЫ мн. Вуліца. Яе жыхары маюць прозвішча Ліістраценка. Сялецкае Касц.

ЛІСУХА ж. Паляна ў лесе. На ёй растуць лісічкі (грыбы). Бацэвічы Кліч.

ЛІСЦВЕНІЦЫ мн. Дарога. Абапал яе пасаджаны лісцевыя дрэвы. Вепрын Чэрык.; Калгаснае поле. Абапал яго растуць дрэвы. Вепрын Чэрык.

ЛІСЦВЕНІЦА ж. Гай ля в. Удача Чэрык.

ЛІСЫ мн. Узгорак ў лесе. Раней тут былі норы лісіц. Добрае Мсц.

ЛІСЫ НОРЫ. Месца ў лесе. Тут шмат лісіных нор. Высокае Клім.

ЛІСЬЯ ГАРА. Невялікі лес. У ім водзіцца шмат ліс. Буглаі Красн.

ЛІЦВІНІХІН ХУТАР. Поле. Раней тут была сядзіба Ліцьвінкова Захара. Мяжэнін Клім.

ЛІЦВІНСКАЕ ПОЛЕ. Поле за вёскай. Раней яно належала Ліцвінам. Быхаў.

ЛІЦВІНАЎШЧЫНА ж. Лес (між Куранямі і Сафійскам). Некалі тут жылі літоўцы. Сухары Маг.

ЛІТВІНАВІЧЫ мн. Вёска. У ёй жыло шмат перасяленцаў з Літвы. Мірнае Шкл.

ЛІХАЛЕЦЦЕ н. Багністае балота. Кузькавічы Бых.

ЛІХОЕ ДРЭВА. Мясцовасць. Тут стаіць дрэва, выпаленае маланкай. Малінаўка Бял.

ЛОБАЎШЧЫНА ж. Поле (ля лесу). На ім знаходзіцца курган, падобны да ілба. Чэрнеўка Шкл.

ЛОГ м. Вёска. Яна знаходзіцца ў нізіне. Глуская Слабада Бых.; Лагчына. У ёй пасвяць калгасны статак. Высокае Шкл., Забалоцце Бял.; Луг. Раней тут быў хутар. Добасна Кір.; Сенажаць (ля лясной рэчкі). Гарадок Шкл.; Заліўны луг. Праз яго працякае рэчка. Алешкавічы Бял., Ляхаўшчына Чав.

ЛОГ-ШТАНЫ. Лог. Названы паводле формы. Вылаў Бял.

ЛОГВІНАЎ ВОСТРАЎ. Востраў сярод балота. Калісьці тут жыў Логвін. Жаролы Слаўг.

ЛОГВІНКАВА ГРЭБЛЯ. Дарога (ад в. Жаролы на Логвінаў востраў). Жаролы Слаўг.

ЛОДАЧНАЯ ж. Месца на рэчцы. Тут знаходзяцца лодкі. Глуск.

ЛОДЗІК м. Купальня на рэчцы. Фёдараўка Касц.

ЛОДЗІКАВА ГАРА. Узгорак. Калісьці тут жыў Лодзік. Акунёўка Шкл.

ЛОДЗІКАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Яе знайшоў Лодзік. Акунёўка Шкл.

ЛОЖА ж. Нізкае, непраходнае месца на саўгасным полі. Кулешава Шкл.

ЛОЖНІЦКАЯ ГАРА. Узгорак. Некалі ля яго часта спыняліся начлежнікі. Вішанка Шкл.

ЛОЗАЧНА ж. Паляна ў лесе. Яна акружана лазой. Заці́шша Касц.

ЛОЗЫ мн. Возера, зарослае кустамі лазы. Рожава, Лютня Мсц.

ЛОНКА ж. Луг, сенажаць. Малуноўка Хоц., Пятровічы Маг.

ЛОЙКАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыў Лойка. Дзмітраўка II Кліч.

ЛОКАЦЬ м. Выгіб дарогі. Названы паводле формы. Следзюкі Бых.

ЛОМ м. Лес. Раней ён быў непраходным. Аўчыненкі Шкл.

ЛОНКА ж. Нізіна (ля вёскі). Раней тут была вялікая яма. Канстантоў Кліч.

ЛОПАЎ м. Нізіна ў лесе. Некалі тут быў хутар Лопаў. Абідавічы Бых.

ЛОСЕВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут вадзілася шмат ласёў. Супанічы Маг.; Балота. Некалі тут жыў Лосеў. Асавец Маг.

ЛОЦАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Лоц. Валынеж Касц.

ЛОША ж. Рака. Раней тут вадзілася рыба лоша (ласось). Міхалёва Бабр.

ЛОЎШАВА ГАРА. Дзялянка. Некалі тут жыў Лоўша. Градзянка Асіп.

ЛУБНІШЧА н. Поле. Калісьці на ім рос лубін. Курманава Мсц.

ЛУБЯНЫ ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыў дзед Лубяны (мянушка). Рэут Клім.

ЛУГАВАЯ ВУЛІЦА. Вуліца ў вёсцы (ля луга). Сваці́лавічы Бял.

ЛУГАВАЯ ДАРОГА. Дарога праз лес (у в. Свой Луг). Любонічы Кір.; Дарога (праз лес на луг). Бродак Крыч.

ЛУГАВОЕ ВОЗЕРА. Возера. Яно знаходзіцца сярод лугу. Хацень Клім.

ЛУГАВЫ м. Пасёлак (за лугам). Вылаў Бял.; Пасёлак (акружаны лугамі). Аўчыненкі Шкл.

ЛУГАВЫ ЛЕС. Лес (за лугам). Паўлавічы Клім., Дружба Бых.

ЛУГАВЫЯ ГУБЫ. Два курганы. Названы паводле формы. Навасёлкі Маг.

ЛУЖЧАІНА ж. Нізкае месца. У ім заўсёды стаіць вада. Вязаўніца Асіп.

ЛУЖА ж. Лес. У ім на дарогах стаяць лужыны. Азерца Клім.; Поле. Раней яно не апрацоўвалася, бо там стаялі лужыны. Чырвоны Бор Бял.

ЛУЖЫ мн. Поле (акружанае лужамі). Туркі Бабр.; Поле. Яно знаходзіцца ў нізіне, дзе амаль заўсёды стаяць лужыны. Благавічы Чав.

ЛУЗУНОЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў селянін Лузун. Заеліца Глуск.

ЛУКА ж. Заліўны луг. Старасёлы Чав.; Частка лугу (паміж дзвюма рэчкамі). Сялец Мсц.; Лес. Раней тут дралі лыка і плялі кошыкі. Суша Кліч.; Вёска. Яна знаходзіцца паблізу ад таго месца, дзе рэчка робіць паварот. Наваселле Шкл.

ЛУКА БАГАЦЬКАЎСКАЯ. Луг (ля в.Багацькаўка). Багацькаўка Мсц.

ЛУКАВАЯ ГАРА. Гара. Яна па форме нагадвае цыбуліну. Бабруйск Маг.; Абрыў над ракой. Тут утапіўся дзед Лука. Баханы Хоц.

ЛУКАЦКАЯ ДЗЯЛЯНКА. Участак выкарчаванага лесу (каля в. Лукаць). Лукаць Дрыб.

ЛУКАШКОВА ДВОРЫШЧА. Сенажаць. Раней тут жыў селянін Лукашкоў. Антонаўка Чав.

ЛУКАШКОВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут была сажалка, якую выкапаў Лукашоў. Паўлавічы Кругл.

ЛУКАШОВА ДВОРЫШЧА. Луг. Некалі ён належаў Лукашову. Бутрамееўка Бых.

ЛУКАШОЎ ВЫЖАР. Урочышча. Раней тут стаяў хутар дзеда Лукаша. Малы Асавец Маг.

ЛУКАШОЎ САД. Сад. Некалі ён належаў Лукашу. Гарадок Шкл.

ЛУКАШОНКАЎ ЛОГ. Луг. Калісьці ён належаў селяніну Лукашу. Мядзвёдаўка Чав.

ЛУКАШОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар селяніна Лукаша. Махава Маг.

ЛУКЕР'ІН РАСЦЯРОБ. Поле. Раней тут быў лес, які належаў Лукер'і. Дубраўка Слаўг.

ЛУКІ мн. Поле. Яно падзелена на кавалкі шырокімі раўкамі. Лебедзева Гор.; Сенажаць. Калісьці яна належала Луку. Сідаравічы Маг., Ржаўка Гор.

ЛУК'ЯНАВА ПАСЕКА. Пасека ў лесе. Гаспадаром якой калісьці быў Лук'ян. Жаркі Касц.

ЛУК'ЯНАЎ РАСКОС. Частка поля. Некалі тут касіў сена селянін Лук'ян. Тошчыца Бых.

ЛУК'ЯНАЎ РОГ. Частка поля. Раней тут касіў сена селянін Лук'ян. Слаўкавічы, Сцяг Глуск.

ЛУК'ЯНАЎ РАСКОС. Участак поля, на якім касіў калісьці сена Лук'ян. Тошчыца Бых.

ЛУК'ЯНАВА ПАСЕКА. Пасека ў лесе. Гаспадаром яе калісьці быў Лук'ян. Жаркі Касц.

ЛУКОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут стаяў хутар Лукі. Рудня Шкл.

ЛУКАШОНКАЎ ЛОГ. Луг. Калісці ён належаў Лукашу. Мядзвёдаўка Чав.

ЛУКАШОВА БАЛОТА. Балота. Яно ўтварылася на месцы сажалкі, выкапанай Лукашовым. Паўлавічы Кругл.

ЛУКАШКОВА ДВОРЫШЧА. Сенажаць. Раней тут жыў Лукашкоў. Антонаўка Чав.

ЛУКАЦКАЯ ДЗЯЛЯНКА. Участак выкарчаванага лесу каля в. Лукаць Дрыб.

ЛУНЁВЫ РАВОК. Поле. Калісьці тут жыў кулак Луней. Пільшыцы Бял.

ЛУННА н. Урочышча. Некалі тут ноччу (пры месяцы) быў павешаны пан. Буда Красн.

ЛУННЕЎ РАВОК. Равок. Раней гэтая мясцовасць належала пану Лунневу. Баханы Хоц.

ЛУНЬ ж. Азярцо (сярод балота). Следзюкі Бых.

ЛУТ (Ліпавае лыка) м. Урочышча. Тут растуць ліпы, з якіх раней дралі лыка. Недзведзь Клім.

ЛУТАВА ГАРА. Невялікі пагорак. На ім стаіць Лутава хата. Горкі Чэр.

ЛУХОЎСКІ ЛЯСОК. Лес. Калісьці ля яго раней жыў пан Лухоўскі. Дубасна Мсц.

ЛУЦІШЧАНСКАЕ ПОЛЕ н. Поле (ля в.Луцішча). Прылессе Чав.

ЛУЦІШЧАНСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Луцішча). Прылессе Чав.

ЛУЧКА ж. Месца на рэчцы. Некалі тут мачылі каноплі. Кухенка Бабр.; Лугавіна. Яна знаходзілася ля аднога з выгінаў р. Друць. Грыбіна Кругл., Глушакова Крыч.; Невялікі лог. Ён знаходзіцца на ўзвышаным месцы. Слабодка Дрыб.

ЛУЧКІ мн. Лес. Раней тут быў хутар Лукі. Паплавы Кліч.; Луг. Калісьці тут быў хутар Лучкі. Рэкта Слаўг.; Луг. Вясной сюды выганяюць пасвіцца кароў. Саматэвічы Касц.; Луг. Раней тут былі сялянскія надзелы. Геральня Бял.; Урочышча (падобнае на "Х"). Абідавічы Бых.

ЛУЧЫШЧЫ мн. Сенакос (ля ракі). Бель Мсц.

ЛУШКА ж. Сажалка. Яна запоўнена бруднай вадой. Гулідаўка Гор.

ЛУШЫН ЛЕС. Невялічкі лес. Раней тут быў хутар Лушкі. Нічыпаравічы Шкл.

ЛЫЗЯНКА ж. Кустоўе на полі. Тут хаваліся драпежныя жывёлы. Следзюкі Бых.

ЛЫКАВА н. Вёска. Некалі яе жыхары плялі лапці з лыка. Запруддзе Маг.

ЛЫКАВАЕ м. Лес. Раней у ім дралі лыка. Градзянка Асіп.

ЛЫКАЎЕЦ м. Месца ў лесе. Калісьці тут дралі лыка. Дарлівая Крыч.

ЛЫКАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога (на в. Лыкава). Запруддзе Маг.

ЛЫКІНСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Лыкінку Чав.

ЛЫКІНСКІ ЛЕС. Лес ля в. Лыкінка Чав.

ЛЫНДАЎКА ж. Вуліца ў вёсцы. Некалі яе жыхары не хацелі ўступаць у калгас. Брады Чав.

ЛЫСАЯ ГАРА. Выган для кароў. Трасціно Хоц.; Чырвоная Буда Крыч., Гарожа Асіп.; Выгаралая мясціна. Тут нічога не расце. Ціманава Клім.; Дзялянка. Раней тут доўгі час нічога не расло. Завалочыцы Глуск., Курманава Мсц.; Пясчанае поле. Тут нічога не расце. Буглаі Красн., Машчаніца Бял., Дарагая Крыч.; Пагорак. Ён бачны здалёк. Усполле Мсц.; Урочышча. Раней тут знаходзіўся курган. Радамля Чав.; Урочышча. Тут расце адна сасна. Вішоў, Асман-Касаева Бял., Слабодка Кліч., Глінь Чэр.

ЛЫСКАЎКА ж. Узгорак у лесе. На ім нічога не расце. Вялікія Лазіцы Шкл.

ЛЫСІКІ мн. Урочышча. Тут растуць адны сасонкі. Валынец Касц.

ЛЫСІЦА ж. Сенажаць. Забялышана Хоц.

ЛЫСУХА ж. Высокі пясчаны бераг ракі. Глінь Чэрык.; Неўрадлівае поле. Капані Чав.; Узгорак ля ракі. Некалі тут быў лес. Гай Кругл.

ЛЫСЬКАВЫ КУСТЫ мн. Дзялянка ў лесе. Калісьці яе высек Лыська (мянушка). Вялікія Лазіцы Шкл.

ЛЫСЫ БЕРАГ м. Пясчаны бераг ракі. Тут не расце трава. Ясень Бабр., Глуск Маг.

ЛЫСЫ КУРГАН м. Курган у лесе. Тут нічога не расце. Вільчыцы Маг.

ЛЬНОЗАВОД м. Пасёлак. Раней тут быў ільнозавод. Антонаўка Чав.

ЛЬНЯНІШЧА н. Поле. Тут расце лён. Ананічы Крыч., Пірагова Мсц.

ЛЬНЯНОЕ БАЛОТЦА. Пасадка бяроз. Раней тут было балотца, у якім мачылі лён. Язёры Чэр.

ЛЭЎКІНА ДЗЯЛЯНКА. Дзялянка. Некалі тут быў хутар Лэўкіна. Глінь Чэрык.

ЛЭХАМАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў пан Лэхам (мянушка). Рагі Слаўг.

ЛЮБАНКА ж. Рэчка. Калісьці на яе беразе плакала з горкай долі дзяўчына Люба. Любонічы Кір.

ЛЮБАНЦЫ мн. Урочышча (каля рэчкі Любанцы). Гута Бабр.

ЛЮБІМНІЦКАЕ ВОЗЕРА. Возера. Калісьці тут адпачывалі паны. Сакольнічы Кір.

ЛЮБІН БОР. Бор. Некалі тут Люба скончыла жыццё самагубствам. Любонічы Кір., Гута Бабр.; Узлесак. Калісьці тут была сядзіба Любы. Мокрае Бых., Любонічы Кір.

ЛЮБІН ДВОР. Урочышча. Калісьці тут жыла цётка Люба. Катка Глуск.

ЛЮБІНА ВОЗЕРА. Возера. Калісьці тут жыла Люба. Заполле Дрыб.

ЛЮБІНА ГАРА. Узгорак. Некалі тут пан забіў дзяўчыну Любу. Любонічы Кір.

ЛЮБІНСКАЯ СЦЕЖКА. Сцежка праз балота (на Любін бор). Любонічы Кір., Хоўстава Бых.; Сцежка. Калісьці па ёй хадзіла Люба. Любонічы Кір.

ЛЮБКІНА БАЛОТА. Балота. Некалі тут жыла жанчына Люба. Манастырок Чэр.

ЛЮБУШЧЫНА ж. Лес. Раней ён быў вельмі прыгожы (ім толькі любаваліся). Старыя Максімавічы Кліч.

ЛЮБНАЯ ГАРА. Узгорак. Раней тут часта збіралася моладзь. Шупені Кругл.

ЛЮДНЯ ж. Паляна ў лесе. Некалі тут жыў пан Людня (мянушка). Забавы Бял.

ЛЮЛЬКА ж. Лес (паміж узгоркамі). Зуі Крыч.; Урочышча ў лесе. Названа паводле формы. Прыгані Кругл.

ЛЮЛЬКАЎ ГАЁК. Лес. Раней тут быў хутар дзядзькі Люлькі (мянушка). Цялуша Бабр.

ЛЮСІКАВА ГАРА. Узгорак. Некалі тут жылі Люсікавы. Люсікоўскі Хоц.

ЛЮТНЯНСКІ ЛЯСОК. Сенажаць (ля в. Лютня). Раней тут быў лес. Дубасна Мсц.

ЛЮТНЯНСКІЯ ПАГОРКІ. Урочышча. Раней тут жылі музыкі, якія гралі на лютні (струнным музычным інструменце). Тураўя Красн.

ЛЮТНЯЎ ХУТАР. Хутар. Некалі тут жылі людзі з прозвішчам Лютно. Хамінічы Гор.

ЛЮЦЕНЬ м. Пасёлак. Раней тут было поле, на якім расло шмат люцікаў. Трубільня Красн.

ЛЯВОНАВА БАЛОТА. Забалочаная мясціна (за хатай Лявона). Нікіцінічы Шкл.; Балота. Некалі тут знаходзіўся хутар Лявона. Радамля Чав.

ЛЯВОНАВА ДАРОГА. Дарога. Некалі па ёй хадзіў Лявон. Вільчыцы Маг.

ЛЯВОНАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі яе даглядаў Лявон. Аляксандраўка Слаўг.

ЛЯВОНАВА КОПАНЬ. Сажалка. Некалі яе выкапаў дзед Лявон. Малы Асавец Маг.

ЛЯВОНАВА ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Некалі тут касіў сена Лявон. Віроўка Касц.

ЛЯВОНАВА СЦЯЖЫНКА. Дарога ў лесе. Некалі па ёй хадзіў ляснік Лявон. Крычаў Маг.

ЛЯВОНАВА СЯДЗІБА. Урочышча. Калісьці тут жыў пан Лявон. Петухоўка Чав.

ЛЯВОНАЎ ЛЯСОК. Сенажаць. Некалі тут рос лясок, які выкарчаваў Лявон. Капані Мсц.

ЛЯВОНАЎ КУРГАН. Курган у лесе. Раней тут быў хутар Лявона. Русенка Маг.

ЛЯВОНАЎ РАВОК. Равок. Некалі тут жыў Лявон. Ціманава Клім.; Равок. Калісьці тут быў забіты Лявон. Нясята Кліч.

ЛЯВОНАЎСКІ ЛУГ. Луг. Калісьці ён належаў Лявону. Хонькавічы Чав.

ЛЯВОНІХІН ХУТАР. Сенажаць. Некалі тут жыла Лявоніха. Антонаўка Чав., Загаранкі Маг.

ЛЯВОНКАВА РЭЧКА. Рака. Названа ў гонар партызана Лявонкі. Рабінаўка Кругл.

**ЛЯГОРАВА** н. Луг. Раней тут жыў пан Лягор. Петухоўка Чав.

**ЛЯГОРАВА ВОЗЕРА**. Возера. Некалі тут жыў Лягор. Супонічы Маг.

**ЛЯГУШАТНІК** м. Сажалка. Тут водзіцца шмат жаб. Маляцічы Крыч., Раманавічы Маг., Ордаць Шкл.

**ЛЯГУШКІ** мн. Балота. Тут водзіцца шмат жаб. Палошкава Клім.

**ЛЯГУШКІНА БАЛОТА**. Сенажаць. Некалі тут было балота, у якім вадзілася шмат жаб. Красны Бераг Бых.

**ЛЯДА** н. Дзялянка ў лесе. Княжыцы Маг., Ходараўка Гор.; Хутар. Некалі тут была дзялянка. Камяніца Бял., Узраджэнне Маг.

**ЛЯДАНСКАЯ АМШАРА**. Амшара. Вада там ледзяная нават летам. Нясята Кліч.

**ЛЯДАВАЯ ГАРА**. Лес. Раней тут быў хутар. Благавічы Чав.

**ЛЯДОЎСКІ ЛЕС**. Лес (ля в. Ляды). Ясень Асіп.

**ЛЯДОЎСКІ ЛУГ**. Луг. Раней тут было балота, якое замярзала зімой. Машчаніцы Бял.

**ЛЯДОЎНЯ** ж. Балота. Раней тут быў кар'ер. Благавічы Чав.

**ЛЯДЫ** мн. Поле. Раней тут была в. Ляды. Ясень Асіп.

**ЛЯЖДЖА** ж. Забалочаная частка лесу. Закупленне Кліч.

**ЛЯЖОВА ДВОРЫШЧА**. Частка вёскі. Раней тут жыў Ляжоў. Вольніца, Нежкава Бял., Забавы Маг.

**ЛЯЖНЁЎКА** ж. Паляна. Тут ляжаць камяні-валуны. Яноўка Клім.

**ЛЯЖЫНЕЦ** м. Забалочаны ўчастак лесу. Тут шмат паваленых дрэў. Заполле Глуск.

**ЛЯКСАНДРАЎ ХУТАР**. Поле. Раней тут быў хутар Аляксандра. Пільшыцы Бял.

**ЛЯКСЕЕВА БАЛОТЦА**. Балотца. Калісьці ля яго жыў Ляксей. Акунёўка Шкл.

**ЛЯКСЕЕВА ПРОСЕКА**. Прасека ў лесе. Яе высек ляснік Ляксей. Ляхаўшчына Чав.

**ЛЯКСЕЕЎ КАЛОДЗЕЖ**. Калодзеж. Ён быў выкапаны на месцы былой сядзібы Ляксея. Гута Клім.

**ЛЯКСЕЕЎ ХУТАР**. Урочышча. Раней тут быў хутар Ляксея. Гладкава Чав.; Поле. Раней тут стаяў хутар Ляксея. Балбечана Маг..

**ЛЯСКІ** мн. Лес. Яго пасадзілі жыхары в. Мышкіна Мсц.; Поле (сярод лесу). Дубна Слаўг.; Поле. Некалі тут была в. Ляскі. Цялушкі Бабр.; Частка лесу. Яна ўразаецца ў поле. Малахавічы Глуск.

**ЛЯЎКОЎСКАЕ ВОЗЕРА**. Возера (каля в. Ляўкі). Дрычын Асіп.

**ЛЯЎКОЎШЧЫНА** ж. Лес каля (в. Лясковічы). Сцяг Глуск., Слаўкавічы Маг.

**ЛЯСНАЯ ДАРОГА**. Дарога праз лес. Рагі Слаўг., Раманавічы Маг., Радыёнаўка Гор.; Вёска (сярод лесу). Лапацічы Слаўг.; Рэчка. Яна цячэ праз лес. Вендараж, Карпілаўка Маг.

**ЛЯСНАЯ СЦЯЖЫНКА**. Сцяжынка. Яна вядзе да лесу. Раманавічы Маг.

**ЛЯСНІЦА** ж. Поле. Раней тут быў лес. Сіпайлы Бял.

**ЛЯСНІЦТВА** н. Частка лесу. Калісьці тут жыў ляснік. Дуцькі Бял.

**ЛЯСНОЕ** н. Сенажаць. Некалі тут быў лясок. Дубасна Мсц.

**ЛЯСНОЕ БАЛОТЦА**. Балотца (у лесе). Малыя Лазіцы Шкл.

**ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА**. Возера (сярод лесу). Карпілаўка Клім., Адамаўка Гор., Малы Асавец, Крычаў, Рэпічы, Шапялевічы Маг., Замышкі Кругл.

**ЛЯСНОЕ ПОЛЕ**. Поле. Раней тут быў лес. Будага Чэрык.

**ЛЯСНЫ ПІТОМНІК**. Участак лесу. Некалі тут садзілі маладыя дрэўцы. Краснае Глуск.

**ЛЯСНЫЯ МОГІЛКІ**. Частка лесу. Тут знаходзяцца могілкі. Замошша Шкл.

**ЛЯХАВА ГРАДА**. Поле. Некалі тут была вёска, у якой жылі ляхі

(палякі). Орсічы Бабр.; Лес. Некалі тут знаходзілася в. Ляхава. Ясень Асіп.

ЛЯХАВІЦА ж. Лес. Калісьці ён належаў пану Ляхавіцкаму. Падзалешша Глуск.

ЛЯХАВІЧЫ мн. Урочышча. Некалі тут была в.Ляхі. Чэрыкаў.

ЛЯХАЎКА ж. Поле. Раней тут быў хутар Ляхава. Градзянка Маг.

ЛЯХАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут жыў пан Лях. Петухоўка Чав.

ЛЯХАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога. Раней па ёй хадзілі людзі з в. Ляхі. Петухоўка Чав.

ЛЯХАЎШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут жыў ляснік Ляхавіцкі. Раздзел Мсц., Петухоўка Чав.; Лес. Раней тут была в. Ляхаўшчына. Татарка Асіп.; Поле (ля в. Ляхаўка). Молатаў Слаўг.; Частка лесу. Тут шмат арэшніку. Карасі, Русакі Шкл.

ЛЯХІ мн. Вёска. Першымі жыхарамі яе былі ляхі (палякі). Ляхі Чэрык.; Поле. Раней тут была сядзіба пана Ляха. Петухоўка Чав.

ЛЯХКОВА САЖАЛКА. Сажалка. Яна знаходзіцца на сядзібе Ляхкова. Літоўск Кругл.

ЛЯШЧЫННІК м. Участак лесу. Тут растуць арэхавыя дрэвы. Чыкілі Глуск.

# М

МАЛАННІНА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі тут жыла Малання. Хацілавічы Крыч.

МАНЬКІНА ГОРКА. Узгорак. Некалі тут Манька пасадзіла прыгожыя кветкі. Раманавічы Маг.

МАРУСІНЫ СЦЕЖКІ. Сцежкі ў лесе. Сюдой часта хадзіла дзяўчына Маруся. Леніна Красн.

МАР'ІН БЕРАГ. Бераг ракі. Некалі тут утапілася дзяўчына Мар'я. Грыбы Красн.

МАР'ІНА РОШЧА. Гай. Некалі тут стаяла хата Мар'і. Гавяды Шкл.

МАСНІК м. Частка рэчкі Бесядзь. Некалі тут быў драўляны мост. Горня Хоц.

МАСТОК м. Месца на рэчцы. Раней тут быў мост. Прыволле Слаўг.

МАХНАТАЕ БАЛОТА. Балота. На ім растуць "белыя махнатыя кветачкі"(паводле жыхароў). Залесавічы Крыч.

МЕДАВУХА ж. Вёска. Калісьці яе жыхары разводзілі пчол. Новы Быхаў Быx.

МЕДАНЬ ж. Узлесак. Тут знаходзіцца пасека. Макаранцы Маг.

МЕДЗЯКОЎ ХУТАР. Хутар. Раней тут жыў Мядзяк (мянушка). Гавяды Шкл.

МЕЖАНКАВА ЎРОЧЫШЧА. Лес. Некалі ён належаў сям'і Межанкавых. Дашкаўка Маг.

МЕЖДУБОР'Е н. Хутар (сярод бору). Забалоцце Бял.

МЕЖДУДАРОЖЖА н. Поле (паміж дзвюх дарог). Прудок Слаўг.

МЕЖЛЕССЕ н. Поле (на месцы выкарчаванага лесу). Плешчыцы Шкл.

МЕЖПЯЦІНСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Пяцінскага. Таценка Кліч.

МЕЖЫ мн. Шырокая дарога (паміж сасоннікам і асіннікам). Дружні Крыч.

МЕЛ м. Бераг ракі.Тут здабываюць мел. Горкі Чэрык.

МЕЛАВАЯ ж. Месца на беразе Дняпра. Раней тут здабывалі мел. Лазарэвічы, Вецъ Быx.

МЕЛАВАЯ ГАРА. Лагчына. Тут здабываюць мел. Зарубец Крыч.

МЕЛАВЫ КАР'ЕР. Кар'ер.Тут здабываюць мел. Хацень Клім.

МЕЛАВЫЯ ГОРКІ.Поле. Раней тут здабывалі мел. Клімавічы.

МЕЛГАРА ж. Гара. Раней тут здабывалі мел. Высокае Клім., Дразды Кругл.

МЕЛІШЧА н. Сажалка. Некалі ў ёй здабывалі мел. Доўгая Дуброва Хоц.

МЕЛІЯРАЦЫЯ ж. Частка г.п. Клічава. Тут знаходзіцца раённая арганізацыя меліярацыі. Клічаў.

МЕЛКІ БРОД. Брод. Тут можна перайсці возера. Ступяні Бабр.

МЕЛЛЯНАЎ ЗРУБ. Урочышча. Раней тут быў хутар Емельяна. Русенка Маг.

МЕЛЛЯНАЎ РОЎ. Роў ля в. Шчэгліца. Праз яго праходзіць дарога да млына. Шчэгліца Маг.

МЕЛЬНІКАВА ГАРА. Узгорак. Раней тут стаяў млын. Прудкі Кругл.

МЕЛЬНІКАЎ ХУТАР. Хутар. Тут калісьці жыў млынар. Вільча Глуск.

МЕЛЬНІКАВА ДАРОГА. Дарога праз лес. Па ёй ездзіў млынар. Асман-Касаева Бял.; Дарога (да хаты млынара). Сямёнаўка Клім.

МЕЛЬНІКАВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут жыў млынар. Камароўка Крыч.

МЕЛЬНІКІ мн. Поле. Раней тут знаходзіўся млын. Троіца Шкл., Грыбы Красн., Хімы Бабр.

МЕЛЬНІЧНЫ ДВОР. Завулак у Глуску. Раней тут быў стаяў млын. Глуск.

МЕЛЬЯНЦЫ мн. Поле. Раней тут стаяў млын. Рагі Слаўг.

МЕРЧАНСКІ ЛЕС. Лес (ля в. Мерч) Бял.

МЕХАЎСКОЕ н. Урочышча. Раней тут жыў пан Мехаўскі. Гарадзянка Асіп.

МЕХПУНКТ м. Частка лесу. Раней тут знаходзіўся механічны пункт МТС. Кароўчына Бых.

МЕШЧАНСКІ ЛУГ. Луг. Калісьці ён належаў пану Мешчанскаму. Гута Клім.

МЕЧЫКАЎСКІЯ ХУТАРЫ. Урочышча. Раней тут жылі палякі. Гарадзянка Асіп.

МЕЧЫНСКІ РАВОК. Урочышча. Раней тут было балота, ля якога жыў паляк Мечынскі. Лазовіца Клім.

МЁРТВАЕ ВОЗЕРА. Возера. У ім нічога не водзіцца. Боўсевічы Бял., Шапялевічы Кругл.

МЁРТВАЕ ЖЭРАЛА. Тарфяное балота. На ім водзяцца толькі гадзюкі. Жаролы Слаўг.

МЁРТВАЯ КРЫНІЦА. Урочышча. Некалі тут была крыніца. Рудкаўшчына Гор.

МЁРТВЫ ПРУД. Балота. Раней у ім утапілася адразу некалькі чалавек. Дубравіца Клім.

МЁРТВАЯ РАКА. Затока на рацэ. Тут не водзіцца рыба. Глінь Чэрык.

МЁРТВЫ РУЧАЙ. Ручай. Раней тут была рэчка. Купёлы Маг.

МЁРТВЫ САД. Сад. У ім нічога не расце. Ліпаўка Хоц.

МІДВЭЖЭ н. Поле. Калісьці тут мядзведзь задраў чалавека. Малуноўка Хоц.

МІЖДАРОЖ'Е н. Поле (між дарог). Супанічы Маг.

МІЖРЭЧНІК м. Луг (паміж дзвюма рэкамі). Раманавічы Маг.

МІЖАЗЕР'Е н. Дарога (паміж азёрамі). Гронаў Чэрык.; Сенажаць (паміж азёрамі). Калініна Бых.

МІЖБРАДЫ мн. Сенажаць (паміж брадоў). Іскань, Дружба Бых., Карасі Шкл.

МІЖЛЕССЕ н. Дарога праз лес. Ціхань Хоц., Язёры Чэрык., Галічы Клім.; Поле (сярод лесу). Вусце Кліч.

МІЖЛЕСКІ мн. Сенажаць (сярод лесу). Косцінка Маг.

МІЖРЭЧНІК м. Луг (паміж дзвюма рэчкамі). Ордаць Шкл.

МІЖРЭЧЧА н. Поле (паміж рэчкамі). Рагі Слаўг.

МІЖПОЛЛЕ н. Дарога (паміж двух палёў). Удога Чэрык.

МІКАЛАЕВА ВОЗЕРА. Невялікае возера. Тут утапіўся хлопец Мікалай. Беразэтня Мсц.

МІКОЛАВА ГАРА. Узлесак. Тут калісьці быў загрызены ваўкамі Мікола. Дрычын Асіп.

МІКАЛАЕВА ДАРОГА. Лясная дарога. Некалі па ёй ездзіў ляснік Мікола. Сасноўка Шкл.

МІКАЛАЕВА БАЛОТА. Сенажаць. Раней тут была забалочаная мясціна, якую асушыў Мікалай. Дубасна Мсц.

МІКАЛАЕВА ХАТА. Старая вясковая школа. Раней тут была хата настаўніка Мікалая. Плешчыцы Шкл.

МІКАЛАЕЎ ВЫГАН. Выган (ля хаты Мікалая). Наваселле Шкл.

МІКАЛАЕЎ ДУБ. Дуб. Яго пасадзіў Мікалай. Пуцькі Чав.

МІКАЛАЕЎ ЛУГ. Луг. Раней ён належаў Мікалаю. Горкі Чэрык.

МІКАЛАЕЎ ХУТАР. Частка вёскі. Калісь тут жыў селянін Мікалай. Рожава Мсц.

МІКАЛАЕЎКА ж. Частка вёскі. Раней тут жыў стараста Мікалай. Лазіцы Шкл.; Вёска. Раней тут жыў пан Мікалай. Кардзеева Дрыб., Рэпішча Маг.

МІКАЛАЕЎСКАЕ БАЛОТА. Балота (ля в. Мікалаеўка). Высокае Шкл.; Забалочаная мясціна. Раней тут быў хутар Мікалая. Сліжы Шкл.

МІКАЛАЕЎСКАЯ МЯСЦІНА. Поле. Раней тут жыў пан Мікалай. Мядвежанка Касц.

МІКАЛАЕЎСКІ ШЛЯХ. Дарога. Яна была пабудавана пры цару Мікалаю II. Вяззе Асіп.

МІКАЛАЕЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут быў хутар Мікалая. Восаў Красн., Загаранкі Кругл.

МІКАЛАІХІН САСОННІК. Сасоннік. Раней тут жыла Мікалаіха. Самулкі Чав.

МІКАНАВА ДАРОГА ж. Дарога (ля хаты Міканава). Сідаравічы Маг.

МІКАМОРНІК м. Лес. Яго пасадзіў Міканор. Стасеўка Бабр.

МІКЕЕНКАЎ ВІР. Глыбокае месца на рацэ.Некалі ля яго жыў Мікей. Шчокатава Дрыб.

МІКЕЕВА КРЫНІЦА. Крыніца. Яе выкапаў дзед Мікей. Перылессе Чав.

МІКІТАВА БАЛОТА. Забалочанае ўрочышча. Раней тут жыў Мікіта. Петухоўка Чав.

МІКІТАВА ДАРОГА. Дарога. Некалі тут жыў Мікіта. Стаялы Кліч.

МІКІТАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі тут жыў Мікіта. Балбечана Гор.

МІКІТАВА ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Некалі тут жыў Мікіта. Малыя Аўчыненкі Шкл.

МІКІТАВА САЖАЛКА. Возера. Некалі ў ім утапіўся селянін Мікіта. Мядвёдаўка Чав.; Сажалка (за хатай Мікіты). Уладзіміраўка Гор.

МІКІТАЎ БРОД. Брод праз раку. Калісьці тут утапіўся ляснік Мікіта. Дрычын Асіп.

МІКІТАЎ ВІР. Месца на рацэ. Тут утапіўся Мікіта. Аржаўцы Шкл.

МІКІТАЎ ГАЙ. Гай. Некалі тут жыў Мікіта. Вялікія Вуглы Шкл.

МІКІТАЎ КУРГАН. Месца ў лесе. Тут быў забіты Мікіта. Кулешава Шкл.

МІКІТАЎ РАВОК. Месца. Раней тут жыў Мікіта. Кулешава Шкл.

МІКІТАЎ ХУТАР. Узлесак. Раней тут жыў Мікіта. Горкі Чэрык.; Паляна. Некалі тут жыў Мікіта. Рафалава Мсц.; Хутар. Некалі тут жыў Мікіта. Шышова Гор.

МІКІТКАЎ МОСЦІК. Мост (ля хаты дзеда Мікіткі). Карасі Шкл.

МІКІТКАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Мікіты. Русінка Шкл.

МІКІТОЎСКАЯ КРЫНІЦА. Крыніца. Калісьці яна належала Мікітовым. Данькава Дрыб.

МІКІТУШКАВА ДВОРЫШЧА. Кустоўе. Некалі тут стаяла хата Мікіты. Антонаўка Чав.

МІКІЦЁНКАВА ГРЫВА. Узгорак. Раней тут было дворышча Мікіцёнка. Дужаўка Чав.

МІКІЦІН ЛОГ. Лог. Некалі тут раслі дрэвы, на адным з якіх павесіўся дзед Мікіта. Клін Мсц.

МІКІЦІШЫН БЕРАГ. Астравок на р. Свіслач. На яго выцягнулі тапельца Мікіту. Прыцалавічы Асіп.

МІКОЛАВА ГАРА. Узлесак. Калісьці тут дзік загрыз селяніна Міколу. Дрычын Асіп.; Узгорак. Некалі тут жыў Мікалай. Уздзевічы Клім.

МІКОЛАВА ДАРОГА. Дарога. Калісьці па ёй ездзіў ляснік Мікола. Каменка, Сасноўка Шкл.

МІКОЛАВА КРЫНІЦА. Крыніца. Некалі тут жыў Мікола. Пуцькі Чав.; Крыніца. Яе выкапаў Мікола. Крычаў.

МІКОЛАВА МЕЛЬНІЦА. Урочышча. Раней тут стаяў млын Міколы. Карасі Чав.

МІКОЛАВА ПОЛЕ. Поле. Некалі яно належала Міколу. Стайкі Клім.

МІКОЛАВА САЖАЛКА. Сажалка (за хатай Міколы). Хамінічы Гор.

МІКОЛАВА ЎСАДЗЬБА. Урочышча. Некалі тут жыў пан Мікола. Падбелле Маг.

МІКОЛАВА ХАТА. Малады бярэзнік. Некалі тут жыў Мікола. Буглаі Красн.

МІКОЛАЎ ВІР. Месца на рэчцы. Некалі тут ўтапіўся хлопчык Мікола. Замышкі Кругл.

МІКОЛАЎ ДУБ. Дуб. Калісьці яго пасадзіў Мікола. Асавец Маг., Трылесіна Дрыб.

МІКОЛАЎ САД. Сад. Некалі яго пасадзіў Мікола. Мокрае Бых., Чарнігаўка Маг.

МІКОЛАЎ ЯР. Яр. Калісьці тут загінуў хлопчык Мікола. Раманавічы Маг.

МІКОЛЬНІЦА ж. Лес. Калісьці тут жыў Мікола. Сцяг Глуск.

МІКОЛЬСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў Мікольскі хутар. Стары Дуб Мсц.

МІКУЛЕЎСКІ ЛЕС. Лес. Некалі тут служыў лесніком Мікула. Кароўчына Дрыб.

МІКУЛІЧЫ мн. Вёска. Першымі жыхарамі яе былі Мікулічы. Міхалёва Бабр.

МІКУЦІХІН ДВОР. Урочышча. Раней тут была сядзіба Мікуціхі. Ніканавічы Быx.

МІЛА ж. Лес. Раней тут жыла дзяўчына Міла. Сялец Гор.

МІЛАВА ЗАВАДЗЬ. Завадзь (ля дома хлопца Міла (мянушка)). Лабковічы Крыч.

МІЛАЎШЧЫНА ж. Лес (ля в. Мілаўе). Жданавічы Шкл., Пудоўня Дрыб.

МІЛЁРЫ мн. Частка вёскі. Некалі тут жыў немец Мілёр. Гавяды Шкл.

МІЛІЦАНЕРАВА ГАРА. Узгорак. На ім жыве міліцыянер. Холстава Быx.

МІЛКІНА ГАРА. Узгорак. На ім жыве цётка Мілка. Бялынкавічы Касц.

МІЛКАЎ ПАДОЛ. Паварот ракі. Некалі тут жылі Мілкі. Азарычы Слаўг.

МІЛКАЎ РОЎ. Роў. Некалі тут жылі Мілкі. Азарычы Слаўг.

МІЛЛЯНАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут быў хутар Емельяна. Станы Кліч.

МІЛЛЯНАВА ДАРОГА. Дарога. Некалі па ёй ездзіў ляснік Емяльян. Баханы Хоц.

МІЛЛЯНЬКАВА БАЛОТА. Урочышча. Раней тут быў хутар Емяльяна. Макранскія хутары Быx.

МІЛЛЯНЬКАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Емельяна. Балбечана Гор.

МІЛЬЯНКОВА н. Поле. Некалі тут жыў Мільянкоў. Зарэсце Маг.

МІНАЕЎ ВІР. Месца ля ракі. Тут жыве Мінай. Кузавіна Гор.

МІНАЎ ЛАЖОК. Сенажаць у лесе. Некалі тут касіў сена Мінаў. Паплавы Кліч.

МІНДЗЯЎ ЛЕС м. Лес. Калісьці ён належаў Міндзяву. Кухенка Бабр.

МІНІЛАЕВА БАЛОТА. Балота. Некалі яно належала пану Мінілаю. Нікіцічы Шкл.

МІНСКАЎ ЛЕС. Лес. Некалі тут жыў Мінскаў. Ясень Бабр.

МІНЧАЎ РОЎ. Роў. Некалі тут жыў Мінча (мянушка). Свенск Слаўг.

МІР-ГАРА ж. Узгорак. Калісьці тут, паводле падання, князі заключалі мір. Палкі Бых., Высокае Чав.

МІРАДЗІНСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў (в. Мірадзіна). Сычова Бабр.

МІРАЎШЧЫНА ж. Поле. Некалі тут стаяў хутар Мірона. Прылессе Чав.; Лес. Калісьці ён належаў пану, які служыў міравым суддзёй. Каменка Чав.

МІРОНАВА ЗАВАДЗЬ. Балота. Раней тут стаяла хата Мірона. Ваўканосава Кругл., Сідараўка Гор.

МІРОНАВЫ КУСТЫ. Узлесак. Некалі тут быў забіты Мірон. Красавічы Клім.

МІРОНАЎ МАСТОК. Масток цераз раку. Некалі яго зрабіў Мірон. Вязаўніца Асіп.

МІРОНАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Мірон. Прылессе Чав., Цялуша Бабр.

МІРОНАЎКА ж. Поле. Некалі яно належала Мірону. Капані Чав.

МІСУНОЎ РОГ. Луг. Некалі тут быў хутар Місуна (мянушка). Быцэвічы Клім.

МІСЦЮКОЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут жыў дзед Місцюк. Суслаўка Дрыб.

МІСЬКОЎ ЛЕС. Лес. Раней тут жыў купец Міськоў. Петухоўка Чав.

МІТРАФАНАВА ЛАГЧЫНА. Месца. Тут быў знойдзены забіты Мітрафан. Гута Клім.

МІТРАФАНАЎ ЛЕС. Лес. Некалі яго даглядаў ляснік Мітрафан. Кіркоры Чав.

МІТРАФАНАЎ ХУТАР. Поле. Некалі тут стаяў хутар Мітрафана. Махава Маг.

МІХАЙЛАВА ГАЦЬ. Насціл праз балота. Яго рабіў Міхайла. Мокрае Бых., Коўбча Клім., Лудчыцы Бых.

МІХАЙЛАЎ ЛУГ. Лес. Калісьці тут быў Міхайлаў хутар. Машкова Гор.

МІХАЙЛАЎ САД. Сад. Яго пасадзіў дзед Міхайла. Рэут Клім.

МІХАЙЛАЎСКІ ЛЕС. Лес. У ім ляснічыў дзед Міхаіл. Углы Шкл.; Лес (вакол в.Міхайлаўка) Халменка Чэр.

МІХАЙЛАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле. Раней тут жылі Міхайлавы. Стары Дуб Мсц.

МІХАЙЛАВА ДРЭВА. Месца на лузе. Тут каля асіны пастух Міхаіл заўсёды спыняў статак кароў. Мядзвёдаўка Красн.

МІХАЛАЎ КАЛОДЗЕЖ. Калодзеж. Яго выкапаў Міхал. Цяхцін Бял.

МІХАЛАВА КРЫНІЦА. Крыніца (ля хаты Міхала). Замышкі Кругл.

МІХАЛАЎ РОГ. Сенажаць. Раней яно належала Міхалу. Свенск Слаўг.

МІХАЛАЎ ХУТАР. Урочышча. Некалі тут жыў Міхал. Антонаўка Чав., Каліноўка Бял.

МІХАЛАЎ ШЛЯХ. Дарога (да хаты Міхала). Лютня Красн.

МІХАЛАЎШЧЫНА ж. Лес. Раней тут быў хутар Міхала. Коўбча Кліч.

МІХАЛЁВА н. Вёска. Некалі яна належала пану Міхалю. Міхалёва Бабр.

МІХАЛЁВА ЛЯДА. Лес. Раней тут жыў Міхаль. Кардзеева Дрыб.

МІХАЛЁВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Міхаля. Кухенка Бабр.

МІХАЛЁВА САЖАЛКА. Сажалка (ля дома Міхаля). Бардзінічы Чав.

МІХАЛЁВА СЦЕЖКА. Дарога. Па ёй ездзіў ляснік Міхал рабіў абход. Дрычын, Дары Асіп.

МІХАЛЁВА СЦЯЖЫНКА. Дарога. Па ёй часта ездзіў Міхал. Александраўка Слаўг.

МІХАЛЁЎ КУРГАН. Насып. Яго зрабіў Міхал. Бялынкавічы Касц.

МІХАЛЁЎ УЗГОРАК. Узгорак. Некалі тут стаяла хата Міхаля. Грышын Клім.

МІХАЛЁЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Міхал. Буглаі Красн., Осава Асіп., Алешкавічы Бял., Гарадзец Быx.

МІХАЛЁЎКА ж. Лес. Тут ляснічыў Міхалёў. Васількі Бял., Доўгавічы Мсц.

МІХАЛЁЎСКАЯ ГОРКА. Узвышанае месца (ля в. Міхалёва). Дуброўка Маг.

МІХАЛЁЎШЧЫНА ж. Лес. Раней тут жыў ляснік Міхал. Лука Асіп.

МІХАЛІН м. Лес. Некалі тут была в.Міхалін. Баханы Хоц., Барсукі Кір.; Вуліца. Раней тут жыла памешчыца Міхаліна. Клімавічы.

МІХАЛІНСКАЕ ВОЗЕРА. Возера (ля в.Міхалін). Міхалін Клім.

МІХАЛІНСКІ МОСТ. Мост. З яго некалі скінулася дзяўчына Міхаліна. Бяседавічы Хоц.; Месца на рацэ. Тут утапіўся ляснік Міхалінаў. Ігнатаўка Хоц.

МІХАЛЬЧЫХІНА ЛАГЧЫНА. Урочышча. Раней тут стаяў Міхальчыхін хутар. Мокрадзь Дрыб.

МІХАЛЁЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут знаходзіўся маёнтак пана Міхалёва. Зуі Крыч.

МІХЕДЗЬКАВА ПАСЕКА. Балотца. Раней тут была пасека Міходзькі. Баханы Хоц.

МІХЕЕВА ВОЗЕРА. Возера. Некалі тут жыў Міхал. Жаркі Касц.

МІХЕЕВА ВЫЖАР. Урочышча. Некалі тут жыў дзед Міхей. Малы Асавец Маг.

МІХЕЕВА ГЛІНІШЧА. Урочышча (каля хутара Міхеева). Раней тут здабывалі гліну. Трасціно Хоц.

МІХЕЕВА КРЫНІЦА. Крыніца. Раней тут быў хутар Міхея. Падлужжа Кругл.

МІХЕЕЎ ЛОГ. Урочышча. Калісьці тут жыў Міхей. Валаськоўня Касц.

МІХЕЕЎ РОЎ. Роў. Некалі тут быў хутар Міхея. Усполле Мсц.

МІХЕЕЎ ХУТАР. Кустоўе. Некалі тут жыў Міхей. Антонаўка Чав.

МІХЕЕВІЧЫ мн. Вёска. Калісьці тут жыў граф Міхееў. Дары Асіп.

МІХЕЕЎСКІ ЛУГ. Луг (ля в. Міхеёўка). Перагон Слаўг.

МІХОДАВА ДАРОГА. Дарога (ля хаты Міхода). Вайнілы Кругл.

МІХОДАВА ВУЛАЧКА. Завулак (ля двара Міхода). Слабодка Кругл.

МІХНЕВІЧАВЫ ДУБЫН. Лес. Раней тут стаяў хутар Міхневіча. Баравінка Асіп.

МІХНЕВІЧАВА ДЗЯЛЯНКА. Лес. Раней тут было поле Міхеевіча. Градзянка Асіп.

МІШКАВА ГАРА. Гара. Некалі на ёй стаяла хата Мішкі. Пятровічы Маг.

МІШКІН ЛЕС. Лес. Некалі тут жыў шляхціц Міхал. Брылі Маг.

МІШКІН ХУТАР. Аддаленая вуліца. На ёй жыве Мішка. Катка Глуск.

МІШКІНА БАЛОТА. Балотца (за дворышчам Мішкі). Аляксееўка Касц.

МІШКІНА ЖЫТА. Поле. Раней тут жыў ляснік Мішка, які на гэтым месцы сеяў жыта. Лагадава Быx.

МІШЫН ЛОГ. Поле. Раней тут жыў Міша. Глінне Мсц.

МІЦІХА ж. Участак лесу. У час Вялікай Айчыннай вайны тут быў пахаваны партызан Міця. Чачэвічы Быx.

МІЦКЕВІШЧЫНА ж. Лес. Калісьці ён належаў пану Міцкевічу. Асавец Крыч.

МІЦЮХА м. Поле (ля хаты дзядзькі Міці). Сілянава Кругл.

ЦЯКУЧЫ ЛУГ. Луг. Раней тут працякала невялікая рачулка. Смолка Чав.

ЦЯЛЯТНІК м. Сенажаць. Тут пасвяць цялят. Курганава Мсц.

ЦЯМРЫНКА ж. Густы цёмны лес. Майск Бял.

ЦЯРОБКІ мн. Месца на полі. Раней тут церабілі лён. Высокае Клім.

ЦЯРОБУШ. Невялікае балота (на месцы выцерабленага лесу). Сідаравічы Маг.

ЦЯРЦЕЖКА ж. Луг. Раней тут працякала рачулка. Сідаравічы Маг.

ЦЯРЭБКІ мн. Луг. Раней тут церабілі лён. Яноўка Клім.

ЦЯРЭМУШНІК м. Месца каля ракі. Тут расце шмат чаромхі. Заходы Шкл.

# Ч

ЧАБАТОК м. Луг. Мае форму чобата. Баханы Хоц.

ЧАБОТНІЦА ж. Сенажаць. Па форме яна нагадвае чобат. Наркі Чэрык.

ЧАЙКІ мн. Сенажаць. Некалі тут вадзіліся чайкі. Сялец Гор.

ЧАМЯРЭЧЧА н. Зараснік каля ракі. Маляцічы Крыч.

ЧАПАЁНКАВА н. Поле. Раней яно належала заможнаму селяніну Чапаёнку. Мерч Шкл.

ЧАПЛІН НОС. Балоцістая лугавіна. Тут водзяцца чаплі. Яўсеевічы Глуск.; Лугавіна. Мае прадаўгаватую, як дзюба, форму . Пчэльня Слаўг.

ЧАПРОНАВА н. Возера. Раней каля яго жыў дзед Чапрон. Брылі Маг.

ЧАРАБАМІРСКІ ЛЕС. Лес каля в. Чарабамір Кір.

ЧАРАВАЦКАЕ ВОЗЕРА. Невялікі вадаём ля в. Чарава Кліч.

ЧАРАВУН м. Месца ля ракі. Тут , па словах жыхароў, жылі чараўнікі. Ядраная Слабада Кліч.

ЧАРАДЗЕЕВА БАЛОТА. Балоцісты ўзлесак. Раней тут жыў знахар (чарадзей). Махава Маг.

ЧАРАКОЎШЧЫНА ж. Сажалка. Яна знаходзіцца на ранейшай мяжы Чэрыкаўскага і Крычаўскага раёнаў. Сетнае Крыч.

ЧАРАПІЧНЫ. Жылы раён. Раней тут знаходзіўся завод, што вырабляў чарапіцу. Бабруйск.

ЧАРАПОЎШЧЫНА ж. Лес (паблізу в. Чарапы). Ладыжана Шкл.

ЧАРАЧЧА н. Нізіна. Тут расце чарот. Мушына Мсц.

ЧАРНАБАЙ м. Лес. Тут шмат баравікоў. Азярышча Асіп.

ЧАРНАБОРКІ мн. Поле. Раней тут была в. Чорны Бор. Рэкта Слаўг.

ЧАРНАГОР'Е н. Поле каля ўзгорку. Тут чорная зямля. Добрае Мсц.

ЧАРНАГРАЗІ мн. Гразкая дарога. Чорны Бор Бых.

ЧАРНАЛЕССЕ н. Лес. У ім шмат чарніц. Лазаравічы Бых.; Мясціна (зараснікі вярбы, алешыны і ліпы) пад в. Сухары Маг.; Поле. Раней тут быў лес. Дудкавічы Мсц.

ЧАРНАРУЧЧА н. Месца ў лесе. Тут цячэ Чорны ручай. Зуі Крыч.

ЧАРНАСЛІЎКІ мн. Поле. Раней тут раслі слівы. Цямныя Кругл.

ЧАРНЕЦ м. Лес. Тут растуць чарніцы. Краснаполле Красн.

ЧАРНІЛАВА н. Асушанае балота ля в. Чарнілава Мсц.

ЧАРНІЦКАЕ БАЛОТА. Месца ў лесе. Тут шмат чарніц. Бацэвічы Кліч.

ЧАРНІЦКАЕ ПОЛЕ. Поле. Некалі тут быў лес, багаты на чарніцы. Бацэвічы Кліч.

ЧАРНІЦКІЯ ЗАДАРОЖКІ. Лес. У ім шмат чарніц. Ліпень Асіп.

ЧАРНІЧКА ж. Паляна ў лесе. Тут багата чарніц. Гайшын Слаўг.

ЧАРНІЧНАЯ ПАЛЯНА. Паляна ў лесе. Тут растуць чарніцы. Дарлівая Крыч.

ЧАРНІЧНІК м. Лес з вялікімі балотамі. Раней тут было шмат чарніц. Буглаі Красн.; Месца ў лесе. Тут расце шмат чарніц. Чырвоная Слабада Касц., Туалін Бял., Хоцімск, Чэрнеўка Шкл.

ЧАРНІЧНЫ БОР. Месца ў лесе. Тут шмат чарніц. Зарэчча Кругл.

ЧАРНІЧНЫ ЛЕС. Лес (багаты на чарніцы). Займішча Шкл.

ЧАРНІЧНЫ МОХ. Балота. Тут збіраюць чарніцы. Літоўск Кругл.

ЧАРНІШНІК м. Месца ў лесе. Раней тут было шмат чарніц. Затоны Гор.

ЧАРНІШЫНА н. Лес. У ім багата чарніц. Лебядзёўка Слаўг.

ЧАРНОЕ н. Поле (з чорнай зямлёй). Акунёўка Шкл.

ЧАРНОЎКА ж. Поле (з чорнай зямлёй). Прудок Хоц.

ЧАРНУШКА ж. Роў. Ён заліты бруднай (чорнай) вадой. Галоўчын Бял.

ЧАРНЯКОЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў в. Чарнякоўка Слаўг.

ЧАРНЯЎСКІ ЛЕС. Лес (на месцы в. Чарняўка). Трасціно Хоц.

ЧАРНЯЦОВА КРЫНІЦА. Урочышча. Раней тут жыў манах. Вець Бых.

ЧАРОМУШКІ мн. Узлесак. Тут расце шмат чаромхі. Віркаў Кліч.

ЧАРОТ м. Урочышча. Тут расце чарот. Барчыцы Кір.

ЧАРОТАВА н. Балота (парослае чаротам). Усохі Слаўг.

ЧАРТОВІНА ж. Гразкае месца на дарозе. Антонаўка Чав.

ЧАРЦІЛАЎКА ж. Лес. Пасля Вялікай Айчыннай вайны тут рабавалі людзей. Азарычы Слаўг.

ЧАСЦІК м. Густы лес. Колтава Мсц., Чорны Бор Бых.

ЧАЎНОК м. Поле. Раней тут працякала рачулка. Горы Красн.

ЧАХОЎШЧЫНА ж. Лес. Раней паблізу яго жыў пан Чахоўскі. Радамля Чав.

ЧАЧАХІ мн. Поле. Раней тут быў хутар Чачахаў. Наркі Чэрык.

ЧВЭРТКІ мн. Сенажаць (25 сотак г.зн. чвэрць гектара). Дубасна Мсц.

ЧВЫРЫ мн. Мясціна. Тут шмат ям. Гута Бабр.

ЧОРНАБАЛОЦЦЕ н. Забалочаная мясціна ў лесе. Горкі Чэрык.

ЧОРНАЕ ВОЗЕРА. Балота. Буглаі Красн.; Возера. Раней тут здабывалі торф. Прудок Крыч.; Возера. У ім чорная вада. Калініна Бых.

ЧОРНАЕ МЕСЦА. Месца ў лесе. Раней тут было шмат ваўкоў. Чорны Бор Бых.

ЧОРНАЯ ГАР. Выгаралая мясціна ў лесе. Кульшычы Слаўг.

ЧОРНАЯ ДЫРА. Вірлівая мясціна ў рэчцы. Поблін Глуск.

ЧОРНАЯ КАНАВА. Кар'ер (запоўнены чорнай вадой). Шалаёўка Кір.

ЧОРНАЯ ПЕЧ. Поле (на месцы выгаралага лесу). Зарубец Крыч.

ЧОРНАЯ ТОПКА. Балота. Тут водзяцца змеі. Зарубец Крыч.

ЧОРНЫ м. Поле. Тут вельмі ўрадлівая зямля. Пятровічы Чав.

ЧОРНЫ БЕРАГ. Месца ў рэчцы. Паплавы Кліч.; Глыбокая месца ў р. Сож. Азёры Чэрык.

ЧОРНЫ БОР. Густы яловы лес. Праточнае Бых., Навасёлкі Бял.; Стары лес. Суша Кліч.; Вялікі лес. Бель Крыч.; Лес. У ім высокія дрэвы. Леніна Красн.; Лес (багаты на чарніцы). Семукачы Маг.

ЧОРНЫ БРОД. Поле сярод цёмнага лесу. Сідаравічы Маг.

ЧОРНЫ ВУЗЕЛ. Вельмі густы лес. Бялынкавічы Касц.

ЧОРНЫ КРАЙ. Месца ў лесе. Тут расце шмат дрэў і кустоў. Мерч Шкл.

ЧОРНЫ КРЫЖ. Поле. Раней тут быў могільнік. Дзягавічы Крыч.

ЧОРНЫ МОХ. Вялікае балота. Тут шмат загінула жывёлы. Хамінічы Гор.

ЧОРНЫ ПАР. Поле (з чорнай зямлёй). Вішні Касц.

ЧОРНЫ РУЧЭЙ. Ручай. Вада у ім чорнага колеру. Мазалава Мсц.

ЧОРНАЯ ПЛЁСА. Месца на возеры. Тут добра ловіцца рыба. Ігнатаўка Хоц.

ЧОЎНАВІЦА ж. Дарога (насыпана праз балота). Некалі сена з балота вазілі на чаўнах. Тушкава Гор.

ЧОЎЧЫН ЛУГ. Луг. Раней тут працякала рэчка. Зубава Кругл.

ЧУВОЛАВА КАМЮГА. Крыніца. У ёй вельмі халодная вада. Галічы Клім.

ЧУДАКОВА ПРОРВА. Балота. Некалі тут утапіўся Чудакоў. Лыкава Маг.

ЧУДАКОЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыла сям'я Чудаковых. Лыкава Маг.

ЧУДОЎШЧЫНА ж. Лес. Зарубец Крыч.

ЧУЧНІНА ГАР. Луг. Раней ён належаў пану Чучніну (прозвішча). Буглаі Красн.

ЧЫГІРЫНСКІ ЛЕС. Лес каля в. Чыгірынка Кір.

ЧЫГРЭЎСКІ МОСТ. Мост праз канаву непадалёк ад в. Чыгіры Бял.

ЧЫКАЎКА ж. Балота. Тут водзіцца шмат птушак. Бялынічы.

ЧЫПІТНЁЎСКІ мн. Месца за лесам. Раней, паводле слоў жыхароў, тут жыў Чыпітнёўскі. Згода Глуск.

ЧЫПЛЯЁЎСКІ ЛОГ. Поле (на мяжы Мсціслаўскага і Горацкага раёнаў). Глінне Мсц.

ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА. Возера. У ім чырвонае дно. Глінь Чэрык.

ЧЫРВОНАЯ ГАРА. Гліністы ўзгорак ля ракі. Новы Быхаў Бых.

ЧЫРВОНАЯ ГОРКА. Невялікі ўзгорак. Тут бяруць гліну. Клімавічы.

ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА. Паляна. Тут шмат суніц. Гуслішчы Маг.

ЧЫРВОНЫ КУСТ. Хмызняк. Тут шмат маліны. Зарубец Крыч.

ЧЫРВОНЫ ЛЕС. Лес. Раней тут было багата суніц. Карпілаўка Клім.

ЧЫРВОНЫ РУЧАЙ. Ручай (з чырвонай ад гліны вадой). Слабада Бых.

ЧЫСТАВІЦА ж. Азярцо. У ім чыстая вада. Прудок Слаўг.

ЧЫСТАЕ БАЛОТА. Балоцістая мясціна, парослая лесам. Сідаравічы Маг.

ЧЫСТАЯ ВЫЖЫРА. Луг (на месцы выгаралага балота). Капані Чав.

ЧЫСТАЯ ЛУЖА. Азярцо (з празрыстай вадой). Ступяні Бабр., Таценка Кліч.; Месца ў лесе. Раней тут была крыніца. Зара Чэрык.; Балота. Раней тут было азярцо. Малыя Аўчыненкі Шкл.; Месца ў лесе. Тут растуць лекавыя травы. Ядраная Слабада Кліч.; Мясціна ў лесе. Непадалёк ад яе знаходзіцца некалькі крынічак. Лясная Слаўг.

ЧЫСЦЯГ м. Нізкае месца ў лесе. У час дажджу яно заліваецца вадой. Ржавец Чэрык.

ЧЭРНЯ ж. Тарфяное балота. Кулікоўка Слаўг.

## Ш

ШАБАНШЧЫНА ж. Лес. Раней тут паляваў пан Шабан. Дзягавічы Крыч.

ШАБУНАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Шабуня. Карзеева Дрыб.

ШАБУНЯЎ ХУТАР. Поле. Даўней тут жыў Шабуня. Турчылаў Кліч.

ШАБУНЁЎШЧЫНА ж. Поле. Паўлавічы Клім.

ШАБУСАВА БАЛОТЦА. Балота. Некалі паблізу яго жылі браты Шабусы. Акунёўка Шкл.

ШАБУСАЎ МОСЦІК. Невялікі мост. Некалі яго пабудаваў Шабус. Смолка Чав.

ШАВЯЛЁНКАВА ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала Шавялёнку. Падлешчанка Кір.

ШАВЯЛЁЎШЧЫНА ж. Кустоўнік. Раней тут была хата Шавялёва. Буглаі Красн.

ШАЕЎСКІ ЛЕС. Вялікі лес (побач з в. Шаеўкай). Бродак Крыч.

ШАКАЛІ мн. Урочышча. Раней тут жыў хутаранец Шакалей. Боркі Кір.

ШАЛАДОНАЎ ХУТАР. Лес. Некалі тут жыў ляснік Шаладон. Прудок Слаўг.

ШАЛАЕВА ГАРА. Гара. Паблізу яе жыў Шалай. Чорнае Шкл.

ШАЛАЕЎКА ж. Луг. Раней тут жыў дзед Шалай. Капані Чав.

ШАЛАЁВА ГОРКА. Узгорак. Даўней тут жыў Шалаёў. Чарняўка Красн.

ШАЛАЕЎСКІЯ БАРАНЫ. Луг. Некалі тут пасвілі авечак. Шалаёўка Кір.

ШАЛАМАВА БАЛОТА. Поле. Раней тут было балота, у якім утапіўся Шалам (прозвішча). Буглаі Красн.

ШАЛУДЗІВАЯ ДАРОГА. Няроўная дарога. Горкі Крыч.

ШАЛУХІНСКАЯ ж. Частка вёскі. Тут жыве многа людзей з прозвішчам Шалухіны. Брылёўка Красн.

ШАЛЯПЕНКАЎ МОСТ. Мост. Яго пабудаваў Шаляпенка. Лешчанка Кір.

ШАМАЎСКІ САСНЯК. Сасновы лясок каля в. Шамава Мсц.

ШАМАЎСКІ ТРАКТ. Дарога ў Горкі з в. Шамава Мсц.

ШАМАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жыла сям'я Шамавых. Малыя Аўчыненкі Шкл.

ШАМАЦЯНКА ж. Балацянка. Новая Лешча Шкл.

ШАМШЫЛІНА ГРЫВА. Луг. Некалі тут ваўкі загрызлі каня Шаміліна. Сакольнічы Крыч.

ШАМКАЎ ПАСЁЛАК. Новая вуліца ў вёсцы. Першым жыхаром тут быў Шамко. Новыя Максімавічы Кліч.

ШАМЯТОЎКА ж. Поле і сенажаць. Малуноўка Хоц.

ШАНТАРАЎ МОСТ. Мост. Паблізу яго быў хутар Шантара. Жукава Маг.

ШАНХАЙ м. Поле (каля в. Булыжыцы). Княжыцы Маг.

ШАПКІ мн. Балота. Батаева Хоц.; Урочышча. Фядотава Буда Клім.

ШАПКІН МОСТ. Месца. Раней тут быў мост, каля якога жылі Шапкіны. Вялікая Машчаніца Бял.; Некалі тут жыла жанчына Шапка (мянушка). Яноўка Красн.

ШАПУРОЎ ГАЙ. Гай (побач з хатай Шапуры). Бялынкавічы Касц.

ШАПШАЛЬНІК м. Лес. Тут растуць старыя трухлявыя дрэвы. Мушына Мсц.

ШАРАКІ мн. Месца ў лесе. Тут водзяцца ваўкі. Літоўск Кругл.

ШАРПАВА ПОЛЕ. Канава. Раней тут было поле, якое апрацоўваў Шарп (мянушка). Фядотава Буда Клім.

ШАРПАЎКА ж. Луг ля в. Запруддзе Маг.

ШАРСКІ САСОННІК. Невялікі лясок. Яго пасадзіў Шарскі. Дубасна Мсц.

ШАРШНЁЎКА ж. Частка вёскі. Тут многа людзей маюць прозвішчы Шаршнёў. Макранскія Хутары Бых.

ШАРШНІХІН ХУТАР. Сенажаць. Раней тут жыў Шаршнёў. Сялец Гор.

ШАРЫКАВА ДАРОЖКА. Сцяжынка. Некалі тут хадзіў дзед з сабакам Шарыкам. Следзюкі Бых.

ШАСЦЁРАЎСКАЕ БАЛОТА. Балота. Тут здабываюць торф. Крычаў.

ШАСЦЯРНЁЎКА ж. Поле. Некалі тут быў хутар Шасцярнёвых. Сялец Мсц.

ШАЎЦОВА ГАРА. Узвышанае месца на полі. Калісьці тут жыў шавец. Крукі Бял.

ШАЎЦОВА ДВЕРЫШЧА. Кустоўе. Раней тут стаяла хата шаўца. Азарычы Слаўг

ШАЎЦОВЫ ЛАГІ. Луг. Некалі тут касіў сена шавец. Кліны Слаўг

ШАЎЦОЎ ЛОГ. Поле. Раней тут быў хутар шаўца. Курманава Мсц.

ШАЎЦОЎ ХУТАР. Лес. Раней тут жыў Шавец. Азарычы Слаўг.

ШАХАВА н. Поле (каля в. Шахава). Гаваракі Шкл.

ШАХАВА ГРЫВА. Палоска зямлі. Некалі тут касіў сена Шахаў. Вепрын Чэрык.

ШАХОЎШЧЫНА ж. Урочышча. Раней тут жыў шляхціц Шахоўскі. Трасціно Хоц.

ШАХРАЕЎ ХУТАР. Лес. Раней тут быў хутар Шахрая. Гута Клім.

ШАШОВІНА н. Вялікая сажалка. Яна знаходзіцца непадалёк ад шашы. Залесавічы Крыч

ШАШУХАЎ ПАЛЯДАК. Поле. Даўней яно належала нейкаму Шашуху. Стайкі Маг.

ШВАНЬКАВА ГАРА. Узвышанае месца. Тут некалі жыў Шванька (мянушка). Мікуліна Гор.

ШВЕДАЎ БУГОР. Узгорак у лесе (ад часоў вайны са шведамі). Галічы Клім.; Узгорак. Калісьці тут былі пахаваны шведы. Леніна Красн.

ШВЕДСКАЯ ГОРКА. Месца на полі. Калісьці тут стаялі шведы. Маляцічы Крыч.

ШВЕДСКІЯ КУРГАНЫ. Узвышанае месца з курганамі. Тут, па словах жыхароў, былі пахаваны шведы. Новая Слабада Слаўг.

ШВЭДАВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Швэда. Кледнявічы Гор.

ШВЭЦКАЯ ж. Сенажаць. Раней яна належала Швэдам (мянушка). Мокрае Бых.

ШВЯДОЎСКАЕ н. Поле. Калісьці тут, па словах вяскоўцаў, адбылася бітва са шведамі. Стары Дуб Мсц.

ШКАРНЯКОЎШЧЫНА ж. Поле. Некалі яно належала Шкарняку. Бароныкі Касц.

ШКАЎЧЫКАЎ ХУТАР. Сенажаць. Раней тут жыў Шкаўчык. Сялец Гор.

ШКЛЯНОЕ н. Возера. Вада ў ім празрыстая. Лудчыцы Бых.

ШКЛЯНЫ МОСТ. Мост (паблізу шклозавода). Паўлавічы Клім.

ШКОЛА ж. Стары парк. Раней тут была школа. Завараты Шкл.; Узгорак, парослы бэзам. Гарадок Шкл., Пушча Маг.; Поле (на месцы школы). Чорны Бор Бых.

ШКОЛІШЧА н. Месца. Да Вялікай Айчыннай вайны тут была школа. Рудкаўшчына Гор.; Луг. Раней тут быў школьны двор. Сялец Гор.; Мясціна, парослая кустамі. Раней тут была школа. Стайкі Маг.; Школьны двор. Малы Асавец Маг.

ШКОЛЬНАЕ БАЛОТА. Невялікі вадаём каля школы. Клічаў.

ШКОЛЬНАЕ ВОЗЕРА. Возера. Яно знаходзіцца каля школы. Хамінічы Гор.

ШКОЛЬНАЯ ж. Вуліца (побач са школай). Свенск Слаўг., Паўлавічы Клім.

ШКОЛЬНАЯ ВУЛІЦА. Вуліца. Тут знаходзіцца школа. Мушына Мсц.

ШКОЛЬНАЯ УСАДЗЬБА. Поле. Раней тут была школа. Гута Клім.

ШКОЛЬНЫ м. Пасёлак. Тут жывуць настаўнікі. Хамінічы Гор.

ШКОЛЬНЫ ЛЕС. Лес. Ён знаходзіцца непадалёк ад школы. Новы Быхаў Бых., Ганчанскі Кліч.

ШКОЛЬНЫ ПАРК. Урочышча. Калісьці тут была школа. Рудня Бял.

ШКОЛЬНЫ САД. Сад (пасаджаны школьнікамі пасля Вялікай Айчыннай вайны). Чыкілі Глуск.; Сад. Калісьці належаў школе. Свенск Слаўг.

ШКОЛЬНЫ УЗГОРАК. Узгорак. Калісьці тут стаяла пачатковая школа. Беразетня Мсц.

ШКОЛЬНЫ ШЛЯХ. Дарога. Яна вядзе ў школу. Карпілаўка Клім.

ШКРАБЧЫКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў Шкрабчык. Баяры Бабр.

ШКУТАЎКА ж. Сенажаць сярод лесу. Новы Быхаў Бых.

ШЛЕЙКІ мн. Поле (падзелена стужкай лесу). Каменка Шкл.

ШЛЯХ м. Цэнтральная вуліца ў в. Стайкі Маг.; Роўная шырокая вуліца. Вербеж Чэрык.; Старая дарога. Вялікая Машчаніца Бял.; Сцяжынка праз лес у в. Дрокаўка. Петухоўка Чав.; Дарога каля поля. Добрая Гор.; Лес каля поля. Некалі тут была дарога. Сетнае Крыч.; Насыпаная дарога. Новы Быхаў Бых.; Дарога праз в. Суслаўка Дрыб.; Дарога ў горад. Мікулічы Бабр.; Поле. Раней тут была дарога. Радзілеў Красн.

ШЛЯХЕЦКІ МЛЫН. Пустка. Некалі тут быў млын польскага пана. Адаменка Бых.

ШЛЯХТА ж. Частка вёскі. Раней тут жыла шляхта. Крупня Клім.

ШМАКАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Шмакі Кір.

ШМАТЫ. Былое панскае поле. Калісьці яно было падзелена паміж сялянамі. Курманава Мсц.; Сенажаць. Забялышана Хоц.

ШМУТАЎКА ж. Балоцістая мясціна. Тут бяруць торф. Рожава Мсц.

ШМЫДАВА ДЗЯЛЯНКА. Частка лесу. Яго даглядаў ляснік Шмыдаў. Башкіраўка Шкл.

ШНУРАВЫ н. Балота. Калісьці яно было падзелена на шнуры, дзе сяляне касілі сена. Чэрнеўка Шкл.

ШНУРКІ мн. Поле (падзеленае на вузкія палоскі). Рэкатка Гор., Новая Брашчына Шкл., Чачэвічы Бых.; Дзве доўгія вузкія палоскі кустоў. Аржаўцы Шкл., Дужаўка Чав.

ШНУРОК м. Вузкая паласа поля. Стайкі Красн.

ШПАКОЎСКІ ХУТАР. Поле. Раней тут жыла сям'я Шпакоўскіх. Осава Асіп.

ШПАКОЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут быў хутар, дзе жыў Шпак. Новыя Максімавічы Кліч.

ШПАЧЫХІН РАВОК. Невялікая лагчына. Яна знаходзіцца каля былой сядзібы Шпачыхі (мянушка). Шчокатава Дрыб.

ШПЫЛЁК м. Вузкая паласа поля. Іскра Бял.

ШПЫТАЛЁЎ САД. Сад. Раней тут жыў дзед Шпыталь (мянушка). Вайнілы Чав.

ШТАНЫ мн. Лес. Мае форму штаноў. Хацкава Мсц., Праточнае Бых., Рэкта Слаўг., Заполле Глуск; Поле. Па форме нагадвае штаны. Малуноўка Хоц., Перагон Слаўг., Ваевічы Кліч.; Луг. Бялынкавічы Касц., Гародня Чав.; Возера. Мае форму штаноў. Задабрасць Крыч.; Месца ў лесе. Ясная Паляна Чэр., Кулешава Шкл.

ШТЫЛЯКІ мн. Поле. Раней тут быў хутар Штылякоў. Дзмітраўка II Кліч.

ШУБА ж. Балота. Тут расце доўгі мох. Панкратавічы Бабр.

ШУБАДЗЁРАВА ВОЗЕРА. Невялікае возера. Некалі паблізу яго жыў Шубадзёраў. Нясята Кліч.

ШУБАДЗЁРАЎШЧЫНА Урочышча. Раней тут быў хутар Шубадзёрава. Заеліца Глуск.

ШУГАЙЛАЎ ЛУГ. Луг. Даўней тут пасвіў жывёлу дзед Шугай (мянушка). Пудзелішчы Касц.

ШУДЛОЎСКАЕ н. Балота. Некалі паблізу яго жыў Шудлоўскі. Вялікія Лазіцы Шкл.

ШУМ м. Частка рэчкі. Раней тут была электрастанцыя. Пячкоўка Мсц.

ШУМАЦІНА. Луг. Тут расце званец. Славені Шкл.

ШУМІЛАЎ БУЧОК. Глыбокае месца на рэчцы (насупраць хаты Шумілавых). Башкіраўка Шкл.

ШУМСКАЕ БАЛОТА. Балота ў лесе. Косцінка Маг.

ШУПЕНСКАЕ БАЛОТА. Балота каля в. Запруддзе Кругл.

ШУПЕНСКІ ЛЕС. Лес побач з в. Запруддзе Кругл.

ШУРКАВА ВОЗЕРА. Возера. Яно знаходзіцца паблізу хаты дзеда Шуркі. Бялынкавічы Касц.

ШУРКАЎ ПЕНЬ. Месца каля ракі. Тут часта сядзіць рыбак Шурка. Нясята Кліч.

ШУРМЯЛЁЎ КАНЕЦ. Частка вуліцы. Многа людзей тут маюць прозвішчы Шурмялі. Іскань Бых.

ШУРПАЎ РАВОК. Роў. Непадалёк ад яго некалі жыў Шурпа. Азарычы Слаўг.

ШУРПІНЫ КУСТЫ. Кустоўнік. Раней тут жыла сям'я Шурпіных. Высокае Клім.

ШУТАЎ ЛЕС. Лес. Некалі тут паляваў Шутаў. Нядашава Маг.

ШУТАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут быў хутар Шутава. Малыя Аўчыненкі Шкл.

ШУТАЛОЎКА ж. Поле (на месцы былой в. Шуталоўка). Ясная Паляна Чэрык.

ШЧАВЕЛІН РАВОК. Равок. Тут шмат шчаўя. Прыгані Кругл.

ШЧАВЕЛЬНАЯ ЯМА. Лагчына. Тут шмат шчаўя. Катка Глуск.

ШЧАДРЫВІЛЬ м. Луг. Тут шмат шчаўя. Бялынкавічы Касц.

ШЧАДРЫНСКАЕ ПОЛЕ. Поле (непадалёк ад в. Шчадрын). Нясята Кліч.

ШЧАМІЛАЎКА ж. Цесна забудаваная вуліца. Сялец Бых.; Пасёлак. Хаты тут стаяць блізка адна ад адной. Малінаўка, Цяхцін Бял.

ШЧАМЯЛЁЎКА ж. Густы лес. Фядотава Буда Клім.

ШЧАНЫ мн. Асушанае балота. Чэрняўка Шкл.

ШЧАРБУЦКІ ЛЕС. Лес за в. Шчарбачы Крыч.

ШЧАСЛІВАЯ ЛАГЧЫНА. Месца ў лесе. Раней тут было добрае паляванне. Стайкі Маг.

ШЧАТКАЎСКІ ЛЕС. Лес (каля в. Шчаткава). Сычкава Бабр.

ШЧОКАТАЎСКАЯ РОШЧА. Малады бярэзнік непадалёк ад в. Шчокатава Дрыб.

ШЧУПАКОВА САЖАЛКА. Невялікае возера сярод лесу. Леніна Красн.

ШЧУПАКОВА ЯМКА. Яма, запоўненая вадой. Чырвоны Бор Бял.

ШЧУПАКОВЫ АЗЁРЫ. Невялікія азёры. Яны вузкія і прадаўгаватыя, як шчупакі. Ясень Бабр.

ШЧУПАКОВЫ РУКАЎ. Частка дарогі. Тут часта прадаюць рыбу. Задруцкая Слабада Бял.

ШЧУЧНІК м. Месца на рэчцы. Тут водзіцца шмат шчупакоў. Лабковічы Крыч.

ШЧЫРАБОР м. Поле (на месцы высечанага лесу). Пятровічы Чав.

ШЧЫРЫ БОР. Лес. Тут шмат ягад і грыбоў. Тройца Шкл.

ШЫБАЛОВА БАЛОТА. Балацянка (ля сядзібы Шыбалавых). Вялікая Машчаніца Бял.

ШЫБЕЛЬНІЦА ж. Урочышча. Калісьці тут павесіўся чалавек. Чэрнеўка Шкл.

ШЫЙКА ж. Сенажаць каля лесу. Паўлавічы Клім.

ШЫКАВА ДВОРЫШЧА. Поле. Раней тут жыў Шыкаў. Азарычы Слаўг.

ШЫЛАЎ ВУГАЛ. Месца на лузе. Мае форму вугла. Следзюкі Бых.

ШЫЛАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле каля в. Шылавічы Бял.

ШЫЛАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней яно належала Шылаву. Камяніца Бял.

ШЫЛОЎКА. Вуліца ў в. Бароньќі Касц.

ШЫНДЗІКІ мн. Рэдкі хмызняк. Боркі Хоц.

ШЫНКАРЭВІЦКАЕ БАЛОТА. Балота. Некалі паблізу яго быў хутар Шынкарэвічаў. Коўбча Кліч.

ШЫНКАРЭЎШЧЫНА ж. Лес. Раней тут быў хутар Шынкарэвічаў. Коўбча Кліч.

**ШЫНКАЎШЧЫНА** ж. Ускраіна вёскі. Раней тут быў шынок. Пачапы Красн.

**ШЫРКАЎШЧЫНА** ж. Шырокае поле. Улькавічы Бял.

**ШЫРОКАВА** н. Лес. Дужаўка Чав.

**ШЫРОКАЕ** н. Паляна ў лесе. Новая Лешча Шкл.; Сенажаць. Некалі яна належала пану Шырокаму. Дубасна Мсц.; Поле сярод лесу. Заеліца Глуск.

**ШЫРОКАЕ ВОЗЕРА**. Вялікае возера. Цялуша Бабр.

**ШЫРОКАЯ ДАРОГА**. Дарога ў лесе. Мхінічы Красн.; Дарога паўз лес. Каменка Мсц.

**ШЫРОКАЎСКІ ЛЕС**. Лес за в. Шырокае. Маляцічы Крыч.

**ШЫРОКАЯ ЛІНІЯ**. Дарога ў лесе (высека). Лапацічы Слаўг.

**ШЫРОКАЯ ЛЯДА**. Дзялянка высечанага лесу. Дубраўка Красн.

**ШЫРОКІ** м. Вялікі лес. Леніна Красн.

**ШЫРОКІ ЛЕС**. Балота паміж лесам і полем. Сахараўка Гор.

**ШЫРОКІ ЛОГ**. Лес. Раней тут былі вялікія зямельныя надзелы. Прыгаўка Крыч.; Луг сярод лесу. Капані Чав.; Шырокае поле. Бель Крыч.

**ШЫРОКІ ЛУГ**. Луг паміж полем і ракой. Барчыцы Кір.

**ШЫРОКІ ПАСЁЛАК**. Пасёлак за в. Глыбокае Кругл.

**ШЫРОКІЯ** мн. Вялікае (шырокае) поле. Праточнае Бых.

**ШЫРОКІЯ ПАЛОСЫ**. Калгаснае поле. Некалі яно было падзелена на шырокія палосы. Мікулічы Бабр.

**ШЫРЫНАВА ЛАШЧЫНА**. Луг. Некалі тут быў надзел Шырынава. Прыгаўка Крыч.

**ШЫФРЫНОЎКА** ж. Лес. Калісьці ён належаў Шыфрыну. Данькавічы Шкл.

**ШЫШАЎКА** ж. Поле. Раней тут быў фальварак пана Шышова. Літоўск Кругл.

**ШЫШАЎСКІ ГАЙ**. Гай ля в. Шышова. Шышова Гор.

**ШЫШКАЎСКАЕ БАЛОТА**. Балота. Раней тут быў яловы лес. Селішча Клім.

**ШЭЙНАВА ПАЛЯНА**. Паляна. У час Вялікай Айчыннай вайны немцы расстралялі яўрэя Шэйна. Дзмітраўка II Кліч.

**ШЭКАЎШЧЫНА** ж. Поле. Раней тут быў хутар Шэкі. Ржаўка Слаўг.

**ШЭЛІГАЎШЧЫНА** ж. Сенажаць. Некалі тут жыў Шэліг. Сялец Гор.

**ШЭНДАРАВЫ КАМНІ**. Камяністая мясціна. Раней тут была хата Шэндарава. Данькавічы Шкл.

**ШЭНДАРАЎ САД**. Сад. Даўней тут жыў пан Шэндараў. Студзёнкі Бял.

**ШЭРАЕ** н. Поле. Тут гняздуюцца дзікія качкі. Лудчыцы Бых.

**ШЭРАЯ БАГНА**. Гразкае месца ў лесе. Вялікія Лазіцы Шкл.

**ШЭТАВЫ КУСТЫ**. Кустоўнік. Раней тут жыў Шэт (мянушка). Прыгаўка Крыч.

**ШЭЦЬКАЎ ЛЕС**. Лес. Раней тут быў хутар Шэцькавых. Бутрамееўка. Бых.

# Ю

**ЮДАВА** н. Луг. Раней ён належаў пану Юдаву. Петухоўка Чав.

**ЮДАЎКА** ж. Пустое месца. Раней тут была вёска Юдаўка. Язёры Чэрык.

**ЮДАЎСКАЕ ВОЗЕРА**. Возера паблізу в. Юдаўка. Наркі Чэрык.

**ЮДЗІНКА** ж. Хутар. Некалі тут жыла яўрэйская сям'я. Забалочыцы Глуск.

**Ю**ЗІКАВА КРЫНІЧКА. Крыніца (каля хаты Юзіка). Гарадзец Быx.

**Ю**ЗІНА н. Месца ў лесе. Раней тут быў Юзін хутар. Селішча Кір.

**Ю**ЗІНСКІЯ БАРАН**Ы**. Луг. Раней тут пасвілі бараноў. Юзафін Кліч.

ЮЗЯФ**О**ЎСКІ ЛЕС. Лес. Даўней тут была сядзіба Юзяфоўскіх. Баханы Хоц.

**Ю**ЛЬКІН РОЎ. Роў (паблізу хаты Юлькі). Зарэсце Маг.

ЮМ**А**ШАВА М**Е**ЛЬНІЦА. Месца на полі. Калісьці тут быў млын, які належаў Юмашаву. Вішоў Бял.

**Ю**РКАВА В**О**ЗЕРА. Возера. Некалі яго выкапаў дзед Юрка. Малы Асавец Маг.

**Ю**РКАВА ДВ**О**РЫШЧА. Поле. Раней тут стаяла хата Юркі. Махава Маг.

**Ю**РКАВА ЛЯД**А**. Заdespite зарослая паляна ў лесе. Некалі тут касіў траву Юрка. Ваевічы Кліч.

**Ю**РКАЎ БЯР**Э**ЗНІК. Бярэзнік. Некалі яго пасадзіў дзед Юрка. Малы Асавец Маг.

**Ю**РКАЎ ДУБ. Дуб. Калісьці яго пасадзіў Юрка. Горы Красн.

**Ю**РКАЎ ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Юрыю (Юрку). Крукі Бял.

**Ю**РКАЎ РОЎ. Роў. Даўней тут быў хутар Юркі. Мікалаеўка І Маг.

**Ю**РКАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут жылі серадНякі Юркі. Заеліца Глуск.

**Ю**РАЎКА ж. Паляна сярод лесу. Раней тут быў хутар Юрава. Радамля Чав.

**Ю**РАЧКАВА БЛ**О**ГА. Луг. Даўней тут жыў поп Юрый. Глінь Чэрык.

**Ю**РАЧКІН Х**У**ТАР. Поле. Раней тут быў хутар Юркі. Язёры Чэрык.

**Ю**Р'ЕВА ГАР**А**. Узгорак. Калісьці тут жыў Юрый. Пуцькі Чав.

**Ю**Р'ЕВА ПАЛАС**А**. Поле. Раней тут была сядзіба Юрыя. Рагі Слаўг.

**Ю**Р'ЕЎСКАЯ ДАР**О**ГА. Дарога ў Юр'еўскую царкву. Крычаў.

ЮРЧАНК**О**ВА н. Поле. Раней тут жыў пан Юрчанкоў. Масцішча Бял.

**Ю**ШКЕЎШЧЫНА ж. Урочышча. Некалі тут жылі Юшкеўскія. Боркі Кір.

**Ю**ШКІН Х**У**ТАР. Поле. Раней тут была сядзіба Юшкі. Загараны Кругл.

# Я

**Я**БЛАНЕЎКА ж. Месца ў лесе. Тут растуць дзікія яблыні. Вялікія Лазіцы Шкл.; Калгасны сад. Іванаўка Крыч.

**Я**БЛАНЬСКІ ЛЕС. Лес. На ўзлеску расце некалькі дзікіх яблынь. Тур'я Красн.

**Я**ВІН РОЎ. Невялікі роў. Раней тут баба Ява пасвіла коз. Валоўнікі Мсц.

**Я**ГАДКІНА н. Лес. Раней тут жыў пан Ягадка. Балбечана Гор.

**Я**ГАДНАЕ н. Паляна каля лесу. Тут растуць суніцы. Забялышына Хоц.; Месца ў лесе. Тут расце шмат ягад. Касперка Клім., Ваевічы Кліч., Катка Глуск.; Узлесак. Тут багата ягад. Красніца Касц.

**Я**ГАДНІК м. Месца ў лесе. Тут расце шмат ягад. Камяніца Бял.

**Я**ГАДНЫ АБ**О**РАК. Месца ў лесе. Тут расце багата ягад. Мсціслаў.

ЯГ**О**РАВА ГАР. Ямка з вадой сярод лесу. Некалі тут ўтапіўся Ягор. Новая Ельня Красн.

ЯГ**О**РАЎ АС**І**ННІК. Лес. Калісьці яго пасадзіў дзед Ягор. Тройца Шкл.

ЯГ**О**РАЎ МОХ. Балота. Тут шмат моху. Елькаўшчына Кругл.

ЯГ**О**РАЎ Х**У**ТАР. Сенажаць. Раней тут быў хутар Ягора. Гута Клім.;

Поле. Раней тут жыў Ягор. Загаранкі Кругл.

ЯГОРАЎСКАЯ ГАРА. Узгорак. Даўней тут стаяла царква Святога Георгія. Старасёлы Чав.; Узвышанае месца. Раней тут жыла сям'я Ягора. Поблін Глуск.

ЯГОРАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней тут быў хутар Ягора. Коўбча Кліч.

ЯГОРЫХІН ХУТАР. Поле. Некалі тут жыла Ягорыха. Хамінічы Гор.

ЯДАВІТАЕ н. Месца ў лесе. Тут расце шмат ядавітых грыбоў. Адамаўка Гор.

ЯДЛОВІЦА ж. Малады ельнік (на месцы высечанага ядлоўцу). Дубна Слаўг.

ЯДЛОЎНІК м. Ядловец. Бардзілы Чав.

ЯЗВІНЫ мн. Неўрадлівае поле. Выдранка Красн.

ЯЗВЫ мн. Поле. Раней тут было багністае балота. Кухенка Бабр.

ЯЗЕРШЧЫНА ж. Лес. Некалі тут быў хутар Язера. Коўбча Кліч.

ЯЗІКАЎ САД. Урочышча. Тут жыў пан Язік. Падклённе Бых.

ЯЗІКАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Язікаў. Прудок Слаўг.

ЯЗІКІ мн. Месца каля лесу. У час Вялікай Айчыннай вайны тут расстрэльвалі людзей. Вепрын Чэрык.

ЯЗОВІШЧА н. Лес. Раней непадалёк ад яго была рака, дзе лавілі язёў. Цялуша Бабр.

ЯЗЭПАВА БАЛОТА. Балота. Некалі тут ўтапіўся Язэп. Літоўск Шкл.

ЯЗЭПАВА КРЫНІЦА. Крынічка. Калісьці яе выкапаў пастух Язэп. Зайцава Слабада Крыч.

ЯЗЭПАЎ ЖАХ. Возера. Некалі паблізу яго стаяла Язэпава лазня. Замышкі Кругл.

ЯЗЭПАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў дзед Язэп. Перагон Слаўг., Рудня Бял.; Некалькі хат сярод поля. Маляцічы Крыч.

ЯЗЭПАЎШЧЫНА ж. Поле. Раней яно належала Язэпу. Коўбча Кліч.

ЯЗЭПКІ мн. Сенажаць. Боркі Хоц.

ЯКАВІН БРОД. Лес. Калісьці ён належаў Якаву. Пятровічы Чав.

ЯКАВІН ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Якаў. Балбечана Гор.

ЯКАВІНА БАЛОТА. Балота. Даўней тут быў хутар Якава. Затоны Гор.

ЯКАЎ ХУТАР. Поле. Калісьці тут быў хутар Якава. Гарадок Шкл.

ЯКАЎКІН ХУТАР. Месца ў канцы вёскі. Раней тут жыў Якаў. Заходы Шкл.

ЯКАЎСКАЯ ГАРА. Узвышанае месца. Некалі тут жыў Якаў. Лудчыцы Бых.

ЯКАЎШЧЫНА ж. Урочышча. Калісьці тут быў хутар Якава. Пацкава Мсц.

ЯКІМАВА БАЛОТА. Балота. Раней паблізу яго жыў хутаранец Якім. Мірнае Крыч.

ЯКІМАВА ГАРА. Сенажаць і поле. Некалі яны належалі Якіму. Каменіца Бял.

ЯКІМАВА ДАРОГА. Сцяжынка. Па ёй часта ездзіў Якім. Алешкавічы Бял.

ЯКІМАВА ЗАГАРАДА. Узвышанае месца. Раней тут жыў Якім. Доўгае Кліч.

ЯКІМАВА ЛЯДА. Поле. Раней тут жыў Якім. Таценка Кліч.; Лес. Раней ён належаў Якіму. Клічаў.

ЯКІМАВЫ ЦЕРАБЯЖЫ. Луг. Калісьці ён належаў Якіму. Бацэвічы Кліч..

ЯКІМАЎ БРОД. Брод. Даўней паблізу яго жыў Якім. Карзеева Дрыб., Масцішча Бял.

ЯКІМАЎ БЯРЭЗНІК. Бярэзнік. Некалі каля яго жыў Якім. Свенск Слаўг.

ЯКІМАЎ ХВОЙНІК. Хвойнік. Раней ён належаў Якіму. Ваевічы Кліч.

ЯКІМАЎКА ж. Частка вёскі. Тут жывуць Якімавы. Ціхань Хоц.

ЯКІМАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле побач з в. Якімавічы Клім.

ЯКІМАЎСКІ ЎЗГОРАК. Узгорак. Некалі тут жыў Якім. Слабада Кліч., Катка Глуск., Стайкі Клім.

ЯКУБАЎ ХУТАР. Поле. Раней тут жыў Якуб. Залесавічы Крыч.

ЯКУШОЎСКІ ЛУГ. Луг паблізу в. Якушоўка Красн.

ЯЛОВАЯ ГРЫВА. Месца ў лесе. Тут растуць толькі елкі. Ніканавічы Бых.

ЯЛОВАЯ ДАРОГА. Луг. Раней тут была дарога, высаджаная елкамі. Сялец Гор.

ЯЛОВАЯ ПАЛАСА. Густы ельнік. Камяніца Бял.

ЯЛОВЕЦ м. Яловы лес. Азерцы Клім., Сялец Бых., Свенск Слаўг.

ЯЛОВІКІ мн. Лес. У ім растуць пераважна елкі. Баханы Хоц.

ЯЛОВІЦА ж. Поле (каля ельніку). Прудок Слаўг.

ЯЛОВЫ СТУДЗЯНЕЦ. Поле і луг. Раней тут быў ручай (студзянец), каля якога расла елка. Макавічы Глуск.

ЯЛОЎКА ж. Дарога (праз яловы лес). Маліна́ўка Бял.; Поле. Да Вялікай Айчыннай вайны тут быў пас. Ялоўка. Боркі Кір.

ЯЛУГА ж. Узвышанае месца ў ельніку. Баханы Хоц.; Луг каля лесу. Буглаі Красн.

ЯЛЫНКА ж. Змешаны лес. Малуноўка Хоц.

ЯЛЮГА ж. Яловы лес. Абідавічы Бых.

ЯМА ж. Частка вуліцы. Яна размешчана ў нізіне. Забялышана Хоц.

ЯМАЧКА ж. Нізкае месца (упадзіна) у лесе. Малая Машчаніца Бял.

ЯМІНКА ж. Купальня на р. Бесядзь. Баханы Хоц.

ЯМІЦА ж. Лес. Тут шмат ям. Градзянка Асіп.; Сенажаць. Сідаравічы Маг.

ЯМІЦКАЕ н. Кар'ер. Раней тут было поле. Буглаі Красн.

ЯМІШЧА ж. Лес. Тут шмат ям. Вяленік Кліч.

ЯМКІ мн. Няроўнае поле. Старая Мілееўка Маг.; Урочышча. Каспэрка Клім.; Нізкае месца. Тут шмат купін. Бярозаўка Слаўг.; Няроўная дарога праз поле. Батаева Хоц.

ЯМНАЕ н. Балота паблізу в. Рагозна Шкл.; Нізкая мясціна каля рэчкі. Паліцкае Асіп.

ЯМНІК м. Лес. Тут шмат ямак. Дужаўка Чав.; Поле. Пасярод яго некалькі вялікіх ям. Чырвоны Бор Бял.

ЯМНІЦА ж. Лес. Тут шмат ямак. Плешчыцы Шкл.

ЯНАВА н. Поле. Раней тут быў хутар Яна. Лудчыцы Бых.

ЯНАЎ м. Поле. Раней тут жыў Ян. Кісялёва Буда Клім.

ЯНАЎ ПАЦЕРАБ. Луг. Некалі тут касіў Ян. Ямнае Бых.

ЯНАЎКА ж. Частка г. Клімавічы. Некалі тут першы пасяліўся Ян. Клімавічы.

ЯНАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў лесе. Па ёй часта ездзіў Ян. Гута Клім.

ЯНАЎСКІ ЛЕС. Лес (паблізу в. Янаўка). Канава Хоц.

ЯНКАВА н. Лес. Раней тут была сядзіба Янкі. Бутрамееўка Бых.

ЯНКАВА БАЛОТЦА. Невялікае балота. Некалі паблізу яго жыў Янка. Кіраўск.

ЯНКАВА ПАЛЯНА. Паляна (на месцы дзялянкі лесу, высечанага Янам Тыхоцкім). Ямнае Бых.

ЯНКАВАЯ ГРАДА. Лес. Раней тут была сенажаць Яна. Ясень Асіп.

ЯНКАВЫ ПРЫГОРКІ. Узгорак. Раней тут стаяла хата Янкі. Александрыя Шкл.

ЯНКАЎ ЛОГ. Урочышча. Некалі тут жыў пан Янка. Марцянавічы Кругл.

ЯНКАЎ ХУТАР. Месца, парослае кустамі. Раней тут жыў Янка. Дубраўка Маг.

ЯНКІН САД. Поле. Некалі тут быў сад Янкі. Рожава Мсц.

ЯНКІН ЛЕС. Лес. Раней ён належаў пану Янку. Рожава Мсц.

ЯНКІНА ВОЗЕРА. Поле. Даўней тут было невялікае возера, якое належала Янку. Рожава Мсц.

ЯНКІНА ПОЛЕ. Поле. Раней яно належала пану Янку. Рожава Мсц.

ЯНОЎ м. Лес паблізу в. Яноў Крыч.

ЯНУКОВА БАЛОТА. Балота. Раней паблізу яго жыў дзед Янук з сынамі. Осава Асіп.

ЯНУКОЎ ХУТАР. Поле. Раней яно належала Януку. Пруды Шкл., Раманавічы Маг.; Урочышча. Раней тут жыў Янук. Савінічы Клім.

ЯПОНШЧЫНА ж. Мясціна ў лесе. Некалі тут жыў японец. Недзведзь Клім.

ЯРАБІННІК м. Поле. Раней тут раслі рабіны. Чэрнеўка Шкл.

ЯРМАКОЎСКІ ЛЕС. Лес (непадалёк ад в. Ермакоўка). Крычаў.

ЯРМОЛАВА КАЦВІНА. Лес. Некалі тут была сажалка, якую выкапаў Ярмола. Антонаўка Чав.

ЯРМОЛАЎ ШЛЯХ. Сцяжынка (каля хаты Ярмолы). Іскань Бых.

ЯРМОЛІНА БАЛОТА. Забалочаная мясціна. Некалі тут жыў Ярмола. Дубраўка Маг.

ЯРОМСКАЕ БАЛОТА. Балота. Раней непадалёку жыў Яром. Асман-Касаева Бял.

ЯРОШКАЎ ХУТАР. Поле. Некалі тут жыў Ярома. Стаялы Кліч.

ЯРОШКІ мн. Поле. Раней тут быў хутар Ярошкаў. Дзмітраўка ІІ Кліч.

ЯРУГА ж. Круты яр. Ст. Востраў Кліч.

ЯРЫГІНА ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Ярыгі. Славені Шкл.

ЯРЫНКІН РОЎ. Роў, парослы хмызняком. Некалі тут жыла жанчына Ярынка. Сісенева Шкл.

ЯСЕДКА ж. Мясціна ў лесе. Раней тут раслі ясені. Раманавічы Маг., Тросна Шкл.

ЯСЕНЕЎКА ж. Дзялянка ў лесе. Тут растуць маладыя ясені. Кулешава Шкл.

ЯСЕННЯ н. Мясціна каля балота. Тут расце шмат ясеняў. Забалоцце Бял.

ЯСЁНА ж. Месца ў лесе. Раней тут рос ясень. Затоны Гор.

ЯСНАЯ ПАЛЯНА. Месца ў лесе. Тут заўсёды шмат суніц. Касмынічы Мсц.; Мясціна, парослая маліннікам. Яноўка Клім.; Паляна ў лесе. Трасціно Хоц.

ЯСНЫ ЛЕС. Лес на ўзгорку. Барчыцы Кір., Туголіца Бабр.

ЯСТРАБІНАЕ ВОКА. Возера. Названа паводле формы. Паўлавічы Клім.

ЯСЬКАВА БАЛОТА. Балота. Паблізу яго жыў Ясь. Чыгіры Бял.

ЯСЬКАВА ПАЛЯНА. Паляна. Тут стаіць хата Яські (Яся). Раманавічы Маг.

ЯСЬКАЎ ДУБ. Урочышча. Калісьці тут дзед Яська пасадзіў дуб. Рэкатка Гор.

ЯСЬКАЎСКІ ЛЕС. Лес каля в. Яськаўшчына Шкл.

ЯТРАВАЯ МЯСЦІНА. Месца на рэчцы. Тут водзіцца шмат рыбы. Бялынкавічы Касц.

ЯЎГЕНАВА ПУНЯ. Узвышанае месца. Раней тут стаяла гумно Яўгена. Бязуевічы Слаўг.

ЯЎМЕНАВА БАЛОТА. Поле. Раней яно належала Яўмену. Любонічы Кір.

ЯЎМЕНАЎКА ж. Лес. Яго дагледаў ляснік Яўмен. Акунёўка Шкл.

ЯЎРЭЙСКАЕ н. Мясціна (непадалёк ад яўрэйскіх могілак). Свіслач Асіп.

ЯЎРЭЙСКАЕ КЛАДБІШЧА. Невялікі лясок. У час Вялікай Айчыннай вайны тут былі забіты яўрэі. Мірнае Крыч.

ЯЎРЭЙСКАЯ ДАРОГА. Дарога ў пасёлак. Раней тут жылі купцы-яўрэі. Крычаў

ЯЎРЭЙСКІ КУРГАН. Курган. Раней тут былі яўрэйскія могілкі. Дашкаўка Маг.

ЯЎХІМАВА н. Балота. Некалі побач з ім жыў дзед Яўхім. Брылі Маг.

ЯЎХІМАВА БАЛОТА. Балота. Раней паблізу яго жыў Яўхім. Раманавічы Маг., Азер'е Шкл.

ЯЎХІМАВА НІЎКА. Сенажаць. Некалі яе касіў Яўхім. Варопанка Шкл., Раманавічы Маг.

ЯЎХІМАВА ПОЛЕ. Поле. Раней тут быў хутар Яўхіма. Кухенка Бабр.

ЯЎХІМАВА САЖАЛКА. Сажалка. Паблізу яе жыў Яўхім. Скляпава Кругл.

ЯЎХІМАЎ КЛІН. Частка лесу. Раней яна належала Яўхіму. Займішча Шкл.

ЯЎХІМАЎ ЛЕС. Лес. Даўней тут працаваў леснікам Яўхім. Стайкі Шкл.

ЯЎХІМАЎ ХУТАР. Сенажаць. Некалі тут жыў Яўхім. Антонаўка Чав.

ЯЎХІМЧЫКАЎ ХУТАР. Урочышча. Раней тут жыў Яўхім. Заеліца Глуск.

ЯЎЦЕХАЎ ЛУГ. Луг. Некалі тут жыў Яўцех. Сцяг Глуск.

ЯФІМАВА ДАРОГА. Дарога. Па ёй часта ездзіў Яфім. Мазалава Мсц.

ЯФІМАВА КАПАНІЦА. Мясціна. Калісьці тут капаў торф Яўхім. Валоўнікі Мсц.

ЯФІМАЎ ЛУГ. Луг. Калісьці тут быў забіты Яўхім. Карасі Шкл.

ЯХІМАВА БАЛАЦЯНКА. Лес. Некалі тут была сажалка, якую выкапаў Яўхім (Яхім). Антонаўка Чав.

ЯХІМАВА ДАРОГА. Сцяжынка. Па ёй часта хадзіў дзед Яўхім. Родня Клім.

ЯХІМАЎ ХУТАР. Лес. Раней тут жыў Яўхім. Сабалёўка Клім.

ЯЧМЕННЫ ЛЕС. Лес на месцы поля. Некалі тут сеялі ячмень. Селішча Клім.

# ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

# СЛОЎНІК МІКРАТАПОНІМАЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

*Складальнікі:*
Клімуць Станіслава Вацлаваўна,
Рагаўцоў Васіль Іванавіч,
Шакура Святлана Уладзіленаўна і інш.

Рэдактар *У.С. Дзянісаў*
Тэхнічны рэдактар *Г.М. Гладун*
Камп'ютэрная вёрстка *А.Л. Пазнякоў*
Карэктура аўтарская

Ліцэнзія ЛИ № 02330/278 ад 30.04.2004 г.
Здадзена ў набор 01.04.2004 г. Падпісана да друку 13.01.05. г.
Фармат 60x84 1/16. Папера газетная № 1. Гарнітура Pragmatica.
Ум.-друк. арк. 12,0. Ул.-выд. арк. 12,7. Тыраж 130 экз. Заказ 28.

Установа адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны універсітэт
імя А.А. Куляшова", 212022, Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1

Надрукавана на рызографе аддзела аператыўнай паліграфіі
УА "МДУ імя А.А. Куляшова"
212022, Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1

